афіцэры, на тэрыторыю Польскага генерал-губернатарства. І да гэтага часу мы павінны арганізаваць на Украіне, у Беларусі і Прыбалтыцы актыўную дыверсійную дзейнасць. У мяне ёсць сакрэтныя дадзеныя з тэрыторыі акупаванай намі Беларусі. Дык вось, панове, з 1941 года па цяперашні 1944 год партызанамі былі забіты 125 тысяч нашых салдат, падарвана больш за 11 тысяч эшалонаў, спалена і знішчана 300 самалётаў, больш за тысячу танкаў і амаль 20 тысяч аўтамабіляў. Я ўжо не кажу пра аўтаматы, кулямёты, і іншыя віды зброі.

Ён убачыў, як у прысутных пасля названых лічбаў здзіўлена ўзняліся бровы.

— Так, панове, мы страцілі за гэтыя тры гады амаль дзесяць паўнавартасных пяхотных дывізій. Дык давайце скарыстаем вопыт нашых ворагаў. Намі распрацаваны план «Цэпелін», які падтрымаў фюрар. Адказным за рэалізацыю праекта прызначаны штурмбанфюрар СС Эрых Хенельхаўпт.

— Ёсць! — прыпадняўшыся, адказаў Хенельхаўпт.

— Да чэрвеня, — працягваў Гелен, — мы павінны стварыць дыверсійнае падраздзяленне Ягдфэрбанд-Ост. Камандзірам яго прызначаны оберштурмбанфюрар СС Ота Скарцэні,

— Слухаюся! — ускочыў Скарцэні.

— Сядайце, оберштурмбанфюрар. — махнуў рукою генерал. Ён раскрыў папку і пачаў чытаць дакумент:

«Галоўная задача Ягдфэрбанд-Оста — правядзенне спецыяльных аперацый у варожым тыле; разведванне і ініцыяванне антысавецкага руху супраціву на Усходзе і дапамога яму; дапамога нацыяналістычным аб’яднанням зброяй, інструктарамі, байцамі». Гэта вялікая справа, панове! І няхай вам дапаможа Бог!

Аперацыя па разгортванні антысавецкага супраціву атрымала кодавую назву «Мілая котка» і ахоплівала тэрыторыю ад Балтыйскага да Чорнага мора. Беларускі накірунак атрымаў назву «Чорны кот». Аснову дыверсійных груп склалі салдаты спецыяльнага батальёна «Дальвіц». Паводле распрацаванага плана, дадзеныя групы павінны дэсантавацца на тэрыторыі БССР і, абапіраючыся на беларускіх дзеячаў, якія не адышлі з немцамі, стварыць антыкамуністычнае падполле.

Былі падрыхтаваны і дэсантаваны тры групы. Першая ў складзе чатырох чалавек прызямліліся каля мястэчка Дзятлава. Другая група (28–30 чалавек) высадзілася ў раёне Івянца. Трэцяя група (4 чалавекі) была закінута блізка мястэчка Сапоцкін на Гродзеншчыне.

Камандзірам трэцяй групы быў прызначаны Іван Мікалаевіч Карыцька. Нарадзіўся і жыў у Гродне. Пасля 17 верасня 1939 года пайшоў працаваць міліцыянерам. У 1942 годзе ўступіў у паліцыю, удзельнічаў у акцыях супраць партызан. Даслужыўся да камандзіра роты. Быў пераведзены ў перасыльны лагер для яўрэяў, гета «Калбасіно», намеснікам камандзіра зондэркаманды.

Ноч была вельмі зручнай для дэсантавання: неба поўнасцю зацягнута хмарамі, накропваў дробны дождж, але без ветру. Прызямліліся даволі кучна, таму хутка сабраліся разам. Парашуты тут жа закапалі, паліўшы схрон спецыяльнай вадкасцю ад сабак. Падцягнулі амуніцыю, паразарадзілі аўтаматы і, зарыентаваўшыся па карце, рушылі ў дарогу. Да раніцы яны павінны былі трапіць у вёску Калеты, дзе чакаў су-

вязны. Праз дзве гадзіны спешнай хады з Карыцькам параўняўся радыст групы Мікіта Аўрамчык.

— Камандзір, нешта мы не туды ідзём. Я ж ведаю гэтыя мясціны. Калеты значна правей.

— І я ведаю гэтыя мясціны! — строга абарваў Мікіту Карыцька. — А калі спатрэбяцца твае веды, я абавязкова запытаюся.

Аўрамчык пацiснуў плячыма і вярнуўся на ранейшае месца.

Калі сонца пачало павольна ўздымацца на зямлёй, Карыцька аб’явіў прывал.

— Заяц у дазор! Аўрамчык, настрой рацыю! — скамандаваў падначаленым. Застаўшыся вольным, Пятро Скабец, чацвёрты з групы, тут жа прылёг пад вялікімі дубам і заснуў.

— Рацыя гатова, — далажыў Аўрамчык.

— Перадай: прызямліліся нармальна. Крочым да сувязнога.

Камандзір расклаў карту і пачаў нешта па ёй вылічваць. Хвілін праз дзесяць вярнуўся Сямён Заяц.

— Камандзір, нешта тут не так. Недалёка адсюль перакрыжаванне дарог. Стаіць рэгуліроўшчыца. Я з хвіліну паназіраў. Дык вось, некаторыя вайскоўцы пытаюцца, дзе Сапоцкін, і яна накіроўвае ў бок, адкуль мы прыбеглі. Мы не ў Калеты ідзём, камандзір?

Да Карыцькі павярнуўся Аўрамчык, прыпадняў галаву і Скабец.

Карыцька абвёў іх цяжкім позіркам і глыбока ўздыхнуў.

— Добра, слухайце сюды. Каб пазбегнуць правалу, немцы пусцілі ў батальёне дэзу, што мы ідзём у Калеты. На самай справе наша база будзе ў Навумавічах.

— Але ж у Навумавічах нават лесу нармальнага няма, — амаль закрычаў Аўрамчык.

— А нам і не патрэбны лес, — спакойна адказаў Іван. — Мы размесцімся ў форце № 2.

— Дык яго ж узарвалі ў сорак першым.

— Узарвалі, — пагадзіўся Карыцька. — Але ў сорак трэцім сіламі ваеннапалонных і яўрэяў з «Калбасіно», дзе я служыў, мы ўсё аднавілі, адрамантавалі, толькі ўваход пакінулі разбураным.

— А будаўнікоў?.. — запытаўся Заяц.

— Так, назаўсёды пакінулі вартаваць форт! — засмяяўся Карыцька.

Наступнай ноччу яны дасягнулі форта № 2. Уваход у цытадэль і сапраўды быў поўнасцю разбураны. Але метраў за дваццаць ад яго за кустамі шыпшыны Іван паказаў замаскіраваны ўваход. Дыверсанты паднялі люк і адзін за адным спусціліся па доўгай металічнай лесвіцы ўніз. Іван запаліў ліхтарык. Перад імі быў доўгі вузкі калідор. Усе рушылі наперад. У канцы калідора ўбачылі двое дзвярэй.

— Стойце тут! — загадаў Іван і, адчыніўшы левыя дзверы, увайшоў у пакойчык. Там стаяў нейкі агрэгат з вялікім колам, рамянямі, рознакаляровымі лямпачкамі. Карыцька адклаў ліхтарык, шчоўкнуў некалькімі тумблерамі, затым узяўся дзвюма рукамі за рэмень са скуранай пяцелькай на канцы і рэзка рвануў на сябе. Дызель гучна чыхнуў, стрэліў — і раптам пачулася роўнае механічнае пастукванне. Рухавічок запрацаваў. Тут жа ў пакойчыку і на калідоры загарэліся лямпачкі.

Іван выйшаў з пакоя і адчыніў дзверы насупраць. Там была невялічкая зала, з якой на тры бакі разыходзіліся галерэі.

— Вось тут мы і спынімся, — сказаў Карыцька. — Прама — пакой з ложкамі, налева — кухня і санвузел. Направа — арсенал. Размяшчайцеся, панове.

Усе накіраваліся прама, з захапленнем азіраючыся па баках. Карыцька звярнуў у пакой са зброяй. Калі дыверсанты распакавалі свае заплечнікі і размеркаваліся па двух’ярусных ложках, у спальню ўвайшоў Іван з ручным нямецкім кулямётам MG-42 у руках.

— Auf Wiedersehen! — спакойна развітаўся ён з паплечнікамі і націснуў курок. Раскацістым рэхам прашамкала зброя. Праз імгненне на падлозе ляжалі тры трупы.

— Ну, вось неяк так, — прагаварыў Карыцька і выйшаў з пакоя. Ён накіраваўся на кухню, падышоў да вялікай шафы з металічным посудам і, пацягнуўшы яе на сябе, адскочыў убок. Шафа з посудам грымнула на падлогу. Карыцька прыкладам аўтамата пачаў абіваць тынкоўку на сцяне. Праз хвіліну там выразна абазначыліся невялічкія дзверцы. Іван дастаў з кішэні ключ, павярнуў яго ў адтуліне і моцна націснуў плячом. Дзверы амаль бясшумна адчыніліся. Паказалася доўгая нізкая галерэя. Каля самага яе ўвахода на падлозе ляжала скрыня з-пад снарадаў. Іван прысеў на кукішкі і адчыніў скрыню. Яна да паловы была запоўнена залатымі каронкамі, ланцужкамі, пярсцёнкамі.

— Вось мы, мае харошыя, і зноў сустрэліся, — пяшчотна прашаптаў Карыцька. — Дары жыдоўскія з гета «Калбасіно» лепшаму сябру!

І ён гучна зарагатаў. Затым, пасур’ёзнеўшы, перасыпаў золата у заплечнік, а сам вярнуўся ў арсенальную. Дастаў з кішэні бікфордаў шнур, прыладзіў да толавай шашкі і паклаў адскую машынку ў скрыню з гранатамі. Пасля чаго падпаліў шнур і пабег у галерэю. Шчыльна зачыніў дзверы і, нізка згінаючыся пад цяжарам заплечніка, шпарка накіраваўся па цёмным калідоры. За спінай пачуўся моцны выбух, зверху пасыпалася зямля, тынкоўка, нейкае смецце.

— Форт № 2 зноў загадаў доўга жыць, — з усмешкай прамовіў Карыцька і пакрочыў далей. Хвілін праз трыццаць ён спыніўся перад дзвюма дзвярыма. На адной з іх па-нямецку было напісана «Форт № 3», на другой «Запасны выхад». Іван адсунуў клямку на дзвярах запаснога выхаду, адчыніў іх і пайшоў далей. Крокаў праз сто мужчына апынуўся каля лесвіцы, што вяла наверх. Іван паклаў на падлогу заплечнік, аўтамат, з цяжкасцю падняўся, упёрся галавой і рукамі ў люк і моцна націснуў. Люк крыху адсунуўся. Карыцька прасунуў рукі ў шчыліну і яшчэ мацней націснуў. Люк адышоў убок. Мужчына спусціўся па заплечнік і аўтамат, выпхнуў іх наружу і вылез сам. Ён апынуўся ў хмызняку. Метраў за пяцьсот былі бачны змрочныя абрысы трэцяга форта. Іван скінуў камуфляжны камбінезон, Пад ім быў досыць паношаны цывільны касцюм. Дастаў з заплечніка парэпаныя боты і кепку, пераабуўся. Выцягнуў з кішэні пашпарт на імя Путніка Пятра Пятровіча, пагартаў і вярнуў на месца. Устаў, агледзеўся. Крокаў за дваццаць убачыў адзінокі куст бэзу. Падышоў бліжэй, выцягнуў дэсантны нож, усадзіў па рукаятку сантыметраў за дваццаць ад куста і правёў па ўсім радыусе. Затым моцна рвануў куст на сябе. Той паваліўся на бок, адкрыўшы крышку невялічкага схрону. Туды Карыцька акуратна паклаў свой заплечнік з золатам, вярнуў куст на месца і паправіў вакол траву. Адышоў на пару крокаў і пільна

ўгледзеўся. Ніякіх слядоў не было бачна. Задаволена ўсміхнуўшыся, Іван зашпульнуў убок непатрэбны аўтамат і пакрочыў у Гародню.

У верасні 1979 года ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі СССР прыйшоў дзіўны ліст з горада Тулы. Невядомы аўтар пісаў: «Даруйце, што не называю свайго прозвішча. Скажу па праўдзе — баюся. Я працую на будоўлі, і днямі ў нас адбылася аварыя: уначы ад моцнага ветру ўпаў кран якраз на бытоўку, дзе дзяжурыў мой стары сябар Путнік Пётр Пятровіч. Калі яго выцягнулі з-пад завалаў, ён ледзьве дыхаў. У бальніцы ўрачы прыклалі шмат сіл, каб яго выратаваць. Калі я прыйшоў праведаць, Пётр вельмі дрэнна выглядаў. Ён узяў мяне за руку і сказаў наступнае: “Ты ведаеш, Мікола, у мяне няма ні сваякоў, ні сям’і. Ты мой адзіны сябар. На Беларусі, каля Гародні ёсць вёска Лабна. Каля яе знаходзяцца рэшткі форта № 3. Паедзь туды, знайдзі адзінокі куст бэзу, вырві куст і знойдзеш заплечнік з золатам. Я так і не выбраўся па яго. Вазьмі частку сабе, астатняе перадай царкве, няхай мяне, грэшніка, памянуць добрым словам”. Наступнага дня Пятро памёр. Не ведаю, гэта было трызненне ці праўда, але адкуль у яго, рабацягі, торба золата? А нават калі гэта і праўда, я ў такія гульні не гуляю. Таму і напісаў вам. А далей рабіце, што хочаце. Да пабачэння. Не, лепш бывайце!»

Архівы захавалі яшчэ адзін вельмі цікавы ліст:

«Старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі т. Андропаву Ю. У. Па факце атрыманага ліста, рэг. нумар 54298, Гродзенскім абласным камітэтам дзяржаўнай бяспекі былі праведзены адпаведныя мерапрыемствы. У выніку следства было ўстаноўлена, што форт № 3 практычна ўвесь знішчаны ў час вайны. Ніякіх хадоў не было знойдзена. Кустамі бэзу зарасла практычна ўся навакольная мясцовасць і ідэнтыфікаваць названае месца практычна немагчыма. Атрыманую інфармацыю пра схаванае золата калегі з Гародні лічаць не адпаведнай рэчаіснасці.

Начальнік другога галоўнага ўпраўлення КДБ СССР Грыгарэнка Рыгор Фёдаравіч».

нарадзіўся 18 красавіка 1962 года ў Гродне. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1985). Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце. Аўтар 14 вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, шэрагу артыкулаў па пытаннях беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Выдаў «Русско-белорусский медицинский словарь» (2005), «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў« (2012), «Дыялектны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў Беларусі». Піша вершы і прозу. Неаднаразова быў лаўрэатам літаратурных конкурсаў газеты «Звязда». Кіраўнік універсітэцкага літаб’яднання «Катарсіс», рэдактар трох літаратурных зборнікаў сяброў клуба. Аўтар кнігі паэзіі і прозы «Рамізнік».







# Паэзія

## Святлана Абдулаева

### Раны

Сябе распятай на крыжы
Я адчуваю дзень не першы.
Вы раны на маёй душы
Зашыйце мудрым словам верша.

Не трэба ніці залатой,
Ні чыста срэбнай, ні шаўковай —
Зашыйце раны прастатой
Са шчырасцю абавязковай.

Усіх прашу паверхню швоў
Сагрэць сардэчнасцю адразу —
Бо лепшых лекаў не знайшоў
Яшчэ ніхто мне і не разу…



Ці то вецер у полі, ці дожджык,
Ці то проста рамонкавы баль,
Я у думках заўжды — падарожнік,
А прастора наўкол — магістраль.

Назіраю я часта, над вёскай
Як струменіць ад комінаў дым,
Ўецца поле жытнёвай палоскай,
І валошкі хаваюцца ў ім.

А пасля падыду да крыніцы,
Дзе вадой чыстай вечнасць звініць,
Я павінна была нарадзіцца
Тут, каб вершамі й музыкай жыць.



Гучаць мажорна капяжы,
Нібыта клічуць у дарогу.
Я адпушчу з сваёй душы
На волю вольную трывогу.

І цёплым ранкам да вясны
Ў абдымкі выбегу на ганак,
І хай мае агучаць сны
Прароцтвы добрыя цыганак.

Я адпушчу з душы і сум,
Выжну палын расчараванняў.
І толькі ў сэрцы панясу
Адзін святы агонь кахання!



Патухла даўно цыгарэта
І белы развеяўся попел…
І ўжо наўздагонку за летам
Бяжыць па дарозе мой «опель».

І ў жоўта-зялёнай палітры
Бягуць за акном кіламетры,
І ў садзе выстукваюць рытмы
Па травах прымятых ранеты.

Патухла даўно цыгарэта
І белы развеяўся попел…
І штосьці са спраў, як газету,
Адкладваю зноў я на потым.



Прыходзьце як часцей ў асенні парк,
Дзе дрэвы ў нерухомасці застылі.
Там туя нагадае Жанну д’Арк
Сваёй узнёсласцю ў гатычным стылі.
Вам туя нагадае Жанну д’Арк
Яскравай прыгажосцю сілуэта,
Калі вы маеце, канешне, божы дар
Глядзець вачыма закаханага паэта!



З неба ляцеў і ляцеў белы снег,
Нібыта з хлапушкі.
А я ў гэты момант лятала ў сне,
Так лёгка, як птушка.
І той снегапад, што бясконца кружыў,
Не быў мне памехай,
Таму што не мае ў палёце душа
Ні формы, ні рэха…

## Вяргіні

Цвітуць вяргіні на двары —
Імкнуцца выглянуць за плот.
І ветру лёгкага парыў
Для іх нібыта вальс без нот.

Мільгаюць фарбамі ўгары —
Убок, наперад і… назад.
Цвітуць вяргіні на двары,
А лета коціцца на спад…






нарадзілася 23 снежня 1964 года ў вёсцы Ашмянцы Шчучынскага раёна. Скончыла Гродзенскае музычнае вучылішча, працуе у дзіцячай школе мастацтваў выкладчыкам у г. Навагрудку. Друкавалася ў «Полымі», «ЛіМе», «Маладосці», «Настаўніцкай газеце», «Гаспадыні», «Книжном калейдоскопе», калектыўным зборніку «Созвездие» і інш. Піша на беларускай і рускай мовах. Выдала зборнікі паэзіі «Музыка дажджу», «Тайна времени», «В преддверии любви». Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.

СВЯТЛАНА АДАМОВІЧ

## Дачушцы Паўлінцы

Яшчэ спяваюць салаўі
За вёскай татава дзяцінства,
Яшчэ мы з татам удваіх
Іх ходзім слухаць за гасцінцы…
А ты спяшаешся у свет,
Наша вялікае чаканне,
Цудоўным летам, летам раннім
Прыйсці спяшаешся у свет.
Ты ў свет ідзеш,
Маё чаканне,
Дзіця шчаслівага кахання…
Ты ў свет ідзеш,
Мой самы чысты,
Мой самы-самы лепшы верш…

## Мары лета

Пад старымі яблынямі ў спёку
Маім марам лётаецца лёгка…
Эх, у рукі б зараз мне гітару —
І пайшла гуляці песня-мара!
Вёска мая поўная малечы
І вясёлая, хоць па-старэчы крэхча,
Сарамлівая, як юная красуня,
Галасістая, як хор бабуль-пявунняў!
…Сцішыцца дзянёк — запахне хвояй,
Свежым сенам, мёдам, сырадоем…
Шчодрыя дарункі твае, вёска!
Шчасцю майму простаму ты цёзка.
Котка-ласка мыецца на ганку,
Летні ветрык гойдае фіранкі…
Верш, як яблык, просіцца у рукі,
І ліецца песня без прынукі.
Лётаюць над вёскай мае мары:
Каб быў сад, і яблык, і гітара,
Каб быў цёплы дождж і лета спёка…
Каб жылі вы, людзі, каб жыла ты, вёска!

## Прысвячэнне вандроўнаму люду

Мы шукаем ў гарадах далёкіх
Таямніцы мудрасці нязнанай,
Прагнем мы знайсці агонь натхнення
Паміж сведкамі эпох былых.
Дзеля мэты той высакароднай
Адпраўляемся ў свае вандроўкі,
Праплываем моры-акіяны
Дзеля кроплі мудрасці адной...
Ды ў каменні гораў-пірамідаў,
І ля сценаў найстарэйшых храмаў,
І ўва льдах паўночных, і у джунглях
Не знайсці натхнення вам і мне.
Не жыве яно ля мёртвых сценаў!
Не жыве ўва льдах яно халодных!
І не варта кідацца ў дарогу —
Трэба йсці да сонечных людзей!
Непаўторнай кожны йдзе сцяжынай
Да адгадкі таямніцы гэтай:
Што жыве натхненне толькі ў людзях,
Што натхненне — гэта мы і ёсць.
Ад сябе збягаем мы ў дарогі!
Гэта зразумець не так і цяжка...
Але пошук прыпыняць не варта:
Сэрцам і душой у ім расцеш!
І нарэшце свой агонь натхнення
Між такіх, як сам, калісь знаходзіш,
Стаўшы светачам для іншых, прагных,
Шчодра дорачы цяпло сваё.
Тое й ёсць для чалавека шчасце!
Тое й ёсць быцця яго разгадка —
Сотні папярэднікаў сцвярджаюць...
Не паверылі? Ну што ж...
У добры шлях!

## Развітанне з Янкам Купалам

Мне мроіўся Янка Купала...
Як з родным, я з ім размаўляла
У сне сваім ясна-празрыстым
Маскоўскаю раніцай мглістай.
Няспешна лілася гаворка,

Але прадчуванне горкае
Мне быццам бы замінала...
Чаму не зважаў Купала
На дзіўны, злавесны спакой
Па-над Масквою-ракой,
На вулках? Маўчалі дамы…
Калі ж схамянуліся мы,
Убачылі неба сцямнелае,
І хмарай цяжкою і шэрай
На голаў — нібыта снягі —
Здагадка: год сорак другі!
На вуліцы — сорак другі!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
З Купалам не стрэліся болей,
Не ўбачымся больш аніколі…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Бывайце, Іван Дамінікавіч!
Відаць, Вас анёлы паклікалі
З нябёсаў… У сэрцы — снягі
І прысмак адчаю-тугі:
Я роднага быццам губляю
У крузе ці пекла, ці раю,
Ці сну… Ды не раю! Бо крочыў
Маскоўскаю чэрвеньскай ноччу
Халодны, балючы, пякучы
Трывожны сорак другі…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Навечна ў сэрцы снягі…
Расстайны сорак другі!






нарадзілася ў 1977 годзе ў Слоніме. Скончыла БДУ і аспірантуру НАН Беларусі. Працавала ў Інстытуце заалогіі Акадэміі навук, краязнаўчым музеі Слоніма, выдавецкіх установах і рэдакцыях перыядычных выданняў Мінска, ва ўстановах адукацыі. Друкавалася ў газетах «Раніца», «Беларускі ўніверсітэт», «Літаратура і мастацтва», «Гродзенская праўда», «Краязнаўчая газета», «Народная газета», «Семья» і інш., у літаратурных альманахах і часопісах «Маладосць», «Родная прырода», «Гаспадыня», «Дзікая прырода». З 2017 года жыве ў Слоніме, працуе метадыстам цэнтра культуры, народнай творчасці і рамёстваў.

ІВАН БУДНІК

## Зорка

Як прыйдзеш ты на грэшны свет,
На небе зорка загарыцца,
Каб ты за ёй ішоў услед,
Не мог нідзе з дарогі збіцца.
Іскрыцца будзе над табой
І асвятляць табе дарогу.
Якой бы сцежкаю крутой
Ні крочыў — будзе дапамога.

## 25 сакавіка

Васямнаццаты год.
Сакавіцкаю раніцай
Незалежнасці сонца ўзышло.
Мы змагаліся й верылі, што гэта станецца,
Што да нас яго прыйдзе святло
І рассеяўся змрок векавой акупацыі.
Кайданы свае скінуўшы ў друз,
Паднялася з кален старажытная нацыя,
Абвясціла: «Жыве Беларусь!»

## Падарунак

Хацеў бы каралі
Набыць ці здабыць,
На памяць ад сэрца
Табе падарыць.
І з цудаў у свеце
Іх скласці ў букеце:
— З чысцейшых памкненняў
І мар-летуценняў;
— З вышыняў кахання,
Душы парывання;
— З блакіту азёраў,
З валошкі узораў;
— З жытнёвага хлеба
І чыстага неба;

— З студзёных крыніцаў
І росных зарніцаў;
— З нябёс неабсяжных
І зор недасяжных —
У сэрцы ўсё сплавіць
І сэрца дабавіць.
У дзень нараджэння
Ўручыць з утрапеннем,
Каб верыла, знала:
Адданая ў свеце
Душа існавала.



Іду няспешнаю хадою,
Душой вітаю родны кут.
Звініць у небе нада мною
Званочкаў жаўруковых цуд.
Бяжыць сцяжынка палявая
Сярод духмянай збажыны.
Вандроўнік-вецер напявае
Мне песні мілай даўніны.
Вітаю, родная старонка,
Цябе у квецені садоў.
І песняй шчырай, песняй звонкай
Красу тваю ўхваліць гатоў.



Эх, гады мае, гады,
Сэрца бег ваш чуе,
Паляцелі не туды,
Дзе жыццё віруе,
А туды, дзе ціш і гладзь
Млосна разліліся,
Жарсці дзе ўжо не буяць,
З часам улягліся.
Поўны ўжо пенсіянер,
Спісаны ўчыстую,
Каля хаты я цяпер
Лаўку днём прасую.
Ні нарадаў, ні сустрэч,
Тостаў пры спатканні.

Мо збылося насамрэч
Даўняе жаданне.
Так сусвет тут пазнаю:
Агарод, хваробы,
З куфлем піва пастаю
Для сваёй жадобы.



Вячэрняя зорка згарае
У жнівеньскім небе густым,
І вечнасць яе забірае —
Становіцца неба пустым.

З ёй нешта ў душы адмірае,
І робіцца сэрца глухім.
Няўжо з ёй каханне ўмірае
Або пераходзіць к другім?

Запаліцца новая зорка
На радасць ужо маладым.
Але нам і сумна, і горка,
Бо свет падаецца не тым.






нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Лікоўка Гродзенскага раёна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гродзенскага пед-інстытута імя Янкі Купалы, працаваў у школах і аддзеле адукацыі Гродзенскага р-на. Выдаў кнігу вершаў «Знойдзенае ў дарозе» (2014), навукова-папулярныя кнігі «Да падзеяў 1863–1864 гг. на Гарадзеншчыне», і «Ад берагоў Свіслачы да Кузніцы». Жыве ў Гродне.

## РЫЧАРД БЯЛЯЧЫЦ

### Асенняе

Позні́я кветкі — як стома.
Мы іх, як памяць, страчаем.
Як іх завуць — невядома,
Пахнуць жа кветкі адчаем.

Іншыя пахлі духмяна,
Долу хіліліся гнутка.
Вы нагадалі паляну
Словамі светлага смутку.

Толькі не трэба маўчання
Ў мяккіх напышлівых крэслах.
Толькі не станем адчайна
І забывацца,
І крэсліць.

Хопіць пад раніцу мокрых
Воч
І здагадак паўсонных.
Вам — каляровы мой покрыў
Чэрвеньскага парасона.

### Буду

*Маёй Т.*

Заспяваю я пад салаўя.
Ведаю: заспаны і запозні.
І, ледзь песня скончыцца мая,
Ты яе, паслухаўшы,
Адрозні.

А наступіць ранняя вясна,
Па зямлі пайду.
Чупрына змокне.
Ты па кроках постаць распазнай
У людскім раз’юшаным натоўпе.

Што ж…
Журба падыдзе на дваіх —
Ні гадаць, ні плакаць, ні дзівіцца.
Бо няма нідзе шляхоў такіх,
Каб вялі не да тваёй святліцы.



Вы цалавалі гронку бэзу
Ў зацішку воблакаў і дрэў.
А я пад ростань паланэзу,
Не разумеючы, глядзеў.

Сумеўся я.
Пагляд чамусьці
Не перавёў тады дарма:
З кім Вы садзілі белы кусцік,
Таго няма даўно,
Няма…

Ён жыў шчаслівы і вясёлы,
І верыў цвету аднаму,
Далёкай раніцай калі Вы
Букет прыносілі яму.

І шчабяталі птушкі звонка,
Сціхаў на вечар паланэз.
Вы цалавалі бэзу гронку,
І пахнуў небам
Белы бэз.

## Быў дзень

Быў той адзін
Дзень Перамогі.
Цяпер штогод, штогод цяпер.
Падлік падзей і датаў строгі —
Не з галавы, не напавер.

Не паўтарыць ні слёз, ні плачу,
Ні тое радасці былой.
І хто я ёсць,
І што я значу —
Ці пераможца, ці герой?

Жывым балець не перастане.
Мяне ж здаўна, аж з той вайны,
Не пакідае запытанне:
Ці змог бы так жа,
Як яны?

Бо трэба ведаць адмыслова
Мне цёмнай ноччу, белым днём,
Ці я змагу,
Ці я гатовы
Спакой пакінуць,
Шчасце,
Дом.

Вярнуцца ценем збітым, сцёртым
З усіх трывог, з усіх дарог.
І нават стаць навек
Чацвёртым
З тых легендарных
Чатырох.



Чорная хмара кранула хвастом,
Быццам старая акула.
Аж пахіснуліся дрэвы кругом,
Сэрца трывогу пачула.

Тут жа прамень пакланіўся зямлі.
Свята навокал якое:
Гэта фіранку
Гасподзь прахіліў,
Глянуўшы,
Нас супакоіў.

## Карціна

Спадзявацца не пакіну,
Хто б і як ні вырашыў:
Вашых рук хачу карціну,
Воч,
Натхнення
І душы.

Вашай раніцы здзіўлёнай
Штохвіліну і штораз,
Кучаравых вечна клёнаў
І загадкавых прыўкрас.
Навагодніх краявідаў,
Дзе паўсюль і Вы сама.
Ні паўсловам больш не выдам,
Што карціны лепш няма.
Падыду і застануся,
Не адводзячы вачэй,
Покуль ёсць на Беларусі
Краскі Божыя яшчэ.
Потым выкраду карціну,
Нібы сэрца ў час такі.
У апошні раз загіну
Дзеля ўзнёслае рукі.

## Зорцы

Ты вернай стала нездарма,
Пакуль маўчаў я,
Гаварыў.
А я не ведаю імя
Твайго да гэтае пары.

Адна над хатаю маёй
І пры палацавым акне.
Тваёй разумнай цішынёй
Пры яркім сонцы мроіць мне.

Я за табой, а ты за мной
Ідзём па крузе
І здаля.
Я твой, напэўна што, герой,
Ты ж Муза верная мая.

За хмарай чорнай не сумуй,
Развее вецер тую здань.
Уберагу цябе саму,
Ты знічкай хуткаю не стань.

Табе мілей ужо Зямля,
Бо веру болей, болей сам,
Што да мяне

І апасля
Табе журботна будзе там.

## Радзіма

Кожнай пары лебедзяў у нас,
Як вясна прыходзіць маладая,
Па блакітным возеры якраз
Для жыцця прыгожага хапае.

Уплялася ў неба сенажаць,
Жаўрукі не ведаюць спакою,
Божымі званочкамі звіняць.
Ты праз дзень пытаеш —
Што такое?

І, нарэшце, будзяць вечнасць журавы.
Вы не бачылі.
За партаю чыталі.
І затым не спалі доўга вы —
Кожнай птушцы выбралі праталін.

А Радзіма зноў у час такі
Птушак чараду на кожным кроку,
Быццам маці
Куранятаў з-пад рукі,
Па зямлі пасе
І па аблоках.

Зранку лебядзіная яна,
Жаўруковая выходзіць прад абедам,
Жураўлінай стане потым дапазна…
Я такой яе
Яшчэ не ведаў.

## Вечар

Выйшлі хвіліны,
Гадзіны прайшлі,
Новы заранак настане.
Кінулі якар на дно караблі,
Звяў парашут на паляне.

Ноч валасамі хіне да камля,
Дуб на прыволлі палонны.
І недасяжныя
Месяц і я —
Двое
На Божай далоні.






нарадзіўся 16 верасня 1953 года ў вёсцы Стаўбуры Астравецкага раёна. Скончыў літаратурна-музычнае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Танка. Працаваў настаўнікам, дырэктарам школы, у рэдакцыі раённых газет. Аўтар дзясятка паэтычных зборнікаў, сярод якіх «Сакавіцкае крыло» (1988), «Міг выратавання» (2001), «Вочы малітвы» (2005), «Святлом і ценем» (2009), «На радзіме Котры» (2009), «Помню, што жыву» (2013), дзвюх кніг прозы: тапанімічнага аповеда «Котранскі нераст» (2013) і лірычных замалёвак «Са мной мой дзень» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Шчучыне.

УЛАДЗІМІР ВАСЬКО

## Геніі

Іх з Неба Зямля
да сябе запрасіла.
Іх чыстая сіла
па свеце насіла.
Ну, а нячыстая —
знішчыць хацела,
ёй геніям поскудзь
падкінуць карцела:
бы груганнё,
навісалі жандармы,
у асабістым жыцці іх
распальвалі драмы.
Ды крылы звязаць ім
было немагчыма,
бо за плячыма
стаяла Айчына.
Пакутуюць геніі,
душаць іх каты.
Ау-у! Дзе вы сёння,
духу атланты?!

## Пабудзь, пажыві!

Здурнела пагода: то дождж, то туман.
Ды і ў грамадстве парадку няма:
тэракт за тэрактам, глабальны падман.
Мы марым аб лепшым, ды, пэўна, дарма.
Даносяцца хвалі пакутаў людскіх
з далёкіх куточкаў планеты Зямля.
Мы сёння ў адказе суровым за іх,
а пазіраем маўкліва здаля.
Чакаем, пакуль і да нас дапаўзуць
гадзюкі, што прагнуць нявіннай крыві.
У свеце паўсюль усплыла каламуць,
хоць душы, як рыбу, таптухай лаві.
Ау, чалавецтва, ты чуеш мяне?!
Хутчэй пра свае харакіры забудзь!

Не знішчы сябе у апошняй вайне!
Пабудзь, пажыві, пажыві і пабудзь!

## Фантазія

Жыві, фантазія мая!
Насі на крылах па сусвеце!
Мяне Сатурн заўжды прывеціць,
пабуду на Плутоне я.
Паўночны полюс аблячу
і загляну у Антарктыду,
у тэрарыста вырву міну,
рыўком разбойніка скручу.
На тоўстым, велічным слане
палову Афрыкі аб’еду
і зноў вярнуся да абеду
у Ліду, дзе прывольна мне.
Шумлівы, грозны акіян —
і ён зусім не перашкода,
бо я дужэю год ад года
і не бярэ мяне уран.
Жыві, фантазія мая!
Насі на крылах па сусвеце!
Ой, як хачу я ўсё прыкмеціць!
Патрэбна сіла мне твая.



Сцярвятнікам сяду на спіну
бязглуздзіцы і галімацці.
Фальш у кусты закіну,
каб час не сумеў знайсці.
А раптам атамны лапаць
прыпаднясе нам крах —
стагоддзямі буду плакаць
па незабыўных сябрах.

## Камар

Як параўнаць нам камара
з бязмежным, велічным сусветам?
У лесе раніца і лета —

і ўжо кусаць людзей пара.
Во, зноў ля вуха празвінеў
і хоча рэзка ў шыю ўпіцца,
ды я магу і разазліцца
і паказаць яму свой гнеў.
Хоць ад укусу не памру,
рука, як прэс, яго расцісне.
Удар — і амба камару,
і толькі кроў пад неба пырсне.
А я таксама, бы камар,
і мне сусвет не патакае,
пашле аднекуль свой удар —
і лёс не лепшы напаткае.

## Крот, краты

Во дзе знайшоў сабе жытло!..
І як ён там не задыхнецца?
Я стаўлю кожны дзень сіло —
злавіць крата не ўдаецца.
Падрыў капусту, вінаград
і ўжо падлез пад памідоры.
Ну, ты, падземны супастат,
я разбуру твае ўсе норы!
А тут яшчэ стары сусед
сваіх нагнаў (завёўся з намі) —
і натварылі столькі бед —
больш, чым японскае цунамі.
Ужо ідуць амаль на ты.
І хутка сядуць мне на шыю.
Ах вы, паршывыя краты,
я заўтра шапку з вас пашыю.

## Прага

Гартаю кнігу, бы стагоддзі.
Люблю неўтаймаваны верш.
Мо вывучаць жыццё ўжо годзе?
Мо ведаць меней крыху лепш?
Ды не — дарэмная задумка.
І горш за ўсё ў кутку марнець.
Мне кніга даражэй, чым булка,

чым каўбаса і селядзец.
Перад сабою стаўлю мэту —
не абібочыць, не драмаць,
а ўсе (ці ўдасца) кнігі свету
перагарнуць і прачытаць.

## Дух

...Ах, дух бунтуе.
Дух не спіць у шапку,
ўзнімаецца, бы вогір
на дыбы.
Яму не кінеш
подласці ахапку.
Ён фальш раструшчыць,
бы ў бары грыбы.
Ён добра бачыць,
дзе святло, дзе цемра,
расколе амбіцыйнасці скалу
і можа стукнуць
капытом у цемя
усякай крывадушнасці
і злу.
Упарты ён,
нікім не пераможны.
Гуляць не стане
з вамі ў паддаўкі.
І хоць жыве
не бедна — не заможна,
імкнецца прама
ў зорныя вякі.

## На Парнас, альбо Дыялог з часам

Па сцежцы няроўнай
угору бягу.
Парнас беларускі
і вабіць, і кліча,
і мне падаецца,
што ўсё я змагу,
а час параўняўся
і слых мой казыча:

— І так ты спазніўся
на многа гадоў.
Чаму не спяшаўся,
як быў маладзейшы?
Ці шмат хоць пакінеш
адметных слядоў?
Увогуле мне па душы
твае вершы.
А ў плечы не трэба
цябе падпіхаць?
Ты быццам задыхаўся,
бедны паэце.
Мо допінг які
хоць украдкай падаць,
бо мноства такіх
апынулася ў Леце?
— Ды выкінь свой допінг!
Я чыстым хачу
туды, на вяршыню
Парнаса, дабрацца.
Ці чуеш, што новы
ўжо верш мармычу,
і абганяю
настырнага зайца?
І час супакоіўся,
і ні гу-гу,
і заяц спыніўся
у страху і скрусе,
а я ўсё бягу,
бягу і бягу,
і хутка ўжо там,
на гары, апынуся.






нарадзіўся 2 студзеня 1937 года ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Орлеўскую СШ, Гродзенскі педагагічны інстытут. Настаўнічаў, працаваў дырэктарам СШ у Дзятлаўскім раёне, у Дзятлаўскай і Лідскай раённых газетах. Піша вершы і прозу. Друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах, часопісах, зборніках паэзіі. Аўтар паэтычных кніг «Прасветленасць» (1981), «На схілах берагоў» (1997), «Кругазварот жыцця» (2011), а таксама кнігі прозы «Лясная рапсодыя» (2013). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Лідзе.

## ЮРКА ГОЛУБ

### Ранкам

Зямля на далоні ляжыць
У Бога — высока.
Над ёю сусветна блішчыць
Падкова вясёлкі.

Жыццё таямніцу вядзе:
Не значыцца прорва.
Хто калісь замёрз у будзе,
Вылазіць па дровы.

Займае на зоры ізноў
Над борам і вокам.
Калі пачынаеш з азоў —
Світае навокал.

Зязюлін абудзіцца сон.
Адчыніцца брама.
А зораў нязлічаны сойм
На свечкі забралі.

Не здолелі дню замінаць
Ні кодлы, ні падлы.
І распляскана мана
Молатам на кавадле.

### Прыцягненне

Дрымучыя дрэмлюць лясы.
Задымлены шляк небакраю.
І чорта з прырэчнай лазы
Вунь блешняю вуда карае.

Красае каменне раса.
Ракі выпінаюцца рэбры.
Нябескае слова «краса»
На хвалі гайдаецца срэбрам.

Сякеру бабёр навастрыў:
Арудаваць падкі на зрубе.

Яму тут уласны Гальфстрым:
Блішчаць яго футра і зубы.

Шукацьме прастору кажан:
З гарышча — а сам відушчы.
І казань гатова казаць
За душы лятучыя пушча.

Пацягнуцца гужам грамы
Праз нетры калючых маланак.
Грамы да халодных Грамніц
Ніколі шляхоў не мыляюць.

І човен хінецца вяслом
Зацішнаму лону затокі.
Завязаны дужым вузлом
Нябёсы,
лясы
і вытокі.

## Нёман. Пад лёдам

Ахінулі Нёман сасlinks.

Завіруха зашпіліла лёдам.
А раней: сачылі з-пад рукі
За яго размахам і палётам.

Ды паўстаў над светам снежны знак,
Дзе закон зімы — зусім не дышла.
Павярнуўся жыццяпіс няўзнак:
Неабходна руху перадышка.

Замярзае ўлегцы цеплаход:
Ледавік нідзе мядоў не зычыць.
І ў бядзе заведама ліхой
Цеплаходу, ведама, нязвычна.

Серабрыцца берага канва:
Ён сябе высока падтрымае.
І не дасць ён Нёману сканаць:
Берагі як лейцы для трамвая.

Заірдзела позвы далячынь,
Вунь ільды затоена знікаюць.
А хацелі Нёман заручыць
Там, дзе мора мачты замыкае.

## Зіма. Вечар

На хрыбетніку бору
Трэ мароз пазванкі.
І звіняць, як на здоры,
Каляда і званкі.

Неаглядны дагэтуль
Палымнеў небасхіл.
Сведчаць моўчкі пра гэта
Ледзяшы з-пад страхі.

На вачах таямніцы
Загуляла зіма.
У чырвонай спадніцы,
Як гандлярка сама.

Месца ёсць адагрэцца
Да паўночы ў карчме.
Полаз, з холадам грэшны,
Свішча, быццам, карцеч.

На пазёме ваколіц,
Дзе завеі зігзаг,
Месяц коціцца колам,
Як Венеры пасаг.

Далучыцца да свята —
Абавязак стары.
Хоць не едзем у сваты,
А імчымся з гары.

## З былога

Заладзілі фэст звездары.
Зайздросна рагочуць.
Вядома, што ўсё да пары:
І птушкі пра тое свіргочуць.

Адсюль не спяшаліся ў рай:
Той сам набліжаўся.
Ірдзела з зазубраных ран
Ад зброі крыжацкай.

Быльнёг і пакутнікаў след
Прытулім паглядам.

Таго, хто пры бойках аслеп,
Праменне пагладзіць.

Ахутаў туман хутары.
Іржа з рэвальвераў.
Не могуць яны паўтарыць
Легенду Рыўеры.

Цісненне рудых каляін
На кніжыцу лезе.
А выраю велічны клін
Не збіты жалезам.

## На беразе

Раку распірае катар:
— Цімошка! — Ды так і быць!
Рака, што ў аерным спраце,
Раскручваецца, як бінт.

Ляцяць берагі з стрыжамі.
Над плёсам ляціць будан.
Агонь.
        Першабыт.
                        Скрыжалі.
Праглядваюцца бадай...

Зязюля — гадоў лічылка —
Вандроўніку зычыць плён.
Вытокі яго лячылі,
А вусце бярэ ў палон.

Тут не патрэбны вёслы.
Заначка: і хлеб, і соль.
Не штука на водах гойсаць:
Далоні здабыць мазоль.

А хвалі — мора старонкі.
Гадзіннік — даведнік спраў.
...Сачыў аддалёк старонні:
Катар раку распіраў.

## Сом

*Быліца*

1

Ходзяць вусішна самы
На рачных глыбінях.
Мабыць, з поўнае сумы
Паплавок згубілі.

А драпежны паплавок
Не дыхне ў затоцы.
Хто яго сюды валок
І кручкі ў заточцы?

Закруціў вусцішны сом —
Не кажы — вяроўкі!
І нырнуў навечна ў сон
З рыбнае віроўні.

2

У кухарні дым — не чад —
Пах прыправ наўсцяжны.
Спрэчка ідзе, каму пачаць:
Як сама засмажыць?

Кажа Гандзя: — На алей
Трэба плазам класці!
 — Але перш адскрэбці глей! —
Удакладняе Насця.
 — Але лепш за ўсё на тлушч
Бразнуць гэту глыбу! —
Уздымае бровак плюшч,
Гладзіць Волька рыбу.

Зося вынік падвяла:
— Ну, а дзе ж патэльня?
Без яе і да стала
Сом не дойдзе, пэўна!

Сабе прысуды слухаў сом,
Вельмі азадачан.
Дзе віруе зорак сойм,
Хвост сама пабачылі.

## Азарт

З шалёным лётам лот,
Збялелы, нібы ў тынку.
І хруснуў лёд,
Як шыбіна ў будынку.

А з берага гульні
Яе віры — што ў бездань:
Або капшук гані,
Або шукай бязбедна.

Падпёр вунь стол ілбом,
Трымае — і не слаба!
Да Гінеса ў альбом
Грабуць такіх за жабры!

А макрахвосты хлыст
Шарнірнай шыяй сочыць:
Ці блісне туз, як ліст,
Народжаны ў сарочцы.

Расшпілены па пуп,
Цыгару нездар гвалціць:
У жарсці шалапут
Не больш шасцёркі значыць.

Паквапіўся валет —
І дама запішчала.
Пачулася б вальней —
Нахабнік не пушчае!

Не падкаваў блыху —
Такой бяды — не страціў.
Калі б абвал дыхнуў
Над каркам — вось дзе страшна!

Сляпы — і ў картах крот.
Празорца ў іх — відушчы!
Заткнуць анучай рот
Пачуе рэха ў пушчы.

Аднак, праз гак атак
За горла хап карата!
Бо ім цішком праз гак
Падспудна карта ўзята!

## Рэфрэн

У пралесках неба
У аблоках лес.
Тут гадаць не трэба,
Хто куды залез.

Тут бязмен без хлеба
важыць жытку — без...
У пралесках неба,
У аблоках лес.

Слова просіць нема:
Зашчапіце стрэс.
У пралесках неба,
У аблоках лес.

Дзе і свет вялебны,
І літанні спрэс,
У пралесках неба,
У аблоках лес.

Сэрца, днём не грэбуй,
Дзе асфальт ці весь.
У пралесках неба,
У аблоках лес.






нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). працаваў на Гродзенскай студыі тэлебачання і ў абласной газеце «Гродзенская праўда». Паэт, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. А. Куляшова. Аўтар больш як 10 кніг паэзіі, сярод якіх «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «У бары грыбы бяры» (1986), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень. Трыялеты» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006), «Краявід» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

МІКОЛА КАНАНОВІЧ

## *ВОСТРАЎСКАЯ ВОСЕНЬ*



Вострава. Верасень. Дождж.
Вершы з газеты. Прагноз.
Проза з газеты пра нас,
Хто ў вёсцы душою заграз —
«Шчонаўскія абразкі»*.

Як востраўскі згустак тугі
Па тых, каго болей няма —
Дачытваю я дацямна.



Шапоча вераснёўскі дождж.
Пра што ж? —
Пра концасць і бясконцасць часу,
І камара, заразу,
Што ў хату ўлез, звініць над вухам,
А ты тут слухай.
А можа, ён тут шэпча мне
Пра край у тле? —
Адно дакладна, пэўна — восень.
Мне заўтра бульбу з поля зносіць,
Капаць, сагнуўшыся у кульбу…
Мне дождж прабулькаў
Пра няспыннасць часу
І сплыннасць нашу.

---

* «Шчонаўскія абразкі» — аповеды Альжбеты Кеда (Алы Петрушкевіч) пра родную вёску Шчонава Карэліцкага раёна і яе жыхароў.



У Востраве ідзе вялікі дождж.
«Вяровачкамі з даху ўецца», — кажа маці.



Вароты восені схаваліся ў дажджы,
Які сцяной паўстаў над дальнім лесам.
— Ў грыбы не йдзі. Лепш дома паляжы
Ці кніжку пачытай вунь з інтарэсам… —
Ці маці кажа так, ці голас мой
Унутраны мяне трымае ў хаце.
Тым часам дождж сцякае ў дол вадой,
А я шукаю рыфму на Парнасе.



Імжыць ледзь прыкметны дождж,
Сцякаюць кроплі па лісточках кветак
І віснуць на пялёстках басанож,
Празрыстасцю зіяючы адметнай.
А з даху кроплі ў выварку бубняць,
Што дождж не скончыцца, пара выходзіць з хаты
Пад вераснёўскім небам пастаяць
Ды па грыбы спяшыць у лес багаты.



Востраўская восень: бульба, дождж,
А хочацца — на рыбу ці ў грыбы.
І я вастру старэнькі бацькаў нож,
Каб быў гатовы і туды й сюды.



Ну вось і ўсё. Паеду заўтра ў горад
Колю Дамановіча хаваць.
У шэсцьдзясят зямляк у вечны холад
(Ці ў рай нябесны?) выйшаў зімаваць.
У Вострава яго не павязуць,
На Чапялёўскім ляжа палігоне,

Хоць маці з бацькам пахаваны тут
І ўсе браты — у востраўскім палоне.
Але абжыўся ў Слоніме, і там
Наканавана выспацца Даману.
А Вострава схаваецца ў туман
Чарговую сваю залечваць рану.

*в. Вострава на Слонімшчыне,*
*верасень 2017 г.*







нарадзіўся 13 сакавіка 1965 года ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Як паэт, празаік і журналіст у перыядычным друку выступае з пачатку 1990-х гадоў. Укладальнік і рэдактар зборніка «Паэтычная Слонімшчына» (2000) і двух выпускаў літаратурнага альманаха «Ад Я да Я» (2001, 2003) падлеткавага клуба «Святліца». Аўтар паэтычнага зборніка «І доўжыцца ноч...» (2003). Жыве ў вёсцы Пятралевічы на Слонімшчыне.

ГАННА КРОФТА

## *СЛОВЫ ТЫМ, ХТО ПАЙШОЎ*

### Час

Разам з сябрамі знікаюць дні,
Дні, што жылі калісьці.
Падаюць доўга нямымі радкамі
Цені ў попел дарог.
Доўга чытаюцца словы кніг,
Кніг з пражылкамі лісця,
Што між старонак памяць хаваюць
Ці сціраюць знарок.
Хочацца ўзяць і ўслед паглядзець
Часу, што змоўк і высах,
Каб зразумець, што ён не ідзе, —
Коціцца ў пыльны змрок.
Толькі гады ў рады — і радзей —
Вернуцца ў снах абрысы
Нашых размоў, падзей і людзей,
Што перайшлі за парог.

### Памяці І. Я. Лепешава

Словы тым, хто пайшоў,
Аблятаюць пялёсткамі
Сініх астраў, настоеных у вадзе.
Успаміны пры тых,
Хто быў светлым, быў лепшым,
Быў настаўнікам, сябрам — і мудрым, і простым, —
Матылькамі празрыстымі позняга лета
Завіталі з былога ў кастрычніцкі дзень.
Цяжка вымавіць словы, калі больш нікому
Іх не можна пачуць.
Колькі роспачы з намі
Засталося!..
А з імі — хай будзе спакой.
Крылы смутку нікога не вернуць дадому.
Яны падаюць сінімі астрамі ў памяць,
Набрынялыя чыстай, халоднай вадой.

## Памяці І. В. Жука

Словы, адпушчаныя ў вышыню,
Не знікаюць.
Яны прыходзяць да нас
Пялёсткамі сонечных красак
І ў спёку — шматколерным снегам.
Спяшаюцца словы праз час
Насустрач мінуламу дню —
Насустрач наступнаму дню,
Каб словам вярнуцца, не рэхам.
Спяшаюцца словы праз свет
Пялёсткамі ў хвалях блакіту,
Каб дзесьці на ўскрайку нябыту
Зноў з небам злучыцца адкрытым,
Якое і помніць, і сочыць,
Якое ўсіх прыме аднойчы.






нарадзілася ў 1986 годзе ў Гродне. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (2008), затым магістратуру і аспірантуру пры кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства названага ўніверсітэта. Паэтка, мовазнавец, кандыдат філалагічных навук. Аўтар кнігі паэзіі «Ад зачыненай брамы» (2014).

## СВЯТЛАНА КУЛЬ



Я слухаю дом — ад падмуркаў па дах нагары,
Да самых яго патаемных, аддаленых нетраў.
Так слухаюць лес — несвядома і чуйна — звяры,
Так слухаюць птушкі ў нябёсах трымценне паветра.
Я слухаю дом, як сусвет, як нябёсы і гай,
Тут неба маё і надзейная ціша бярлога,
Ён мой абаронца і мой паўсядзённы Сінай,
Тут недзе пад дахам асобны пакойчык —
для Бога.



Клінам ляцяць да нялюбага выраю птушкі
Ад маразоў, не чакаючы першага снегу,
Хтосьці зрабіў, што адвеку на небе нязрушна
Альфа расстання, а потым вяртання амега.
Нам, нібы птушкам, пісалася ў небе каханне,
Недзе ляціць, пазначаючы літары, статак.
Едзем па кругу, вяртанне ідзе за расстаннем,
Можа, адное яднае канец і пачатак
Азбукі нашай, якая ніяк не звядзецца:
Ёсць там амега — у вочы твае наглядзецца.



Я нідзе і ніколі не бачыла неба такога,
Каб для кожнае зоркі было адпаведнае месца,
Каб Птушыная бегла ў належным кірунку дарога
І падсмажаным дранікам ззяў паміж зоркамі Месяц,
Я запомню нябёсы, я буду ўглядацца да ранку
У малюнак сузор’яў, шукаючы Зорнае Кола,
Я знайду Каралёў і Малы Апалонік над ганкам,
Зараніцу на ўсходзе, з якой пачынаецца золак.
Я змагу прыгадаць у гадзіну, абраную лёсам,
На апошнім шляху, калі буду ў дарогу збірацца —
У якія пайсці мне з тутэйшага свету нябёсы,
Каб хутчэй прылятаць, каб дамоў на Дзяды не спазняцца.

### Ганне Севярынец

Яны табе пішуць на крохкіх ад часу паперах,
На кніжных старонках табе пакідаюць паметы,
На даўніх паштоўках, ужо невыразных і шэрых,
Яны табе пішуць — з далёкага іншага свету.
Ты іх спадарожнік, анёл і пачэсная варта,
Яны для цябе пазначаюць на фота знаёмых,
Табе дасылаюць імпэтныя вершы і жарты,
Яшчэ маладыя, яшчэ не настаў трыццаць сёмы.
Іх вершы хавалі ў хлусні, у архіўным сутонні,
Стралялі ва ўпор, у патыліцы цэлілі кулі,
Ты іх правядзі, як па гаці, з мінулага ў сёння,
Яны табе пішуць, каб вершы нашчадкі пачулі.



Пярсцёнак твой на левай на маёй
За мной цікуе ў белы дзень, і ноччу,
Ён шмат гадоў з рукі маўкліва сочыць,
Каго ў пяшчоце абдымаю ёй.
Ён ведае пра кожны стогн і ўздых,
Запамінае твары і аблiччы,
Ён думае, што неяк пералічыць
Табе маіх каханых і былых,
Раскажа, што любіла і люблю,
Калі мы зноўку будзем — вочы ў вочы.
Хай спадзяецца. Ляжа ён аднойчы
З маім мінулым разам — у зямлю.

### Крыж

*Паэма*

#### І. Арышт

Устань,
Ідзі па цёмных сходах,
За спіну рукі завядзі,
Зязюля ўскрыкне прад усходам —
І ты палічыш: пяць гадзін.
Ніхто не пойдзе ўслед сцяжынай
Ад дома цераз змрочны сад
Да чорнай з кратамі машыны —

Ні вучань, ні сябрук, ні брат.
Паэт. Прарок — твае правіны.
І гэта чаша не міне.
О Беларусь, мая Айчына,
Нашто пакінула мяне?
Крок ад дома апошні і гадзінніка бой.
І нябёсы, як пожня, над тваёй галавой.

**II. Суд Пілата**

Уся работа пахне болем.
Не гноем і крывавым потам,
А цытрусам і бергамотам
З гаркавым прысмакам няролі.
Ад Плешчаніцаў да Камчаткі
Боль разліваецца па флягах,
Ва ўсіх сіблагах і гулагах
Ім мыюць боты і пальчаткі.
Вязуць на склады да сталіцы,
Вязуць і ў дзень, вязуць і ноччу
Вагоны церняў на вяночкі
І робаў стос на баграніцы.
Матляюцца, як млын зламаны,
Даўно пашкоджаныя шалі.
Падзякуй на лесапавале,
Што ты яшчэ не расстраляны.
Ідуць растральныя калоны,
Ідуць расстрэльныя каманды,
Па макаўку, да самых гландаў
Прапахлыя адэкалонам.
І крыж апошні давіць шыю,
«Распні! Распні» — увушшы звонам.
Суддзя «Трайным адэкалонам»
Пасля прысуду рукі мые.

**III. Кальварыя (Галгофа)**

Як ад вугла ісці, за следам след,
І абысці перыметрам навокал,
У вязніцы напішацца санет,
Бо тут па сценцы — чатырнаццаць крокаў.

1

На першым кроку — крыжык ля імя,
Ці птушачка, што ўжо закрыта справа,

Без выбару між вамі між двума —
Хто з вас прарок, а хто між вас Варава.

2

Без рэшты і без выбару паміж,
Адным шыхтом, адным для ўсіх прысудам
Аднолькавы на ўсіх наклалі крыж —
На геніяў, прарокаў і на юдаў.

3

Не разбярэш, хто здрадзіў, хто герой.
Рабілі юдаў. Кожнага ламалі.
Для ўсіх адзіны шлях перад гарой,
Адзіны шлях да безлічы кальварый.

4

Даўно здабыты зэкамі свінец
На кулі для прарокаў і паэтаў.
Яшчэ з дзясятак крокаў — і канец,
Ні плашчаніц не будзе вам, ні п’етаў.

5

Ні ланцужкоў, сатканых з васількоў,
Ні вашы залатыя бранзалеткі,
Ніхто не панясе ў расстрэльны роў,
Не кіне ў яму палявыя кветкі.

6

Ніхто не пашкадуе вас ніяк,
Кроў не сатрэ з ілба духмянай хусткай.
Не будзе дрэва — выразаць імя,
Будоўля будзе, біты шлях і пустка.

7

Данесці крыж да самае гары,
Упасці і падняцца. Не скарыцца.
Так цяжка паміраць у трыццаць тры,
Таксама, як у сорак або трыццаць.

8

Ты спіш, народзе, летаргічным сном.
Якія сны ты бачыш пад прыцэлам?

Зарытую ў раве пад курганом
Душу, ампутаваную ад цела?

9

Ці чуеш ты, як твой нявечаць дом,
Як ганьбяць і балююць на руінах,
Ці ўспомніш, як пад катаўскім крыжом
Не захацеў плячо падставіць сыну?

10

Гаротны край пасеклі папалам,
Ён лёгка аддае сваіх герояў.
Каля распяцця камісар і хам
Яго майно падзеляць між сабою.

11

Кальварыя з мяжы і да мяжы,
клады, клады ў равах, на кожнай горцы,
і Беларусь, нібыта на крыжы,
распятая на бальшавіцкай зорцы.

12

Не будзе вызваліцеля, не кліч.
Даўно на дровы парубілі Спаса.
У храмах пасміхаецца Ільіч
І з ім ЦК — замест іканастаса.

13

Калючы дрот цярновага вянца,
Цвікі і боль. Чаму? За што? Навошта?
Ты пройдзеш шлях крыжовы да канца,
За ўсіх заплаціш найвялікшым коштам.

14

Твае радкі схаваюць пад замок,
Нібы ў труну — нікому не дабрацца.
І гэта будзе той, апошні крок
Тваёй дарогі —
Роўна чатырнаццаць.

**IV. Уваскрашэнне**

Як цяжка вам вяртацца з глыбіні,
Праз гліну, праз пясок, праз камяні,
У Беларусь, з равоў і з-пад крыжоў —
Дамоў.
Вяртацца, як вяртаюцца з вайны
У дом бацькоў забітыя сыны,
Праз дзень, праз год, няхай праз сто гадоў —
Дамоў.
З гадамі дол становіцца глыбей.
Без вас нам не вярнуцца да сябе,
Да Беларусі, да яе асноў.
Дамоў.

**V. Суд Божы**

Надыдзе дзень, адчуем, што пара
За Вольнага плаціць, за Дудара,
За знішчаныя думкі, мары, строфы,
За памяць, пахаваную ў ілжы,
За нашыя пакутныя крыжы
У бездань перакуленай Галгофы.
За ўсіх, хто быў
На тых крыжах распяты.
Не ў Курапаты пойдзем —
З Курапатаў!
За ўсё спытаем — з мёртвых і з жывых,
За нашых хлопцаў, за сябе саміх,
Сваім сумленнем і вышэйшай платай
За кожны крыж пакутны з Курапатаў,
За катаўскія лычкі на парад,
За кожнага чырвонага Пілата.
За ўсё спытаем
Найвышэйшым коштам —
За Курапаты нашыя
І Плошчы.
Надыдзе дзень, адчуем, што
Пара.



…Ну як табе, на гэтым скрыжаванні,
На ростанях, між летам і зімой,
Ці не абрыдла шчэ табе самой
Штогод пад клець чужыя ставіць сані?
Штогод выходзіць на палі і гоні,
Хаду перамяняючы на бег,
Тапіць чырвонай стужкай белы снег
і абвяшчаць рушэнне і Пагоню?
Ці будзе ўрэшце роўнай баразна,
Якую ты кладзеш па нашай блоні,
Ці будзе пераможнаю Пагоня,
Якую ты абвесціла, Вясна?






нарадзілася 20 верасня 1959 годзе ў Гродне. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт (1981), дактарантуру БДУ (1999), абараніла доктарскую дысертацыю «Культура Новага часу на беларускіх землях у другой палове XVIII — першай чвэрці XIX ст.» (2000). Працавала ў ГрДУ імя Янкі Купалы на розных пасадах ад 1983 года, апошняя — прафесар кафедры гісторыі Беларусі (1999–2014). З'яўляецца аўтарам кніг: «Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур: Фармаванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII ст. — 1820-я гг.)» (2000); «Палітыка. Культура. Асоба: Нарысы па гісторыі культуры Беларусі» (2012), «Вершы. Байкі. Паэмы» (2012), «Беларускі час. Летазлічэнне ў Беларусі са старажытнасці да сучаснасці» (2014), «Вершы. Байкі. Паэмы. Кніга 2» (2017).

## АЛА НІКІФОРСКАЯ



спрадвечнае
жаночае
кахае — не кахае
роўнае лёсу Гамлета
быць або не быць
рассыпана ва ўсіх стагоддзях
рамонкамі
пялёсткамі
надзеямі



адно крыло аддала
паэзіі
другое крыло аддала
табе
усё жыццё хварэю
немагчымасцю
крылы спалучыць



не супадае дзень
мой і твой
не супадае год
не супадае жыццё
кропля дажджу і сляза
назаўсёды супалі



вечарэе
застыла лістота — нібы ў чаканні
кладзецца карункамі наша сустрэча
што не адбылася
кладзецца
крадзецца

прадзецца
уздымаецца ў сонца
і абрываецца раптам
за адно ўздыханне да шчасця



перахварэла табой
перажыла
але баліш ува мне
пры абсалютнай адсутнасці болю
але паміраеш ува мне
усёй несмяротнасцю мае душы



калі сальюцца музыка і душа
толькі іней перажыве
іх абедзвюх



цэлы дзень дождж
цэлы дзень лісце
у болю
як у люстэрку
ты адбіўся



маленне разаб'ецца
як хвалі аб бераг
але я яшчэ гэтага не ведаю
і ўсё малю
і малю



на ростанях усіх крылаў
на ростанях усіх слоў
на ростанях вятроў і далячынь

ты будзеш мне бліжэй за ўсіх
а можа гэта і няпраўда
не будзеш
і не ёсць
і лета падае да схілу
і жыцці — быццам мост — разведзены
навек



Джаконда так шмат ведае
што ўсміхацца яна можа
толькі краёчкам вуснаў



(пад дажджом)
Госпадзі
аберажы ўсіх
хто ідзе і брыдзе самотна
Госпадзі
аберажы ўсіх
хто згубіў словы і маўчанне
хто страціў веру і бязвер’е
і кожным вуснам дай імя
і ўсякаму жыццю — жыццё



шляхі
што не сышліся
зарастаюць?



дзе абарвецца слова
загучыць музыка
дзе замоўкне музыка
паўстане вечнасць
дзе не вытрымае вечнасць
вернецца слова



я адкрыю акно
і буду дыхаць
лёгкімі абрысамі вечаровага змроку
і скрыпка Яна Сібеліуса
суцішыць мой боль
і скрыпка Яна Сібеліуса
узмоцніць мой боль
і ўраўнаважыць з жыццём






нарадзілася 11 чэрвеня 1957 года ў вёсцы Капці Дзятлаўскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1979). Працавала настаўніцай у школах Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў, галоўным захавальнікам фондаў музея Максіма Багдановіча ў Гродне, у абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага і інш. Аўтар кніг паэзіі «Сляза і малітва» (2006), «Пад бахаўскую такату дажджу» (2007), «На грани — счастья» (2010) і «Звуком единственным» (2012). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

РАІСА РАМАНЧУК

## Ліпеньскі ранак на радзіме

Агонь расы мне апякае ступні,
Струменіць кволых прамянёў палоскай.
Няўмольны смутак ў маім сэрцы чутны,
Майго маленства чую адгалоскі.

Ля хаты, на двары старая ліпа...
У белым кіпені разгортвае нябёсы.
Гукаю: «Дзед!» Амаль ужо ахрыпла.
Не прыйдзе ён — такая воля лёсу.

## Бяссонніца

Ты абміні мяне, бяссонніца,
Не хачу да цябе я ў палон.
Прысніцца мне: сямнаццаць споўніцца,
Як азарыць ружовы сон...

І паплыву я ў сне загадкавым
На крылах летуценняў-мар,
І сінявокай знічкай-згадкаю
Мелькам зірну ў хлапечы твар.

Яго ні з кім не пераблытаю,
Яшчэ здалёку сэрца — ёк!
Лячу і з радасцю, і з смутаю,
Як да цяпельца матылёк.

А там зардзеюся ад сораму,
Цярэбячы хусцінкі край...
Бяссонніца, май крыху гонару:
Ў дзявочых снах памроіць дай.

## Касцёр жыцця

Жыцця старонку адгарну
І акунуся ва ўспаміны.
Зашмат глынула палыну,
Хоць думала — піць мёд павінна.

Гарыць касцёр майго жыцця,
Шыбуе восень па задворках,
Смакую солад забыцця,
Таму і не заўжды мне горка.






нарадзілася 20 красавіка 1957 года ў вёсцы Літараўшчына (на хутары) Карэліцкага раёна. Закончыла Варанчанскую сярэднюю школу, Баранавіцкі тэхнікум лёгкай прамысловасці. Працавала кантралёрам якасці, брыгадзірам асноўнай вытворчасці на Баранавіцкім вытворчым баваўняным аб'яднанні. Друкуецца з 1972 года ў мясцовай і рэспубліканскай прэсе. Аўтар паэтычных зборнікаў «Сцежка ў дзяцінства» (2003), «Рамонкавы ранак» (2013), «Звон верасовы» (2013), «Дабрыня» (2014). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.

ГАЛІНА САМОЙЛА

# *МЕДЫТАЦЫІ З НАГОДЫ…*



**«На белых аблоках сноў»**
жыве маё дзяцінства.
Яно плавае разам з імі
паміж небам і зямлёй.
Па высокіх і тонкіх перыстых аблоках
яно гуляе,
пераскокваючы з аднаго на другое.
На нізкіх і шчыльных кучавых
яно спіць,
закутаўшыся ў іх.
Часта яно праплывае
над маім падворкам
і паказвае мне карцінкі:
дзяўчына распусціла над маім садам
доўгія валасы;
дзядуля ў шляпе
з барадой да пояса
сядзіць на маім ясені;
мядзведзь лёг на спіну
і падняў лапы, каб сарваць яблык
з маёй яблыні;
мора нясе лодку
з пашматаным ветразем
на страху майго хлява;
вада з глыбокага возера,
акружанага высокімі гарамі,
льецца на мой дом…
Маё дзяцінства цешыць мяне карцінкамі,
таму што любіць мяне.
Яно няспынна даруе мне ўсё маё дрэннае,
таму што яго любоў —
гэта шкадаванне.
І Бог любіць мяне, але за ўсё дрэннае карае,
таму што Яго любоў —
гэта справядлівасць.
Божачка-Божа, а можна

пасля смерці я не пайду да Цябе?
Можна, я застануся разам з маім дзяцінствам
на белых аблоках сноў
і буду плаваць разам з ім паміж небам і зямлёй?



**«Партрэты ў інтэр'еры Гародні»**
больш жаночыя, чым мужчынскія,
больш прыгожыя, чым звычайныя.
Гародня — гэта жанчына,
такая розная ў сваёй жаноцкасці:
шляхетная ў цэнтры,
святочна апранутая на адкрытых усім вуліцах,
непрыбраная на таемных вулках
і ў старых завулках.
Гародня — гэта школьніца
з хвосцікам і заплечнікам,
дзяўчына ў кароткай спаднічцы
з моднай сумачкай на плячы,
кабета з дзіцячай каляскай ды
з пакетам прадуктаў,
дама залатога веку ў капялюшыку
ды з шалікам на шыі…
Заклапочаная штодзённымі абавязкамі
і свабодная ад усіх справаў;
вясёлая ад здзейсненай надзеі
і сумная ад незваротнай страты;
гаварлівая ў атачэнні знаёмых
і ціха задуменная ў натоўпе;
імклівая ў дзелавітым руху
і павольная ў заспакоенасці.
Сямейная і адзінокая,
Каханая і некаханая…
І ўсё ж амаль заўсёды любімая
хаця б адным мужчынам
хаця б у адной сваёй іпастасі —
дачкі, сястры, маці, бабулі, жонкі, сяброўкі.
І заўсёды яна дорыць любоў
хаця б аднаму мужчыне —
сыну, брату, бацьку, дзядулю, мужу, сябру.
Гародня — гэта жанчына,
таму самы часты партрэт

у яе інтэр’еры —
партрэт Любові.



**«Яблынька ля дома»**
Вырасла ў кусце бэзу.
Ён шырокі і невысокі, як шар.
Яна вузкая і стромкая, як страла.
Вясною спачатку зацвітае яна
і выглядае квяцістай галінкай,
пастаўленай у аб’ёмную вазу.
Калі яна адцвітае,
зацвітае ён
і выглядае вялізным фіялетавым букетам,
з сярэдзіны якога вытыркаецца зялёная сцяблінка.
Астатнім часам яны зліваюцца
ў адзіным колеры — зялёным, жоўтым, шэрым.
І яблынька ў кусце бэзу
робіцца не вельмі прыкметнай.
Навокал амаль ужо ссох і прапаў
колішні вялікі сад.
Пераламалася папалам ліпа,
якую пасадзіў ля дома
старэйшы сын.
Абвалілася самая тоўстая галіна з клёна,
які пасадзіў ля дома
малодшы сын.
Сам дом ператварыўся ў прывід
і з’яўляецца на бачным усім падмурку
перад вачыма толькі тых людзей,
хто пра яго яшчэ памятае.
А маладзенькая тоненькая яблынька
высока ўзнялася над кустом бэзу,
нібыта памяць над бяспамяцтвам,
і збіраецца яшчэ доўга-доўга
сведчыць пра дом,
пра хутар,
пра людзей…
выпадковым наведвальнікам гэтага месца.



**«Я тут свая»,**
бо тут зямля маіх продкаў,
тут мая малая і вялікая Радзіма.
Але хто я на гэтай зямлі?
Размаўляю з разумнай кабетай,
з якой мы разам наведваем
музей Элізы Ажэшкі ў Мількаўшчыне:
«Эліза Ажэшка лічыцца польскай пісьменніцай,
таму што пісала на польскай мове,
хоць па паходжанні яна, магчыма, літвінка
і жыла на літвінскай зямлі». —
«Не, яна была полькай». —
«А вось сучасныя беларускія творцы,
што пішуць на рускай мове,
якія пісьменнікі і паэты —
рускія ці беларускія?» —
«Славянскія, — адказвае жанчына,
не задумаўшыся, а потым дадае: —
Тут у нас усе людзі так пераблытаныя,
што немагчыма ўсеагульна вызначыцца
ні з мовай, ні з нацыянальнасцю». —
«Хто ж мы тады тут?» —
«Што каму бліжэй, хай тое кожны й выбірае,
так і піша».
Пачала вызначацца.
Я часцей гавару па-руску, чым па-беларуску,
і вершы рускія ў мяне ёсць,
але ж я не руская.
Я лічу сябе літвінкай,
але ж калі кажу аб гэтым,
мяне ўспрымаюць як літоўку,
таму што мала хто ў Беларусі ведае,
што колішнія літвіны —
гэта сённяшнія беларусы.
Я беларуска,
але ж мае далёкія продкі не былі беларусамі,
бо на мапе свету не было Беларусі
ажно да БНР ды БССР.
У мяне такое адчуванне,
што мая зямля згубіла мяне
ў сваёй пакутнай гісторыі.
А я разгублена трымаюся за яе

і застаюся такой жа тутэйшай,
якімі вызначыў маіх землякоў
Янка Купала сто гадоў назад.



**«Вяртайцеся, буслы!» —**
кажуць людзі ўслед буслінаму выраю.
І яны вяртаюцца.
Але не ўсе.
І не заўсёды ў свае гнёзды.
Нашы бандарскія буслы
зрабілі сваё гняздо
на слупе электраліній
каля дома майго суседа Валодзі.
Узімку электрыкі спаролі гняздо
і, каб буслы яго не аднавілі,
уткнулі ў верхавіну слупа востры штыр.
Гняздо валялася ў снезе,
пасля ў траве.
Буслы вярнуліся ў красавіку
і кружылі над сваім гняздом
аж да пачатку ліпеня.
Стаялі на страсе Валодзевага дома,
апускаліся на сасну над вуліцай,
гучна сядалі на мой комін,
скіроўваліся ў блізкі лес.
І клекаталі, клекаталі, клекаталі…
А я крычала ім у думках:
«Не вяртайцеся!
Будуйце другое гняздо!»
І згадвала мінулагоднюю навальніцу,
калі праз жудасны вецер і праліўны дождж
пазірала на буслоў з акна.
Бусліха сядзела ў гняздзе,
атуліўшы крыламі буслянятаў.
Бусел стаяў на страсе дома,
напяты, як струна.
Ні ён, ні яна пад напорам навальніцы
нават крышачку не зварухнуліся;
застылі, нібы каменныя.
І ніводнай галінкі не выдзьмула з іх гнязда.
Законы прыроды буслам пасільныя,

законы, створаныя людзьмі,
імі непераадольныя.
Ды і самі людзі
часта няздольныя пераадолець
створаныя імі ж законы
і страчваюць у іх павуціне сваю чалавечнасць.



**«Пярсцёнак»**
падчас шлюбу ў мяне быў не новы.
Мая свякроў
зрабіла з свайго шырокага і тоўстага
два тонкія і вузкія —
свайму сыну і мне.
Мы абмяняліся імі на шлюбе,
а потым не насілі —
ні ён, ні я.
ён тлумачыў гэта тым,
што баіцца яго згубіць.
Я тлумачыла тым,
што ў мяне непрыгожыя рукі.
Пярсцёнкі праляжалі ўсё наша сумеснае жыццё
ў маім рыдыкюлі.
Калі мы развяліся, я аднесла іх у камісіёнку,
але іх ніхто не купіў,
і яны вярнуліся ў рыдыкюль.
Гэта добра, што маладажоны
не куплялі Адзіноту —
свёкра і свякрові, пасля іх сына і маю.
Я падумаю, што з ёю рабіць:
зберагаць і надалей у рыдыкюлі;
ці пераплавіць у іншае жыццё
з дапамогай ювеліра,
каб параўноўваць пасля старое і новае;
ці ўзяць ды выкінуць —
у раку, у траву, у пясок, у агонь…
і забыць, што яна ў мяне была…



**«Пакуль кахаю»,**
я багіня,
таму што разам са сваім богам
я ствараю ў вечнасці
наш сусвет.
Пакуль кахаю,
я неўміручая,
і неўміручы мой каханы,
і народжаныя намі дзеці.
Закаханыя
не памятаюць пра смерць,
таму так лёгка разам паміраюць,
калі іх хочуць разлучыць.
Пакуль кахаю,
пражытыя мною хвіліны
не адыходзяць у мінулае,
а кожнае заўтра
не прыходзіць з будучага —
усё проста існуе вакол мяне.
І я не іду праз час,
я лячу на нябачных крылах
у блакітным бязмежжы
вечнасці.
У часе можа быць прывязанасць,
прыхільнасць, прывычка.
Каханне — за яго межамі.
І прыходзіць яно
толькі да тых,
хто здольны
вылецець з часу ў вечнасць
і адчуць сябе неўміручым.






нарадзілася 26 верасня 1960 года ў вёсцы Бандары Гродзенскага раёна. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1981). Выдала зборнікі вершаў «Сола трох галасоў» (2001), «Между светом и тьмой» (2004), «Зоркі над маўклівай адзінотай» (2011), «Чароўны ліхтарык» (2013). Жыве ў Гродне.

СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН

*КАХАЕМ З ВОСЕНІ ДА ЛЕТА*

## Дождж

Кроплямі дождж па даху піша
Незразумелы людзям тэкст.
Для яблынь і для вішань
Ён вершы сёння піша,
Наладжвае ім фэст.
Хай людзі мокнуць пад дажджом,
А дрэвам дождж — за шчасце,
І ноччу дождж ідзе і днём,
Пад ім прамоклі сад і дом,
Ды нам тут не прапасці.
Дождж мае свой і тэкст, і гімн,
Сваю малітву мае.
Сумуем сёння разам з ім,
Бо плача ён даўно па тых,
Па тых, каго кахае.

## Дождж у снежні

Лье дождж халодны на людзей,
І мокнуць пад дажджом машыны.
А ён ідзе, ідзе, ідзе,
Як сваякі на імяніны.
Дождж закаханых намачыў —
Прамоклі вусны і калені…
Ты хоць бы, дождджык, адпачыў,
Ты ўжо зімовы — не асенні…
А дождж не слухае мяне —
Змывае хутка мае мары…
Ён сумна плача у акне,
Нібыта скрыпка Страдывары.

## Мароз

Закаханыя марозу не баяцца,
Што ім, закаханым, маразы:
Могуць на марозе цалавацца,
Распусціўшы лёгка валасы.
А мароз пакруціцца, паскача
І сярдзіта гляне на дваіх,
А пасля ад рэўнасці заплача
І ўцячэ паводкаю ад іх…

## Лета

У сонцы купаецца лета,
І плечы дзяўчат — пад сонцам,
І ўсім падабаецца гэта
Бясконца.
І рэчка, і пляж, і ногі —
Аж вочы стаміліся бачыць.
І зніклі навек трывогі,
Як мячык.
А ты у купальніку жоўтым
Ляжыш на вадзе лілеяй,
Гляджу на цябе ўпотай —
Хмялею.
А лета купаецца ў сонцы,
І хочацца жыць і мроіць…
З табою мне ў Лабазоўцы
Быццам на Чорным моры.



У чэрвені няма грамоў,
І ліўняў не было даўно…
А мы з табой шашлык ямо
І п’ём віно.

Кусаюць ногі камары,
І дымам пахне вечар,
А ты бяры шашлык, бяры
І пі віно за стрэчу.

І хоць даўно няма дажджоў,
Грамы не стукаюць над хатай…
Я запрасіць цябе гатоў
За стол багаты.

Тут сонца многа і віна,
І шчырай ласкі многа…
Калі са мною ты адна —
Не трэба мне нічога.

## Я за цябе буду маліцца

Жыві, каханая, жыві,
Я за цябе буду маліцца,
Пяшчотнай зоркаю любві,
Вадой з жыровіцкай крыніцы.

Я за цябе буду маліцца
Высокім небам над зямлёй,
І праліўною навальніцай,
І цёплай летняю расой.

І ветрам ў полі, і спякотай,
Лясамі, нівай і зямлёй…
І самай чорнаю работай,
І цёплай вылітай крывёй.

Я за цябе буду маліцца,
І ўдзень, і ноччу, і заўжды.
І лёгкай ластаўкай, сініцай,
І ціхім позіркам нуды.

І белым снегам каля ганку,
І нашай Шчараю-ракой,
І песняй жыта на світанку,
Радком напісаным, страфой…

Я за цябе буду маліцца,
Каб ты чужою не была.
І не згарэла бліскавіцай,
А вечна ў памяці жыла.

Каб у жыцці нам не згубіцца,
Хай нават проста, без любві…
Я за цябе буду маліцца…
Жыві, каханая, жыві!



Як цяпер мне на свеце жыць,
Калі я ва ўсім вінаваты?..
Я распяты табой на крыжы,
Нават больш чым Ісус распяты.

Як мне сёння, скажы, пражыць?
І няўжо я ва ўсім вінаваты?..
Я распяты табой на крыжы —
Ды іду да цябе распятым.






нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985). З'яўляецца аўтарам зборнікаў паэзіі «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007), «Камень Міндоўга» (2009); шматлікіх літаратуразнаўчых артыкулаў і гісторыка-краязнаўчых кніг: «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканыя на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Тэатр у Слоніме» (2008), «Альбярцін» (2011), «Па слядах Купалы і Коласа» (2012), «Такі іх лёс» (2012), «Слонімскія падмуркі» (2012), «Сярод сваіх людзей» (2012), «Іншых шляхоў не было» (2013), «Легенды і паданні Слонімшчыны» (2013) і іншыя. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Слоніме.

## ТАЦЦЯНА ЯЦУК



Была рака
І кладка праз раку.
Твая рука
І вера у руку.
Насустрач крок —
І сэрца не спыніць.
Ды незнарок
Душа мая крычыць.
Пяшчота рук —
І ніякой бяды.
І сэрца стук
На кладцы ля вады.
Ціш ля ракі
З адценнем нематы.
І светлякі,
І позірк твой, і ты.
Ды туманы
У соннай цішыні.
Званы, званы...
Пачуццяў рой звані!
Застыў чарот —
І толькі мы з табой.
Святы палёт
Двух сэрцаў над ракой.

### Ліст у калісьці

Я табе не пісала,
Што дождж барабаніў па лісці
І што сум барабаніў па скронях, як дождж?
Я пішу табе ліст у сваё дарагое калісьці.
Ты прыедзеш —
На крок ад маршруту здарож.
Бачыш: вырас наш клён,
Восень грэецца ў барве лістоты.
А у сэрцы тваім
Ці гарыць хоць іскрынка цяпла?
Мне здаецца,

Што там, у цішы, каля нашага плота
Мая шчырасць і светласць навек адышла.
І ужо не ўваскрэсне, магчыма, ніколі,
І ужо адбалела
І, здасца, зусім не баліць.
Супраць волі свае, супраць цвёрдае волі
Адкахала цябе, адасніла,
Хоць сэрца шчыміць.
Ты здарож на сцяжынку маю
Для сябе нечакана.
Там не знойдзеш мяне ў пустаце,
Дзе вятрыска пяе.
Голас ціха пакліча тужліва у барве: «Каханы!»
І лістота, як птушка,
Зляціць у далоні твае.



На карце лёсаў, горыччу расшытай,
Шукаем паратунак у святых.
Здаецца, што зямля сышла з арбіты,
І зрок згубіла, і згубіла слых...

Дастукацца б да сэрцаў скамянелых,
Даплакацца б да душаў нежывых…
З-пад ручнікоў каб васількова-белых
Благаслаўлёна глянуў лік святы.



Аплаквае сваю дачушку маці.
Сваіх дзяцей хаваць не дай вам Бог!
Застыла гора у журботнай хаце
І не жадае выйсці за парог.

А тэлефон маўчыць, зусім не звоніць.
І стыне цемраю нямы бальшак.
Чакае маці, што ў мабільнай зоне
Пачуецца: «Матулька, ты там як?

Ці снедала, ці жыўнасць накарміла?
А ножкі твае, мамка, не баляць?
А дровы хутка ў печы упаліла?..
Хачу табе я столькі расказаць».

А тэлефон маўчыць: няма дачушкі.
Пакой жыве маўклівай цішынёй.
Не паспяваюць прасыхаць падушкі,
А думкі круцяць ролік вечны свой.

Няма дачкі: ні погляду, ні следу.
Матуля — птушка, ды з адны крылом.
Звініць у думках: «Мамачка, прыеду!»
І сэрца маці поўніцца цяплом.

Ну, а пасля душа ў халоднай скрусе:
Дачка не прыйдзе, тэлефон маўчыць.
Ды верыць і любіць матуля мусіць.
І без яе матуля мусіць жыць.

І лёсу не жадаючы скарыцца,
У пажыццёвай жудаснай журбе
Пакуты палымяная зарніца
Халоднай скрухай на душы шкрабе.

Сустрэне маці свята вінавата.
Сум як струмень халодны са страхі.
І кожны дзень праходзіць, як расплата
За нейкія жыццёвыя грахі.

## У задворках раніцы

Я застыла у задворках раніцы,
Затухаюць зорачак агні.
Сонца з лугу ціха пацяшаецца
І у росах мые прамяні.

Туманы сцюдзёныя гайдаюцца
Паміж нітак жоўтага галля.
Так нясмела наступае раніца,
І шыбуе восень спакваля.

Мроіцца зімы маўклівай лесвіца,
Адчуваю лёгкі халадок.
Вельмі хутка на рагу у месяца
Выспее няказачны лядок.

Ды засыпле снегам, не пакаецца
І спаўе вясну аж да вясны.
Што рабіць? Няма мне з кім параіцца…
На галінках даспяваюць сны.

І маркотна, на душы маркоціцца.
Сум імкнецца напрасткі да зор.
І туга паспелай грушай коціцца
На самотны восеньскі прастор.






нарадзілася 19 сакавіка 1963 года ў вёсцы Радагошча Навагрудскага раёна. Скончыла Валеўскую сярэднюю школу Навагрудскага раёна (1980), філалагічны факультэт БДУ (1980–1985). Працавала на Барысаўшчыне. З 1988 г. жыве ў Баранавічах, працуе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе № 4. Друкавалася ў розных калектыўных зборніках, у раённых, абласных і рэспубліканскіх перыядычных выданнях. Аўтар зборнікаў вершаў «Груша над абрывам» (2017), «Маладосць на выданні» (2018), «Валошкавыя сны» (2018).



# ПРОЗА

## ТАЦЦЯНА ВАЛЕНЦІК

## Усміханкі ад Таццянкі

*Дакументальныя прозатворы*

**Зацерка**

Гляджу на ўнукаў і ўзгадваю сваё маленства. Асабліва калі яны ўсе з'едуцца аднвчасова (іх у мяне пяцёра). Дзеці, амаль пагодкі, не разбярэш, хто старэйшы, а хто малодшы. Толькі знешні выгляд паказвае, што адзін любіць паесці, а другі — зялёны, як нація. Адзін і агурком салёным задаволіцца, а другому і цукерка нясмачная.

Чамусьці на памяць набягае час вячэры, калі ўся сям'я збіралася за сталом. Маці заўсёды варыла зацерку, хлопцам налівала адну міску на дваіх. Сяргей — бойкі, карчукаваты хлопец, шустры як у ядзе, так і ва ўсім. Барыс — павольны, разважлівы, недаежлівы.

Стала маці заўважаць, што Барыс нейкім яшчэ больш хваравітым стаў, а Сяргей, наадварот, прутчэе. Пачала назіраць за дзецьмі, бо не заўсёды ставала часу ўпільнаваць за імі. Радая, што міскі апустошаць: значыць, наеліся. Паставіла міску з зацеркай. Барыс квэцае лыжкай па пасудзіне, а Сяргею не церпіцца хутчэй з'есці. Ён і кажа:

— Ты сваю палавіну аддзялі лыжкай і трымай, а я сваю есці буду.

Трымае Барыс палавінку, а Сярожка знай сабе сёрбае…

Убачыла маці, як аб'ядаюць малодшага, аж сэрца закалацілася. З тае пары кожнаму сыну асобны посуд выдзеліла.

**Не тое**

Мама часта любіла ўзгадваць, якраслі і гадаваліся яе дзеці, якіх было нямала. Ніколі не наракала, што не мела вольнага часу ці мала спала. Часцей — пра хваробы і нястачы.

Стала заўважаць, што ў агародзе сохнуць кармавыя буракі, якіх насадзіла многа, каб было зімой карове да сечкі.

Аднойчы прыйшла з крамы і бачыць: сядзіць, накрыўшыся бушлатам, адзін з сыноў у бураках і нешта корпаецца.

— Сынок?

— Га…

— Сярожка, што ты робіш?

— Моркву шукаю ці бручку…

Хлопчык хацеў есці і, схаваўшыся такім незвычайным чынам, вырываў буракі. Гляне на карэнне і назад у зямлю тыкае: не тое.

У вачах хлопчыка — здзіўленне, у матуліных — слёзы.

**Каб не той маліннік**

Малая Тоська хадзіла ў першы клас мясцовай школы і сябравала з дзяўчынкамі, старэйшымі за яе на тры гады. Дзяўчаты былі ўвішныя, ім хацелася хутчэй стаць дарослымі. Аднаго разу прапанавалі паспрабаваць цыгарэту. Нясмачна, але заманліва. Давай Тося насіць ім з дому бацькавы папяросы: «Беламорканал», «Север», «Памір». Зашыюцца ў ялаўцы за гаражом і паляць па чарзе. Інтрыга ў тым, што ніхто і даўмецца не мог, што менавіта малая Тося крадзе бацькавы запасы з каморкі: у хаце ўсе старэйшыя дзеці — хлопцы. Таўчэ маці хлопцаў штораніцы перад школай, вынюхвае, каторы курыць, — і нічога.

Тося ўвайшла ў ахвоту, адчула сябе па-сапраўднаму дарослай і вырашыла навучыць яшчэ меншую за сябе. Не так навучыць, як пахваліцца, што ўмее сама. Прывяла суседскую дзяўчынку ў прыбіральню, што ля клуба, і давай перад ёй паліць. Тая глядзіць і дзівіцца. А ў гэты час праз дзірачку з мужчынскага боку за імі назіраў Тосін аднакласнік Лёнік, які не выгаворваў літару «к».

Выскачыў Лёнік на вуліцу і давай прыгаворваць: «А я ўсё тваёй мацяры рас’ажу» (Тосіна маці ў гэты час была на пошце, што побач з клубам). Прыбег Лёнік на пошту і давай дакладваць: «Цёт’а Таня, а ваша Тося ‘урыць у борнай у ‘лубе!» Маці нічога не сказала і моўчкі пайшла дамоў.

Тося, задаволеная, бегла дадому, у руках быў пачаты пачак папярос і запалкі. Звярнуўшы на надворак, дзяўчынка незаўважна кінула ўсё ў крапіву на схованку. Матуля ж у гэты час назірала з акна. Не паспела Тося зайсці ў хату, як маці ёй сказала: «Пайдзі і прынясі тое, што кінула ля плота!»

Аслухацца маці ў гэтай сям’і было нельга. Прынесла. І пачаўся маналагічны дыялог:

— Што гэто?

— …

— Смашно?

— …

— Еш, калі смашно!

Дзяўчынка ўсё ніжэй апускала галаву.

— …

— Не хочаш есці, то кладзіся на зэдаль…

Тося паслухмяна легла на зэдаль. Па тоненькіх ножках некалькі разоў паласнуў дубец з малінніку. Больш маці не сказала ні слова: ці шкадавала дурную малую, ці зразумела, што той і гэтага даволі. Тыдні два Тося хадзіла ў калготках, каб не было бачна пісакоў. А Лёнік яшчэ і перад класам настаўніцы расказаў, але тая мудра перавяла гаворку ў іншы бок, бо бачыла збянтэжаны погляд дзяўчынкі.

Мінула больш за пяцьдзясят гадоў, але як толькі пачуе Тося тытунёвы пах, адразу ўзгадвае маліннік.

**Актуальнасць**

Па-суседску жылі дзве кабеты: адна — пры маці, маладая, яшчэ не замужам, а другая — з мужам і дзецьмі. Жылі хораша, хадзілі адна да другой, раіліся па розных справах. Калі разабрацца, то былі нейкай нават раднёй (хаця ў вёсцы амаль усе сваякі між сабой).

Назірала малодшая, як у суседзяў ледзь не штогод дзеці родзяцца, і надзівіцца не магла: як яны спраўляюцца? Аднойчы ўзяла ды спытала: «Цётка Таня, цяпер такая галеча пасля вайны, усё купіць трэба, грошай няма, а вы ўсё дзяцей родзіце?..» Суседка (была кабетай набожнай, але з гумарам) ёй і адказвае: «Мая ж ты Марусечка, праўду кажаш, за ўсё трэба плаціць. А тут такая асалода ды бясплатна…».

Магчыма, і непрыстойны мой прыклад, але на сённяшні час вельмі актуальны: за ўсё плата патрэбна. А вось за дабрыню, спагаду, усмешку — не. Чаму ж людзі чарсцвеюць?

**Зяць і цешча**

Пра зяця і цешчу ў народзе складзена вельмі многа анекдотаў. Чамусьці так павялося думаць, што цешча не любіць зяця, а той, у сваю чаргу, жадае ёй смерці. І плятуць людзі кашалі, каб толькі павесяліць народ.

Я таксама распавяду гісторыю з жыцця, але даволі павучальную.

У адной жанчыны ёсць двое зяцёў: адзін вельмі гаваркі, а другі — наадварот, маўклівы. Праўда, абодва любяць смешкі строіць, часта жартуюць, а цешча ж іхняя — таксама кабета з гумарам.

Аднойчы прыхварэла цешча: ціск падняўся. Вязе старэйшы зяць, той, што маўклівы, яе ў бальніцу. Маўчаць абое. Яна — бо ёй дрэнна, а ён — бо не ведае, чым дапамагчы.

Прабыла колькі часу ў бальніцы цешча, выйшла павесялелая, з румянцам на шчоках. Едуць назад. Ізноў моўчкі. Пад’ехалі да цешчынай хаты. Тут зяць і кажа:

— Дык ехаць у Дуброву ці не?

Цешча спачатку не зразумела:

— А чаго ў Дуброву?

— Ды на пілараму…

(Дуброва — вёска ў Райцаўскім сельсавеце, дзе ёсць піларама. Маўляў, там можна нарэзаць дошак на труну.)

— А то я магу хоць зараз…

Цешча толькі ўсміхнулася і паківала на яго пальцам:

— Я табе з’езджу. Рана яшчэ. Пацярпі.

Пад вечар у цешчынай кватэры пачуўся тэлефонны званок. Дачка ўсхваляваным голасам спытала, ці ёсць перакіс вадароду.

— А што здарылася? — захвалявалася маці.

— Ды майго сабака ўкусіў…

Жанчына, схапіўшы перакіс, хуценька кінулася да дачкі, якая жыве праз некалькі хат.

Увайшла ў кватэру і бачыць: ляжыць на ўсю канапу зяць, збоку сядзіць яе дачка, а маленькая ўнучка дзьмухае на татаву нагу, на якой пунсавее не вельмі вялікая

рваная рана. З палёгкай уздыхнуўшы, што ўсё не так ужо і страшна, кабета, затаіўшы ўсмешку, падышла да зяця:

— Ну што, зяцёк, можа, мне ў Дуброву збегаць?

Той толькі лагодна ўсміхнуўся ў адказ.

Праўду кажуць у народзе: не капай другому яму…



нарадзілася 5 лютага 1958 года ў вёсцы Райца Карэліцкага раёна. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1996). Педагог, краязнаўца, аўтар артыкулаў у раённай газеце.



## ВАЛЯНЦІН ДУБАТОЎКА

# Мы наш, мы новы…

…І сказаў Яму д’ябал: Табе дам уладу над усімі гэтымі царствамі і славу іх, бо яна аддадзена мне, і я, каму хачу, даю яе; і вось калі Ты паклонішся мне, дык усё будзе Тваё.

Ісус сказаў яму ў адказ: адыдзі ад Мяне, сатана; напісана: «Госпаду Богу пакланяйся і Яму аднаму служы».

*Паводле Лукаша Святое Дабравесце, раздзел 4: 6–8*

**Мы — сіла**

Паўлюшэнка пацягнуў бацюшку за доўгія сівыя валасы і нагой з усяго маху выцяў па твары. Пажылы святар застагнаў.

— Не-не, пастой, гэта яшчэ не ўсё, — злосна прабурчаў Сіўкоў, чыркнуўшы некалькі разоў запалкай.

— Бл…ць, прамоклі дарэшты, — адкінуўшы разлезлую каробку ўбок, Сіўкоў звярнуўся да Шэхмана: — Дай сваіх, бачыш — мае не гараць.

Камсамолец, што ішоў наперадзе і цягнуў бацюшку за рукі, на хвіліну прыпыніўся, абтрос рукі, каб не забрудзіць нагавіцы, і сунуў руку ў кішэнь. Збіты чалавек, адчуўшы хвілінную палёгку, ціха застагнаў. Але і стагнаць яму было цяжка.

— Э-э, харош там марудзіць, бачыш — ён ужо ажывае, — уладна прамовіў Луковіч.

Камсамольцы замітусіліся. Праз хвіліну Шэхман працягнуў запалкі Сіўкову.

— Ну што, поп, зараз мы цябе паголім. — Шэхман нахіліўся, чыркнуў запалкай і паднёс агеньчык да барады збітага. Залітыя крывёй валасы не загараліся. Сіўкоў адну за адной нервова адкідваў убок згарэлыя запалкі. Няўдалыя спробы падпаліць бараду бацюшку яшчэ болей злавалі Сіўкова, і ён урэшце плюнуў на карабок і кінуў яго ў твар ахвяры.

— Бачыш, поп, з-за тваёй юшкі ніяк не магу распаліць вогнішча.

Ячэйка ў поўным складзе з’едліва і гучна зарагатала.

Святар сабраў усе свае сілы і ледзь чутна прашаптаў:

— Даруй ім, Госпадзе, не ведаюць, што вытвараюць.

— Даруй-падаруй, — перакрыўляючы бацюшку, здзекліва прамовіў Луковіч. Пасля павярнуўся да хаўруснікаў і зарагатаў. Камсамольцы падтрымалі свайго сакратара, і ўжо праз хвіліну іх трэсла ад рогату.

— Бачыш, поп, бяссільны твой Бог. Нічога ён з намі зрабіць не можа, і знаеш чаму? Таму, што мы сіла, за намі партыя, за намі Сталін і ўвесь Савецкі Саюз. А за табой хто? Папяровы ідал у драўлянай рамцы, — нібы на камсамольскім сходзе, упэўнена заявіў Луковіч, потым махнуў рукой сваім падначаленым, і працэсія працягнула рух.

Масіўнае цела збітага пажылога чалавека было цяжка валачы па расхлябанай восеньскай дарозе. Чым болей камсамольцы стамляліся, тым даўжэй білі яны на прывалах сваю ахвяру. Нарэшце працэсія выйшла на самае высокае месца ў наваколлі.

Менавіта тут, на ўзвышшы, рос стары, разгалісты дуб, каля якога жыхары навакольных вёсак святкавалі Купалле.

— У-ух, ну нарэшце дайшлі. Бачыш, поп, якую мы табе званіцу выбралі. Зараз туды цябе падсадзім, а там і да бога твайго недалёка, — здзекліва прамовіў сакратар.

Бацюшка расплюшчыў акрываўленыя павекі. Перад ім стаяў стары дуб. На залітым крывёю твары святара з'явілася ўсмешка.

— Вы паглядзіце на яго, ён жа з нас збыткуе, — прашамкаў збянтэжаны Луковіч і садануў кулаком па ацеклым твары.

Удар сакратара паслужыў сігналам астатнім камсамольцам, і яны, як ваўкі, накінуліся на паміраючага чалавека.

Бацюшка ўжо ніяк не рэагаваў на ўдары і толькі ўсё цішэй і цішэй гаварыў:

— Госпадзе, даруй, Госпадзе, даруй...

Тры дні вісела на дубе цела святара. І тры дні ішоў бясконцы восеньскі дождж, нібы абмываючы цела закатаванага. Мясцовыя сабакі і днём і ноччу вылі ў наваколлі. Але ім, у адрозненне ад людзей, мясцовыя камсамольцы нічога не маглі зрабіць.

Праз тры дні цела бацюшкі некуды знікла. І колькі Луковіч і яго хаўруснікі ні шукалі, хто зняў нябожчыка з шыбеніцы, так нікога і не знайшлі.

А стары дуб неўзабаве засох. Перад самым пачаткам вайны ўначы ў яго трапіла маланка, і ён згарэў дарэшты.

**Кат**

Паўлюшэнку калаціла пасля ўчарашняга, як ад лютага марозу. Падняць руку ці нагу каштавала няшчаснаму шмат поту і слёз. Таму перасоўваўся ён па хаце павольна і асцярожна, як стары нямоглы чалавек. А было яму не болей за дваццаць пяць гадоў. З той пары, калі Паўлюшэнка разам з другімі камсамольцамі мясцовай ячэйкі закатаваў вясковага бацюшку, ён перастаў спакойна спаць. Для таго, каб хоць якнебудзь заснуць, гаспадар хаціны напіваўся кожны вечар да непрытомнасці. Два месяцы таму жонка Паўлюшэнкі нарадзіла дзіця. Дзяўчынка з'явілася на свет кволай і пражыла на божым свеце ўсяго некалькі дзён. Жонка ад гора кранулася розумам у той жа дзень, як памерла дзіця. Яе забралі у Наваградскую бальніцу, дзе за тыдзень няшчасная згарэла ад невядомай хваробы.

— Дзе ж пахмяліцца? — думкі, нібыта надакучлівыя мухі, мітусіліся ў галаве небаракі. Дрыжачымі рукамі ён падняў з падлогі пажоўклы акурак і запаліў. Па хаце пацягнуўся шэры смуродлівы дым. Гаспадар раз за разам соладка зацягваўся.

— От, бляха, — акурак апёк губу, і камсамолец выплюнуў яго на непадмецены ток. Злосна вылаяўшыся, ён сплюнуў сабе пад ногі і, асцярожна апёршыся аб край засмечанага стала, вызірнуў у акно.

— Та-ак, у сельсавеце ўжо хтосьці ёсць, — павольна падняўся, дрыжачымі рукамі накінуў на плечы фрэнч і выпаўз з хаты.

— Луковіч у сябе? — спытаўся Паўлюшэнка ў Шэхмана, які стаяў на ганку, і, не чакаючы адказу, зайшоў у сельсавет.

— Гарэлка ёсць? — не вітаючыся прагаварыў ён і ўзяўся метадычна абшукваць шафы і шкафчыкі, якія знаходзіліся ў кабінеце.

— Ты што, зусім здурэў?! — уладна выкрыкнуў, падняўшыся са свайго месца, старшыня сельсавета.

— Пайшоў ты на х..! — не звяртаючы ўвагі на ўсхваляванага старшыню, прамовіў Паўлюшэнка і працягнуў пошукі.

— О-о! — з ніжняй шуфляды шафы для адзення камсамолец выцягнуў «польскі літар», напалову запоўнены мутнай вадкасцю. Ён дастаў корак і дрыжачымі рукамі нахіліў пасудзіну сабе ў рот. Выдыхнуў паветра і яшчэ раз прыклаўся, смакуючы.

— Ты што робіш, паскудзіна? — але Паўлюшэнка ніяк не рэагаваў на лямант Луковіча. Старшыня рэзка падняўся і ў два крокі падскочыў да пітака. Пасля непрацяглае стычкі «польскі літар» быў ужо ў старшыні.

— Хопіць! Зараз згарыш ад гэтай гарэлкі, калі піць не кінеш!

— Ніколі.

— На лячэнне цябе адправім.

— А мне хоць куды, я ўжо ні спаць, ні есці не магу.

— Ну дык піць кінь, ты ж камсамолец.

— Знаеш, сакратар, як толькі кідаю піць, прывіды да мяне прыходзяць: жонка, дзіця. Людзі кажуць, каб у царкву схадзіў ды паніхіду за іх замовіў. Але не магу я туды ісці…

— Ты цемрашальства сваё кінь. Якая яшчэ царква? Гэта ўсё ад гарэлкі, усе твае прывіды, — Луковіч паставіў на стол, за якім толькі што сядзеў, посуд з гарэлкаю і падышоў да Паўлюшэнкі: — Кінь піць, выйдзі на працу, і ўсё будзе добра, — старшыня па-сяброўску абняў Паўлюшэнку за плечы.

— Дай яшчэ глытнуць, хоць раз!

— Не дам, пайшоў адсюль! — старшыня адпіхнуў п’янага на некалькі крокаў ад сябе. Не хочучы зноў ісці на абвастрэнне, Паўлюшэнка павольна выйшаў з будынка сельсавета і, ледзь перастаўляючы ногі, павольна пацёгся да сваёй хаты.

Ён прачнуўся ноччу мокры, як хрушч. Цела калацілася яшчэ мацней, чым звычайна.

— Тата, тата! — Паўлюшэнка павярнуў галаву і ўбачыў каля печы малое, якое цягнула да яго рукі. Ён падняўся, павольна падышоў да дзіцяці і паспрабаваў яго абняць. Але на тым месцы ўжо нікога не было. Нічога не разумеючы, чалавек агледзеўся навокал.

— Дзе ты? — і тут ён раптам заўважыў на сваім ложку нябожчыцу-жонку і тое самае дзіця. Ён амаль нячутна падкраўся да ложка і, каб не спалохаць іх, ціхенька прылёг побач. Яму стала добра і лёгка. Каханая жонка была побач, тут жа яго дзіцятка, жывенькае і здаровенькае…

Луковіч сядзеў за сталом і перабіраў партыйныя паперы.

— Таварыш старшыня! — ён падняў галаву ад стала і паглядзеў на дзверы, адкуль даносіўся крык.

У памяшканне забег запыханы Сіўкоў.

— Цішэй, цішэй ты, — прамовіў старшыня сельсавета.

Сіўкоў адсопся і нервова крыкнуў:

— Паўлюшэнка павесіўся!

Луковіч ускочыў з месца:

— Што?!

— Паўлюшэнка павесіўся ў сваёй хаце.

— Як, не можа быць!— разгубіўся Луковіч.

— Перакінуў вяроўку праз бэльку — і ўсё, — разгублена прамовіў Сіўкоў. Абодва замоўклі.

Праз дзень на мясцовых могілках з'явіўся драўляны помнік з чырвонай зоркай. Прастаяў ён нядоўга. Падчас вайны хцівыя землякі Паўлюшэнкі сцягнулі абы-як збітую тумбу сабе на дровы. І ужо праз некалькі гадоў нават самыя блізкія сваякі нябожчыка не маглі паказаць, дзе быў пахаваны былы камсамолец…

**Юда**

Падвода, як цяжарная баба, павольна перавальвалася праз камяні пыльнай палявой дарогі. Сіўкоў сядзеў у драбінах і жаваў свежы хлеб, які перад ад'ездам схапіў са стала. Да Наваградка яшчэ было далёка, таму паразважаць наконт жыцця ў Сіўкова быў час.

У паліцыі служыць можна: і плоцяць добра, і харч неблагі даюць, а галоўнае — увесь час нешта перападае. Тут Сіўкоў стаў успамінаць, колькі ён канфіскаваў маёмасці ў габрэяў ды ўсіх астатніх з таго часу, як стаў памочнікам начальніка мясцовай паліцыі. У траўні зганялі габрэяў у гета, а золата і срэбра цішком забіралі сабе. Расстралялі на тым тыдні савецкіх ваеннапалонных, ад іх засталіся шынялі і папругі. У мясцовых бальшавікоў… Пасля згадкі пра апошніх Сіўкову стала нейк не па сабе. Па-першае, ён сам да вайны ўваходзіў у мясцовую камсамольскую ячэйку. Па-другое, узяць у тых галадранцаў ды п'яніцаў не было чаго.

От і добра, што я ад іх уцёк. Хіба ж мне, гаспадарліваму, месца каля той басоты? А служба ў паліцыі — зусім іншая справа. Тут табе і грошы, і улада, і павага. А галоўнае — сканфіскаванага і дзецям хопіць. А яны ў мяне такія харошыя: старэйшая дзяўчынка і малодшы хлопчык. Ён на хвіліну ўявіў, як будзе важна жыць пры немцах пасля вайны. Сіўкоў выпадкова зірнуў на гадзіннік, які зняў летась з расстралянага палітрука. Хутка полудзень, трэба спяшацца. Пад вечар маецца быць экзекуцыя ў адной з мясцовых вёсак. А як жа без мяне, можа, і там штосьці перападзе.

— Но-о, но-о, каб цябе халера! — паліцай з усяе сілы сцебануў кабылу пугай. Тая ад болю і страху рванула з месца, як апараная. Акаваныя колы падводы залескаталі па дарожных камянях, нібы танкавыя гусеніцы.

Паўдня прамарудзіўшы, Сіўкоў выйшаў з будынка камендатуры і акінуў поглядам наваколле. Цёплы летні вечар надыходзіў няўмольна. Паліцай спрытна залез на падводу і па-гаспадарску ўсеўся на загадзя падрыхтаванае месца.

Да роднай вёскі заставалася толькі адолець горку і мінуць пералесак. У гэты самы момант Сіўкоў заўважыў, як з-за лесу вырастае вялізны клуб дыму.

Паліцай падганяў кабылу і неадрыўна ўзіраўся ў той бок. Трывога ў душы нарастала. Не чакаючы, калі падвода ўзбярэцца на пагорак, Сіўкоў, прытрымліваючыся за драбіны, падняўся на ногі. Убачанае ўразіла Сіўкова. Родная вёска гарэла ўся: ад пачатку да канца.

— Яці тваю маць, паляць вёску! А мая хата?! — Сіўкоў стараўся разгледзець сярод дыму свой падворак, але гэта яму не ўдавалася. Спалоханая кабыла ляцела з горкі, рызыкуючы растрэсці падводу. Праз хвіліну-другую колы загрукаталі па абнятай з абодвух бакоў вясковай вуліцы. Сіўкоў прыгледзеўся.

— Сукі, а маю хату навошта, я ж свой! — пад'язджаючы да свайго, таксама ахопленага полымем жытла, ён на хаду саскочыў з падводы. Хата палала, як сухое кастрышча. Паліцай з мацюкамі бегаў вакол і спрабаваў хоць штосьці ўратаваць. У агні гінула ўсё, што было дорага яму: грошы, рэчы. І тут ён раптам спахапіўся. А жонка, дзеці, дзе яны?! Сіўкоў прыслухаўся. Дзесьці здалёк даносіліся крыкі.

Няўжо ў старой Каўшовай кузні паляць? Сіўкоў імгненна ўскочыў на падводу.

— Но пайшла, но!

Перапалоханая кабыла зноў ірванула з месца. Ужо праз некалькі хвілін падвода прыімчала пад кузню.

— Што ж вы робіце?! Што ж вы робіце?! —залямантаваў ашалелы Сіўкоў. Салдаты з Вафэн СС у чорнай форме з аўтаматамі наўзгатоўку шчыльнымі шыхтамі стаялі вакол палаючай кузні і ніяк не рэагавалі на крыкі паліцая.

— Што ж вы робіце, панове, там жа мае дзеці! — Сіўкоў, як сабака, бегаў, круціўся каля карнікаў. І калі ён у бездапаможнасці і разгубленасці на хвіліну спыніўся, то пачуў сярод іншых крыкаў галасы сваіх дзяцей.

— Тата, ратуй нас, татка! — Сіўкоў хацеў кінуцца ў вогнішча, але агонь, як люты звер, адагнаў яго. Паліцай у роспачы ўпаў на зямлю і жудасна заенчыў.

За гадзіну кузня дагарэла. За некалькі крокаў ад дагараючых галавешак, адкінуўшы ўбок правую руку з рэвальверам, ляжала масіўнае цела ў паліцэйскай форме. Са скроні на апаленую зямлю сцякала рудая цягучая кроў…

**Фарысей**

Падлога ў перапоўненай камеры была халоднай і вільготнай. Шэхман сабраў усе свае сілы і павярнуўся са спіны, на якой ляжаў доўгі час, на правы бок. Боль быў невыносны. За тыдзень бесперапынных допытаў сіл у вязня амаль не засталося. Ён ляжаў на халоднай турэмнай падлозе і думаў толькі пра адно: за што яму такія пакуты? Абвінавачванні здаваліся яму абсурднымі.

Адкуль яны ўзялі, што я працаваў на польскую выведку? Гэта ж абсалютная лухта. А больш за ўсё Шэхману было прыкра за тое, што ён да акупацыі Заходняй Беларусі ўвосень 1939-га верай і праўдай служыў НКУС, збіраў інфармацыю пра польскія вайсковыя фармаванні, размешчаныя на Навагрудчыне, пра людзей, што спачувалі палякам і гаварылі нядобрае пра саветы.

Тут, у менскай турме, ён штоноч пракручваў у галаве сваё жыццё да турмы.

Правільна ён жыў ці не, тым ці не ідэям служыў? Як быццам, Шэхману не было за што сябе дакараць. Абсалютна нармальнае жыццё рэвалюцыянера. Усё, як пісалі ў савецкіх кнігах. Пасля кожнага ўспаміну ў галаве ізноў паўставала адно і тое ж пытанне: за што? Ён жа верыў і аддана служыў рэвалюцыі… Але адказ на гэтае галоўнае пытанне ніяк не знаходзіўся.

Мінулай ноччу Шэхман зразумеў, што новых допытаў не вытрымае і прызнае любую лухту, якую яму падсуне следчы. А там хай будзе, што будзе.

Праз закратаванае турэмнае акенца ў камеру пачаў прабівацца кволы сонечны праменьчык. Але надыход новага дня вязня зусім не радаваў.

...Ізноў допыты, ізноў пабоі. Гары яно ўсё гарам — сёння прызнаю ўсе іх абвінавачванні. А можа, пасля прызнання сапраўды адпусцяць, як абяцалі? Хай прыйдзецца лжэсведчыць, я дам паказанні на ўсіх, на каго скажа следчы. Не мне ж аднаму пакутаваць, хай і яны паспрабуюць турэмнага жыцця... Не, няможна так! Мяне абылгалі, і я буду тое самае рабіць? Не, я хлусіць не буду, трэба цярпець, цярпець. Яны ж павінны разабрацца. Прыйдзе пара, яны яшчэ будуць прасіць у мяне прабачэння за тое, што са мной рабілі ў турме...

Час ад часу дзверы ў камеру адчыняліся, і ахоўнікі выклікалі на допыт іншых вязняў. Шэхман нервова прыслухоўваўся да бразгату засавак. І кожны раз яму здавалася, што прыйшлі па яго. Нарэшце:

— Шэхман, на выхад.

Былы камсамолец, апіраючыся на сцяну, павольна падняўся і, накульгваючы, накіраваўся да дзвярэй. Мясцовую турму ён ужо ведаў добра і мог лёгка арыентавацца на калідорах. Ахоўнік адчыніў знаёмы кабінет. Следчы сядзеў за сталом, уважліва ўзіраючыся на зайшоўшага ў пакой Шэхмана, і паліў.

— Сядайце, — спакойна прамовіў ён і паказаў рукой на табурэт, што стаяў пасярод кабінета. Шэхман сеў.

— Ну што, яшчэ доўга будзем уводзіць у зман следства? — суха і злосна прамовіў гаспадар кабінета.

— Я, таварыш следчы, не ведаю, што вы ад мяне хочаце. Гэта нейкая страшэнная памылка.

— Колькі я вам буду казаць — я вам не таварыш, а грамадзянін!

— Так-так, грамадзянін начальнік, — спахапіўся Шэхман.

— Дык якая памылка, вы гэтае пісьмо чыталі?

— Чытаў. І ўсё ж паўтару: гэта памылка ці нечы злосны паклёп.

Пасля гэтых слоў Шэхмана, следчы падняўся і падышоў да арыштанта. Былы камсамолец падумаў, што ўсё пачынаецца па-новаму: пабоі, здзекі. Але следчы гэтым разам паводзіў сябе стрымана і спакойна.

— Скажыце, калі ласка, Шэхман, у вас ёсць сям'я?

— Ёсць.

Следчы нахіліўся і ў самае вуха прашаптаў:

— Жонка і дзве дачкі. Адной чатыры гады, другой два. Я правільна гавару?

— Так. А нашто вам мая сям'я? — Шэхман трывожна зазірнуў у вочы маладому нкусаўцу. Той нахмурыўся і ціха прамовіў:

— Шэхман, я страціў з вамі вельмі многа часу. Калі мы зараз не зможам дамовіцца, я буду вымушаны пагаварыць з вашай сям'ёю. Улічваючы небяспеку, якую вы ўяўляеце для савецкай дзяржавы і абставіны, якія склаліся ў пачатку лета 41-га, маё кіраўніцтва пойдзе следству насустрач.

Сілы канчаткова пакінулі Шэхмана. Пасля нядоўгіх разважанняў ён сказаў:

— Добра, пішыце, што вам трэба, я ўсё падпішу.

Неўзабаве адбыўся паказальны суд. Шэхмана за супрацоўніцтва з дэфензівай і польскім урадам прыгаварылі да смяротнага пакарання. А ягоную сям'ю, якую ён так хацеў зберагчы, рэпрэсавалі. Жонка і дочкі згінулі бясследна дзесьці ў ГУЛАГу.

**Пракуратар**

Ужо трэція суткі Луковіч не ўставаў з ложка. Інсульт ператварыў яго ў бездапаможную істоту. Ён ляжаў нерухома, не могучы ні паварушыцца, ні штосьці прамовіць, прытым свядомасць не пакінула яго. Луковіч глядзеў на сваё пачужэлае цела як быццам збоку. І гэта было нясцерпна. Ён думаў толькі пра адно: каб хутчэй памерці. Але нейкая невядомая сіла трымала і трымала яго на гэтым свеце.

Апошняй ноччу да яго ў пакой забег здаравенны аблезлы пацук, заскочыў на грудзі хвораму і ўважліва паглядзеў Луковічу ў вочы. Потым узяўся грызці яго вушы і губы. Луковіч у страшным болю адчуў, што яго ядуць жыўцом. Пад ранак, насыціўшыся, пацук, не спяшаючыся злез з цела і знік у цёмным падпечніку.

За час вымушанай лежні стары камуніст аднавіў у думках усё сваё жыццё. З тых самых часоў, як ён у гэтай жа хаціне праводзіў першы камсамольскі сход. Як у вайну камандаваў партызанскім атрадам на Наваградчыне. Як пасля вайны бязлітасна змагаўся з мясцовымі бульбоўцамі і краёўцамі.

Розум ніяк не мог пагадзіцца з тым, што адбывалася з ім і ў свеце. Ужо мінула пяць гадоў, як развалілася дзяржава, якой ён служыў усё сваё жыццё. Камуністычныя ідэі, якія ён лічыў адзіна правільнымі, цяпер абуджалі ў людзях непрыкрытую пагарду. З таго часу, як яго, нямоглага, старога чалавека, маладая жонка перавезла з прасторнай менскай кватэры ў гэтую збуцвелую вясковую хату, ён думаў толькі пра тое, каб хутчэй камуністы вярнуліся да ўлады. У тым, што вернуцца, Луковіч не сумняваўся. Але час ішоў, а нічога не мянялася. Разрастаўся капіталізм, варожая заходняя культура не сыходзіла з экранаў тэлевізараў. А колькі дзён таму здарылася самае страшнае. У мясцовай царкве, якую ён зачыніў яшчэ да вайны, загучаў звон, які заклікаў мясцовы люд адзначыць прыход Вялікадня. І гэта для Луковіча было невыносна. Ён нерухома ляжаў на смяротнай лажніцы і прасіў толькі смерці. Але тая ўсё не прыходзіла і не прыходзіла…

Бацюшка асвячаў хаты вяскоўцаў пасля Вялікадня ўжо трэці год запар. Калі прыехаў сюды пасля заканчэння семінарыі, ён разам з вяскоўцамі вычысціў і адрамантаваў царкву, якая не працавала тут яшчэ з даваеннага часу.

Бацюшка з усёй працэсіяй прыпыніўся насупраць хаты Луковіча.

— Давайце зойдзем. Суседзі кажуць, што ён не выходзіць на вуліцу ўжо некалькі дзён.

Жанчыны з царкоўнага хору наперабой пачалі адгаворваць бацюшку. Маўляў, той камуніст-атэіст зусім выжыў з розуму.

— Не, гэтак няможна. Мы мусім зайсці. Можа, чалавеку патрэбная наша дапамога.

Жанчыны паслухмяна пайшлі следам за бацюшкам у хату Луковіча. Смурод у хаце ледзь не збіў іх з ног. Бацюшка прыкрыўся даланёй і акінуў поглядам запушчаную хаціну. На старой гарбатай канапе ляжаў з адкрытымі вачыма сівы, з акрываўленымі губамі і вушамі, чалавек. Жанчыны завойкалі і перахрысціліся. Бацюшка агледзеў Луковіча, а затым звярнуўся да жанчын:

— Бяжыце да суседзяў і выклічце па тэлефоне доктара.

Пеўчыя нібы гэтага і чакалі і ўсе да адной кінуліся да дзвярэй. Бацюшка яшчэ раз агледзеў хату, перахрысціў хворага і прысеў побач. Дастаў з сумкі свечку і Біблію і звярнуўся да паміраючага:

— Калі вы чуеце, што я гавару вам, то падайце знак.

Луковіч сабраўся з сіламі і варухнуў рукой. Бацюшка запаліў свечку і разгарнуў Біблію.

— Я вас пасаборую.

Луковіч ізноў даў знак бацюшку, што ён яго чуе.

— Госпадзе, памілуй, Госпадзе, памілуй, — загучала распеўная малітва…

Што ў гэты час тварылася ў душы старога камуніста — невядома. Можа, ён перажываў і каяўся за тое, што натварыў на божым свеце? Пасля малітвы і саборавання па твары Луковіча пацяклі вялікія, як боб, слёзы. Праз нейкі час вочы хворага заплюшчыліся, і ён адышоў. Пад'ехаўшая неўзабаве хуткая дапамога канстатавала смерць. Улічваючы, што ад нябожчыка яшчэ раней адмовіліся сваякі, бацюшка прыватна займаўся пахаваннем. На мясцовых кладах з'явілася магілка з драўляным, пафарбаваным у чырвоны колер, праваслаўным крыжам…

На гары, дзе ў 1939 годзе камсамольцы закатавалі святара, нехта штогод высаджваў некалькі маладых дубкоў. За дзесяцігоддзі там вырасла добрая дуброва. Штогод на Вялікдзень мясцовыя людзі ішлі на гару і запальвалі свечкі. А ў дзевяностыя гады на месцы дуба, на якім камсамольцы павесілі святара, быў пастаўлены высокі крыж. Ён узвышаўся над маладымі дубамі, быццам аглядаў усё наваколле. Кажуць, у дзевяностыя, калі на постсавецкай прасторы паўсюль расла злачыннасць, у гэтых мясцінах было спакойна і ціха…






нарадзіўся 20 ліпеня 1963 года ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна. Як мецэнат фундаваў кнігі: факсімільнае выданне Ларысы Геніюш «Ад родных ніў», Міхася Скоблы «Розгі ў розніцу», Юркі Голуба «Багра» ды інш. Выступаў як аўтар тэкстаў песень для гродзенскіх музычных калектываў. Проза і вершы публікаваліся ў «Гродзенскай праўдзе», «Дзелавой газеце», часопісах «Роднае слова», «Дзеяслоў». Выдаў кнігу даследаванняў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў», кнігі прозы «Чорная Воля» (2013), «Чужы» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.

МІХАСЬ ЗІЗЮК

## Ліпа цвіце

Дарога… Бясконцаю здаецца дарога. Адно з шумам праносяцца сустрэчныя машыны, слепячы святлом фар, ды напружана ўзвывае матор пры абгоне. Суцішваецца трывога, спакайнеюць думкі, іх бязладдзе пачынае збівацца ў нейкае невядомае рэчышча, якое падпарадкоўваецца тым жа невядомым законам. Пачынаеш думаць пра нешта адно, добра знаёмае і блізкае. Што для яго блізкае, да болю знаёмае? Вядома ж — яна, радзіма, родная вёска і бацькі. Гады ідуць, а расстанне з вёскаю так і застаецца стрэмкаю ў сэрцы.

Колькі ўжо мінула з таго дня? Пад сорак гадоў падбіраецца, здаецца. А запомніўся на ўсё жыццё. Ён, Валодзька Вайтасевіч, хлапчук тады яшчэ, лежачы на сене ў хляве, нечакана для сябе зрабіў новае адкрыццё. Нічога, здавалася, асаблівага, але ж. Ён усвядоміў, што жыццё не бясконцае — гэта раз, і што некалі яму ўсё-роўна прыйдзецца развітацца з вёскаю — гэта два. Раней жа ён быў упэўнены, што так будзе заўсёды: ён, бацькі, брат з сястрою, родная хата, вёска — усе на сваім месцы доўга-доўга. Наколькі доўга — ён ніколі над гэтым не задумваўся.

Такое нечаканае адкрыццё агаломшыла. Час спыніўся, цішыня прыціснула. І вусцішна неяк зрабілася аднаму, жудасна нават. Ён не стрываў, спусціўся ўніз і падышоў да адзінае блізкае жывое душы — каровы Мілкі, абняў яе за шыю, прыціснуўся шчыльна-шчыльна. І яна нібы зразумела, што хлопчыку ніякавата ў гэты момант: лізнула ў твар, пачухалася вухам аб худыя плечукі.

З чаго ўсё пачалося? У той дзень хавалі старшыню сельсавета, які нечакана памёр у саракачатырохгадовым узросце. І ім, школьнікам, таксама загадалі ісці на пахаванне: несці партрэт памерлага ў чорнай рамцы, жалобныя вянкі, жывыя кветкі. Наперадзе паважна крочыў стары калгасны брыгадзір Харламецкі, трымаючы ў руках крыж з датамі жыцця. Валодзька ішоў разам з аднакласнікамі, бачыў белы і нейкі зусім чужы твар нябожчыка, яго злёгку пасівелыя скроні, заплюшчаныя вочы, услухоўваўся ў ледзяняча-жалобныя гукі духавога аркестра, і яго сцінаў незразумелы страх.

Але чым жа яго так уразіў нябожчык? Тады ён не ведаў. І вось цяпер прычына нечакана адкрылася. Ён ляжаў, думаў, разважаў пра тату, маму… І сэрца абарвалася. Тата ж амаль равеснік старшыні, на год усяго малодшы. Дык выходзіць, што і тата можа памерці ў любы момант. І мама, і брат, і ён сам. Як жа так? Няўжо іх не будзе? Няўжо жыццё будзе працягвацца без іх? Так не павінна быць, такога не можа быць. І Валодзька ледзь не заплакаў.

А яшчэ ён узгадаў, што тата нярэдка нагадвае: вучыся, сынок, вучыся, калі не хочаш да канца жыцця поркацца ў гноі. Вось вывучышся, паступіш ў інстытут і застанешся ў горадзе. Усе з’язджаюць, і ты паедзеш. А ён не хацеў, хоць падсвядома адчуваў: так, хутка і яму прыйдзецца пакінуць вёску, ён зробіць так, як і большасць яго аднагодкаў. Усе, дакладней амаль усе, едуць у горад у пошуках лепшай долі. Няўжо ніхто з іх не спыніўся, не азірнуўся на вёску, на бацькоўскую хату?

А тут усё сваё, роднае. Валодзьку падабаецца ляжаць на свежым, мяккім і пахкім сене, адчуваць пад сабою водар мінулага лета, слухаць, як у хляве шумна ўздыхае карова, як за сцяною на курасадні кешкаюцца куры, як у загарадзі сонна парохкваюць парсюкі, а праз маленькую дзірку ў страсе відаць далёкую зорку. Зорка тая свеціць і грэе душу ўжо які год, як грэе яго ўтульная і цёплая печ, дзе маці штораніцы пячэ дужа смачныя і пульхныя бліны. А які ўтульны і блізкі родны двор, дзе ён ведае кожную дзеравінку, кожную былінку.

Яму падабаецца гойсаць з сябрамі на рэчцы, лавіць прагных і хуткіх акунёў, бяскрыўдных печкуроў. Любіць ён лета, калі спякотнаю парою гудзяць пчолы над ліпаю, што зялёным шатром атуляе старую дзедаву хату. І чуецца ў тым гудзенні нейкая дзіўная музыка. Таму ўпотайкі ён узлазіць на ліпу і слухае, слухае, як завіхаюцца над кветкамі руплівіцы-пчолы. Валодзя не баіцца іх, ён ведае: галоўнае — не перашкаджаць ім, не замінаць. Ён сядзіць і проста назірае, глядзіць, як пчолка кружляе над кветачкай, як садзіцца на яе, шукае нектар, як цяжка ўздымаецца і знікае ў лістоце з каштоўным грузам.

Любая сэрцу і тая, ужо не ўзапрэлая восень, калі знемагае гарачыня, і. канчаткова скаціўшыся пад адхон, аддае належнае месца ціхім і мяккім вераснёўскім дням, лагодным і яшчэ цёплым начам. Калі ўсе гэтыя дні і ночы пахнуць скошаным бульбоўнікам, крыху падвялаю атаваю, грыбамі і нязменным водарам буйное антонаўкі. Тады яшчэ зранку чамусьці трывожна і працягла крычаць свойскія гусі, махаюць крыламі і з гучным гаганнем спрабуюць падняцца ў паветра. А вясковая вуліца поўніцца асеннім клопатам, мяхамі і дзецьмі з заплечнікамі. І толькі гэтак жа хапатліва грэбаюцца ў пяску куры ды бестурботна адлежвае бакі руды суседскі кот.

А якія цудоўныя зімовыя дні наперадзе. Калі першы крохкі асенні лядок з настылымі камлыгамі ў брудных калюжынах змяняецца свежасцю першага снегу, які ціха і асцярожна ўкрывае шэрыя стрэхі, блізкае поле з азімінаю, чорны самотны альшанік на лузе за вёскаю. Калі радасць новага дня адчуваецца напоўніцу, бо ты дыхаеш і не можаш надыхацца бадзёрачым, ясным і празрыстым, як крынічная вада, вясковым паветрам. І бель заварожвае, прымушае спыніцца, глядзець на яе да рэзі ўваччу і салодкага болю ў сэрцы.

Любата, калі першыя вясновыя дні прыносяць адчуванне нечага новага, нечага даўно чаканага, якое наступае, але так ніколі і не наступіць. І весялее хрыплае вароніна карканне, узбуджана скачуць і ціўкаюць на хлеўчыку вераб'і, задзірыста трасе грэбнем певень на кучы гною. Капяжы ўсё часцей нагадваюць пра радасць і хуткаплыннасць вясновых дзён, снег сцішана і пакорліва асядае пад наступам такога цёплага і лагоднага сонца.

Ехаць, куды ехаць? У якую такую далеч? Але ён паехаў. Ужо ў дзясятым класе на прызыўной камісіі ўгаварыў яго вясёлы ваенкаматаўскі капітан паступіць у ваеннае вучылішча. Як па праўдзе, то была ў яго на той час нейкая дзіцячая цяга да зброі, магутнай вайсковай тэхнікі, хацелася паспрабаваць сябе ў сапраўднай «мужчынскай справе», як гэта тады яму ўяўлялася. Ён паступіў. Не адразу далася вясковаму хлопцу нялёгкая вайсковая навука, але беларуская цягавітасць і настойлівасць прынеслі плён: паспяхова скончыўшы вучылішча, малады лейтэнант паехаў на невядомы Далёкі Усход.

Але вёска так і не адпусціла яго. І ў першыя месяцы вучобы, калі было асабліва цяжка, і пасля, калі ён уцягнуўся ў навуку і муштру, і на службе ў далёкай старане. Пасля паступлення кінуць было ніяк — сорамна, брыдка. Паступіў з такой цяжкасцю, бацькі ганарыліся ім — як-ніяк, сын афіцэрам будзе, на свой хлеб пайшоў. А потым, уцягнуўшыся, імкнуўся за лепшымі, дый з'явілася цікавасць да навукі, цяга да вайсковага жыцця, такога новага, нязведанага. Вучоба далася лёгка, а сяброўства і сталенне прыносілі радасць. Туга па вёсцы прыхавалася ў закуток, іншым разам асцярожна выглядаючы адтуль лёгкімі хвалямі шчымлівай тугі.

У гарнізоне турбот хапіла праз край — дзень і ноч у казарме, стрэльбы, пастраенні, бясконцыя клопаты з салдатамі. Здавалася, яшчэ трошкі, яшчэ крупельку, а там будзе лягчэй — падзабудзецца вёска. А яна нярэдка прыходзіла ў снах, нагадвала пра сябе скупымі лістамі з дому ды ўспамінамі пра яе. Першы лейтэнанцкі водпуск выпаў на зімовыя халады. Як тады ў войску жартавалі: «во дворе январь холодный — в отпуск едет ванька-взводный». Якраз такую пасаду ён займеў па заканчэнні вучылішча. Выйшаў з аўтобуса — і сэрца здрыганулася, як і ў першы курсанцкі водпуск: ліпа, яе здалёк бачна, яна першай сустракае. А там родная хата з пафарбаванымі ліштвамі, светла-блакітнымі паркалёвымі фіранкамі ды новымі дубовымі веснічкамі — бацька расстараўся некалькі год таму.

Ён тады ўволю насалодзіўся хадою па заснежаным лесе, мясцінах, знаёмых з ранняга дзяцінства. А куды больш было ехаць ці ісці? Старэйшы брат, што нядаўна ажаніўся, жыў побач, у райцэнтры. сястра вучылася ў Мінску, аднакласнікі амаль усе раз'ехаліся. А дома тою парою якая работа? Таму толькі так, няспешным крокам па вясковых прасторах, можна было адвесці душу. Пасля ён доўга ўспамінаў той першы і ці не адзіны бесклапотны водпуск. Бо літаральна праз год сустрэў сваё каханне, ажаніўся, следам пайшоў на новую пасаду. А там пакацілася звычайнае жыццё вайскоўца: гарнізоны, пераезды, дзеці, новыя пасады, новыя службовыя клопаты. Але упрогся ў воз, то цягні. І ён цягнуў. Марыў: вось выйдзе на пенсію — і адразу ў вёску. І больш нічога не трэба. Тады зноў будуць ціхія раніцы над соннаю рэчкаю, белыя клубы млявага і цёплага туману, голаснае кліканне вясковых пеўняў ды працяжнае каровінае гуканне. А ўдзень з асалодаю можна разлегчыся пад ліпаю, папіць халоднага, з кіслінкаю, бярозавіку са старога вышчарбленага кубка. І павячэраць кругленькаю і чамусьці вельмі смачнаю — бо свая ж! — бульбачкаю з кісляком ці маласольнымі гурочкамі ў кропе. Ці можна параўнаць вось такое жыццё з нейкім іншым. І, галоўнае, гэта не прыхамаць. Ніхто не верыў яму, але ён ніколі не марыў жыць так, як мараць многія: у багата аздобленым палацы з разнамаснаю прыслугаю, з круасанамі ды каваю ў вытанчаных парцалянавых філіжанках. Не, хто ніколі не жыў у вёсцы, той не зразумее прыгажосці і шчасця вясковага жыцця. А ён разумее, і ўсё ў яго яшчэ будзе. Так, прынамсі, яму думалася.

Чалавек маракуе, а Бог выракуе. Пасля вірлівых падзей дзевяноста першага ён хацеў пераехаць у Беларусь, на радзіму, каб там даслужваць. Трэба было мяняць грамадзянства, у чарговы раз зрушвацца з абжытага месца. Таму жонка заўпарцілася, папракнула дзецьмі. Да таго ж яна, руская па нацыянальнасці, не хацела ехаць туды, дзе іх ніхто не чакаў і нічога не абяцаў. Ён здаўся: чым не ахвяруеш дзеля сям'і.

Нічога вечнага няма, скончыліся і доўгія блуканні па гарнізонах: урэшце, разам з пагонамі падпалкоўніка, ён атрымаў новае прызначэнне — у Вязьму. Ён радаваў-

ся — бліжэй да радзімы. У Вязьме яны займелі добрую кватэру, там выраслі дзеці. Сын пайшоў па яго слядах, абраўшы прафесію вайскоўца, праз два гады дачка паступіла на архітэктара. Адразу пасля яе паступлення ён падаў рапарт на звальненне. Мара была адна — перабрацца ў вёску, дзе дажывалі свой век бацькі, куды прагла душа. Але жонка нават слухаць не захацела. Яна не любіла вёску і за ўсе гады сумеснага жыцця была там толькі два разы. І калі жонка паставіла пытанне рубам, ён зноў зміраўся, вырашыў яшчэ пачакаць: трохі дапаможа дачцэ стаць на ногі, дый і ў сына хутка выпуск. А тады паедзе, што ўжо будзе, тое будзе. Падчас службы ў вёсцы бываў раз на два-тры гады, вырашыў, што цяпер будзе там часцей. Але пакуль не атрымалася, хоць і прыдбаў машыну: знайшоў працу, трэба ж недзе рабіць.

Сёння раніцай патэлефанаваў брат. Шмат не гаварыў, адно нейкім здушаным голасам паведаміў: тату блага, прыязджай, астатняе пры сустрэчы. Штосьці абарвалася ўнутры пасля званка, з паўгадзіны ён сядзеў і не ведаў, што рабіць. Улагодзіўшы ўсё на працы, як навобмацак, скінуў у валізку нейкія рэчы, дакументы, грошы і выехаў з горада ў другой палове дня. Толькі ў дарозе неяк адпусціла, ён паспакайнеў. Брат больш не турбаваў, можа, бацьку і палепшала. Ах, як добра было б, калі гэта так. Ён адпрасіўся з работы на цэлы тыдзень. Калі што якое, пакладуць старога ў бальніцу, падлечаць — грошы ёсць. Бо ў апошні свой прыезд ён не паспеў добра нагаварыцца з татам, распытаць старога, усё былі нейкія клопаты, усё ўподбежкі.

Даехаць збіраўся яшчэ да змяркання — лета ж — але зборы і мяжа змарнавалі колькі часу. Таму і прыпазніўся. У святле фар праскочыў дарожны знак — да вёскі засталося трыццаць кіламетраў, усяго нічога. І тут зняцейкі яму падалося, што пад колы аўтамабіля штосьці кінулася — мільгнуў няясны цень. Устрывожаны, спыніўся. Абышоў вакол машыны, агледзеў дарогу — не, нічога, здалося. А трывога не пакідала. Трэба паспяшацца.

Фары высвецілі ліпу. Акурат трапіў на цвіценне. Не здаецца, родная. Колькі ж ёй? Некалі дзед пасадзіў у маладыя гады каля сваёй хаты. Дзеда пахавалі амаль дваццаць гадоў таму, калі яму было каля васьмідзесяці пяці, і хату знеслі ўжо, а яна жыве. Ён нават і не ўяўляе родны двор без гэтай ліпы. Патухлі фары, усё навокал патанула ў цемры, толькі падае на вуліцу святло з вакон бацькоўскай хаты. Ляпнулі дзверы — паказаўся брат. Падышоў, абняліся.

— Як там тата?

— Цябе чакае.

Выбегла маці:

— А мой ты сынок! Бачыш як, злёг наш бацька, слабы надта. Нарабілася так. Што ж гэта будзе?

Згорбіўшыся, усхліпнула, жаласліва неяк.

— Можа, ты паеў бы што з дарогі, га? Я падагрэю.

— Не трэба, мама, не галодны я.

Ён абняў маці, увайшоў у хату. Тата ляжаў на ложку, каля яго сядзела сястра. Памкнулася да брата, а ў самой у вачах слёзы. Чаму яны ўсе так, нібы на пахаванні? Зноў успыхнула трывога. Сястра абняла.

— Здароў, брацік.

Тата слаба ўсміхнуўся: схуднелы, адны вочы, ледзьве падняў руку для прывітання.

— Бач, як яно. Першы раз сына сустракаю лежачы.

— Нічога, тата. Заўтра мы цябе ў бальнічку, падлечым, паставім на ногі. Яшчэ пабегаеш.

— Адбегаў я сваё, сынок.

— Не кажы так. Я на цэлы тыдзень прыехаў. Мы з табою яшчэ столькі зробім, ты ж яшчэ мне павінен расказаць пра ўсе вясковыя навіны. Як ты?

— Баліць надта.

Ён пасядзеў з паўгадзіны са старым і заўважыў, з якой цяжкасцю давалася таму кожнае слова. Такім слабым і бездапаможным ён бацьку ніколі не бачыў. Сястра прынесла старому нейкія лекі, ён выйшаў на вуліцу разам з братам. Яны паселі на лаўку пад ліпаю.

— Не хацелі табе тэлефанаваць, як даведаліся. Даўно яго брала, а ён жа нікому не казаў. Ты ж яго ведаеш, ніколі не паскардзіцца. А тыдзень таму, калі зусім зблажэў, маці патэлефанавала. Адвёз яго ў раённую паліклініку, а там толькі рукамі развялі. Жывы нябожчык, сказалі. От так.

Брат змоўк, выцягнуў цыгарэты, закурыў, зацягнуўся, і кончык цыгарэты ярка ўспыхнуў у цемры. А тата ж таксама любіць ліпу, бярог яе. Неяк пярун ударыў у самы верх, адшчапіла тоўстую галіну. Дрэва з верхавіны сохнуць пачало. Дык ён наверх лазіў, нечым замазваў, лячыў. І адышла. Не раз улетку, азірнуўшыся на яе, задаволена казаў:

— Уга, цвіце ліпа, хораша цвіце. Жывём яшчэ.

Цішыня і ліпавы водар неяк прыцярушылі нядобрыя і цяжкія думкі. Эх, вось сесці б тут, пад ліпаю, усім разам, пагаманіць. Тата любіць паразважаць, расказаць пра вёску, пра тое, што было некалі. Усё не атрымлівалася, адкладвалася на пасля, на потым. А пасля не наступіла, не паспеў ён на тое пасля. І ці паспее?

Будзем жыць. Толькі як? Што рабіць? Раптам штосьці прымусіла яго навастрыць слых. Няйнакш, нехта плача. Дзе гэта? Брат падскочыў, шпурнуў недакурак.

— Тата!

Яны кінуліся ў хату. Плакала сястра, маці выцірала ражком хусткі слёзы. Татаў твар, сцішаны навек. Нібы заснуў, толькі нос нейкі не татаў, завастрыўся. І спрацаваныя рукі знерухомелі.

Ён не змог доўга стаяць у хаце, выскачыў на вуліцу, хацеў памкнуцца каб некуды пайсці. А ісці больш няма куды, ён жа дома. Хата, да якой ён не даехаў. Пасля, якое пакуль не наступіла. І толькі ліпа цвіце. І бацькава «жывём».



нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Новасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь. Юрыст, зараз прадпрымальнік. Жыве ў Навагрудку. Аўтар кніг прозы «Пропавшая свадьба», «Храм его души», «Зелянее рунь», «Оракулы Междуречья», дзіцячай кнігі «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя». Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.



## АЛЬЖБЕТА КЕДА

# Абразкі

Нізка гэтая сабраная, быццам букет. Каб разнастайнасцю, прыгажосцю, водарамі, колерамі ўзрадаваць ці заспакоіць сэрца, калі сум спавівае яго. Бо столькі ў жыцці смутнага, расстайнага. І каб на магілу па тых, што сышлі (а так дачасна!) пакласці. Не шукала іншае назвы, як тая, якую Купала для першае кнігі Змітрака Бядулі прыдумаў.

**Сястра**

Займела сястру. Не, не знайшлася нейкая невядомая ёй крэўніца. Займела ў шпіталі. І не тая, што называецца сярэднім медыцынскім персаналам. Хоць і называюць іх звыкла сёстрамі, але міласэрнымі, якімі былі задуманыя ад пачатку, рэдка бываюць. «Дзе тае міласэрнасці на ўсіх набярэшся», — відаць, так думаюць. А мо і не думаюць…

Вось жа, сястра — гэта тая, якой у той жа дзень зробяць тую ж аперацыю, як і вам. А калі яшчэ ў адной палаце, то ўжо зусім кроўныя. Адным болем, адною крывёю назаўсёды звязаныя.

І хоць разыдзецеся, раз’едзецеся з ёю ў розныя бакі, і хоць мо ніколі не сустрэнецеся болей, а ўсё роўна — не-не ды згадаеце: «Як там мая сястра?..»

**Самасеі**

Самыя моцныя, самыя трывалыя з усіх раслінаў. Укроп, які толькі самасейкавым ураджайным і бывае, з кветак — петуніі, календула, касмея… Не чакаюць іх, не ведаюць нат, што з’явяцца дзесьці. А яны дазволу не чакаюць.

Гэтым разам гаспадыня мае незвычайнага самасейца — сланечнік. Што ж тут незвычайнага? Хоць адзін сланечнік штогоду сам выбірае сабе месца. Але гэты ведаў, што гаспадыня сее іх дзеля кветак. І выпусціў ажно дваццаць сем. Цэлы сланечнікавы куст. Ніколі не ўздымецца рука высекчы, хоць астры вакол самасеем прыгнечаныя.

Палея, што да ўсяго прымярае мастацкія вобразы, перастаўляючы літаратурныя сюжэты розных эпохаў, назвала яго Самасуй. Размаўляе з ім:

— Ну што, Самсон, квітнееш? Знойдзецца і на цябе Даліла.

**Неміласэрная**

За дзвярыма яна ўгледзела чарнявых дзяцей рознага ўзросту. Спачатку яны папрасілі есці для самага маленькага, гадоў пяці хлопчыка, амаль равесніка яе сыночку. Вынесла тое, што было на абед. Не магла глядзець на чырвоныя, ссівераныя ручкі малога, які прагна еў. Вынесла рукавічкі. Папрасілі даць з сабою прадуктаў. Наладавала торбу. Папрасілі адзення. Сабрала тое, што было ад сына і дачкі. Папрасілі для маці. Тлумачыла, што адзенне, якое магла б прапанаваць, на лецішчы. Не сыходзілі. Аддала сарафан, у якім хадзіла на працу. Падзякавалі. Сышлі.

Вечарам, вяртаючыся з працы, убачыла каля сметніцы свой сарафан. У ліфце стаяў слоічак з марынаванымі агурочкамі.

Яны прыходзяць часта, але яна зачыняе перад імі дзверы.

Яна неміласэрная.

**Сукенка**

Вельмі прыгожая. Цёмна-барвовы, з чорнымі паскамі трыкатаж. А яшчэ — з люрэксам. Так называлі ў вёсках бліскучыя ніткі. Мець такую ў сямідзясятыя гады было вялікім шыкам. У крамах такіх не было. Затое жылі яшчэ ў нашым краі краўчыхі з польскіх часоў, якія валодалі сваім майстэрствам дасканала. Не проста адзенне шылі, а мастацкія ўзоры тварылі. Матэрыял з-за мяжы даставалі: з блізкае-далёкае Польшчы, з Масквы, а часам — з Амерыкі.

Гаспадыня сукенкі — пані доктарава. Прыгожая кабета, якая ніколі не дазволіла сабе з хаты выйсці, належна не выстраіўшыся. Была, ды і засталася, узорам беларускае жаночае шляхетнасці.

Гэтая сукенка Ларысы Антонаўны Геніюш у Гудзеўскім музеі.

**Несправядліва! — Справядліва!**

Душа дваіцца. Яе варыянт. Бачыць, што так няправільна, што так не павінна быць, што добры чалавек пакутуе, а няварты пануе. Адна душа, якая ніяк не пасталее, пратэстуе:

— Гэта несправядліва!

А другая, ужо даўно не юная, якая нямала бачыла, хоць і блізарукая, гэтак з’едлівенька пытае:

— А хто табе сказаў, што мусіць быць справядліва? Тут табе не рай.

Першая, адна з яе іпастасяў, тая, што пісьменніца, не супакойваецца, ізноў за сваё:

— Гэта несправядліва: Наталля Арсеннева жыла ў Яраслаўлі ў адным часе з Максімам Багдановічам. Яны мусілі сустрэцца, ды не сустрэліся. Яна — гімназістка, ён — ліцэіст. Яна пачала пісаць вершы, ён — паэт. Хадзілі па адных вуліцах, наведвалі адны канцэрты, працавалі ў адных бібліятэках. Я — пісьменніца! Я выпраўлю несправядлівасць! У маёй аповесці яны сустрэнуцца…

— І атрымаеш за сваю «справядлівасць». Нічога: не ўпершыню. Яшчэ і тваю ўлюбёную Зоську Верас за пракурора паклічуць: не мусіць быць ніякіх фантазіяў!

— Але ж гэта несправядліва!..

**Куфар**

Драўляны, з металёвымі акаймоўкамі. Выразна відаць літары — АК. Ініцыялы паненкі на выданні, куды збіраўся пасаг. Для будучае сямейкі, для шчасця.

Не магу без болю глядзець на яго, бо ўсплывае тое, чаго не было, чаго не магло быць. Куфар АК не мог трапіць у ягоны дом. Хоць ён так кахаў яе! Верыцца, што было тое ўзаемна. Але хто ён? «Бедны студэнт, сухотнік. Не пара маёй пляменніцы!» — вырашыла цётка-апякунка. І куфар трапіў у дом іншага, шчаслівага абранніка.

Прайшло больш за сто гадоў. Людзі памятаюць яе, бо яна — ягонае каханне. І той куфар сёння ў ягоным доме.

Куфар Ганны Какуевай у Музеі Максіма Багдановіча.

**Дзве памылкі**

Канец траўня, пачатак чэрвеня — час Элізы Ажэшкі. 18.05.1910 яе не стала, а 06.06.1841 была тая ноч, калі ў садзе ў маёнтку Паўлоўскіх у Мількаўшчыне заспяваў салавей, прадказаўшы, што нарадзілася незвычайная дзяўчынка, пазначаная талентам.

У гэты час, падаецца, уся Гародня згадвае сваю Вялікую Пані. Зразумела, ідзецца пра тых, хто здольны згадваць.

Гэтымі днямі думаю пра тыя дзве памылкі, якія яна сама вызначыла ў сваім жыцці: не паехала за мужам у ссылку і прадала Мількаўшчыну.

Усяго дзве за немалы час, напоўнены столькімі падзеямі, сустрэчамі, стратамі. Самотна мне, што сёння знаходзяцца тыя, хто папракае яе: кінула ў бядзе гаспадара Людвінава. Не магу зразумець такіх асобаў. Дзеля чаго? У Вялікую Пані каменем кінуць?..

*11 чэрвеня 2016 г.*

**Лесвіца**

Спускаючыся па лесвіцы з другога паверха знакамітага ў Гародні дамка, яна ступае асцярожна, бо штораз ўяўляе, як можна зляцець, саслізнуўшы з паркетных сходкаў. Зляцець, спраўна падхапіцца і лёгка пайсці далей, хутка адкінуўшы прыкрасць такога здарэння. Або не зусім спраўна, балюча выцяўшыся, пакалечыўшыся…

Уяўляе, бо такое ўжо было. У гэтым (умоўна) доме. З гэтае (умоўна) лесвіцы, паслізнуўшыся, упаў гаспадар адвакат Станіслаў Нагорскі. Ягонае імя засталося ў памяці гарадзенцаў, бо меў шлюб з Вялікаю Пані нашага Краю Элізай Ажэшкай. А між тым і сам быў асобаю цікавай, доўгі час кіраваў Гарадзенскім таварыствам дабрачыннасці.

Тое трагічнае падзенне здарылася ў снежні 1896 года.

**Платы**

Вакол дома над лугамі хутка растуць катэджы. Напачатку яна радавалася: новыя шляхі для вячорных праменадаў. Але мусіла ад шляхоў тых адмовіцца: не відаць ні траўнікаў, ні кветнікаў, ні гаспадароў. Ды і дамоў амаль не відаць таксама. Адны дахі, быццам грыбы, вытыркаюцца з-за высачэзных платоў, суцэльных, без адное шчылінкі. Бо нішто не змянілася з тае пары, калі малады нашаніўскі класік з болем пісаў пра бясконцасць вольных прастораў зямлі і чалавека, які «мяжы, равы, тыны рабіў за векам век, хаваўся ў іх, як ліс у норы…»

Што яны імкнуцца схаваць за высокімі платамі, ад каго адгарадзіцца? Чаму не хочацца ім, каб бачылі людзі, як прыгожа красуюць кветкі, якія зялёныя, свежыя траўнікі, якія роўныя дарожкі?

Страх, зласлівасць, бессардэчнасць, хцівасць, здрадлівасць — усё тое ж, як і раней. Якім вырасце дзіця, калі «вакол яго — платы, мяжы»? Ад ранняга дзяцінства.

**Пытанне**

— Ты кахаеш мяне? — ледзьве не штодня ён пытае яе. Ужо не адзін дзясятак гадоў. Ніколі не ведае, што яна адкажа. Яна і сама не ведае. Ці выпаліць катэгарычнае «не!», чым, падаецца, ён не надта праймаецца. Пэўна, таму, што ведае: заўтра «не», магчыма, зменіцца на «так».

Зрэшты, адказы-полюсы гучаць не часта. Кабета ўмее, не задумваючыся, здзівіць, уразіць. Апошнім часам задумаецца і пачне тлумачыць:

— Больш, чым кахаю: шаную і шкадую. Бо што словы пра каханне? Разлятуцца і следу не пакінуць. Шанаваць, шкадаваць, даглядаць — гэта і ёсць сапраўднае каханне.

А часам скажа яму як адрэжа. І сабе таксама:

— Ніякага кахання няма.

І засумуе…

**Зачаравана хмары плывуць…**

Нерухома застыла ў радоне. Але плыве. За акном — свінцовыя хмары. Халодныя і змрочныя, як снежаньскі дзень. Заплюшчвае вочы. Хмары ўсё роўна плывуць.

Чуе голас Мілы Ражковай, рускай спявачкі, якая жыве ў Маскве. Не ведае нашае мовы, але аднойчы пачула і вырашыла, што праспявае свае песні і па-беларуску. Ужо спявае. Выразна гучыць нашае густое ч і яркае, цвёрдае р: «Зачаравана хмары плывуць…»

Паўтарае радкі і думае пра сваю доню. Ці знойдзе яна «хмараў юных вяровіцу — люстра высненых слоў»? Ці не разаб’е свае «крылы аб дзіды свінцовыя хмараў»?

Замаўляе песняю на сваю дачушку: «Я вярнуся з чужых краёў!»

**Дзве Смерці**

Пра сяткаванне Калядаў у далёкія 30-я гады расказвала ёй мама. У школе абавязкова ставілі аматарскія спектаклі. Перад гледачамі ажывалі Бэтлеем, Божае нараджэнне, мудрацы з усходу, Ірад, уцёкі святое сям’і ў Егіпет. Уся вёска, лясное Антанёва, сыходзілася. Малой дзяўчынцы было вельмі страшна, калі з’яўлялася Смерць. У доўгіх белых строях, з распушчанымі валасамі, лятала яна па сцэне і злосна махала касою, забіраючы свае ахвяры. Ад страху не ведала дзе падзецца, хацела схавацца пад лаўку…

Пра святкаванне Калядаў у тыя ж далёкія часы расказвала ёй свякроў. Пра той жа спектакль, у мястэчку Варонча. З захапленнем апавядала яна, пераносячыся ў тыя часы:

— Я была Смерцю. Як палячу па сцэне, як махну касою, малыя ажно крычалі ад страху!..

Яна думала пра сваю дачушку. Якой вырасце, узгадаваная такімі рознымі бабулямі?

**Дубы**

Паэтка з каралеўскага месца ходзіць на паклон да двух магутных дубоў. З прадаўніх часоў растуць каля Гараднічанкі. Магутныя, галінамі зрадніўшыся, пераплёўшыся, стаяць яны побач, адзін аднаго трымаючы. Каранямі асфальт уздыбілі…

Калі невыносна Паэтцы бывае тут, у свеце гэтым, дзе ўжо і не засталося сяброў яе маладосці, тых, хто кахаў яе і каго яна кахала, ідзе да дубоў, месца, ёю намоленага. Верніца, хрысціянка, а перад дрэвамі ў пашанотным паклоне схіляецца, шэпча малітвы, замовы, просьбы свае, быццам да Неба высокага. І лякуецца душачка ад болю невыноснага, і сыходзіць яна, супакоеная, прасветленая.

Два дубы, два волаты гарадзенскія — Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк. Так яна іх называе. Верыць, што чуюць яе літанні Сябры недасяжна далёкія.

**Постаць Гародні**

Не, не з тых, што з вядомага праекта, дзе пісьменнікі, навукоўцы, мастакі, музыкі. З тых, хто выпаў з жыццёвага цягніка і апынуўся пад адхонам. Але яшчэ жывы. І дажыць трэба. Галоўная асоба ў шкляным пераходзе праз мост ля аўтавакзала.

ФБ паведаміў, што яго ўжо няма. Бо сапраўды постаць. Не заўважыць яго было нельга. Аброслы барадою, з доўгімі валасамі, пакамечаны жыццём. Займаў многа месца. Ніколі не маўчаў, голасна сустракаў і праводзіў…

Праводзіла сыночка. Пустэчу, што ў такія часы напаўняе душу, лекавала малітвай удзячнасці Небу за сваіх дзетак. Вырашыла аддзячыць. Пайшла ў залу чакання, ведала, што яны мусяць быць там. Падала яму, адразу сышла…

Аказалася, гэта была апошняя сустрэча з гэтай постаццю.

**Забіць гадзіну**

Антанёўская бабуля Марыя Кеда, якая ўсё жыццё пражыла ў Налібоцкй пушчы, вучыла калісьці:

— Угледзіш гадзіну — забі. Дараваныя табе будуць семдзесят пяць грахоў.

— Баюся. І забіваць баюся.

— Не бойся. Бо калі не заб’еш, дададуцца табе дванаццаць грахоў.

— За што дададуцца?

— Бо гадзіна каго-небудзь абавязкова ўкусіць. А ты яго выратаваць не захацела…

Не засвоіла бабуліну навуку. Усё жыццё ад гадзінаў уцякае. Ідучы ў лес, звяртаецца да іх, гаспадыняў, дакляруючы, што дрэннага ім не зробіць. Наўзамен просіць на вочы не трапляць.

Згадала яна гэта, калі давялося заблакаваць «сяброў» з ФБ. Даведалася: праз звесткі з яе стужкі яны здольны ўджаліць іншых.

Гадкае адчуванне! Быццам забіла гадзіну.

**Быццам**

Блукаю па Старым Месце, быццам яно сапраўды старое. Быццам яму сотні гадоў, а не — нават сотні няма. Але не сустрэнеш тут чалавека, які б не верыў, што яно насамрэч — тое, даўняе. Інакш дзеля чаго прыходзіць сюды? Новыя сцены і новую брукаванку напоўнілі любоўю і верай, і ў іх усялілася душа Старога Места. Яно ў спісе Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Палякі заўсёды верылі, што іх Польшча паўстане. І сталася.

Тут было шмат паўстанняў. Як і ў нас. Але мы перасталі верыць, таму не здолелі адрадзіць свае Старыя Месты.

Мы мусім ехаць да Польшчы, каб атрымаць візу ў Амерыку. Быццам мы горшыя.

**Капанне бульбы**

Канец саракавых. Стагоддзе мінулае. Антанёва — вёска мае бабулі ў Налібоцкай пушчы. Пачатак восені.

Усе сабраліся ехаць на поле, а з хаты мілы галасок:

— Подождите, товарищи, я тоже буду вам пособлять бульбу копать, я скоро, маникюр заканчиваю…

Гэта вятроўка мае антанёўскае бабулі Мані, прыгажуня пані маёрша з далёкага Свярдлоўска. Яшчэ з вечара, даведаўшыся, што зранку капанне бульбы, з радасцю падахвоцілася «пособлять». Ніколі не бачыла, як бульбу капаюць.

Выходзіць урэшце. У модным капялюшыку, прыгожым касцюме, на ножках спраўных панчошкі капронавыя. Туфелькі лакавыя, лодачкі. І манікюр свежы. Усю дарогу, едучы на возе, міла шчабеча, захапляецца красою нашаю беларускаю, някідкаю, але такою для яе незвычайнаю.

Даехалі. З вазоў злазяць, кошыкі, мяхі бяруць. Ідуць да разараных канём радоў. Радасная ўсмешка на твары маёршы згасае, змяняецца бездапаможнаю, ніякаватаю, вінаватаю.

— Туда надо ногами ступать и руками собирать?..

— І нагамі, і рукамі, — адказвае мая басаногая бабуля.

— Простите, товарищи, я не смогу вам пособлять…

**Дапамагла свякроўка**

Гады саракавыя. Стагоддзе мінулае. Мястэчка ў Заходняй Беларусі. Свякроўка ейная — гарадская пані, з Варшавы. Упершыню ў госці да сына з нявесткаю завітала. Маладыя ранкам на працу ісці мусілі, а яна яшчэ з вечара вырашыла ў агародзе папрацаваць, прапалоць. Распытала нявестку, дзе і што расце, да пустазелля прыглядзелася. Нат назву адну запомніла: лебяда. Да працы тэарэтычна падрыхтавалася.

Цэлы дзень працавала, старалася. Праўда, за ноч забылася, дзе пустазелле, а дзе гародніна. Каб не нашкодзіць, не вырваць патрэбнае, вырашыла толькі са знаёмаю лебядою расправіцца.

Вярнулася вечарам нявестка і ахнула: лебяда, а яе найбольш у градах, стаіць голая, абшчыпаная, усе лісцікі абарваныя, адны цымбуры тырчаць…

І свякроўка з хаты выходзіць. Задаволеная: дапамагла нявестцы…

**На акне альвасы…**

Яна часта паўтарае гэтыя паэтычныя радкі, дзівіцца, надзівіцца не можа іх празрыстай, далікатнай чысціні, слухае, наслухацца не можа, як гучыць светлая музыка слова:

Падаюць сняжынкі —
дыяменты-росы,
Падаюць бялюткі
за маім акном…

Расчасалі вішні
шоўкавыя косы
І ўранілі долу
снегавы вянок.

У яе хаце на акне між улюбёных паляргоніяў, іншых вазонаў абавязкова расце альвас. Рэдка выкарыстоўвае яго як лек. Здагадваецеся, дзеля чаго расце? Штоbecause, гледзячы на сакаўныя, калючыя галіны, ціха прамаўляе яна радкі з таго ж твора:

Ахінае вечар
тонкія мярэжы,
На акне альвасы
дагарэлі ў сне…

І няхай таго снегу, які мусіць быць за акном, у яе любай Гародні чакаць не дачакацца, усё астатняе — пра яе, бо ў душы і квяцістасць, і свежасць, і шчаслівая ўсмешка…

**Мама**

Яе чацвёра дзетак былі самымі лепшымі дзецьмі на свеце. Так яна лічыла. Ва ўспамінах Адама Ягоравіча Багдановіча пра Марыльку прачытала, што ў тае быў адзіны грэх: была пэўнай, што яе дзеці самыя лепшыя. Захаплялася маладою маці паэта: яна бязгрэшная, бо хіба грэх любіць сваіх дзяцей?

Яе дзеці былі разумнымі, выдатнікамі, працавітымі, паслухмянымі і ветлівымі. Шанавалі сваіх бацькоў. Але ніколі не сказалі маці, што любяць яе. Ніколі не назвалі мамачкай. А ёй гэта было патрэбна. Прагаварылася неяк дачцэ. Незадоўга перад сыходам.

У той апошні год дачка імкнулася як мага больш затрымлівацца дома, каб быць з маці, каб дапамагчы. Як адчувала.

Сёння яна, згадваючы маці, паўтарае:

— Я люблю вас, мамачка.

Верыць, што маці чуе.

**У вадохрышчанскія маразы**

Уніяцкая царква не забараняе сваім святарам адпяваць самагубцаў. Бо кожнаму дадзены інстынкт самазахавання. Калі ж чалавек сам уздымае руку на сваё жыццё, значыць, ён сыходзіць з рэальнасці, ён не ў сваім розуме. І таму — не вінаваты.

Як чалавек можа кінуцца з вышыні? Ён адкінуў не толькі страх, але і разважлівасць: а раптам застануся калекам? Затое здольны ўявіць сябе вольным, крылатым: «Паляціш, нібы вецер, / зверху — ўніз, знізу — ўверх…», забыўшыся, што зямля ўверх не адпусціць, што зямлёю мусіш стаць. Уявіўшы сябе целам метафізічным: «Мы пацячэм з вышыні шэрых гмахаў / цалкам жывыя, светлавалосыя, / белыя вязні нязвыклага страху».

Ці прыняло Неба, ці пачула нямы крык-апраўданне паэта: «Болей сіл няма!», выгукнуты больш чым дваццаць гадоў таму і паўтораны ў вадохрышчанскія маразы?..

Юру Гуменюка адпяваў грэка-каталіцкі святар. Тры гады таму.

*Студзень 2016 г.*

**Мяжа**

Ён увесь час кудысьці імкнуўся, штосьці ствараў, змяняў, ажно пакуль не трапіў у той тунэль, які ці прывёў да святла. Жаданне рухацца, не прыпыняцца, шукаць жыло ў ім.

Якія агні свяцілі яму, вызначалі апошні шлях? Для чаго стала і для чаго не стала сілаў? Чаму яго так цягнулі высокія гмахі, дахі?

Толькі жоўты агеньчык
моўчкі вызначыць шлях.
Сіл не хопіць. Заенчыш,
не ўзбярэшся на дах.

Марыў пра палёт-бясконцасць, палёт-вяртанне: «Паляціш, нібы вецер, зверху — ўніз, знізу — ўверх…» Але такі палёт бывае толькі ў мроях-снох.

Усё гэта ў вершы Юры Гуменюка «Мяжа», напісаным 23 верасня 1991 года. Да ягонага палёту было яшчэ вельмі далёка.

*Студзень 2017 г.*

**Стрэмка**

Яго не стала між намі даўно. Значна раней, чым не стала зусім. Сышоў, бо не змог утрымацца. Бо не ўмеў трымацца за жыццё, не ўмеў ані вырваць для сябе ад іншых, ані самому нешта стварыць.

Мы, ягоныя калегі, далі яму магчымасць знікнуць. Бо кожны ведаў: чалавек жыве і памірае на самоце, якую пераадолець можна толькі з каханым. Ягоная каханая пакінула яго, слабога, і свет, не надта міласэрны да яе, яшчэ раней. Кожны з нас меў не адну прычыну, каб згадка пра яго заставалася адно згадкай. Адно стрэмкай, якая часам вярэдзіла. Дастаць яе было цяжэй, чым звыкнуцца.

Зараз яна застанецца назаўсёды.

Юрый Аляксеевіч Якубовіч.

**Касачы**

Яна любіла касачы. Увесь пакой у касачах: карціны, малюнкі, вышыванкі, посуд, пано, якія сама стварала.

Чаму менавіта касачы? Мо таму, што гэтыя кветкі адметныя красою нетутэйшаю. Выгінастая форма, пералівы колераў, аксамітны налёт і абавязковыя далікатныя гратачкі, да якіх прыемна, але не варта дакранацца.

Усім гэтыя кветкі дарыла. То жывыя, то на паштоўцы, то на малюнку. Камусьці даставалася пано. Мне — касачовая талерка, якую атрымала на сваёй развітальнай вечарыне.

— Мы з вамі вольныя, зараз ужо павандруем, — казала яшчэ гэтаю восенню.

У сваю вандроўку, у якую можна сысці толькі самотна, выбралася нечакана, неспадзявана.

Побач з яе здымкам і традыцыйнымі гваздзікамі хтосьці паставіў касачы.

Люся Іванаўна Мурзіч любіла касачы.

*22 студзеня 2016 г.*

**Каштанавае**

Калі яна глядзіць на здымак, на якім побач з зялёнымі іголкавымі шарамі кветкі, згадвае радкі:

> У Гародні каштаны цвітуць,
> пераблытаўшы верасень з траўнем…

А яшчэ згадвае Валянціну Коўтун.

Здымак быў зроблены ў той дзень, калі яна прыязджала ў Гародню. Сустрэла яе ранкам на вакзале, пазней правяла ў абласную бібліятэку. А перад тою імпрэзаю выкраіла час, каб паказаць паэтцы цуд.

— Паказвай свой цуд. Пачакаюць, — так сказала.

Завяла яе да бернардзінскага касцёла, дзе якраз і сышліся восень з вясною. Апошні год жылі тыя каштаны. Таму і выпусцілі суквецці-свечкі не ў пару. Апошні раз у той дзень прыязджала Валянціна Міхайлаўна ў наш горад.

6-га красавіка ёй было б 70. А 30-га — пяць гадоў як паэткі не стала.

*Красавік 2016 г.*

**Дом пад соснамі**

Ён марыў пра свой дом. Сапраўдны, на зямлі, каля лесу. А не той катух, што ў гмаху, дзе цёпла, утульна, але не вольна душы, што прагне хараства. Хацеў, каб вакол раслі сосны, шумелі, шапталі пра свае таямніцы, стагналі пад злосным павевам ветру. А ён бы слухаў. Марыў. Чытаў і пісаў. Быў адораны незвычайным талентам літаратуразнаўцы. Навучыўся расшыфроўваць рытм мастацкае прозы, лавіць яе дыханне,

яе пульс. Бо не проста ведаў — адчуваў літаратуру. Думаў вобразамі. У звычайным, будзённым знаходзіў паэзію. Поўніўся марамі, планаваў зрабіць яшчэ вельмі многа.

Усё тое было перакрэслена ў адно імгненне.

Ён ужо дома. Там шумяць сосны.

Спачывай, наш шаноўны дружа.

Ігар Васільевіч Жук.

**Забыцца памерці**

Яна пераўжыла ўсіх са свайго пакалення. З пакалення наступнага — пляменнікаў, дзяцей свае сястры. Страціла памяць. Але памятае вершы, якія вучыла ў дзяцінстве.

Не пра яе гэта: «Ён ведае так мала, каб памерці, / І гэтак многа ведае, каб жыць». Яна забылася, што паміраць трэба.

Яе блакітныя вочы напоўнены туманам. Яны глядзяць не на свет. Позірк увесьчасна сплывае некуды ў глыбіні, дзе нельга адшукаць сэнсу. Вочы быццам становяцца вадою, што некуды сплывае. Мо ў мінулае, мо ў будучыню, якое тут, у гэтым жыцці, у яе больш няма.

Да болю шкада яе, і тых, хто побач.

Не дай Божа забыцца памерці.

## Здымак

*Апавяданне*

Яна магла бясконца ўглядацца ў твары, вочы гэтых незвычайна прыгожых маладых людзей. Двое мужчынаў і адна дзяўчына. І тады, калі атрымала гэты водгук з далёкае, даваеннае пары, і пазней, калі ўжо ведала, як пераблытаў лёс іхнія шляхі, як перакруціў, пераплёў, завязаўшы ў вузел, каб ураз жа яго і рассекчы. Яна не проста глядзела, а імкнулася дайсці: пра што яны думаюць зараз, што было перад тым, калі фатограф выхапіў гэтае імгненне, і што было пасля. Хто падаў ёй руку, хто і што сказаў ёй — адзінай паненцы між гэтых прыгожых хлопцаў? Цікавілі звычайныя жаночыя пытанні: якога колеру яе цёмная сукенка з белым карункавым каўнерыкам, што быў заколаты пасярэдзіне брошкай з пярлінавымі вочкамі? І завушніцы таксама з пярлінкамі. Хто так прыгожа ўклаў каронаю вакол галоўкі яе шыкоўныя валасы, якія туфлікі на яе ножках?

Ад самага пачатку дакладна ведала толькі імя жанчыны — Гелена. Была тая стрыечнай бабулінай сястрой аднакласніцы, ад якое і атрымала здымак: «Ты збіраеш даўняе, відаць, табе будзе цікава». Яшчэ як цікава! Здымкаў тае пары ў яе Шчонаве лічаныя, дзясятка не набярэцца. А тут такі якасны, выразны, зроблены няйначай прафесіяналам. Дзе зроблены? Ніякага надпісу, ні рамачкі ці хоць якога знаку нямашака.

Нат прозвішча аднакласніца не назвала, бо сваячка бабулі была па кудзелі. То і згубілася яно, у той даўняй кудзелі заблытаўшыся. Сям'я Гелены з'ехала ў сярэдзіне трыццатых гадоў недзе пад Баранавічы, дзе бацька служыў аканомам у пана. Яна тады ўжо не ў Шчонаве жыла, замуж кудысьці выйшаўшы. Гэта было ўсё, пра што

даведалася. Аднакласніцы хапала таго, што імя бабулі і дзеда памятала. Глыбейшае яе не цікавіла.

З пяці не заўсёды надзейных крыніцаў, шчонаўскіх доўгажыхарак, толькі апошняя, цётка Волька Харанджукова, да якой даехала ў Наваградак, пазнала, хто справа ля Гелены:

— Дык гэта ж яе мужык, Костусь Сасімовічаў. О, яго то я добра памятаю, хоць малая тады была, бо ён да мае старэйшае сястры спачатку заляцаўся, спадзяваліся бацькі, што замуж возьме… А той, як Гэлю ўгледзеў, то на Агату нашу і не глянуў болей. Надто харошая тая Гэля была. Шмат хто на яе заглядаўся… Сасімовічы прыязджалі на Спаса да сваякоў у Шчонава, на гулянні Костусь яе і ўпадабаў. А ішоў да Агаты…

Адразу згадала: шэкспіраўскі сюжэт па-шчонаўску: Рамэа забывае Разаліну, угледзеўшы Джульету… Даведалася, што сям'я Гелены жыла ў сядзібе на ўскрайку Захомаў, недалёкага ад Шчонава лесу. Бацька яе Пахалінскі і ў тутэйшага пана Ждана аканомам працаваў. Замуж за Костуся пайшла ў фальварак за Цырынам. Аўдавеўшы, адна ўсё жыццё пражыла, з сынам. Той быў ажаніўся, развёўся, сын у яго быў. Не ведала цётка Волька, дзе той сын, Гэлін унук, бо радні блізкае ў нашых ваколіцах не засталося. Згубіўся след…

— Хто думаў тады, як Агату Костусь пакінуў, што на добрае гэта выйдзе. Бо забілі Костуся на вайне, а яе мужыка нат не паранілі. Хоць таксама на вайну быў узяты…

Вось жа, адзін з мужчынаў на здымку, той, што справа, Канстанцін Адамавіч Сасімовіч, муж Гелены. Загінуў ва Усходняй Прусіі 25 кастрычніка 1944 года. Адкуль такія дакладныя звесткі? З кнігі «Памяць» іхняга раёна.

Падавалася б, дастаткова даведалася, каб адкласці гэты здымак, супакоіцца і пакінуць у спакоі тых, каго ўжо даўно няма. Але спакою не было. Ёй чамусьці вельмі хацелася ведаць, хто быў трэці, што звязвала гэтых людзей. Але ніхто са старэйшага пакалення таго маладога хлопца не прызнаў. Ужо і надзею страціла. На сваёй стужцы яшчэ раней стварыла суполку «З даўнейшага». Многія туды заглядвалі. Знаёмыя і незнаёмыя. Выкладала здымкі. Каб лепей было зразумела, хто ёсць хто, падпісвала не толькі прозвішчы, імёны, але і мянушкі. Любіла шчонаўскія мянушкі. Па-рознаму яны гучалі. То ласкава — Лесьнічок, Чорненькі, то грубавата — Корч, то са смяшынкай — Чубко, то ганарова — Ахвіцэр, Пасэсар, Барын. Апошняя мянушка якраз і дапамагла разгадаць, хто трэці на здымку. Як аказалася, зусім не тога чалавека за Барына прымала. На трох здымках той быў. Ды вось адгукнуўся аднойчы незнаёмы мужчына:

«Вы часам згадваеце мянушку майго дзеда Міхася — Барын. Ведаю, што так нас называлі. Ад бабулі пра гэта чуў. Але гэта не той чалавек, якога Вы пазначаеце. Той, мой дзед, іншы, на Вашым здымку таксама ёсць. Мяне ў гонар яго Міхасём назвалі. Праўда, на радню бацькаву я не падобны. Па маме я».

І пазначае — каго б вы думалі!? — тога трэцяга мужчыну з ёйнага здымка, што поруч з Геленай. Гэта было так неспадзявана! З маладзейшага пакалення мала хто мянушкі шчонаўскія ведае, мала хто і здымкі даўнейшыя мае. Таму гэта падалося ёй праўдзівым цудам: знайшоўся згублены для шчонаўскае грамады чалавек усяго з трэцяга пакалення. Так параскіданыя яе шчонаўцы па свеце! І знайшоўся не дзесьці за марамі-акіянамі, а ў не такім і далёкім Санкт-Пецярбургу. Каранямі сваімі цікавіц-

ца, здымкі беражэ. Праўда, да Шчонава ні разу так і не даехаў. Даслаў ён здымкі сваіх дзядулі (так, гэта той, трэці), бабулі. І бабуля ягоная, жонка Міхася Барына Аксіння, з Геленаю знаёмая была, сябравалі, на вяселлі іхнім са сваім мужам будучым пазнаёмілася. Перад вайною пабраліся. Таксама, як і Гелена, мужа страціўшы, разам з сынам жыццё пражыла. На старасці забраў ён яе ў Санкт-Пецярбург. Адтуль з Геленаю стэлефаноўваліся часам, перапісваліся, здымкі адна адной дасылалі. Сыноў сваіх, унукаў. І тыя здымкі даслаў таксама…

Там яна і ўгледзела тое, што не давала ёй спакою. Папрасіла спадара Міхася звесці яе з унукам Гелены, адрас даць, бо не прызнаваў той сацыяльныя сеткі. Напісаў яму, дазволу папрасіў, даслаў адрас…

Яна сутрэлася з Кастусём Сасімовічам, унукам Гелены і Кастуся, мінулым летам у Райцы, недалёкім ад Шчонава мястэчку, на Спаса, парафіяльным свяце. Не тое што баялася гэтае сутрэчы. Не, проста не ведала, ці можна паведаміць яму пра іх сямейную таямніцу, якая адкрылася ёй, чужой кабеце, праз столькі гадоў. Напачатку яны абодва, унук Сасімовіча і ўнук Барына, прыехаць меркавалі. Але і гэтым разам даехаць на радзіму бацькоў апошняму не выпала.

Калі яна хвалявалася і мусіла нешта хаваць, то гаварыла шмат, адводзячы ад галоўнага, адцягваючы час. Так і гэтым разам. Расказвала пра сваю кнігу, пра ягоных сваякоў, блізкіх і далёкіх, сувязі з якімі ён не меў, пра даўняе Шчонава і самотнае цяперашняе вёскі. Пасля свята яны збіраліся туды паехаць. Вырашыла, што скажа яму (калі ўсё ж асмеліцца) там. Глядзела ў ягоныя вочы, высокі, адкрыты твар, хвалістыя валасы. І бачыла ў ім таго, іншага, што не вярнуўся з вайны. Баялася загаварыцца і назваць яго Міхасём. Было ніякавата. Мужчына (а яны ж так любяць, каб слухалі іх), не надта імкнуўся падтрымаць размову. У нейкі момант ёй падалося: ён ведае, што яна хавае. Такім праніклівым быў ягоны пагляд. Яна змоўкла.

— Хочаце ведаць, што сказала мне бабуля Гелена перад смерцю?

Пытанне прагучала вельмі нечакана. Яна яшчэ нічога пра іх не сказала, баялася загаварыць пра Гелену, Кастуся, Міхася… Ён разумеў, што пытаць пра гэта было лішнім. Быццам выпрабоўваў яе.

— Вы ж хочаце назваць мяне Міхасём?

Гэта ўжо было занадта! Ён што, чытае яе думкі?

Гаварыць пачаў не так, як яна. Без хвалявання, стрымана:

— Бабуля глядзела на мяне вельмі ўважліва. Прыблізна як вы зараз. А яшчэ з такою любоўю і пяшчотай, як на мяне не глядзеў ніхто і ніколі. Прамовіла: «Міхасю…» Калі я памкнуўся пратэставаць, думаючы, што яна трызніць, бо я ж яе ўнук, Кастусь, яна сказала: «Ты ўнук Міхася Барына». І пачала гаварыць хутка, як вы зараз. Пра Міхася, якога кахала ўсё жыццё. Пра тое, што толькі з ім звязвала свае надзеі на замужжа, шчасце. А сябра ягоны, Кастусь, так яе ўпадабаў, што сватоў той жа восенню прыслаў. І бацькі адразу пагадзіліся: багаты быў, фальварак меў, ды і хлопец прыгожы, добры. Нічога не скажаш. Яна і не сказала нічога. Хто б яе слухаў? Бацькі вырашалі. За гонар ім было мець такога зяця. Як пабегла вечарам пасля таго сватання на спатканне да Міхася. Як рвалася на часткі яе сэрца. Як ён суцяшаў яе… І як сталася… Як страшна было ёй сказаць Кастусю пра той смяротны грэх. Ды ўсё ж сказала, ведаючы, што добры ён, не пракляне, не выдасць яе на ганьбаванне, што мо

адмовіцца ад шлюбу. Не адмовіўся. Доўга маўчаў. Сказаў, што даруе, бо кахае. Але запатрабаваў ад яе клятвы, што будзе вернай яму ўсё жыццё. Стрымала клятву. Ні за кога не выйшла, удавою застаўшыся. Засталася вернай свайму Кастусю. І Міхасю. «І ты, унучак, даруй…»

Змоўк на хвіліну. Спытаў:

— Вы дзеля гэтага прасілі мяне прыехаць?

— …І каб пра здымак распытаць…

— Гэты? — Ён дастаў з свайго кейса канверт, у які быў укладзены той жа здымак, у які яна бясконца ўглядалася. Яна ўжо не здзіўлялася…

— На Спаса быў зроблены. Калі Кастусь упершыню маю бабулю ўгледзеў. Фатографа з Наваградка запрашалі, у школе здымкі рабіў.

— Мо ведаеце, якога колеру была сукенка пані Гелены?

Задумаўся:

— Не, не памятаю, каб бабуля пра гэта казала. Тады ж, перад смерцю, здымак гэты мне аддала. Казала, што вельмі няёмка ёй было сядзець між імі. Бачыла, што Кастусь захапіўся ёю. Міхась іх і пазнаёміў…

Яны вырашылі пайсці да Шчонава пешшу. Шляхам, якім хадзілі Гелена, Міхась, а таксама яе бабуля Волька і той, каго кахала, ды за каго не выйшла…

А хто той, каго яна як Барына ўспрымала? Ніхто, ужо, пэўна, не падкажа…

нарадзілася 27 лютага 1960 года ў вёсцы Шчонава Карэліцкага раёна. Паэтка, празаік, літаратуразнаўца, кандыдат філалогіі. Скончыла Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1981), аспірантуру Інстытута літаратуры НАН (1992). Працавала на пасадзе дацэнта кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Я. Купалы (1992–2015). Аўтар 300 літаратуразнаўчых артыкулаў і 11 кніг, сярод якіх «Іду па слядах: літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» (1997), паэтычнага зборніка «Пярсцёнак» (1997), «Літаратурная Гарадзеншчына ў постацях і лёсах» (2010), «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі» (2013), «Пра тое, што люблю: кніга прозы» (2016), «Шчонаўскія абразкі: кніга прозы» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.





ВІКТАР САЗОНАЎ

## Зінчыны лекары

*Урывак з рамана «Эфект плацэба»*

Савецкі кіраўнік засакрэчанага аддзела тайнай службы рэдка памыляўся, калі гаворка ішла пра яго супрацоўнікаў. Яго інтуіцыя разведчыка была на даволі вялікім роўні, недзе паміж прадказальнікамі і шарлатанамі, крыху бліжэй у бок шарлатанаў. Ды не шмат. На пару міліметраў па метрычнай сістэме абмеру. Але пра тое, што ніхто не ведае, дзе шукаць свайго лепшага шпіёна «фатографа», ён яўна памыліўся. Як і яго амерыканскі калега наконт слаўнага хлопца Малюткі Чарлі, які таксама нібыта бясследна прапаў сярод беларускага маляўнічага ландшафту, як трусы з плота. Быў у беларускай засакрэчанай вёсцы адзін чалавек, які дакладна ведаў, дзе знаходзяцца і той фатограф, і дзе ёсць Малютка Чарлі ў прыдачу разам з усімі яго кішкамі. Праўда, ведаў гэтых каларытных персанажаў той чалавек пад іншымі прозвішчамі, ці нават мянушкамі. І гэтым чалавекам быў, ці, дакладней сказаць, была, вясёлая і жыццярадасная кабета, прыгожая, як казалі мужыкі, кроў з малаком, гадоў пад трыццаць пяць, з усімі неабходнымі формамі належнай выпукласці, якія не давалі зблытаць яе ні з худым калгасным мужыком, што давёў сябе да худобы бязмерным злоўжываннем фізічнай працы і алкаголем, ні з тоўстай вясковай свіннёй, якая ў сваім жыцці ні разу не паспрабавала ні таго ні другога.

І яшчэ ў дадатак да тых выпукласцяў валодала яна цёмненькімі бліскучымі вачамі, што дасталіся ёй ад продкаў-татараў, якіх вялікі князь Вітаўт пасяліў тут, на беларускіх землях, яшчэ ў часы Вялікага Княства Літоўскага, недзе на пачатку чатырнаццатага стагоддзя, так даўно, што не ўсе гісторыкі чулі. І колькі гэтыя вочы не мяшаліся з беларускай крывёй з тых часоў, колькі ні спадабняліся з мясцовым каларытам, забыўшыся пра крымскія прасторы, а нешта дзікае і неўтаймаванае ад тых прастораў у іх усё адно заставалася. Хоць уладальніца тых вачэй і не падазравала пра паходжанне той неўтаймаванасці, бо ўжо яе дзяды былі настолькі змешаныя з мясцовым людам і цалкам абеларусіліся, што і для іх гэта не выклікала падазронасці.

Клікалі яе Зінаіда Карыцкая. Або проста Зінка, як называлі яе тут, у роднай вёсцы, дзе ніколі, як яна думала ў маладосці, не змогуць ацаніць у поўнай меры ні яе прыгажосці, ні яе прагі да жыцця, ні яе памкненняў быць шчаслівай. А хацелася быць шчаслівай проста так, без асаблівых высілкаў, толькі таму што яна чалавек жаночага полу.

Таму Зінка без усялякага жалю пакінула родную вёску зусім дзяўчом, пасля восьмага класа, каб адвучыцца на медыцынскую сястру і больш сюды ні нагой, як некалі Напалеон. Кажуць, ён недзе недалёка праязджаў у 1812 годзе. Бацька Зінкі як даведаўся пра гэты гістарычны факт, то ў захапленні сказаў:

— Які харошы чалавек быў той Напалеон. Вось бы і саветы пайшлі б адсюль і больш не вярталіся, як той Напалеон. Не псавалі б жыцця і паветра.

Але саветы нікуды адсюль пакуль што зыходзіць не збіраліся, таму на гэты радыкальны крок прыйшлося адважыцца Зінцы. Яна нават паспела пачаць і сваю працоў-

ную дзейнасць у адным са шпіталяў Вільні, і вось там яе напаткала тое, дзеля чаго яна, уласна, і ўцякла падалей ад вясковых маляўнічых лугоў, палёў, лясоў, садоў, рэчкі і смуроду ад калгаснай фермы, якая эстэтычна аніяк не дапаўняла наваколля ні візуальна, ні абаняльна і размяшчалася зусім недалёка ад яе роднай хаты.

У Вільні да Зінкі прама на вуліцы падышоў вясёлы мужчына ў марской цяльняшцы без рукавоў, з наколатым блакітным якарам на плячы, і ў лоб спытаў, проста, без прэлюдый:

— І як клічуць гэты цуд?

— Зінаіда, — адказала дзяўчына, па акцэнце пазнаўшы ў мужчыну земляка.

— Зінка, значыць, — працягваў размову той. — Зіна, Зіна, Зіначка! А не жадаеш, Зіна, правесці марака-героя Калінінградскага рыбнага флоту ў далёкае плаванне. Недзе на паўгода. І ты тады будзеш чакаць мяне на беразе, пакуль нашы лёсы не сплятуцца ў адзін, а я буду кожны дзянёк майго марскога падарожжа мроіць пра сустрэчу і ўспамінаць наша рамантычнае развітанне за столікам рэстарана «Паланга».

І дадаў ужо менш рамантычным тонам:

— Грошы ёсць, па самае горла. Яшчэ не паспеў усе прадуць з мінулага плавання. У Калінінградзе не паспеў. І па дарозе Калінінград–Вільня таксама не паспеў. І ў Вільні не паспеў. Нейкая казка пра Калабка атрымліваецца. Хіба ведаў, што цябе сустрэну. Мы, марачкі, народ пры капейцы. За мной не прападзеш. І грошы ёсць, і душа-цяльняшка, і марская фартуна. А вось адзнакі пра шлюб у пашпарце няма. Пашпарт магу паказаць.

Вось гэта было тое, што трэба, і не трэба нічога больш. Ад дабра дабра не шукаюць — так вучылі ў Зінінай роднай вёсцы. Марачок, з грашамі, халасты. І не важна, марак ён ці матрос. Зрэшты, Зіна розніцы ў тым не бачыла аніякай, як калгасны конюх паміж мустангам і жарабцом арабскай пароды. Ні таго ні другога той конюх не бачыў, як і Зіна мора. Галоўнае, што той марскі воўк з такім прыгожым блакітным якарам на плячы, які па колеру так пасуе да яе светла сініх мараў, глядзіць на Зінаіду з такім апетытам, як кот на куранят. Тое, што ён зямляк, не псавала і не падмацоўвала ўражання ад вобразу заваёўніка марскіх прастораў. Розніцы аніякай. Галоўнае — не патрапіць да яго ў гатэль у першае ж спатканне. А то з раніцы і забудзецца, як завуць. І будзе тады Зіначка-дажыначка гукаць яго ў даліначках. Паедзе — і шукай як ветру ў полі, ці ў моры…

Ага! Знойдзеш пасля яго ў тым моры! Мора-то вялікае, хіба што. Зіна-то пра тое мора анічога і не ведае. Трэба абраць правільную стратэгію, і замест гатэля патрапіць у ЗАГС ды хутчэй пашлюбіцца. А там хай сабе адпраўляецца ў дальняе плаванне, хоць на паўгода, хоць на год. Яна згодная цяжка ўздыхаць па ім на сушы ў сваёй кватэры з усімі выгодамі недзе на беразе Балтыйскага мора ў былым нямецкім Кёнігсбергу і нават зрэдку і плакнуць можа.

У ЗАГС гэтым разам патрапіць не ўдалося, як і ў гатэль. Усё скончылася рэстаранам. Марачок Канстанцін Бандарчук заснуў там пасля трэцяй выпітай, за столікам, і нават у аддзяленні міліцыі прачынацца настойліва адмаўляўся. Эх вы, ночы, матроскія ночы! А як праспаўся, пайшоў у далёкае і сіняе, як Зінчыны мары, мора. Але вярнуўся. І зноў быў рэстаран «Паланга» ў Вільні, і рэстараны ў самой Паланзе, і ЗАГС

быў у Калінінградзе, а пасля і бераг Балтыйскага мора, і ўсе пітныя ўстановы і Вільні, і Калінінграда, і яшчэ і Рыгі з Талінам у прыдачу. І нават Ленінград не аднойчы ў жаху прачынаўся белымі прыгожымі начамі пад шчаслівыя п'яныя воклічы Косці-марачка і Зінчынага звонкага смеху. Ох і любіў ён тыя рэстараны, марачок Косця Бандарчук! Як пасля высветлілася, больш, чым Зінаіду. А яна ўзяла і сапраўды закахалася. Нечакана так для сябе закахалася ў землячка-марачка шчыра і чыста. І чакала яго з новага марскога падарожжа верна, уздыхала праўдзіва, і нават час ад часу пускала сумную слязу, не крывячы сумленнем. І не раз чакала, і не два… А аднойчы па вяртанні ён зноў пайшоў у рэстаран, толькі ўжо без яе.

— Эх, душа мая цяльняшка, — адчайна канстатаваў Косця-марачок, як толькі ступіў на бераг левай нагой, махнуў рукой, правай, і пайшоў у рэстаран. Без яе пайшоў.

Плакала Зіна не доўга. Не больш за год. Прынамсі, усёй прывабнасці светлых бліскучых агеньчыкаў у сваіх цёмных вочках не выплакала. Пасумавала крыху, прааналізавала сітуацыю і прыйшла да нечаканай і геніяльнай высновы, што каханне без узаемнасці — гэта непрыемная хвароба, якую трэба лячыць тымі сродкамі, ад якіх і захварэла. І вырашыла пашукаць адпаведнага лекара. Або лекараў. Там як карта ляжа. Пасля выцерла слёзы, наклала макіяж і таксама пайшла ў рэстаран. Без Косці. Знайшла з кім. Душа цяльняшка не толькі ў яго аднаго. Ахвочых было, як селядца пасля плавання, хоць салі, хоць прадавай жывой вагой. Ды ўсе з наколатымі блакітнымі якарамі. У каго на плячы, у каго на запясці, у іншых на грудзях, а ў аднога нават там, што сорам і сказаць. На азадку. Зрэшты, часамі і гэта забаўляе да слёз. Слёзы ж, яны не толькі з гора бываюць. Бывае і наадварот.

— Гуляй душа! — крычалі марачкі, каб спадабацца Зіне.

— Гуляй! — рагатала яна так моцна, каб яе Косця-марачок пачуў гэты звонкі голас, незалежна ад таго, знаходзіцца ён зараз у суседнім рэстаране ці ў далёкім марскім падарожжы.

Ды як кажа старая беларуская прымаўка — гулі ў лапці абулі. І яе абулі, і Косціка абулі. Добра так абулі, што паўстала пытанне пра развод і грошы папалам. Развод удаўся на славу, грошай не аказалася зусім. Не вярнуліся яны з рэстаранаў, тыя грошы. Але Зіна так прызвычаілася да разгульнага жыцця, што гуляла яшчэ нейкі час ужо за чужы кошт. Не адзін яе Бандарчук у Калінінградзе прыплываў з мора салёнай вады ў мора горкай гарэлкі, якая, як вядома, значна прыемней заходзіць у аорту ў кампаніі прыгожай кабеты. Так у Калінінградскіх рэстаранах адляталі яе маладыя гадочкі, як лісточкі старога календара. А вось пасля, як і чужыя грошы сталі шукаць сабе новых кабачных сяброўак, у Зінаіды Карыцкай ужо не было нічога, акрамя бліскучых чорцікаў у цёмненькіх вачах і яе роднай вёскі са значна меншым кантрастам чорна-белага колеру. Туды і вярнулася добра патрапаная, пасталеўшая, але яшчэ з надзеямі на спатканне з новым марачком, хоць мора тут не было і ў паміне, нават у часы наведвання гэтых мясцін усё тым жа Напалеонам.

Няма мора — няма і маракоў. Затое ёсць Зіна, якая не збіралася мяняць ладу жыцця і здавацца. Галоўнае — правільна пабудаваць планы, знайсці новых лекараў для хворага і падзёртага ў шматкі сэрца. Першае пытанне было дзе браць грошы.

— Ну як дзе, у дурных мужыкоў, дзе ж яшчэ?! — адказала яна сама сабе, бо іншых крыніц абагачэння не ведала. — Яны за адну маю ўсмешку ўсё аддадуць. А ў маім

арсенале не толькі ўсмешкі заваляліся. У мяне поўны камплект, як у комплексным абедзе ў раённай сталовай.

Першым кандыдатам на ролю пастаўшчыка грошай стаў Міхаіл Пятровіч Серада, удавец, пяцідзесяціпяцігадовы настаўнік мясцовай школы, вясковы краязнаўца, сціплы чалавек, мужчына станоўчы ва ўсіх адносінах. Некалі ў Зінчыны школьныя гады ён меў неасцярожнасць паставіць ёй двойку па матэматыцы. Зараз-то вельмі шкадаваў пра гэта. Вось так! Заўсёды трэба думаць што робіш. Ніколі не вядома, як гэта табе адгукнецца. Цяпер жа, часткова каб загладзіць віну за двойку, але, з большага, і дзеля іншай прычыны Міхаіл Пятровіч з першага ж заробку зрабіў Зіне падарунак, навінку савецкай лёгкай прамысловасці ў выглядзе новай хусткі з намаляванымі безгустоўнымі кветкамі. А таксама ласкава прынёс бутэльку гарэлкі і палову сваёй настаўніцкай зарплаты ў прыдачу. Часткова яму ўдалося загладзіць сваю настаўніцкую памылку і атрымаць належную ўзнагароду. І тут Зінку асяніла, як конскім капытом па галаве. Гэта ж самая звычайна матэматыка са школьнай праграмы малодшых класаў, якую выкладаў яе новы кавалер! Звычайнае складванне! Нават лічбы адзінарныя! Памыліцца практычна немажліва.

— Адзін кавалер — адзін падарунак! — мармытала яна пад нос, задаволеная сваім новым матэматычным адкрыццём. — Два кавалеры — два падарункі. Тры кавалеры — тры падарункі. І гэтак далей…

Пасля гэтага навуковага вынаходніцтва пра тое, што колькасць падарункаў напрамую залежыць ад колькасці кавалераў, Зінаіда імгненна перапісала на паперку ўсё мужчынскае насельніцтва вёскі і прылягаючых да яе тэрыторый і прааналізавала магчымых кандыдатаў на ролю шчодрых пастаўшчыкоў прыемных падарункаў адзінокай даме, якія па сумяшчальніцтву будуць падпрацоўваць лекарамі для яе парванага сэрца. У зону павышанай увагі патрапіў новы старшыня суседняга калгаса таварыш Субоцін, саракагадовы ў меру адʼедзены высокі прыгажун, чалавек прыезджы, не з мясцовых, прысланы звыш, партыйны, заўсёды ў начышчаных ботах. Хоць і сямейны, але сямʼя жыла ў раённым цэнтры. А грошы круціліся тут. Прынамсі вялікая іх частка. Гэта стала вырашальным аргументам, і хутка ўжо і другі кавалер завітаў у госці з паднашэннямі. Зінаіда даволі спакойна сумяшчала Субоціна і Сераду, і нават не грузілася тым фактам, што таварышу Субоціну час ад часу прыходзіцца здраджваць Зіне са сваёй жонкай. Жонка ж не сценка, падсунуць можна. Галоўнае — сабраць з ухажораў даніну, ці аброк, ці як там гэта правільна называецца, вялікага значэння не мае.

Праўда, здарылася адна непрыемнасць. Да Зінаіды неўзабаве ў партупеі і пагонах і з трывалым пахам самагонкі заявіўся мясцовы ўчастковы міліцыянт. Худы такі, аж хочацца даць яму мяса. Але ў міліцэйскай форме і з адпаведным мандатам.

— Ну што, грамадзянка, — рашуча расклаў ён на стале паперы. — Вы ўжо доўгі час нідзе не працуеце. Па нашых савецкіх законах вы трапляеце пад артыкул за дармаедства. Я прыйшоў скласці на вас пратакол апытання. Адкажыце, на якія такія сродкі вы існуеце? А? А-а-а?

Зіна села за стол, знерваваная расшпіліла гузік на грудзях, сарамліва пачырванела (гэтаму прыёму яна навучылася яшчэ ў Калінінградзе), з цяжкім уздыхам распусціла валасы, і праз гадзіну дваццацісямігадовы ўчастковы стаў трэцім Зінкіным кавале-

рам, і больш не з’яўляўся да яе з тупымі пытаннямі пра нейкія сродкі, а прыходзіў толькі з грашамі і падарункамі.

Жыццё наладзілася, як у трохкаляровай коткі, і набыло не самыя сумныя і бедныя абрысы. Але аднаго разу ледзь не дало збой: Серада і Субоцін аднойчы напрошваліся з візітам у адзін і той жа дзень.

Пасля таго, як два кавалеры хацелі прыйсці ў госці ледзьве не разам, Зіна вырашыла падалей ад бяды неяк развесці іх у часе і прасторы. І спаслаўшыся на занятасць, і што бацька не працуе тады ды тады, і што маці можа быць у хаце, і яшчэ нешта выдумала, вызначыла для кожнага свой дзень тыдня. Балазе прыходзілі яны тайна, хаваючыся ад усяго свету, як бандыты, і пакуль не падазравалі пра існаванне адзін другога у такіх іпастасях.

Пры размеркаванні графіка іх візітаў у Зінаіды праявілася не толькі кемлівасць і іншыя інтэлектуальныя таленты, але і неардынарны гумар. Для Міхаіла Пятровіча Серады дзень візітаў прыпадаў на сераду. Таварышу Субоціну была адведзена субота. Так і не зблытаешся, калі хто прыйдзе, і неяк весялей. Штосьці сатырычнае ў тым ёсць.

Участковаму дастаўся аўторак. Не самы горшы дзень для участковага. Хай і з гэтага цешыцца. Заставаліся яшчэ тры вольныя дні, якія варта было некім запоўніць. Тры, бо нядзелю Карыцкая вырашыла прысвяціць іншым справам. Завітаць там да каго ў госці, прыбрацца ў хаце або проста адпачыць. Трэба ж людзям і адпачываць некалі. Не жалезныя ж…

І вось аднаго разу пад час паглыбленага роздуму пра чарговых кандыдатаў яе ўважлівы позірк спыніўся на вясковым работніку медыцынскай сферы Альфонсе Іосіфавічу Шляйхеры. Прыйшла Зінка да яго ў амбулаторыю, каб хоць на палову стаўкі легалізаваць сябе як працоўнага савецкага чалавека. Так участковы параіў. Шляйхер нават не заўважыў каларытную жаночую постаць, а працягваў паглядаць у свой мікраскоп і нервова размаўляць сам з сабой.

— Ну не, быць не можа! У гэтага мікраскопа не хапае сілы. Я нічога так не змагу даследаваць. Але дзякуй Міхаілу Пятровічу Серадзе, што хоць такі са школы прывалок. Які харошы чалавек той Міхаіл Пятровіч, не адмовіў. А то зусім было б кепска.

Зінаіда з цікавасцю назірала за лекарам і са здзіўленнем адчувала, што ў яе сэрцы адчыняецца той самы аддзел, які некалі адкрыў наколатым на плячы якарам марачок Косця Бандарчук. Эх, Косця, Косця! Праз яго Зіна і не марыла больш зазіраць у той таямнічы аддзел сэрца. Думала што цяпер ён зачынены навечна, закрыты жалезнымі дзвярамі з тайным кодам, які больш ніхто не расшыфруе. Нават шыфравальны апарат «Enigma».

Але ён сам адчыняўся, той аддзел, і там са школьным мікраскопам пад правым вокам сядзеў худы, сівавалосы, нічым не прыкметны вясковы лекар. Абсурд нейкі, але сэрца такі орган, што менавіта там і павінны зараджацца абсурды.

Зіна пасля нейкі час злавалася, думала, на які чорт пайшла ў амбулаторыю і што ў гэтым чалавеку такога, каб губляць на яго час. Ну не п’е гарэлку. Зусім. Гэта, канечне, рэдкасць для нашых геаграфічных шырот і кліматычных умоў. Дзеля разнастайнасці то і някепска такі экзатычны экземпляр набыць. Але ж і сабака яе бацькі таксама не п’е. Дык што, сабаку цяпер за тое пакахаць, ці што? А пра Шляйхера кажуць, што некалі ён так заліваў у горла, што аж праз вушы выцякала. Вось якім быў ілюзіяністам.

Так жангліраваў чаркамі, што закусваць забываўся. Відаць, свой ліміт выбраў ужо. І грошай у яго як кот наплакаў. Увесь заробак аддае на нейкія рэактывы, усё нешта даследуе…

Але гэта ўсё пазней. А зараз яна прыйшла ў амбулаторыю з канкрэтным намерам, а там над мікраскопам сядзела істота мужчынскага полу, у перспектыве як мінімум яе амбулаторны начальнік, а як максімум — гэта як карта ляжа.

— Доўга будзеце ў тую дзірку глядзець? — спыталася Зінаіда ў гаспадара той амбулаторыі, выпрастаўшыся так, што не заўважыць, што яна жанчына, было немажліва. — Я на работу прыйшла ўладкавацца.

— Гэта не я вырашаю, — не адрываўся ад мікраскопа лекар. — Ды і не патрэбная мне памочніца.

Зінка ўздыхнула і закаціла вочы наверх і крыху ў правы бок. Трошкі-трошкі так управа, мужыкі ад такога позірку шалеюць. Ну, дурнеюць і з глузду едуць! Толькі дзеля таго, каб яны звар'яцелі, трэба як мінімум убачыць гэты позірк. А калі пападаецца такі кліент, як гэты вясковы амбулаторны пацук у белым халаце, які нават не глядзіць на цябе, дык уся надзея на стомны тэмбр голасу.

— А я і не збіраюся дапамагаць, — канкрэтызавала яна неабходным тэмбрам. — Я ж сказала, што прыйшла ўладкавацца на працу, а не працаваць. А як дапаможаш мне ў гэтым, дык я табе найлепшы на свеце бінокль падару, не тое што гэты з адной трубой. Будзеш у яго ўглядацца тады і шукаць там сваіх мандавошак колькі душа захоча.

Вось тут лекар ледзь з крэсла не ляснуўся. Але не ад тэмбру таго мілагучнага голасу, а ад зусім не мілагучнай, але канкрэтнай прапановы набыць мікраскоп. Лекар упершыню глянуў на Зіну.

— А вы зможаце? — з надзеяй у шырока расплюшчаных вачах пралепятаў ён. — Я за мікраскоп усё аддам. Я дайду ажно да міністэрства і выб'ю вам стаўку медсястры!

Так Зінаіда абмінула савецкі закон пра дармаедства. Новы мікраскоп ёй прывёз аднекуль таварыш Субоцін, старая школьная прылада на радасць Мікалая Серады вярнулася ў навучальную ўстанову, участковы быў на сёмым небе ад шчасця, што ў яго раёне няма больш дармаедаў, а Шляйхер, каб сэрца ад нечаканага шчасця не выскачыла з грудзей за межы той тэрыторыі, якую ён абавязаўся фатографу не пакідаць, нават піў успакаяльныя лекі, мілуючыся з новага мікраскопа. Ды і ў Зіны ўсё ішло паводле плану. І хоць нешта паскрэбвала на сэрцы наконт лекара, але яна яшчэ не да канца адчувала маштабы трагедыі. Шляйхер цяпер проста разглядаўся як кандыдат у кавалеры нумар чатыры, таму яму планавалася адвесці для сустрэч чацвер. Але ішоў час, а кандыдат так і заставаўся проста кандыдатам, а чацвер безнадзейна з тыдня ў тыдзень прападаў, як у чорную касмічную дзіру.

— Слухай, ты, дактарышка, калі не будзеш звяртаць на мяне ўвагу як на жанчыну, дык я забяру ў цябе тваю любімую цацку, — заявіла неяк яна, бо дамагчыся ўвагі лекара іншымі спосабамі згубіла ўсялякую надзею.

— А навошта вам мой мікраскоп і мая ўвага? — шчыра здзівіўся Шляйхер.

— Ну як, — зарагатала Зінка. — мікраскоп і сапраўды мне патрэбны, як зайцу стоп-сігнал. А вось іншае… Жанчына я адзінокая, разведзеная, мне добры мужык не пашкодзіць. І як мужык, і грашамі дапаможа…

— А, не! — адмахнуўся Шляйхер. — З грашамі — гэта не да мяне. Царкоўны пацук за мяне багацейшы. Апошні раз я знаходзіў грошы ў сваіх кішэнях яшчэ тады, калі жыў у Маскве. А кішэні былі часткай майго дарагога гарнітура з чыстай воўны. Ды і багатых у нас увогуле няма ў краіне. Саветы ўсіх раскулачылі ў лепшым выпадку. У горшым пастралялі. Табе не я патрэбны, а шпіёны. Ты да іх ідзі лепш. У іх грошай, як у бяздомнага сабакі блох.

Зінка аслупянела. Вось гэта навіна! Аказваецца, ёсць людзі з такімі грашамі, што ўсім марачкам калінінградскага рыбалоўнага флоту разам узятым не сніліся! А ў яе Шляйхер кандыдат толькі нумар чатыры. Ёсць жа яшчэ і свабоднае, як вецер у полі, месца пад нумарам пяць, і пад нумарам шэсць, як вецер у полі, свабоднае…

— Пра якіх гэта ты шпіёнаў апавядаеш? — з цікавасцю і лёгкім недаверам спытала яна, нават гузікі на белым халаціку медсястры ўпершыню за працоўную кар’еру зашпіліла. Ад нерваў хіба зашпіліла. З лекарам яна заўсёды гаварыла на «ты» і з расшпіленымі гузікамі, як і з астатнімі мужчынамі, дарэчы. Але лекар не здраджваў выхаванню і адказваў выключна на «вы».

— А вы што, не ведаеце? — пацiснуў у здзіўленні плячамі Альфонс Іосіфавіч. — Гэта ўсе ведаюць у нашай вёсцы. Нельга не ведаць таго, што ведаюць усе. Гэта як не ведаць, што зямля круглая.

— А што, яна круглая?

— Круглая як курынае яйка. І нават круглейшая.

— Ды мяне не курыныя яйкі цікавяць, — выгукнула Зінка. — У нас тут што, праўда, шпіёны завяліся?! Вось жа ўдача для раёна! А я дурная і не ведала!

— Ну, вам-то даравальна, вы ж даўно тут не былі. Можа, таму ад вашай увагі і схаваўся той агульнавядомы факт. Я зараз не пра кругласць Зямлі, а пра шпіёнаў. Ну, то я вам так і скажу: наш калгасны аграном і ёсць самы сапраўдны амерыканскі шпіён.

Зінка так і ляснулася на тое месца, якім безвынікова спакушала лекара. Ляснулася проста на падлогу. І нават не заўважыла, што прамазала з крэслам.

— Гэта цёмненькі такі, загарэлы, — перапытала.

— Ага-ага, цёмненькі. Як вугаль ноччу. І яшчэ фатограф ёсць, другі шпіён. Што за жыццё пайшло, шпіён на шпіёне і шпіёнам паганяе. Толькі гэты светленькі. Як бледная паганка на белым абрусе. Хіба для кантрасту іх звялі разам. Гэта той, што ў раённым цэнтры ў фотаатэлье працуе. Вы ж туды ездзілі нейкія фота павялічваць. Што, не бачылі? Такую агідную морду нельга не заўважыць.

Так, Зіна ездзіла павялічыць шлюбнае фота. Яна на тым фота з Косцікам-марачком у абдымку. Прыгожая такая, у белай сукенцы на фоне п’яной Косцікавай морды. Так, на памяць хацела павялічыць фота. І бачыла там агіднага, як дохлы шашок, фатографа. Толькі чалавека з моцным страўнікам можа не званітаваць ад яго. І інтуіцыя ёй нічога не падказала наконт мажлівага раманчыка з гэтым майстрам праяўкі негатываў. А ў кожным негатыве можна знайсці пазітыў! Вот жа сволач тая інтуіцыя!

— Фатограф?! І ён амерыканскі шпіён? — спыталася.

— Ды не. Ну, чаму як шпіён, дык абавязкова амерыканскі? Другія народы што, настолькі адсталыя, што шпіёнаў не могуць сваіх завесці?

— Дык чый ён шпіён?

— Гэта наш, савецкі. Родненькі, айчынны, свой, савецкі шпіён. У нас, я вам хачу сказаць, шпіёнская індустрыя не горшая, чым за мяжой. Я мяркую, што нават лепшая.

Гэта ж вам не зубы ўставіць. Там вялікага розуму не трэба. Галоўнае, каб сумлення не было, — і ўжо спецыяліст высокага разраду.

Больш пытанняў не было. Зіна рашуча, як у атаку, паднялася, скінула халат, махнула яго ў кут і памчалася ў раённы цэнтр фатаграфавацца. А што, гады ідуць, хай будзе фотаздымак на ўспамін. А то за гэтай працай і сфатаграфавацца няма часу.

Трэба было транспарт знайсці, бо як без яго дабярэшся да сталіцы раёна? А тут якраз Васіль праязджаў на калгаснай машыне. Дэсантнік гэты, каб яго халера. З цынкавага вядра, на якім ляцеў праз Варшаву ў Прагу ў 1968-м годзе, перасеў на калгаснае ламачча і ўжо ездзіць сабе па зямлі, а не па небе. І хіба акурат у раённы цэнтр і ехаў. Але ну яго, таго Васіля. Кепска ён ездзіць. Можа, на цынкавым вядры і нічога да самай Прагі дапёр. Але на машыне дык не. Хоць ні разу з ім не ездзіла, але не. Трэба лепшага шафёра. Вось аграном, а цяпер, як стала вядома, па сумяшчальніцтву ён і амерыканскі шпіён, іншая справа. Яна яго з ранку бачыла за рулём калгаснага «УАЗа», празванага «казлом». Сам чумазы ехаў, і «казёл» увесь у балоце. Вось той, здаецца, ездзіць добра. З такім і праехацца не грэх. Хоць на тым «казле» на калёсах, хоць на казле сапраўдным, галоўнае — з якім чалавекам.

Фота ўдалося на славу. Фатограф сам адвёз яго Зінаідзе ў вёску, не пагрэбаваў і не паленаваўся. І падарунак прывёз таксама. Меў рацыю Шляйхер. Ёсць у яго грошы. Падарунак у шмат разоў пераўзыходзіў усе паднашэнні былых ухажораў разам узятых і мог спаборнічаць толькі з падарункам агранома, які Зіна паспела атрымаць ад таго, пакуль фатограф праяўляў свае негатывы. А што? Чаго ён там капаўся?! Тры дні праяўляў. Варта было праяўляць больш увагі жанчыне. Зіна дык увагу яму аказала.

Праўда, спачатку аказала ўвагу аграному. Усё па чарзе, так бы мовіць. І прызначыла аграному днём спатканняў пятніцу. Яна ў дзяцінстве чытала кніжку пра Рабінзона Круза і пад уражаннем тых дзіцячых успамінаў пра Рабінзонавага сябра надала цёмненькаму аграному мянушку «Пятніца». Ну і каб не зблытацца з днямі, на пятніцу і прызначыла спатканні. А фатографу — на панядзелак. Тут ніякай містыкі і аніякіх аналогій або прачытаных кніг. Проста іншыя дні тыдня ўжо былі распісаныя, таму на панядзелак. Чым не дзень?! Праўда, кажуць, што панядзелак — дзень пусты. Але мала што кажуць, ажно паглядзім. І зноў жа, хіба каб не зблытацца, мянушку фатографу дала «Панядзелак».

Напачатку ішло ўсё па плану, як пасяўная. А пасля грымнуў гром. Шпіёны абодва, як па камандзе, незалежна адзін ад другога зусім страцілі галовы ад Зінкі, і адшукаць тыя галовы не ўяўлялася мажлівым нават узброіўшыся мікраскопам Шляйхера. Расцвілі іх безгаловыя твары, як чартапалох на пустыры. Ад радасці. Бо кожны думаў, што Зіна — яго баба і толькі яго. А пра другога кожны меркаваў, што той вакол Зіны круціцца, бо сочыць за ім па сваіх шпіёнскіх абавязках. Мужыкоў заўсёды губіць ганарлівасць і занослівасць. Ніхто не можа паверыць, што яго баба можа памяняць самога яго каханага і найлепшага на нейкага там аграномішку ці фатографішку. А Зіна купалася ў раскошы і патрабавала ўсё больш і больш. І гэта лагічна. Бо жанчын губіць сквапнасць. Ім усё мала, нават калі ўжо перабор. Таму яны і не любяць гуляць у карты, бо ўсё набіраюць і набіраюць тых карт, пакуль калода не скончыцца. А гэта пройгрыш.

Ну, але зараз шпіёны, Пятніца і Панядзелак, адсылалі ў свае шпіёнскія цэнтры ўсё большыя фінансавыя патрабаванні, аргументуючы гэта тым, што падкупляюць адзін другога, пашыраюць шпіёнскую сетку да бясконцасці і ўжо амаль усе жыхары засакрэчанай вёскі завербаваныя імі. Чарга за прылягаючымі тэрыторыямі. А грошы тым часам, прынамсі львіная іх доля, упэўнена асядалі ў Зінкі. Панядзелак жа і Пятніца зусім здурэлі ад яе, як ваўкі ад крыві, ажно Зіна аднаго разу падумала: «Тут ужо перабор нават для мяне. Такія жарсці дабром не скончацца».

І як у ваду глядзела. Не скончылася дабром. Нічога канечне звыш трагічнага. І не столькі непасрэдна шпіёны былі вінаватыя ў кіданнях з боку ў бок хворага Зінінага сэрца. Проста з часам такое жыццё абрыдла самой Зінаідзе аж да ванітаў, і на душы пачало становіцца ўсё горш і паскудней. Як сто катоў у рот нагадзілі. Нават грошы ўжо не давалі належнай сатысфакцыі. Ну так пагана, як капаць бульбу ў дождж. Абрыдлі кавалеры, абрыдла такое жыццё. (І такое жыццё, бывае, брыдне. Жыццё мае такую ўласцівасць, што як ты яго не збудуй, гарантыі, што не абрыдне, адсутнічаюць цалкам.) А за сэрца, як каршун кіпцюрамі, усё больш сціскаў Шляйхер, які і не падазраваў пра гэта, тупа разглядаючы ў сваім мікраскопе чужыя сперматазоіды.

Доўга Зіна думала, што яе там у таго несамавітага Шляйхера зачапіла. І ўрэшце прыйшла да высновы, што гэта дзве рэчы. Першая — Альфонс Іосіфавіч геній! Не проста медыцынскі геній, і гэта таксама, але геній увогуле. Ён увесь час нешта даследаваў, некаму дапамагаў… Вось такі б ён ёй сустрэўся ў маладосці! Жыццё пайшло б па-іншаму. Хоць з геніем жыць, можа, цяжэй, чым з мараком рыбнага флоту, але б Зіна рызыкнула. Ды яна і зараз рызыкнула б! Але і гэта не галоўнае. Галоўнае другое, што Шляйхер быў абсалютна абыякавы да яе як да жанчыны. Вось тут кожную заела б.

У Зіны ўсё часцей стала балець галава, як да яе прыходзілі кавалеры, усё часцей на ўсё прывабнае жаночае цела навальвалася агіда і грэбаванне да сябе самой, калі тыя сыходзілі. І гадкія былі не толькі кавалеры. Хоць і яны таксама, але гэта толькі палова бяды. А бяда ў тым, што гадкая сама сабе стала. Бывае так, калі жанчына пачынае сябе дакараць у тым, што яна кахае аднаго, а сустракаецца з другім, ці з другімі. І чым далей, тым горш. На падарункі і грошы ўжо глядзець не магла, хоць па інерцыі не толькі брала іх, але і патрабавала павялічыць увагу да сябе як да жанчыны і выявіць гэта ў матэрыяльным эквіваленце. Настрой пагаршаўся, сэрца ныла, душа балела, і аднаго разу, як пайшла па ваду, Зіна злавіла сябе на думцы, што доўга ўжо стаіць і паглядае ў дно студні. Не, трэба было штосьці тэрмінова прадпрымаць.

— Альфонс Іосіфавіч, — неяк сказала яна таму з такім сур’ёзным выразам твару, што лекар не адразу пазнаў сваю медсястру. А яна ўпершыню нечакана перайшла на «вы», і ёй нават спадабалася. — Скажыце, што вам трэба для поўнага шчасця, толькі каб і я ў прыдачу?

— Мне патрэбна лабараторыя, — не раздумваючы адказаў Шляйхер.

— А ў чым праблема?

— Тут, у СССР, яе не даюць. Кажуць, генетыка не навука, а прадажная дзеўка імперыялізму. А я ненадзейны элемент, які прасіўся некалі ў Ізраіль. Праўда, так раней казалі. Цяпер-то ўжо не. Цяпер нічога не кажуць. Маўчаць, паскуды. Але лабарато-

рыі ўсё адно не даюць. А за мяжу па-ранейшаму не выпускаюць. Ды каб і выпусцілі, то там, за мяжой, патрэбны грошы на лабараторыю. А ў мяне тых грошай як валасоў у лысага.

Зінаіда ўпершыню падумала пра замежжа і замежнага мужа Альфонса Іосіфавіча і яго лабараторыю, і яна там жонка і медсястра генія… Ніколі раней такія думкі не прыходзілі ў галаву. І як яны маглі прыйсці савецкаму чалавеку, які за мяжу мог патрапіць толькі на танку, ці на баявым дэсантным самалёце АН-12, ці, як выключэнне, на цынкавым вядры, як Васіль, але выключна па загаду партыі і ўрада краіны Саветаў. Танка няма, самалёта таксама, туташнія цынкавыя вёдры не лятаюць, хоць ты ім мяцёлку прымацуй. Загаду партыі і ўрада краіны Саветаў таксама няма, але ёсць каханне і дзікае жаданне ўцячы адсюль хоць куды вось з гэтым ненармальным геніем, каб ён праваліўся! Бо тут не вырвешся з таго жыцця, якім жывеш. А яно ўжо папярок горла, як вяроўка ў вісельніка, і ўжо сцягнулася. Абрыдла быць курвай! Курвай быць абрыдла!!! Абрыдла быць нікім. Усё абрыдла.

— У мяне ёсць грошы, — заявіла яна. — А трэба будзе яшчэ, то шпіёны падкінуць. Колькі скажу, столькі і прынясуць і рукі пацалуюць. Будуць стаяць на каленях і маліць, каб узяла. Хоць і гэтых, што ёсць, хопіць. Тры лабараторыі збудаваць можна. Не хачу больш ні з кім справы мець. Ні з кім больш не магу! Толькі з вамі. Думайце, Альфонс Іосіфавіч, думайце! У вас ёсць знаёмыя за мяжой. У вас ёсць ваш розум і ваш геній. Я таксама не без прыданага. У мяне ёсць грошы і былыя кавалеры калінінградскага рыбнага флоту. Падлы такія, кантрабандысты ўсе да аднаго. За грошы перавязуць каго хочаш і куды хочаш, хоць у пекла, хоць у рай. А на Захад дык ім раз плюнуць і растаптаць. Толькі заплаці. І савецкія рублі перавядуць у валюту хоць якой краіны, нават якой яшчэ няма і ніколі не было. І ў валюту краіны, якая ёсць, таксама перавядуць. Думайце. Я на ўсё згодная. Толькі вазьміце мяне медсястрой. І па сумяшчальніцтву хоць на палову стаўкі прызначце на пасаду вашай жонкі.

Усе людзі ад такіх нечаканасцяў падаюць ніцма або ў лепшым выпадку сядаюць на што прыйдзецца. Шляйхер жа ўстаў і выпрастаўся. Упершыню за доўгія гады выпрастаўся, як аглобля ў лепшага калгаснага каня. Ён упершыню глянуў на Зіну як на чалавека, і яна яму была сімпатычная як чалавек. Ён упершыню заўважыў, што яна жанчына. І яна была сімпатычная яму як жанчына. У яго сэрцы зноў скалыхнулася надзея. Лекар думаў, што яна даўно памерла, тая надзея. Загінула, як матылёк зімой. Але не, яна нават не спала. Яна проста была затаіўшыся і пільна чакала свайго часу, як пітон у засадзе. І ў імгненне вока, убачыўшы здабычу, кінулася і сціснула і сэрца, і душу, і розум магутнымі кольцамі свайго доўгага і моцнага цела.

— Едзем, Зіначка, едзем, — прашаптаў ён. — Я ўсё прадумаю і ўцячом. Я ўсё сплáную. Так! Мы іх усіх падманем! Абдурым! Уцячом! Куды заўгодна, толькі каб адсюль! Пакуль нікому ні слова. Я скажу калі. Я ўсё сплáную.

Зінаіда змянілася ў імгненне вока. І не кажыце, што людзі не мяняюцца. Гэта калі доўга па часе мяняцца, то не мяняюцца. А за імгненне мяняюцца. Ды яшчэ як! З былым жыццём было скончана, як у медыцыне з воспай. І з кавалерамі таксама скончана. З першымі двума было прасцей. Міхаіл Пятровіч Серада ў гэтую сераду ўсё

зразумеў з паўслова. Апусціў галаву, заплакаў і ціха пасунуўся дахаты. Спрабаваў піць. Не пайшло. І ён цалкам прысвяціў сябе краязнаўству, і па яго даследаваннях у будучым пісалі цэлыя кнігі. Таварыш Субоцін нават уздыхнуў з палёгкай. Бо пра яго шашні з Зінаідай ўжо даведалася партыйнае начальства, што мусіла сачыць за маральным аблічам камуніста. І на чарзе была жонка, якая і так сачыла, без партыйнага абавязку. Вось што нарабілася з тае інтрыжкі з медсястрой! А тут само сабой усё разграблося.

Горш было з участковым. Той пагражаў Зінаідзе пісталетам, стукаў у вокны і дзверы нават не ў свой дзень аўторак, казаў, што пасадзіць у астрог за дармаедства, хоць з працоўнай кніжкай у Зінаіды зараз было ўсё ў парадку. Напіваўся, біў вокны нават у сваёй хаце, пагражаў усім, каго сустрэне. Аж пакуль чуткі пра такія паводзіны не дайшлі да капітана міліцыі Галузы, які і перавёў ашалелага ўчастковага ў іншы раён падалей ад граху. А там хіба іншая Зінка знайшлася, бо пра гэтага ўчастковага тут больш ніхто нічога не чуў. Ну і добра! Не чуць бы пра іх усіх!

А вось са шпіёнамі атрымалася пагана. Нарэшце, пасля таго як Зінаіда стала разрываць з імі адносіны, толькі цяпер яны даведаліся, што былі канкурэнтамі і ў гэтай важнай справе, а не толькі ў нейкай там халоднай вайне Савецкага Саюза са Злучанымі Штатамі. Таму можна канстатаваць той факт, што на доўгі час прафесійны нюх у іх адсутнічаў, як у сабакі пасля спірту. Прычынай таму магла быць і Зінка, і беларуская самагонка, і размеранае жыццё на маляўнічай беларускай прыродзе, якое акрамя самагонкі і жанчыны іншых раздражняльнікаў і не патрабуе.

Самагонка заставалася, жанчына сыходзіла. І шпіёны ўспрынялі гэта кожны як асабістую крыўду і абразу не толькі ў свой адрас, але і ў адрас сваёй вялікай краіны. Прынамсі, так стараліся выставіць сітуацыю адзін другому і ёй, нявернай, няўдзячнай, меркантыльнай, подлай, падманлівай і самай каханай. І нават горш успрынялі, што і словамі не скажаш.

Падобна гэтаму эмацыйнаму ўспрыманню некалі Зінін сусед успрыняў здраду сваёй жонкі. То адрэзаў ёй вуха касой. Хоць тая і не здраджвала зусім. Нагаварылі на яе людзі. Вось так прыкладна ўспрынялі шпіёны адмову былой каханкі. Але ніхто з іх не хацеў здавацца. Вырашылі напачатку паспрабаваць дамовіцца мірам.

Гістарычнае спатканне двух шпіёнаў праходзіла ў Зінінай хаце, пры адным сведку, які, ці дакладней якая, і была прычынай нябачных дагэтуль дыпламатычных перамоў паміж прадстаўнікамі дзвюх ядзерных звышдзяржаў на беларускай перыферыі.

— У нас з табой ёсць дамова, — заявіў Пятніца. — І на той дамове шмат завязана і многа што трымаецца. Мы мусім разруліць гэту справу мірна, бо ў адваротным выпадку ўсім будзе кепска.

— Няма нічога прасцей, — адказаў Панядзелак. — Яна застаецца са мной, а ты можаш узамен запатрабаваць у мяне што заўгодна.

— Усё ажно да здрады Радзіме? — усміхнуўся Пятніца.

— Думаю, ты на такія дробязі не клюнеш. Табе трэба нешта большае.

— Ну так. Твая Радзіма мяне мала хвалюе. Мне трэба Зінаіда. А нешта большае за Радзіму я магу прапанаваць табе.

— Усё, ажно да здрады Радзіме? — цяпер усміхнуўся Панядзелак.

Зіна не верыла сваім вушам. Ну так, яна ведала, што за ўсё трэба плаціць. Ёй гэта некалі казалі! Яшчэ ў школе казалі! Сам Міхаіл Пятровіч Серада казаў. Наймудрэйшы настаўнік! Праўду ж казаў! Можа, і пра табліцу памнажэння ўсё, што ён вучыў, праўда?! Які разумны чалавек той Міхаіл Пятровіч Серада! Каханак таксама някепскі, але настаўнік-то о-го-го! Хоць і двойку некалі несправядліва ўляпіў. Ну сам жа пасля прабачаўся, што несправядліва. Можа, і зараз што разумнае дзецям даводзіць. Як ён правільна казаў, што за ўсё трэба плаціць! А пасля сваім жа прыкладам і пацвярджаў гэту прапісную ісціну Зіне, расплачваючыся за ўсё, заўсёды і своечасова. Ажно пакуль Зінка не выставіла яго з хаты з паніклай, як спелы сланечнік, галавой.

Але ж не столькі плаціць! Бо рушыцца яе лёс! Зараз і праўда яшчэ возьмуць ды вушы ёй адрэжуць, як той сусед жонцы! Вунь, якія злыя, як дэманы ноччу. Як яна тады на вочы Шляйхеру без вушэй пакажацца?! Ды добра, што пра Шляйхера і яе яшчэ не ведаюць усёй праўды. А то і яму абрэжуць, і яўна не толькі вушы…

— А вам не прыходзіла ў галаву пацікавіцца маёй думкай? — запыталася яна.

— Не умешвайся, жанчына, — гартанным басам асадзіў яе Панядзелак.

— Не, не хочацца,— дадаў Пятніца.— Ты застанешся з тым, з кім мы зараз вырашым.

— Памерці і не ўстаць! — уздыхнула Зінаіда і пачала абдумваць свае дзеянні ў гэтай больш безнадзейнай, чым дажыць да камунізму, сітуацыі. А шпіёны працягвалі гандаль, толькі ўжо больш востра.

— Каб я цябе не ведаў, то прапанаваў бы справядлівую дуэль, — казаў Пятніца. — Але ж ты стрэліш яшчэ да ліку тры. І ў плечы. Неразумна спадзявацца на тваё джэнтльменства. Цябе ж так вучылі, страляць без папярэджання, ад пуза і чэргамі.

— І на тваё джэнтльменства таксама, каўбой, спадзявацца не варта. І цябе вучылі страляць знянацку, у спіну, яшчэ да таго, як закончацца мірныя перамовы.

— Цягнуць жэрабя таксама бессэнсоўна. Мы абодва не ёсць людзі слова.

— Так нас вучылі. І мы былі добрымі вучнямі.

— І якое выйсце? Адзін з нас яўна тут лішні.

Зіна хацела закрычаць, што яны абодва лішнія, але ўспомніла пра вушы, пра Шляйхера, пра яе мару хутка адсюль уцячы і стаць жонкай генія, і сама стала геніем. Прынамсі на хвіліну стала геніем. Бо прыдумала ў гэтай сітуацыі адзіна магчымае выйсце, якое менш чым геніяльным не назавеш.

— Я застануся з тым, хто выйграе спаборніцтва, — сказала яна, падлічваючы, колькі трэба выйграць часу, каб уцячы са Шляйхерам за мяжу ад гэтых лютых звяроў. І яшчэ выразна ўбачыла, што на тым спаборніцтве і яна можа добра нагрэць рукі. Зіна змянілася, тады, як імгненна змянілася пасля размовы з лекарам. Але ж не настолькі, каб не зразумець, што жывых мужыкоў яшчэ можна выкарыстаць, пакуль у іх не скончыўся перыяд абвостранага нюху на флюіды.

— Якое спаборніцтва? — спыталіся тыя ў адзін голас.

— Вы чулі, што ў Касабуцкім лесе зарыты скарб былых уладальнікаў маёнтка? Дачка тых уладальнікаў пайшла па яго, як у 1939-м годзе бальшавікі сюды прыйшлі, але не дайшла. Бальшавікі не далі дайсці. Ён так і ляжыць у зямлі, гэны скарб, — выдыхнулі грудзі Зіны. Яе вочы гарэлі больш, чым той скарб. Яна і сама ўжо верыла, што яго можна знайсці.

— Гэта казкі, — засумняваўся Пятніца.

— А вось і не! Спытай у фатографа. Яго кантора пра тое мусіць ведаць. Мусяць застацца ў іх паперы пра тое. Бо гэта з яго канторы жаўнерчыкі тую дзяўчыну хіба і падкаравулілі.

Фатограф, ён жа ў дадзены момант Панядзелак, задумліва пакачаў галавой у знак згоды. Бачыў ён хіба тыя паперы на свае вочы, як тыя салдацікі з яго канторы ў 1939-м годзе сваю ахвяру.

— Дык чаму яго мясцовыя людзі не шукаюць у такім разе той скарб? — працягваў сумнявацца Пятніца. — Ім што, золата не патрэбнае?

— А ў іх іншае золата, — адказала жанчына. — Мы ж беларусы! Бульба наш скарб. Мы яе вясной закопваем, наш скарб, каб ніхто не сцягнуў, а ўвосень шукаць пачынаем. Што, не бачылі, як людцы ўвосень ракам на палях стаяць? Азадкамі ў неба. Гэта яны не моляцца так. Яны ведаюць, што, каб памаліцца, трэба развярнуцца наадварот. А што яны робяць? Скарб шукаюць! Бульбу! Каб яны столькі зямлі перавярнулі ў пошуках іншых скарбаў, колькі ў пошуках бульбы, то ўжо ўсё золата планеты з зямлі павыцягвалі б. Але ж вышэй сваёй башкі не скочыш. Ну, а вас такі скарб, як бульба, задавальняе? Ці пашукаеце больш бліскучы?

— І што ты прапаноўваеш?

— Што, што! — крыкнула Зінка. — Няўжо вы не разумееце, што вам і так хутка кранты, як бульбоўніку пад восень. Уся вёска ведае, што вы шпіёны. З вас ужо смяюцца людзі, з такіх шпіёнаў. І сабакі смяюцца. І куры смяюцца. І… І вашае начальства хутка даведаецца пра вашыя дамовы, пра вашу здраду, і пра грошы, якія вы ў іх выцягвалі адзін дзеля другога і для мяне. Прыкончаць вас, як сабак шалёных, і не закапаюць. Пацукі пяткі аб'ядаць будуць у вашых трупаў. У вас адно выйсце: знайсці той скарб і ўцякаць у трэцюю краіну.

— А ты?

— Вось і дамовімся зараз, што скарб мы дзелім на тры часткі. Кожнаму пароўну або па справядлівасці, гэта пасля як атрымаецца. А я са сваёй часткай іду з тым, хто першы яго знойдзе. Каб большы стымул быў шукаць і знайсці першым.

Шпіёны паглядзелі на Зінку пытлівым позіркам, пасля адзін на аднаго. Яны ведалі яе сквапнасць да грошай. Таму, можа, і праўду казалі, што ад скарбу яна не адмовіцца. Хутчэй ад імя свайго адмовіцца. Ды і яны таксама. Імёны свае сапраўдныя ўжо і забыліся. Уся тройка вартыя адзін аднаго, як тры левыя боты, ды яшчэ падзёртыя.

— Згода, — пагадзіліся яны.

Хто толькі на гэтым свеце не марыў знайсці скарб! Хто толькі яго не шукаў! І чорныя капальнікі, і светлыя археолагі, і тыя, хто мае права, і тыя, хто яго не мае… Адкапаць скарб хацела значна большая колькасць людзей, чым тая, што яго зарывала ў зямельку. Скарб сам па сабе ўжо ёсць стымулам, каб яго шукаць. Ну, а калі яшчэ і дадатковыя стымулы ёсць, такія, як уцячы ад пакарання любімай спецслужбы, служэнню якой аддаў большую частку жыцця, вырвацца з учэпістых лап мілай сэрцу дзяржавы, якой служыш, як сабака пастуху, ды яшчэ з той кабетай, ад якой чамусьці дурнееш ці ўжо здурнеў…

Ну так, калі здурнеў, то пра што яшчэ можна гаварыць?! Якія яшчэ довады патрэбныя?! Якія дадатковыя аргументы? Якія дадатковыя стымулы патрэбныя?! Здурнеў — і ўсё на гэтым…

Назаўтра, восьмага жніўня адна тысяча дзевяцьсот восемдзесят дзявятага года, яшчэ да святла, раней чым куры, чым пастухі, чым яснае сонейка, з Зінінай хаты выйшлі два мужчыны з рыдлёўкамі і ламамі за плячамі і пасунуліся ў бок Касабуцкага лесу. Позіркі іх былі рашучымі і мэтнымі. Твары засяроджанымі і напружанымі, аж здавалася, што зараз смаркачы з носа павыціскаюць, як з цюбіка. Крокі ўпэўненыя і рытмічныя, як працяжны брэх раззлаванага сабакі.

— Сала, бульбу і самагонку я раз на тры дні буду прыносіць і пакідаць ля закінутага маёнтка, — крыкнула ім услед Зінка.

Яны пачулі. Але не адрэагавалі. Прынамсі, знешне. Крочылі, як салдаты ў псіхічную атаку, і не абарочваліся. Пасля спыніліся паміж гравійнай дарогай другаснага значэння і Касабуцкім лесам і доўга абмяркоўвалі, як падзяліць між сабой раён пошукаў.

Яны бачылі густое, як тарнада, воблака пылу, якое падымаў бліскучы матацыкл «Іж Планета Спорт». Бачылі стройную маладую дзяўчыну ў модных джынсах і з вялікай торбай на руцэ, што ішла па той дарозе ў бок сваёй вёскі. Бачылі, як малады хлопец, матацыкліст, доўга ўгаворваў дзяўчыну падвезці і ўрэшце яна пагадзілася. Усё бачылі, што адбывалася ў гэты дзень на іх вачах. Але ўсё гэта зараз іх зусім не цікавіла. У іх нарэшце была свая асабістая мэта, і толькі яна кіравала іх дзеяннямі. А праз нейкі час яны, як здані, зніклі ў густых абдымках Касабуцкага лесу.

нарадзіўся 18 кастрычніка 1963 года ў мястэчку Гальшаны Ашмянскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1990). Як журналіст і літаратар друкаваўся ў розных беларускіх і замежных выданнях («Літаратура і мастацтва», «Ніва», «Новы час», «Дзеяслоў» і інш.). Аўтар кніг «Занатоўкі кантрабандыста» (2009), «Сандалі мітрапалітыка» (2012), «Паэзія прозы» (2013), «Суседскія былі» (2015). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.





ЯНКА ТРАЦЯК

## Спецзаданне

*Урывак з аповесці «Шёл отряд по берегу…»*

Недзе з вясны 1942 года ў наваколлі з'явіліся нейкія чужыя і невядомыя групы людзей, якія называлі сябе нязвыклымі словамі для тутэйшых вяскоўцаў — сапраўднымі партызанамі. Маўляў, нехта бачыў іх у лесе, напалову ў вайсковай форме, з рускімі аўтаматамі і карабінамі, і чуў нават расейскую мову і вядомыя рускія выразы з мацюкамі. Апошні аргумент быў вельмі пераканаўчы. А пасля гэтыя людзі сталі заходзіць у вёску.

Сцяпан — былы савецка-калгасны актывіст, пакінуты для арганізацыі савецкага падпольнага супраціву ў тыле ворага (пра што ведаў кожны ў вёсцы), казаў:

— Сапраўдныя партызаны — гэта такія самаадданыя, добрыя і чэсныя людзі, якія ваююць супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на часова акупаванай тэрыторыі за працоўна-сялянскі люд і за савецкую ўладу… Такім партызанам трэба дапамагаць, бо ў лесе хлеб не расце…

Пасля вяскоўцы яшчэ даведаліся, але ўжо ад саміх партызанаў, што ў лесе і бульба не расце, і саланіна, і мяса і шмат чаго яшчэ не хапае ў гэтым лесе…

Некаторыя людзі ў вёсцы сапраўдных партызанаў называлі «нашымі», але большасць падазрона ўспрымала кожнага ляснога жыхара, характарызуючы іх без разбору адным словам «бандыты». А бандыты ці партызаны маглі быць усялякімі: і «нашымі», і савецкімі, і польскімі, і рускімі і літоўскімі, і яшчэ чорт ведама якімі. Ад самага пачатку вайны, вяскоўцы баяліся сунуцца ў лес, бо ў лесе абавязкова можна было сутыкнуцца з тымі самымі бандытамі і партызанамі, сапраўднымі і несапраўднымі, нашымі і нянашымі. Увогуле, хто яны такія, для вяскоўцаў вялікай розніцы, альбо, скажам, радасці пры сустрэчах не было. Наадварот, былі толькі непатрэбныя клопаты, праблемы і страх.

Сапраўдных ці несапраўдных партызанаў доўга чакаць не прыйшлося. Неяк каля гумна, надвячоркам, Антося нехта далікатна клікнуў:

— Хозяин, иди сюда!

Антось не адразу зразумеў адкуль быў голас, ажно калі прыгледзіўся, ўбачыў сярод лапухоў чалавечую галаву. Лапухі гэтым летам ніхто не касіў — не было вялікай патрэбы і яны вымахалі амаль што ў чалавечы рост.

— Иди сюда-а-а! — больш настойліва хрыплаватым і агідным голасам паўтарыла галава.

Галава тая была ў выцвілай пілотцы, на якой замест чырвонай зорачкі цямнела няправільнай формы пентаграма. Відаць, нядаўна зорачку знялі. Галава тая ківала ўбок, маўляў, клікала да сябе ў лапухі і Антось падышоў трохі бліжэй.

— Хозяин, люди в деревне есть?

— Людзі?! Ёсць! — адказаў Антось, трохі здзіўлены пытаннем.

— Свои или чужие?

— А гэта як для каго: для адных яны свае, для другіх — чужыя, а для трэціх — нават і не людзі…

— Та-а-ак, раскладочка, — адзначыла галава ў лапухах. — А враги в деревне есть?

— Врагі?! — Антось на хвілінку задумаўся. — Дык жа ўсіх врагов народу выслалі яшчэ перад вайной, а каго не паспелі — пастралялі…

— Да я не про этих… Немцы есть?

— А-а-а, немцы, дык так і казалі б… Няма, але могуць быць…

— Когда?

— Ну, ведаеш, пан-таварыш галава ў лапухах, яны не абмяркоўваюць са мной свае расклады… У кожную хвіліну могуць быць.

— Откеда могут быть?

— Адкеда… Адкуль хочаш… Яны мне свае маршруты не паказваюць…

— Так… А другие войсковые вооружённые формирования в деревне присутствуют?

— Другія? Не. Калі б былі, дык чуваць было б…

— Это как?

— Хадзілі б п’яныя і песні гарланілі…

— Какие песни?..

— «Шёл отряд по берегу, шёл издалека…» — заспяваў упаўголаса Антось.

— Тихо! — прыкрыкнула галава. — Допоёшься…

Антось прымоўк.

— Так, понятно… А ты за кого? За наших или за их? — пасля невялікай паўзы спыталася галава.

— Я за сябе… А «за іх» — гэта за каго? — на ўсякі выпадак перапытаў Антось.

— Это те, что не за нас…

— Ну й галава… За вас?… А за нас тады хто?… На лэбе не напісана…

— Не хитри, дядька, мать твою разэтак! — абурылася галава ў лапухах. — Если жить хочешь…

— Чалавек, пан-таварыш, я не ведаю, хто ты тут такі-гэткі, і не разумею, што ты маеш на ўвазе, калі кажаш пра нашых і пра вашых.

Антось павярнуўся і хацеў было пайсці, але галава ў лапухах гаркнула «Стоять!» і чуў Антось, як ляцнуў затвор.

— Ты видал, каков экземпляр! — данеслася да Антося гутарка з лапухоў і паказалася яшчэ адна такая ж галава ў пілотцы. — Одним словом, чистый западник!

— Эй ты, прореха на человечестве, нам нужны тёплые вещи, — загаварыла на гэты раз другая галава, гаварыла загадным тонам. — Носки, валенки, шубы, шапки…

Антосю быў знаёмы такі тон і такая манера паводзін — так гаварыў і чырвоны камісар перад вайной опер Цэрбер.

— Во! Дык вам трэба ў мястэчка, да крамы, — на поўным сур’ёзе параіў Антось.

— Тьфу ты, мать твою! Может, сразу тут его прикончить? — другая галава занервавалася.

— Подожди, успеем ещё, — абнадзеіла першая галава. — Ты, человек, нас не понял. Нам сейчас нужны вещи…

— Людзі, у мяне дванаццаць дзяцей — ці тая шкарпэтка, ці шапка носіцца па чарзе і заношваецца да такіх дзюраў, што і залатаць немагчыма.

— «Шкарпэтка, дзюры»… Чё за туфта? — другая галава зноў занервавалася.

— Потом объясню, — супакоіла другую галаву першая, а пасля павярнулася да Антося і паабяцала: — Мы же всё проверим…

— Правярайце, — абыякава адказаў Антось.

— А у кого можно взять?..

— А вось гэтага я не ведаю, пан-таварыш, бо хатамі чужымі не хаджу.

— А зря, очень даже зря, — парэкамендавала другая галава.

— Н-да… Ну и народец тут… Раскладочка, — першая галава задумалася. — Хлеба нам принесёшь… Здесь положишь… Мы потом заберём…

— Дык тут хлеб пакласці — што сабакам кінуць…

У гэты момант зноў злосна ляцкнуў затвор, і Антось хуценька паправіўся:

— Я хацеў сказаць, сабакі пацягнуць, іх тут развялося, як партызанаў… Ды й хлеба ў мяне няма…

— Много говоришь, хозяин, — на гэты раз паказалася яшчэ адна галава — трэцяя; калі меркаваць па жалезных нотках у голасе, відаць галоўная. — Не к добру это, товарищ, не к добру… А насчёт хлеба и всего остального — мы проверим…

І праверылі. Толькі не ў той час, а трохі пазней.

Тады, можа, і сапраўды Антось трохі зашмат гаварыў з гэтымі партызанскімі галовамі ў лапухах. Але ад гэтага анічога не змянілася б. Не яны былі першымі «гасцямі» з лесу і, відаць, не апошнімі будуць. З імі як ні гавары, усё роўна закончыцца аднолькавым сцэнарам: прыйдуць знянацку, напалохаюць дзяцей і забяруць тое, што ім спадабаецца.

Больш за ўсё баяліся Антось з Ганькай, каб не трапілі на вочы ўсім гэтым нашым і нянашым, сапраўдным і несапраўдным партызанам і бандытам старэйшыя дочкі. Зімою ўжо быў выпадак, калі спрабавалі сватацца лясныя жаніхі да меншай. А ўсё пачалося ў пані Лакуціеўскай, у Хоцьках, дзе дзяўчаты (Стэфка і Стася) доўгімі зімовымі вечарамі пралі воўну. І неяк за песнямі пад акампанемент калаўротаў засядзеліся дапазна, і пані прапанавала пераначаваць, балазе ў панскім доме было шмат пакояў. Дзяўчаты спачатку не пагаджаліся, маўляў, тры вярсты ўсяго, даляцім неяк, і збіраліся ісці дахаты, хоць і пабойваліся, бо ісці трэба было цемнатой, праз лес і, сама страшнае, праз Ведзьмін Лог, дзе, паводле расказаў, заўсёды з кімсьці адбывалася нешта незразумелае. Але тут раптам загуло ў коміне, зашумела ў верхалінах стагадовых ліпаў і закруціла снегам за акном. Да таго ж шумнаму завыванню ветру раз-пораз падцягвалі аднекуль з пушчы ваўкі. Тут ужо ўсім стала зразумела: ісці ў ноч няма як, і дзяўчаты засталіся. Вырашылі дапрасці рэшткі воўны на пральніцах і праспяваць яшчэ некалькі песен, бо пані любіла слухаць песні і сама добра спявала, толькі старалася спяваць польскія песні альбо на польскі манер. Гаспадыня Лакуціеўская прапанавала лёгкую вячэру: буцікі з сырам і гарбатку. Так, утрох яны мірна сядзелі за сталом, дапівалі гарбату і ўспаміналі песні, якіх даўно не спявалі. Ажно нехта асцярожна раптам пастукаў у акно. Няцяжка было здагадацца па стуку, што ў хату просіцца нехта свой — чужыя так далікатна не стукаюць. Пані шэптам сказала дзяў-

чатам ісці за ёй і завяла іх у нейкую каморку, дзе было даволі зімна, цёмна і пахла вэнджанай саланінай. Прытым строга наказала сядзець ціха і не высоўвацца. Пасля чулі дзяўчаты, як у дом зайшлі людзі, даносіліся прыглушаныя мужчынскія галасы, але пачуць, пра што ішла гутарка, было немагчыма. Так прайшло хвілін дваццаць. Дзяўчаты досыць ужо адубянелі, знаходзячыся ў стане нерухомасці і маўклівасці. Ажно тут раптам зарыпелі агідна дзверы каморкі, бліскануў праменьчык ліхтарыка і на парозе ўзнікла постаць.

Дзяўчаты прыкрылі вочы рукой ад рэзкага святла, але гэтым сябе не прыкрыеш.

— О-о-о! Які скарб тут маці хавае! — здзіўлена ўсклікнула постаць. — Ану выходзьце на свет Божы! Да людзей! На разгляды!

А пасля і сапраўды было як на разгледзінах.

— Вы толькі гляньце, якіх я зладзеяў у каморы злавіў! — весела гаварыў малады Лакуціеўскі, выводзячы дзяўчат у пакой да людзей — чалавек пяць здаровых і маладых мужчынаў у польскай вайсковай форме сядзелі за сталом і з непрыхаваным інтарэсам накінуліся разглядаць іх. Пасля ўскочыў адзін, другі і прапанавалі дзяўчатам прысесці да стала.

— Прошэ! Прошэ! — загаварылі мужчыны ледзь не хорам.

Дзяўчатам нічога не заставалася, як толькі прысесці.

Пасля пачаліся знаёмствы, «кампліманты» і нават пачастункі — у аднаго армейца знайшліся ляндрынкі, у другога «чакалята», а малады Лакуціўескі паставіў на стол бутылку віна, «спецыяльна прызапашанага для гэтага шчаслівага выпадку», бо лясныя госці пілі гарэлку. Ад такой увагі дзяўчаты трохі асмялелі і нават на просьбы вайскоўцаў праспявалі некалькі песняў. Пасля адзін вайсковец падсеў да Стасі і стаў усё нешта гаварыць. Гаварыў пра сябе, пра свой занятак, вучобу, працу… Дзяўчына не ўсё разумела з яго говару, ды й не вельмі праслухоўвалася. Насцярожылася яна, калі ён загаварыў пра тое, якая яна прыгожая, усё роўна як акторка Варшаўскага тэатра, гаварыў, што ён зробіць з яе вялікую спявачку і што ён ашчаслівіць усю яе сям’ю. Толькі для гэтага зусім мала трэба, трэба, каб яна пайшла з ім змагацца за Польшчу, пайшла сёння, ноччу, зараз…

Яшчэ два ваякі пеўнямі закруціліся каля Стэфкі, дэманструючы сваё майстэрства ў заляцаннях. Калі ж дзяўчатам стала зразумела, чаго ад іх хочуць ухажоры і чым гэта можа скончыцца, тут жа заспяшаліся дахаты, нягледзячы ні на цемнату, ні на завіруху, ні на ваўкоў. Але куды там. Ухажоры аказаліся настырнымі, асабліва той, які абяцаў Стасі кар’еру салісткі Варшаўскага тэатра оперы. Ён ухапіў яе за руку і зноўку стаў даводзіў пра варшаўскія перспектывы, гаварыў, што яна дурніца, не хоча скарыстаць свайго шанцунку, што ад шчасця свайго адварочваецца і гэтак далей, а калі ўбачыў, што па-добраму ўгаварыць дзяўчыну не атрымліваецца, ён раптам ускочыў і, не гледзячы на астатніх, пракрычаў:

— Пуйдзеш са мной! Я мовіў!

— Не пайду! — закрычала Стася і кінулася ў дзверы.

— Тшымаць! — крыкнуў ухажор, і некалькі ваякаў сапраўды хапілі яе за рукі і, як пад канвоем, падвялі да «ўхажора».

Але тут нечакана на парозе з’явілася пані Лакуціеўская. Пані, накрыўшы стол для начных гасцей, адпачывала ў сваім пакоі.

— Астынь, Владэк! — спакойна прагаварыла пані. — Анікуды яна не пойдзе. Дзяўчат я ўзяла дя сябе на працу, а не для распусты. А калі табе не церпіцца, дык сёння на раніцы едзь да яе бацькі і прасі рукі… А я на сябе такі грэх не вазьму…

Владэк на нейкі момант астыў, але гэтага моманту хапіла дзяўчатам, каб сарваць на хаду з вешалкі свае хусткі, бо на верхнюю вопратку часу ўжо не хапала, і кінуцца ў цемнату, у завіруху…

Праўда, завіруха трохі прыціхла і нават некалькі разоў месяц выглянуў з-за хмар, каб падзівіцца на дзве імклівыя постаці ў светлых сукенках, якія бязлітасна шматаў вецер, парываючыся сарваць іх з жаночага цела. Месяц, дарэчы, дапамог дзяўчатам пераадолець Ведзьмін Лог без прыгод. Дзяўчаты беглі, і ім усё здавалася, што нехта бяжыць за імі і вось-вось дагоніць. Так без агляդкі яны даляцелі да хаты.

А праз колькі тыдняў пасля гэтага выпадку нейкі польскі афіцэр і сапраўды падыходзіў да Антося, цікавіўся яго дочкамі і асабліва Стасяй, і незразумела было, ці то жартам, ці ўсур’ёз гаварыў пра жаніцтва. На довады Антося, што ў яго няма аніякіх дачок, што афіцэр нешта пераблытаў, афіцэр аніяк не рэагаваў, толькі ўсё даводзіў сваё, што, маўляў, усё будзе як мае быць: з ксяндзом і шлюбам у касцёле, з сустэнтамі і сватамі. Антось тады яму сказаў, што трэба, каб дзяўчо яшчэ трохі падрасло і як сціхне страляніна і скончыцца вайна, вось тады пан ахвіцэр хай і засылае сватоў…

З гэтай нагоды пан ахвіцэр абяцаў закончыць вайну датэрмінова…

А гэтым летам здарылася бяда з Гэляй, равесніцай і сяброўкай старэйшай Антосевай дачкі Стэфкі.

Жыла Гэля з маці і меншымі сёстрамі (бацьку забралі былі да рэзервы ў Войска Польскае, і дзе ён знаходзіўся цяпер — невядома) наводшыбе ад вёскі. І вось неяк аднойчы пайшлі Гэля і Антосевы дзеўкі збіраць шчаўе на абмежак, бліз лесу. І што дурное нашло на дзяўчо — стала Гэля песні спяваць, балазе голас мела добры, ды так зацягвала пявуча і гучна, што заслухацца можна было. Антосевы дзяўчаты казалі Гэлі, што не час зараз на песні, тым больш каля лесу, а тая толькі смяецца і далей спявае. Гэля і так была прыгожай і прывабнай дзяўчынай, на якую з захапленнем заглядаліся хлопцы, а тут яшчэ адзелася так, што жаночасць так і пёрла праз туга нацягнутую на стройнае цела тонкую і кароткую сукеначку, асабліва калі Гэля нахілялася па шчаўе…

Доўга чакаць не прыйшлося: з лесу выйшаў нейкі чалавек і накіраваўся ў іх бок. Антосевы дзяўчаты тут жа заспяшаліся дахаты, а Гэля засталася. Пасля сядзела Гэля з тым чалавекам доўга на абмежку, а пасля той чалавек хутка пайшоў у лес, а Гэля — дахаты. А вечарам сказала Гэля маці, што пойдзе на бадзякі да Антосевых дзяўчат, і пайшла… Праўда, заляцелася тады Гэля да дзяўчат на якую хвіліну, не болей. Усё хвалілася кавалерам з лесу: а высокі, стройны, чарнявы, да таго ж польскі афіцэр, і талковы, і далікатны — паземкамі яе пачаставаў з газетнага кулька, і ў біноклю даваў ёй глядзець, і казаў, што пакажа ёй, і Варшаву, і Маскву, і Еўропы… Пра такога кавалера яна нават і не марыла, а тут такое шчасце, такое шчасце… А сёння вечарам яна пойдзе на сустрэчу са сваім шчасцем…

Тады яшчэ Ганька паківала галавой і сказала: маўляў, глядзі дзяўчына, людзі, якія жывуць у лесе, часта звярэюць, на тое ён і лес…

Але хіба ж Гэля тады каго слухала… І, як трошкі прыцямнела, паляцела яна, радасная і шчаслівая, на сустрэчу…

Гэлю знайшла яе маці на раніцы за паветкай: ляжала Гэля напалову голая ў падзёртай сукенцы, уся акрываўленая і без прытомнасці. Маці спачатку загаласіла, — тут няцяжка было зразумець, што здарылася з Гэляй, а пасля раптам схамянулася і палахліва агледзелася па баках. Што кінулася ў вочы немаладой жанчыне і яшчэ больш напалохала, дык гэта тое, што ад месца, дзе ляжала Гэля, і да лесу была пракладзеная па траве добра ўтаптаная сцежка…

Лёталі неяк Антосевы дзяўчаты адведаць сяброўку, але тая нічога не гаварыла, ляжала ў ложку і толькі плакала.

Вось табе і Варшава, і Еўропы…

Тады Антосю падумалася, што нават лясныя звяры не здольныя на такія зверствы, на якія часам здольныя людзі.

Пасля выпадку з Гэляй Антось зрабіў лаз на гарышча з печы, якім ужо не раз карысталіся дочкі. І калі прыхадні з лесу прыходзілі ноччу і грукалі ў дзверы ці шкрабалі ў акно, Антось гучна падаваў голас і ішоў адчыняць дзверы, але рабіў гэта вельмі марудна, з разлікам на тое, каб дзяўчаты паспелі схавацца на гарышчы.

…На гэты раз дзяўчаты не паспелі скарыстаць лаз на гарышча, бо ўбачылі чужых людзей запозна, калі тыя былі ўжо на падворку. На двары яшчэ было відна, і ніхто так рана не зашчапляўся нанач, таму людзі імклівай хадою прайшлі адразу ў хату. Дзяўчатам заставалася толькі прытаіцца на печы ў прыцемку і закрыцца на ўсякі выпадак меншымі дзецьмі.

Чужыя людзі ўвайшлі ў хату, як у сваю. Адзін з іх замест сказаць «дабрыдзень» чамусьці ўрачыста абвясціў:

— Мы партызаны!.. Прыйшлі з праверкай…

Ганька прамаўчала на такое вітанне, а Антось сказаў, што яму ўсё роўна.

А далей партызаны прафесійна абнюхалі ўсе вуглы ў хаце. Зразумела, зазірнулі пад ложкі, у шафу, куфар, падпечак, а адзін спрабаваў залезці на печ, але дзеці (навучаныя) паднялі такі лямант, што тыя адскочылі ад печы, як ад агню.

Сярод гэтых партызанаў Антось пазнаў дзве галавы, якія бачыў сярод лапухоў, — першую і другую, але прамаўчаў пра сустрэчу з імі ў лапухах.

А партызаны тым часам вырашылі забраць добры Антосеў кажушок, два дываны і два боханы хлеба. Прытым сказалі, што абышліся па-чалавечаму, а маглі б забраць яшчэ і меншы кажушок (Ганьчын), добрую коўдру і астатні бохан хлеба. Пры гэтым старшы іхні (першая галава ў лапухах) сказаў прамову, каб Антось з Ганькай правільна іх зразумелі, маўляў, ідзе вайна і ідзе зіма, а ім трэба змагацца з ворагам. Маўляў, калі вайна закончыцца, яны усё вернуць назад: і кажушкі і дываны і нават хлеб…

Ужо пры самым выхадзе старшы іхні, праўда, называлі яго «таварыш старшына», раптам зірнуў у запечак і выгукнуў:

— Опа-на! Ці не дзеўкі?!

Ганька, якая ўгодліва аддавала ім усё, абы толькі хутчэй выйшлі з хаты, здранцвела.

Антось даволі гучна прамовіў:

— Здалося, пэўна…

— Якое здалося!..

Старшына хутка апынуўся каля печы і наступнай камандай усіх сагнаў на падлогу, не звяртаючы ўвагі на гвалт дзятвы. Апошнімі злезлі «дзеўкі» Стэфка і Стася.

Старшына з такой непрыхаванай юрлівасцю ў вачах стаў разглядаць адну і другую, як распранаў усё роўна, што рабілася неяк прыкра.

— Дзеці яшчэ, — заўважыў Антось яго пагляд, але старшына аж падскочыў:

— Якія дзеці, якія дзеці! Самы цымус! Можа, мы забяром адну — будзеце жыць, як у Бога за пазухай? — тут старшына правёў позірк са Стэфкі на Антося, а пасля на Ганьку.

І незразумела было, ці ён так жартаваў, ці гаварыў праўду.

— Не-не, паночак, дзеці яшчэ! — рашуча залямантавала Ганька, прыкрываючы Стэфку сабой.

— Ну, ладна, ладна, — адступіўся старшына. — не хочаце аддаваць дзевак, будзеце нам натуральны аброк плаціць… А з дзеўкамі мы самі разбяромся…

— Які аброк? — не зразумеў Антось.

— Я ж сказаў, натуральны!..

— Будзем, будзем! — заверыла Ганька.

На адыходзе старшына, не адводзячы вачэй ад старэйшай дачкі, строга папярэдзіў, каб пра іх (пра партызанаў) аніхто анідзе анікому ані слова, інакш — галава з плячэй. Але гэтага старшыне паказалася мала, і на парозе ён павярнуўся да Антося і дадаў:

— Будем считать, что ты принёс свой первый вклад в общенародное дело борьбы с ненавистным фашизмом и мировым капитализмом!

— Я вельмі ўсцешаны! — у тон яму адказаў Антось, і таксама цяжка было разабрацца, ці ён гэта гаварыў усур’ёз, ці з іроніяй.

Змаўчаў Антось пра тое, што каму толькі ён гэты ўклад ужо не рабіў. Так, саветы забралі былі з яго хлява ладнага парсючка ў падарунак Сталіну ад беларускага народа, пасля першыя немцы ласаваліся свежанінкай з яго хлява, а летась для перамогі Польшчы спатрэбіўся прыхадням з лесу Антосеў бычок-перазімак, а гэтай вясною паліцаі з немцамі вывелі з хлява добрага кабана, маўляў, у якасці дзяржаўнага падатку і падарунка Гітлеру. Дзякуючы такому шматвектарнаму ўкладу ў еўрапейскія эканомікі Антось даўно павінен быў жыць як у Бога за пазухай, але на самай справе яго сям’я заставалася на зіму без хлеба, без бульбы, без жывёлы і без цёплай вопраткі. Але гэта ўжо нікога не хвалявала.

— А вторым твоим вкладом, — тут старшына зноў пaглядзеў на Стэфку, — ты можешь спасти свою семью от всяких бандитов и партизанов…

Антось зразумеў, што меў на ўвазе старшына, і тут жа запытаўся:

— А ад немцаў?

— И от немцев… тогда, когда мы их разобьём, — запэўніў старшына.

— Ці не лепш, таварыш-партызан, ішоў бы ты дахаты, позна ўжо! — з нейкім абурэннем раптам прапанаваў Антось.

— Домой мы пойдём тогда, когда разобьём врага, — даволі міралюбна адрэгаваў старшына. — А девок твоих мы будем иметь в виду…

Вось так адбыліся першыя сустрэчы Антося з сапраўднымі партызанамі. Праўда, якія былі яны, сапраўдныя ці несапраўдныя, — ніхто не ведаў.

Калі ж за партызанамі зачыніліся дзверы, Антось рыўком зняў з сябе дзягу і працяў праз галовы спачатку адной, а пасля другой «дзеўцы».

Аказалася, што захацелася Стэфцы глянуць на аднаго партызана, маўляў, а прыгожы, а высокі, а чарнявы… І высунула галаву дзяўчына з запечка… Лупцаваў тады Антось сваіх дзевак, як малых дзяцей, хаця старэйшай (Стэфцы) было ўжо дваццаць гадоў, а Стасі — дзевятнаццаць.

А літаральна ў наступны дзень солтыс Трацінскі і два паліцэйскія сагналі народ у Загон, у Багданоўцы, на сустрэчу з нямецкім начальствам. Гутарка была нядоўгай: таўставаты немец, блытаючы беларускія, польскія, рускія і нямецкія словы, абвясціў, што нямецкая выведка ўстанавіла факты дыслакацыі польскіх, жыдоўскіх і чырвоных бандаў у раёнах вакол Ашмяны, Смургоні, Вялейкі, Маладзечна і Валожына. Банды ў кожную хвіліну могуць аб’явіцца і тут. У сувязі з гэтым трэба кожнаму быць вельмі пільным, каб не паддавацца на рознага кшталту правакацыі. На вяскоўцаў накладваўся яшчэ адзін абавязак перад вялікай Германіяй — дакладваць немцам пра ўсіх падазроных і незнаёмых людзей, якія могуць апынуцца ў вёсцы, у мястэчку, альбо пра сустрэчы з імі на полі, у дарозе, у лесе. У лес увогуле хадзіць забаранялася. Пад строгай забаронай былі ўсялякія перадачы бандытам стратэгічнага прадукту (хлеба, мяса, саланіны, бульбы і інш.), а таксама адзення. Забаранялася хадзіць па вёсцы ўвечары і ноччу. Наастатку немец папярэдзіў, што чакае таго, хто будзе ўлічаны ў сувязі з ляснымі бандытамі, за іх укрыццё і супрацоўніцтва з імі, за парушэнні і невыкананне нямецкага загаду. Больш за дзесяць пунктаў пералічыў немец, і ў канцы кожнага пункта гучаў прысуд: расстрэл, павешанне, ліквідацыя вёскі. А вось тым, хто будзе лавіць партызанаў, тоўсты немец абяцаў залатыя нямецкія горы.

Зразумела, што Антось не стаў хваліцца сваім першым укладам у барацьбе з фашызмам і не стаў скардзіцца на тое, што кажушок яго (за які, аказваецца, могуць застрэліць, павесіць, спаліць усю сям’ю) будзе грэць не яго, а партызанскія плечы.

Пасля гэтай гутаркі некалькі тыдняў было спакойна. Аніякіх партызанаў, немцаў, літоўцаў. А пасля ўсё роўна як прарвала. Напачатку вуліцай прайшоў нейкі незразумелы конны атрад. Як у грамадзянскую вайну: з чырвоным палотнішчам, з песняй: «Шёл отряд по берегу, шёл издалека. Шёл под красным знаменем командир полка…». У цэнтры вёскі спыніліся, дапелі песню да канца, злезлі з каней сваіх, павіталіся з людзьмі, папілі вады з студні і пайшлі па хатах, як ксёндз па калядзе. Людзі, вядома, насцеж дзверы не адчынялі і хлебам-соллю іх не сустракалі і не кідаліся ў абдымкі, але і не выказвалі асаблівай варожасці. Ды й як ты выкажаш тую эмоцыю, калі не ведаеш, што за чалавек пераступіў парог тваёй хаты, а тым болей з вінтоўкай у руках. Адзінае, што не спадабалася людзям, дык гэта нейкія дзіўныя распыты, як

допыты ўсё роўна: а хто ў вас стараста?.. а хто ў паліцыі?.. а хто ў партызанах?.. а хто частуе немцаў і паліцыю?.. а хто да вайны быў кулаком ці эксплуатататарам?.. а ці ёсць у вёсцы беларускія нацыяналісты?.. а хто не верыць у перамогу Чырвонай Арміі?.. а ці ёсць у вёсцы прыгожыя дзеўкі?..

Што да чаго?..

Не падабалася людзям і нейкая адкрытая агітацыя ісці з імі ў лес, у партызаны, каб змагацца з ненавісным і вераломным нямецка-фашыстоўскім ворагам. Не спяшаліся людзі бегчы за гэтымі партызанамі, хаця агітацыя іх была вельмі пераканаўчая. Маўляў, у вас няма іншага выбару: не пойдзеце — загінеце, загінеце альбо ад нямецкай кулі, альбо ад нашай…

Пасля некаторыя ваякі, на добрым падпітку, прадэманстравалі сваю зухаватасць тым, што паціскалі трохі мясцовых маладзіц, пастралялі па воронах і толькі пасля гэтага раптоўна паскакалі ўбок Мажалёў. «Голова обвязана, кровь на рукаве. След кровавый стелется по сырой траве», — толькі і данеслася з дарогі да збянтэжаных такімі нечаканымі гасцямі вяскоўцаў.

А недзе праз гадзіну загучалі маторы ў вёсцы. З гучнай стралянінай з'явіліся немцы з паліцаямі, і пачаліся разборкі: дзе спыняліся партызаны, у каго пілі ваду, хто запрашаў у хату, хто частаваў, альбо чаму ніхто з хаты не даў знаць у мястэчка, карацей, усе былі абвінавачаныя ў сувязі з партызанамі. Народ, малых і вялікіх, зноў загналі ў Загон. Той самы таўставаты немец абвясціў, што на першы раз ён даруе і анікога караць не будзе, але гэта толькі на першы раз, хоць яго сам нейкі гаўляйтар у Менску папярэджваў, каб ён не меў літасці да ворагаў Вялікай Германіі. Немца гэтага чамусьці адразу ў вёсцы так і празвалі «Гаўляйтарам», можа, таму, што ён нечым быў падобны на гаўляйтара (хоць таго гаўляйтара аніхто жывым не бачыў, а толькі ўяўляў), а можа, таму, што шмат гергетаў і часта згадваў нейкага гаўляйтара.

Дык вось, тады сапраўды неяк абышлося, хоць людзі аніяк зразумець не маглі, у чым была іх віна — яны самі не запрашалі тых партызанаў… А такі партызанскі манеўр так і застаўся незразумелым як вяскоўцам, так, відаць, і немцам: з якімі мэтамі яны тут красаваліся конна з песнямі, перад кім, для чаго? Нават Сцяпан, арганізатар савецкага падпольнага супраціву на месцы, засумняваўся ў іх сапраўднасці. «Тут нешта не так, — гаварыў Сцяпан, — маўляў, альбо некаму спатрэбілася адкрытая дэманстрацыя наяўнасці партызанскага атрада ў нашай мясцовасці, альбо невядома яшчэ што гэта былі за партызаны».

Пасля ўжо, у наступныя дні стала вядомым, што тыя партызаны (а можа, і не тыя), забралі некалькі мужчынаў у свой атрад з Мажалёў і Ракуцева, а ў Крыўску ў пачатку вёскі сутыкнуліся з вельмі непрыветлівым натоўпам людзей, сярод якіх былі нават і ўзброеныя паляўнічымі стрэльбамі і карабінамі. Народнае апалчэнне не пусціла партызанаў у вёску…

Тое, што пасля адбывалася ў Крыўску, мела гучны рэзананс. Далёка тут Крыўск — вёрст шэсць ад Дойневічаў, не болей. Living Рознае гаварылі людзі, розныя былі меркаванні і ацэнкі наконт вінаватых і невінаватых, але адно заставалася зразумелым для кожнага: ідзе вайна, і жыццё чалавечае ў гэтай вайне нічога не вартае, асабліва жыццё іх, простых вяскоўцаў…

…У выніку партызанскай правакацыі немцы спалілі большую палову Крыўска, а пасля, як разабраліся, Гаўляйтар на сходзе абвясціў, што Вялікая Германія і вялікі нямецкі народ ніколі не пакіне ў бядзе малыя народы і тым больш не могуць дапусціць факту несправядлівасці, нягледзячы на тое, што ідзе вайна. А гэта значыць, што хаты, якія згарэлі, будуць адбудаваныя за кошт нямецкай улады ў вельмі кароткі тэрмін. І адбудавалі.

А неўзабаве і ў вёску Дойневічы прыйшла бяда, якая быццам бы была накліканая тымі ж партызанамі, а можа, і не тымі, хто ведае. Прапаў раптам Шурка Шаргун. Заўважыць, што знік чалавек, было не цяжка, асабліва ў такі час, калі кожны моглы чалавек прападае цэлы дзень на полі, капаючы бульбу. Дарэчы, поле Шаргуна падыходзіла да самага гаю, а там, праз балотца і сенажаць, і да лесу было недалёка. Надвор’е трымалася някепскае, і ўсе намагаліся да восеньскіх дажджоў і халадоў скапаць бульбу. Дзён пяць запар на сваім полі калупаўся Шурка і раптам знік, хоць добрая палова бульбы заставалася ў зямлі. Жонка казала, што прыхварэў яе чалавек, але, гледзячы на яе, здавалася, што ці не сама яна прыхварэла, бо ўсяго за колькі дзён пастарэла жанчына на гадоў дваццаць. А тут яшчэ папаўзлі нядобрыя чуткі пра тое, што Шаргун даўся ў лес, у партызаны. Паліцэйскія не паленаваліся абшукаць хату, але ў хаце, зразумела, гаспадара не знайшлі. Цягалі жанчыну на допыты ў мястэчка, але, відаць, анічога ад яе не дабіліся, хоць і прыйшла яна добра пабітай. А можа, і сапраўды прапаў чалавек без якога-небудзь тлумачэння, і што тут можна было дабіцца ад жанчыны. Прапаў, дык прапаў, вядома — вайна, і на гэтым можна было б паставіць кропку, але ў вёсцы сталі пагаворваць, што нехта быццам бы бачыў воз і каня Шаргуна ў лесе: ехалі на возе тым нейкія людзі з вінтоўкамі, але самога Шаргуна сярод іх не было.

Пасля яшчэ гаварылі, што быццам бачыў нехта таго Шаргуна перад тым, як ён прапаў, пад самы вечар, бачылі, як ён гаварыў на сваім бульбянішчы з невядомымі людзьмі, якія выйшлі з гаю. Пра што яны маглі гаварыць — невядома, але, ведаючы няўрымслівы характар Шаргуна, можна было толькі здагадвацца, што гутарка была нялёгкай і не на карысць Шаргуна, як і ўсякая сустрэча з тымі, хто прыходзіць з лесу, бо радасці і суцехі яны з сабою не прыносілі.

Тады, яшчэ казалі, заехаў Шаргун дахаты і нешта, відаць, сказаў жонцы, бо тая, прадчуваючы сваім бабскім розумам бяду, загаласіла. А пасля, калі трохі прыцямнела, ускінуў ён на воз мяхі з бульбай і паціху паехаў у бок лесу. А там, відаць, як і дамаўляліся, прывёз бульбу туды, куды было загадана…

І пасля гэтага яго ўжо ніхто не бачыў. Пасля гэтага Шаргун раптам прапаў.

А чуткі пра тое, як конь Шаргуна падвозіў партызанаў, калі дайшлі да вёскі, дык, зразумела, дайшлі яны і да мястэчка, да немцаў.

І немцаў чакаць доўга не прыйшлося.

У другой палове таго дня Антось убачыў на сваім падворку тры постаці, адна была знаёмай — той самы таварыш старшына. Тады яшчэ Антось падумаў, што партызанская нахабшчына не мае межаў, — сярод белага дня на падворак у адкрытую, а калі хто заўважыць і данясе немцам… Тады што?!

Яшчэ дзве постаці Антось згледзеў за гумном і дзве каля Пуцінкавай хаты. Хата гэта зараз свяціла пусткамі — нікчэмны савецкі актывісты Пуценька знік бесслядоўна ў першыя дні вайны; за ім знікла і жонка яго — Марта. За Марціным агародам, які зараз быў парослы крапівой, лебядой і чартапалохам, была хата Шаргуна. Яшчэ некалькі чалавек, падумалася Антосю, відаць, схаваліся пры дарозе, інакш яны так смела сябе не паводзілі б.

— Пройдзем у хату, — прагаварыў старшына. — Дзела есць.

— У хату не пойдзем, пойдзем у паветку, — прапанаваў Антось.

Калі што якое, дык Антось будзе мець хоць нейкі аргумент, маўляў, прыязджалі людзі з мястэчка, хацелі купіць сячкарню.

— Не, — запярэчыў старшына. — Не спецыялісты я па паветках лазіць. Пойдзем у хату.

— Яно, дык так, якія ж спецыялістыя, партызаны сена не ядзяць, а там жа, у паветцы, адно сена, — адзначыў сумна Антось. — Але зараз і ў хаце нічога няма.

— Не хвалюйся, тое, што нам трэба — мы знойдзем, — даволі спакойна прагаварыў старшына, не звяртаючы ўвагі на Антосевы рэплікі. — Пайшлі!

Зайшлі ў хату. У хаце з дзяцей былі толькі меншы Чэсік з суседскім Мікіткам (сынам Шаргуна).

— А дзе твае дзеўкі? — спытаўся старшына.

— Якія дзеўкі?

— Дарослыя! Не аднеквайся — я сам бачыў. І нам добрыя людзі пра цябе шмат чаго цікавага расказалі…

— Няма ў мяне такіх дзевак, ёсць толькі дзеці…

— Дзеці, кажаш? Ты старэйшую толькі што адмазаў ад вывазу ў Германію, і меншай гады ўжо падыходзяць… Мы ўсё ведаем. Мы нават ведаем тое, чаго немцы не ведаюць. Дык дзе дзеўкі?

— А няма, у мястэчку недзе…

— А калі будуць?

— А я не ведаю, могуць у сваякоў заначаваць…

— Так, дзеці, ану пайшлі вон адсюль! — закамандаваў старшына і, калі Чэсік з Мікіткам выйшлі, звярнуўся да Антося: — Нам спяшацца няма куды, у нас спецзаданне… Зараз сходзіш і прывядзеш сваіх дзевак.

— Товарищ старшина, — умяшаўся ў гутарку другі партызан. — В местечко пускать его нельзя — там немецкий гарнизон. Кто знает, что за человек… Вернётся с гарнизоном…

— Тагды будзем тут чакаць!

— Дык, пан старшына, а навошта дзеўкі? Вы ж гаварылі пра нейкае дзела… А я ж ужо свой уклад у общчэнароднае дзела зрабіў… Вы ж самі казалі…

— Мала гэтага ўкладу, мала, — сур'ёзна і пераканаўча стаў даводзіць старшына. — Фашызм аказаўся вельмі моцным такім арэшкам, і барацьба з ім зацягнулася не на жарты. А тут і дзела такое, што без дзевак тваіх аніяк нельга.

— Не, начальнік, вы дзевак маіх сюды не блытайце — малыя яшчэ. Калі што, можа, я спатрэблюся?..

— Ты?! — старшына рассмяяўся нейкім незразумелым рогатам. — Там, дзе патрэбны дзеўкі, ты не справішся… Га-га-га!

— Не, так справа не пойдзе, неяк ужо самі вы там з фашызмамі сваімі разбірайцеся, без дзевак маіх…

— Разбяромся з усімі… А тут без дзевак тваіх, аніяк, — быццам бы больш угаворваў, чым тлумачыў старшына. — Панімаеш, заданне ў нас баявое ад камандзіра нашага баявога: знайсці яму верную саратніцу, вось такую Надзею Крупскую, якая і гаспадыняй магла бы быць добрай і… ну, што тут і казаць… і каб каханкай, і палюбоўніцай магла бы быць спрытнай… Такое вось няхітрае дзела…

— Ах вось яно што! — ахнуў ад нечаканасці Антось. — Дык вам прасталытка патрэбная, а прычым тут мае дзеўкі?

— Во, во, лытка якраз і патрэбная! А дзеўкі твае мне запалі ў вочы, я думаю, што і камандзіру спадабаюцца.

Тое, што дзеўкі яго западаюць у вочы мужчынам, гэта і сам добра ведаў Антось. Калі ўжо сам ксёндз барунскі кінуў быў вока, дык што ўжо гаварыць пра астатніх. Малады ксёндз (прыслалі аднекуль з Польшчы) запрасіў быў спачатку старэйшую ў захрысцію, а пасля і меншую; і адной і другой прапаноўваў адно і тое, маўляў, ніякай працы, толькі пасцельку сцяліць — ён жа, пэўна, не ведаў, што гэта былі сёстры. Дочкі тады як дамовіліся, не-не, ойча, а, урэшце, без дазволу бацькі і маці яны такія пытанні не вырашаюць. І прыехаў быў ксёндз у хату, і выклаў сваю просьбу перад Ганькай і Антосем, і абяцаў ён райскае жыццё той, якая з сваёй ахвоці згодзіцца яму сцяліць пасцельку, але Антось разважыў інакш:

— Дык жа, гэта грэх, ойча.

— То ж я, як раб Божы і Яго слуга, замалю гэты грэх, за ўсіх буду Бога прасіць і маліцца, — абяцаў ксёндз.

— Але ж Бога не падманеш…

— А хто ж Яго падманвае, паночак? Можа, усё гэта робіцца з Яго волі?!

— Я, ойча, не вялікі грамацей у Бібліі, але наконт такой Яго волі — акі сумняшэ, як поп казаў…

— То ж естэм поп…

— Я толькі добра ведаю, ойча, што воля Божая на тое, каб дзеўкам замуж выходзіць з шлюбам і дзяцей нараджаць законных, а не падсцілкай быць некаму! — Антось гаварыў вельмі пераканаўча. — А пасля каму такая дзеўка будзе патрэбнай…. з байструкамі…

— То ж пане не так разуме, — апраўдваўся ксёндз, — то ж сам пан Буг меў свайго Сына, то ж і я могу мець, яко ксёнжа…

— Ну, калі пану ксёнжу поп дасць шлюб і дочка будзе не супраць, тады яшчэ можна падумаць…

Тут у гутарку ўмяшалася Ганька:

— Ойчанька, прабачце, дурное ён нешта гаворыць… Пры чым тут поп?

— Пан, одумы я шуткуе, — ксёндз з нейкім пакрыўджаным дакорам паківаў галавой і накіраваўся да дзвярэй. Каля дзвярэй ён спыніўся і яшчэ раз запытаўся, на гэты раз звяртаючыся толькі да Ганькі:

— Так цо будзем робіць, пані?

Ганька глянула на Антося. Той на гэтае пытанне выказаўся вельмі катэгарычна:

— Ня будуць яны пану ксёнжу пасцельку сцяліць, не будуць!

…Дык гэта быў ксёндз, а тут нейкі бандыт, невядома адкуль і хто, нацешыцца ўволю, а пасля пусце па руках ці прыстрэліць — былі такія выпадкі ў Мікалаеўскую вайну…

— Яшчэ, вось што, хазяін, — гаварыў старшына. — У цябе выхаду няма гэтак жа, як і ў тваіх дзевак: іх забяруць у Германію, і будуць там немцаў абслугоўваць у публічных дамах… А я прапаную выхад: быць баявой сяброўкай краснага камандзіра. Ты адчуваеш, дзядзька, розніцу?

— Абслугоўваць краснага камандзіра?

— Але ж розніца якая!

Антось чамусьці розніцы не адчуваў.

— А калі дачка не захоча быць сяброўкай твайго камандзіра? — спытаўся Антось у надзеі хоць на якую-небудзь малейшую чалавечнасць і разуменне ў такіх няпростых адносінах між жанчынамі і мужчынамі.

— Мы забяром яе сілай, а хоча яна ці не, ці ты гэтага не хочаш — нас не цікавіць… А там камандзір хай сам з ёй разбіраецца. У нас спецзаданне, панімаеш? За невыкананне спецзадання ва ўмовах ваеннага часу можна схлапатаць вышку, панімаеш?

Антось заўважыў, што старшына гаварыў добрай трасянкай, прытым стараўся звяртацца да яго на беларускай мове, а да сваіх калегаў — на расейскай. З гэтага можна было зрабіць выснову, што старшына, калі не быў з тутэйшых, дык быў з Усходняй Беларусі, але ад гэтага Антосю лягчэй не рабілася.

Дочкі зараз былі ў Старых Ракавічах. Разам з маці і меншымі дзецьмі капалі бульбу на цесцевым полі. Казалі, калі скончаць трохі раней, дык прыйдуць дахаты, а калі не — застануцца там начаваць. Даць ім знаць, каб не прыходзілі, зараз немагчыма. І Антосю заставалася толькі адно: глядзець у акно на вуліцу і чакаць. Чаго чакаць?..

Дзеці, Чэсік з Мікіткам, знайшлі занятак на падворку: ладзілі сабе каламажкі. А пасля агледзеліся і кінуліся былі ў бок Старых Ракавічаў, і Антось абрадаваўся іх кемлівасці. Але напярэймы ім з вялікага куста бэзу выскачыў партызан і перагарадзіў дарогу. Яны нешта тлумачылі яму, нешта расказвалі, паказвалі, але далей бэзавага куста ён так іх і не пусціў.

Антось думаў, гадаў, што можна было зрабіць у такой сітуацыі, нейкі шанец павінен быў быць, але нічога путнага ў галаву не лезла. Маленькае спадзяванне на тое, што дочкі сёння не прыйдуць, мала суцяшала. Хутчэй за ўсё прыйдуць, бо заўтра збіраліся буракі капаць. Каб жа яны маглі ведаць, што іх тут чакае…

— Слухай, таварыш старшына, ты кажаш сілай, гвалтам, але што ж гэта за каханне такое, гвалтоўнае? Што ж гэта за любоў такая, калі бабу гвалтам — аніякай радасці, згадзіся…

— А ты хочаш, каб каханне ўзнікла? Каб красны камандзір тут з кветкамі пахадзіў, серэнады пад акном паспяваў? Ты гэтага хочаш? — перабіў Антося старшына.

— Не, серанадаў тут не трэба… Мае дзеўкі непісьменныя, неідэйныя, да таго ж каталічкі… неспрактыкаваныя… Камандзір будзе вельмі незадаволены такім выкананнем спецзадання…

— А камандзіру абы баба была…

Антось тады яшчэ падумаў, а ці не лепш было аддаць дачку таму ксяндзу, чым такой жывёліне. Сядзела б зараз недзе ў плябаніі ў Польшчы і ксёнжкі чытала б, але чаму абавязкова трэба вось менавіта так развязваць нейкую незразумелую праблему — падсцілаць пад некага? Не бацькоўскі гэта занятак. Тут нешта не так, не тое нешта робіцца ў гэтым свеце. Можа, недзе ён, як бацька, даў нейкую слабінку, што перад ім так ставяць пытанне. Ці гэтая нялюдская сітуацыя не ад яго залежыць?.. А ад каго тады? Чаму так стала атрымліваецца на гэтай зямлі, што ад яго апошнім часам нічога не стала залежаць?..

— Слухай, начальнік, а вось каб так прыйшлося табе, ты сваю дачку аддаў бы для такой ролі?

— Для мяне, як для бацькі, дачка з красным камандзірам — гэта быў бы вялікі гонар! — усклікнуў старшына, і відаць было, што ён тут і сапраўды ганарыўся б гэтым.

Не, відаць, разлічваць на нейкую чалавечнасць з гэтымі людзьмі не прыходзіцца. А што рабіць? Чаму гэты свет такі няроўны?.. Ці гэта час такі?.. Чаму аднаму што ў радасць — другому ў гора?.. І дзе той выхад шукаць?.. І што самае крыўднае — ані да кога не звернешся па дапамогу ці хаця б па параду нейкую…

— Ану-ка, глянь, ці не твае там бабы цягнуцца, — перабіў Антосевы роздумы старшына.

З Багданоўкі, па дарозе праз Бутрымаўшчыну няспешна ішлі тры жаночыя постаці, акружаныя, як настаўніцы, кучай дзетвары. Вядома, што Антось іх пазнаў, і сэрца яго гучна затахтала ў грудзях.

— Ну, твае?

— Я не магу пазнаць, — памалу прагаварыў Антось. — Я нізкі на вочы.

— Затое я пазнаў. Вунь тую, вышэйшую, забяром, — старшына меў на ўвазе старэйшую дачку Стэфку. — А гэта што за дзеці?

— А я ведаю?…

Што ён мог зрабіць у такой сітуацыі, як бацька: папярэдзіць крыкам, калі трохі бліжэй падыдуць, альбо кінуцца з кулакамі на старшыну, той, вядома, стрэліць, і яны пачуюць стрэл і ўцякуць — больш, здаецца, у Антося шанцункаў не было.

Антось напружана глядзеў у акно і чакаў.

— Слухай, ты глядзі, і меншая нічога. А ці не забраць нам абедзвюх? — гаварыў няведама каму старшына, гледзячы ў акно. — У камандзіра выбар будзе…

Ну вось і ўсё, падумаў Антось, паспее ён толькі адзін раз даць у гэтую ненавісную і абрыдлую морду, і ўсё для яго скончыцца.

Антось ужо і павярнуўся, каб добра так размахнуцца, але тут убачыў, як адзін партызан разам з Чэсікам, быццам напярэймы, шпарка беглі ў хату і гэтак жа шпарка, у адзін голас, з парога аб’явілі:

— Немцы!

— Дзе? — спахапіўся старшына.

— И там, и там, — у розныя бакі развёў рукою партызан.

— Значыць, ужо акружылі, гады, — злосна прагаварыў старшына. — Нехта данёс…

— Ну, не я ж, — адгукнуўся Антось.

— Так, сержант, слушай команду: всем быть на своих позициях: хлев, гумно, куст, лопухи; замаскироваться и не выдавать себя ни в коем случае. Не стрелять, что бы тут ни происходило. Открывать огонь только после моего выстрела. Всё, передай остальным. Я буду тут, в хате.

— А калі немцы ў хату зойдуць? — усхваляваўся Антось. Выйдзі, старшына, з хаты, схавайся за хлявом — яшчэ паспееш…

— А калі не паспею?..

Антось махнуў рукой: будзь яно што будзе.

Пакуль партызаны разбіраліся з пазіцыямі, Чэсік вышмагнуў на вуліцу і пабег насустрач жанчынам з дзецьмі.

— Во, смаркач, і не стрэліш! — злосна прагаварыў старшына ўслед маломў.

І бачыў Антось праз акно, як Чэсік дабег, нешта ім казаў, а пасля ўсе рэзка павярнулі назад і подбегам прыспешылі ў Багданоўку. Антось уздыхнуў з палёгкай — адно ліха на гэты раз пранесла другое.

— Калі не падзеля нас з'явіліся тут немцы, дык немцы прыедуць і паедуць, а мы застанёмся. — прагаварыў чамусьці старшына. — Далёка твае дзеўкі не ўцякуць.

— Каб жа так, — засумняваўся Антось. — Вы прыходзіце і адыходзіце, а немцы пасля разборкі чыняць. Невядома, з якімі мэтамі яны і зараз наляцелі. Калі што, старшына, дасі мне пісталет, адстрэльвацца будзем разам.

Старшына моўчкі паглядзеў на Антося, але нічога не сказаў.

На самай справе вёску ніхто не акружаў. Два матацыклы з каляскамі кацілі праз Бутрымаўшчыну, а невялікі бронетранспарцёр на добрай хуткасці ляцеў з Клышкаў. За ім сунулася крытая брызентам машына. Каля хаты Шаргуна адна і другая тэхніка спынілася. З акна хаты і Антосю і старшыну добра праглядвалася ўся панарама падзеяў, якая адбывалася на суседнім падворку. Некалькі салдатаў і паліцэйскіх (старшына налічыў дзесяць чалавек) акружылі хату, а пасля вывелі ўсю сям'ю на падворак: старая маці, жонка Аксіня і пяцёра дзяцей — старэйшаму сыну было каля пятнаццаці, наймалодшай дачурцы — шэсць. Камандаваў Гаўляйтар. Было відаць, як ён нешта напачатку гаварыў, а пасля паглядзеў на гадзіннік.

— Даў, відаць, хвіліну на роздум, на прызнанне, — прагаварыў старшына. — а ў чым справа, ты, дзядзька, не ў курсах?

— Гаспадар недзе знік з канём і возам, — неахвотна прагаварыў Антось, — а чуткі пайшлі, што ён у партызанах — на яго кані партызаны на заданні ездзяць у суседнія вёскі…

— А, вось яно што… За сувязь з партызанамі, значыць… А што-небудзь яго жонка і дзеці пра партызанаў ведаюць?

— Адкуль?

— Ну, можа ён, гаспадар гэты, сказаў ім, што павязу бульбу партызанам туды і туды…

— А ты, старшына, адкуль ведаеш пра бульбу?

— Я так, да слова…

— Да слова, кажаш, — Антось уважліва глянуў на старшыну.

— Глядзі лепш туды, — кіўнуў той у акно.

А на падворку Шаргуна падзеі разварочваліся вельмі хутка. Гаўляйтар біў Аксінню кулаком у твар і нешта крычаў пры гэтым. Дзеці стараліся акружыць маці, але паліцэйскія раскідвалі іх убакі рукамі і нагамі, а два немцы дабівалі іх прыкладамі. Заўважыў Антось і тую акалічнасць, што паліцэйскія былі не тутэйшыя. Старая маці Шаргуна кінулася на калені перад Гаўляйтарам, але ён ударыў яе нагой так, што тая злягла нерухома. Урэшце двое паліцэйскіх увішна пачалі здзіраць адзенне з старэйшай дванаццацігадовай дзяўчынкі, кінулі яе на зямлю і павалаклі за вугал хаты. Мікітка неяк выкруціўся ад удару прыклада, шпарка ўскочыў і запусціў каменем аднаму паліцэйскаму ў плечы. Той павольна павярнуўся, павёў плячыма, навёў вінтоўку і стрэліў у бок Мікіткі.

Антось не вытрымаў:

— Старшына, ты бачыш, што робіцца, ну зрабіце што-небудзь!

Старшына маўчаў.

— Партызаны, якія ў Марціным хляве, амаль што ва ўпор маглі б пастраляць гэтых немцаў, там метраў пяцьдзясят будзе, не больш. — даводзіў Антось.

Старшына маўчаў, старшына быў спакойным.

— Вы, партызаны, маць вашу! — абураўся Антось, — За гэты час мог бы хто-небудзь зайсці з боку гаю, даць чаргу з аўтамата, напалохаць немцаў, хоць здзеку і гвалту гэтага не было б… Старшына!

— Дзядзька! У нас ёсць загад: у аніякія сутычкі з немцамі і паліцаямі не ўступаць, тым больш што мы на спецзаданні…

— На спецзаданні… курву знайсці для камандзіра…

— Да, спецзаданне… пад носам у самага немца, сам бачыш — гэта тое, што языка на фронце даставіць у штаб арміі… А ты тут такімі словамі кідаешся…

Антось рэзка рвануўся да дзвярэй — яму прыйшла шалёная думка пра карабін, які даў яму на схованку швагер Яська, перад высылкай у Сібір. Карабін той быў прыхаваны ў застрэшку гумна. Да гумна можна было прайсці неўпрыкметку. Але да Антося гэтак жа рэзка рвануўся старшына з рэвальверам у руцэ і перагарадзіў дарогу:

— Выстрелю, — вельмі спакойна і пераканаўча працадзіў ён скрозь зубы.

«І стрэліць, — зразумеў Антось. — Так як, магчыма, ён стрэліў у Шаргуна — вельмі на гэта падобна… І ўсяму гэтаму кволае апраўданне — спецзаданне…»

А між тым на падворку Шаргуна крывавая бойня падыходзіла да свайго завяршэння. Гаўляйтар скрывіўся, калі ўбачыў паліцэйскіх, які завіхаліся над дзяўчынкай, і нешта гаркнуў, тыя хутка ўскочылі. Пасля Гаўляйтар махнуў рукой аўтаматчыкам, сказаў нешта паліцэйскім, а сам дастаў беласнежную насатку, выцер твар, рукі і пайшоў да машыны. У крытую машыну паліцаі закідвалі акрываўленых дзяцей, якія крычалі і ўпіраліся; туды ж запхнулі і Аксінню. Пасля адзін паліцай прыпёр карністру, хутка прабег вакол хаты, а другі кінуў пучок запаленай саломы. Полымя рэзка шуганула ўверх. А пасля клубы чорнага дыму заслалі ўвесь падворак і за імі ўжо нічога не было відаць. Немцы некалькі хвілін пастаялі, пасля няспешна ад’ехалі да гасцінца і там затрымаліся, перакурылі, спакойна пазіраючы на вогнішча над вёскай.

У хаце першым загаварыў старшына:

— Дзядзька, калі б мы адкрылі агонь па немцах, дык заўтра такое полымя было б над кожнай хатай, і ад вёскі засталіся б адны галавешкі і абгарэлыя чалавечыя косці…

Антось маўчаў.

— Тут нічога не зробіш, вайна, — падсумаваў старшына.

— Вось што, старшына, зараз людзі збягуцца на пажар, давай ты са сваімі хлопцамі адыдзі куды далей ад вёскі, не рабі бяды, старшына, — Антось гаварыў спакойна, але вельмі рашуча. — не дай Божа, хто ўбачыць незнаёмага на падворку…

— Зараз, наадварот, небяспечна, хіба ўжо як сцямнее.

— Ідзі, старшына, Богам прашу, і больш сюды не прыходзь…

— А дзеўкі?

— Якія дзеўкі, старшына? Калі даведаюцца немцы, дзе мае дзеўкі… І тут ужо не важна, чым яны там займацца будуць… Тут за каня, бачыў, што было… А ў мяне, апрача дзевак, яшчэ сем дзяцей.

— А ў мяне спецзаданне… За невыкананне мяне камандзір самога пастравіць…

— Скажы свайму камандзіру, што тут бачыў, і яшчэ скажы, што няма аніякай гарантыі ў тым, што трагедыя не паўторыцца з маёй хатай, скажы, што вы, як партызаны, ніякіх гарантый у гэтым не даяце. Не трэба вам хадзіць у вёску… І тым больш хадзіць па дзевак.

— Я без дзеўкі ў атрад не маю права на вяртанне!

— Дзевак зараз я сваіх не знайду, каб нават і сам моцна захацеў знайсці. Што я магу зрабіць? Можа, узамен табе нешта прапанаваць… карову, свінню, курыцу…

— Ты, што дзядзька, здзекуешся — я камандзіру замест дзеўкі свінню падсуну?

— Тады, прабач! Мне трэба падысці на папялішча, бачыш, людзі сабраліся.

— Ідзі! — дазволіў старшына. — Толькі май на ўвазе, калі што — ты на прыцэле.

Тушыць пажар не было аніякага сэнсу. Старое, прасохлае дрэва і саламяная страха гарэлі нашмат лепш, чым свечка. Толькі некаторыя мужыкі адцягвалі ўбок бярвёны і залівалі іх вадой. Гэтак жа залівалі вадой і галавешкі, каб вецер не разнёс пажару. Бездыханнае цела маці Шаргуна, прыкрытае посцілкай, ляжала воддаль на абмежку. Некаторыя жанчыны ціха плакалі, мужыкі, зняўшы шапкі, панура глядзелі на папялішча. Неўзабаве з'явіўся солтыс Трацінскі, таксама зняў шапку і, быццам апраўдваючыся перад мужыкамі, заявіў, што яго віны ў гэтым няма, хоць яго ніхто не ў чым не вінаваціў. Сваякоў у Шаргуноў у вёсцы больш не было, а таму солтыс звярнуўся да мужыкоў з просьбай арганізаваць і пахаваць старую. Калі бабы наладзяць адпяванне, дык мужыкам трэба было зрабіць труну і крыж, магілу выкапаць, завезці на могілкі і пахаваць па-людску.

Антось вярнуўся ў хату. Старшына сядзеў за сталом і як ні ў чым не бывала, жвава ўплятаў капусту з варанай у лупінах бульбай, прытым еў бульбу разам з лупінамі.

— Можа, дзе гарэліца ёсць? — пацікавіўся ён, убачыўшы Антося.

— Чамярыцы б табе, — абыякава адказаў Антось. — Але няма ні таго, ні другога…

Старшына такую знявагу прапусціў моўчкі.

Некалькі хвілінаў сядзелі і маўчалі. Старшына гучна чмякаў ротам, хлябаючы капусту, а Антось глядзеў у акно. Антось яшчэ пра сябе адзначыў, што, калі чакаеш надыходу цемнаты, складваецца ўражанне, што нехта гэты працэс спецыяльна гамуліць, а за працай іншы раз не заўважыш, як і сонца села.

— Ну, а там што? — спытаўся старшына, запальваючы папяросу і ківаючы ў бок папялішча.

— Там усё пагарэла… Старую заўтра хаваць будзем…

— Заўтра, кажаш… А твае заўтра аб’явяцца?

Антося пачынала ўжо разбіраць злосць:

— Слухай, старшына, а што, свет клінам сышоўся на маіх дзеўках?

— Ну, глянулася яна мне, спрытная такая, ладная… Такая камандзіру была б вельмі даспадобы…

— А што, калі яна камандзіру твайму парне ражном якім у вочы?

— Ну, ты, дзядзька, яшчэ падвучы!

— Дык жа яе вучыць не трэба — выхавана так… Будзе не камандзір атрада народных мсціўцаў, а пірат нейкі аднавокі…

— Ты за выхаванне такое атвеціш па ўсёй строгасці, так, як, вунь, суседзі, — старшына кіўнуў убок.

— Я пра тое, што не трэба гвалту, палюбоўна ўсё трэба…

— Слухай, я табе ўжо тлумачыў, што камандзіру нашаму няма калі заляцацца да тваёй дзеўкі з кветкамі і рамансы спяваць пад вокнамі — яму ваяваць трэба з нямецка-фашыцкімі захопнікамі!

— Я віжу, якія вы ваякі…

— Нейкі ты, дзядзька, незгаворлівы… А я магу зрабіць так, што ты ўсёй сям›ёй прыляціш да нас у лес, шукаючы паратунку ад немцаў…

— Чаму ж не, зрабіць падлянку шмат розуму не трэба…

— У Мілідаўшчыне добрыя людзі хлеба папрасілі ў гаспадара, а ён выскачыў з абрэзам, шум падняў… ледзь уцяклі…

— І што? — не зразумеў Антось.

— Што, што… Пасля ў яго хата згарэла… Хто падпаліў, невядома… А каб каго застрэліў з партызанаў, дык і вёска магла б уся згарэць… Немцы… Няшчасны выпадак…

— Ах вось ты пра што! — здагадаўся Антось.

— Вот іменна! У цебя нету выбару…

Антось маўчаў.

«І ён пра выбар, — падумаў пра сябе Антось. — Але чаму так складваецца сітуацыя, калі ён сапраўды не мае выбару. І 22 чэрвеня, калі яго з сям’ёй вывозілі ў Сібір, не было выбару, але пачалася вайна і сям’я засталася. І зараз, калі Ганька з дзецьмі падыходзілі да хаты, а ён не ведаў, што рабіць, а выхад, хоць і не надоўга, але знайшоўся. Праўда, якой цаной гэта ўсё даецца… А колькі раз узнікала пытанне пра шацунак, які даецца не кожнаму чалавеку і нават не кожнаму народу…»

— У цебя і шанцу няма, — гаварыў старшына. — Вайна…

«Во-во, а я пра што…Так, вайна, — думаў сабе Антось. — Але вайна рана ці позна закончыцца, а што будзе пасля вайны, калі такія ваякі выйдуць пераможцамі?»

Антось маўчаў. Так, сапраўды, у яго на гэты раз не было ані выбару, ані шанцу. Яму здалося, што пацямнела ў вачах раз, другі раз, а пасля ён зразумеў, што гэта на самай справе пачало цямнець і гэта цемра насоўвалася адусюль і паступова ахутвала ўсё навокал.

— Ты ведаеш, дзядзька, мне прыйшла ў галаву вялікалепная ідэя: мы зараз, як добра прыцямнее, пойдзем з табой да тваіх дзевак, дзе б яны ні былі, і адтуль пой-

дзем разам да камандзіра. Калі хочаш, можаш і ты разам пайсці, пазнаёмішся з зяцем… Гэта ж вялікалепна…

— Каб ты апрогся, вялікі лепнік, разам са сваім камандзірам, — спакойна прагаварыў Антось і замаўчаў.

Старшына, было відаць, не зразумеў, што хацеў сказаць Антось, і перапытаў:

— Ну дык як, пойдзем?

Але Антось маўчаў.

Так яны, чакаючы цемнаты, зноў на колькі хвілін замаўчалі.

«А калі яго прыкончыць тут, — разважаў Антось, — знянацку патэльняй па галаве, пасля неўпрыкметку можна сысці з хаты, узяць дзяўчат, дзяцей і… куды? У лес, да партызанаў? Ці, можа, у Крэва, да летувісаў, да немцаў? І яны цябе пашкадуюць, прылашчаць… Дзяўчат, можа, і прылашчаць, а патрэбен ты ім з дзецьмі?..»

— Чаго маўчыш? У шмоньцы тарчыш, — перабіў яго роздум старшына.

Ведаў бы ён, пра што думае Антось, не задаваў бы такіх пытанняў з дурнымі каментарамі.

І тут раптам Антось аж падскочыў, акрылёны ідэяй:

— А што, калі пашукаць у вёсцы дабравольцаў, для якіх спаць з камандзірам партызанскага атрада было б вялікім гонарам? — усклікнуў Антось. — І гэтым уносіць свой уклад у абшчэнароднае дзела ў барацьбе з праклятымі ворагамі…

— Так, добра гаворыш, як агітатар, і гэта трохі лепш, чым ражном у вочы. Але далей што? — зацікавіўся прапановай старшына. — Нам, што, абвесткі развесіць?..

— Ёсць у вёсцы прыгожыя дзеўкі, а зараз на людзі не паказваюцца, бо былі актывісткамі, камунаркамі. Вось такая за чырвонага камандзіра, калі што, і жыцця свайго, альбо, як поп кажа, жывата сваега, не пашкадуе ….

— Ну, дзядзька, ты і сказануў… Жывот камандзіру ані ў якім разе не патрэбны — не да жывата зараз. А вось наконт камсамольцаў-дабравольцаў — гэта можа быць… А я думаў, што ты, дзядзька, трохі тупаваты…

— І камандзір будзе задаволены… бо яна ж будзе яму і ў рот і ў куды хочаш глядзець…

— Мне б такую! — узрадаваўся старшына. — Абы толькі мордай выйшла!

— Можна пашукаць і з мордай, і з лыткай не брыдкай, і кумпяк не абы-як…

— Так, так, бліжэй да цела, як казаў Мапасан: гэта ж — варыянт. Імя, прозвішча, дзе жыве? — не цярпелася старшыне.

— Э не, пачакай, зараз прыйдзе мой старэйшы хлапец, хай ён напачатку перагаворыць з гэтымі дзяўчатамі, і калі будзе згода, наладзім вам сустрэчу ў дамоўленым месце, каб аніякага гвалту, аніякага крыку, каб толкам усё было.

— Здаецца, толкам, — пагадзіўся старшына. — А я думаў, што ты, дзядзька, трохі тупаваты…

— Але ж! — у тон старшыне кінуў рэпліку Антось.

Пецькі доўга чакаць не прыйшлося. Антось коратка выклаў яму сутнасць справы:

— Падыдзеш да Зінкі, не — лепш да Клавы. Скажаш, так: «Савецкі баявы ахвіцэр, камандзір партызанскага атрада, шукае сабе баявую сяброўку, якая дзяліла б з ім увесь цяжар суровых партызанскіх будняў у бязлітаснай барацьбе з ненавісным ворагам нашай неабдымнай савецкай Радзімы…

— Стой! — перапыніў яго старшына. — Гэта скажу я, толькі мне запісаць трэба… Мне пасля камандзіру дакладваць… А ты, хлапчына, скажаш, што з ёй хоча сустрэцца адзін чалавек з Вялікай Зямлі па вельмі важнай справе, і не больш — ты нічога не павінен ведаць, разумееш?

— А мне дык што, як скажаце, так і зраблю. Усё? — Пецька з гатоўнасцю накіраваўся да дзвярэй.

— Калі Клава будзе згодна, прагуляешся вуліцай з ёй, — прапанаваў Антось.

— Вы што, тата, які гулі — нябожчыца ў вёсцы?

— Тады сам прыйдзеш і даложыш, а Клаве скажаш, хай лямпу не запальвае, — даваў парады Антось.

Клава прыехала аднекуль з Савецкай Беларусі разам з саветамі. Перад вайной выйшла была замуж за Эдзіка Савіцкага, мясцовага хлопца з суседняй вёскі, і можа, добра жылі б, калі б не трапіла Клава на вочы чырвонаму оперу Цэрберу. І неўзабаве Эдзік Савіцкі стаў асабістым ворагам Цэрбера, а пасля паступова пайшоў на павышэнне — абвясціў яго Цэрбер ворагам Сталіна і, нарэшце, ворагам народа. А пасля Эдзік даведаўся, што ён яшчэ з'яўляецца англійскім, кітайскім і японскім шпіком. Дайшло да таго, што афарміла Клава з Цэрберам свайго мужа (каб не мяшаў ажыццяўляць савецкую змычку на вёсцы) этапам у Сібір. І закруціліся яны ў распусце, бо, ведама, абое актывістыя — шмат агульнага. А калі пачалася вайна, знік недзе Цэрбер, кінуўшы яе адну на волю лёсу. І лёс гэты быў бы для яе пры немцах незайздросным як камсамолкі і актывісткі, калі б не адзін мясцовы паліцай, які стаў да яе заляцацца і ўзяў яе пад сваю паліцэйскую апеку. Так і атрымалася, што жыла Клава зараз адна і баяцца ёй не было чаго, апрача партызанаў, якія могуць не зразумець Клавінай здрады савецкаму оперу Цэрберу з нямецкім паліцаем. Дый, па вялікаму рахунку, ёй усё роўна было, з кім дзяліць цяжар вайны: з паліцаем ці з чырвоным камандзірам. Добра было з паліцаем — яе не выслалі ў Нямеччыну, ды і паліцай ніколі не прыходзіў з пустымі рукамі. Праўда, з паліцаем не было ў яе аніякай жаночай перспектывы — не хацеў паліцай афіцыйна з ёй жаніцца. А вось з чырвоным камандзірам дык яно, можа, і лепш, больш патрыятычна і, можа быць, больш перспектыўна…

Як добра сцямнела, павёў Пецька старшыну на сустрэчу з Клавай. Тая, як толькі даведалася, з якой такой мэтай да яе завіталі партызаны з Вялікай Зямлі, так і кінулася з радасным піскам старшыне на шыю. І калі б не збянтэжаны Пецька, які стаяў тут жа і не ведаў, што яму рабіць у такой сітуацыі, так і ўдарылі б яны са старшыной прама ў сенях на куфэрку па ненавісных нямецка-фашысцкіх захопніках.

Антось наконт Клавы не памыліўся. Калі Пецька расказваў пасля яму пра гэтую сустрэчу, дык ён тады падумаў: «Ну, вось і дзякуй Богу. Так для ўсіх будзе лепш: і для маіх дзяўчат, і для Клавы, і для камандзіра. Вось толькі Шаргуна не вернеш…»

Антось хутка справіўся з гаспадаркай і меў намер прылегчы і адпачыць, хаця ведаў, што нармальнага адпачынку не будзе і наўрад ці ўдасца заснуць. Дзень сёння выдаўся не проста цяжкім і нервовым — дзень сёння быў страшным. І як сябе не супакойваў Антось, але на душы, на сэрцы была цяжка і прыкра. Адна справа — чуткі пра зверствы фашыстаў, другая — бачыць, як на тваіх вачах нелюдзі здзекуюцца,

мардуюць дзяцей, забіваюць суседзяў, а ты не маеш магчымасці хоць што-колечы зрабіць, каб спыніць гэты гвалт, адчуваеш сваю немач, бяссілле перад нікчэмнасцю і нялюдствам, як у самым страшным кашмары. Усё гэта нялёгка перажыць, змірыцца, і ўвогуле, як жыць з гэтым далей?

У гэтую ноч яны заставаліся з Пецькам у хаце толькі ўдваіх, астатнія там, у Старых Ракавічах. Пасля таго, як саветы сям'ю цесця арыштавалі і вывезлі, у яго хаце нейкі час жылі прыезджыя спецыялістыя па «будаўніцтву савецкай дзярэўні». Цяпер хата пуставала і пераначаваць было дзе. А так яно, можа, і спакайней, і, можа, лепей, што дзеці не бачылі тут гэтай крывавай расправы.

Сон не ішоў, а тут раптам Антось пачуў, як асцярожна рыпнулі дзверы ў сені і там пачалася нейкая валтузня.

— Тата, вы ў хаце? — амаль шэптам спытаўся Ясь.

Антось запаліў запалку і выйшаў у сені. Яго меншыя хлопцы, Чэсь і Ясь, неслі ў хату акрываўленага і амаль што нежывога Мікітку. Антось не вельмі ўзрадаваўся такому намеру сваіх дзяцей, але нічога не сказаў; дапамог пакласці Мікітку на ложак, пасля запаліў лямпу і сталі аглядаць малога. Мікітка нешта трызніў, быў без памяці. У малога, відаць, было прастрэленае плячо. Антось паслаў Яську за крываўнікам і трыпутнікам, а сам, з Чэсем, як умеў, прамыў рану зімнай вадой. Пасля ў шафе знайшлі нейкія стужкі паркалю і перабінтавалі плячо.

— Заўтра на раніцы збегаеце за маці, трэба, каб яна паглядзела, а я, можа, пад'еду да Чубіка, — разважыў Антось. — А зараз — спаць.

Антось патушыў лямпу.

Зразумела, што пасля ўсяго, што тут адбылося, было не да сну. Трызніў Мікітка, шапталіся між сабою хлопцы, і Антось доўга ляжаў з адкрытымі вачамі. А пасля ўсё прыціхла і Антось амаль што быў задрамаў, як тут бразнула клямка, і аднекуль здалёку данёсся знаёмы і абрыдлы за сённяшні дзень голас:

— Хозяин, ты где?

Што гэта — падумаў яшчэ Антось — начны кашмар, ці ўсё дзённы кашмар працягваецца…

— Тата, чалавек пагаварыць хоча, — Пецька злётку тузануў яго за нагу.

— Каб ты, сынок, ведаў, як гэты чалавек мне сёння надаеў сваёй гаворкай, дык задушыў бы яго па дарозе, — спакойна прагаварыў Антось, падымаючыся з ложка.

— Всё шутишь, шут, ну-ну, — не пакрыўдзіўся старшына. — Ты б відзеў, дзядзька, як яна мне на грудзі кінулася!.. Камандзір будзе задаволены… Я, так думаю, што і нам нешта перападзе…

Антось не адразу зразумеў, пра што гутарка.

А старшына паказаў рукамі некалькі пахабных рухаў і гэтак жа пахабна рассмяяўся.

— Чаго хацеў, старшына? — Антось прыгледзеўся і ўбачыў, апрача Пецькі і старшыны, яшчэ дзве постаці.

— Першае, ты яшчэ раз скажы, як там: «Савецкі баявы камандзір партызанскага атраду шукае сабе…», каго шукае? — пытаўся старшына.

— Прасталытку, — падказаў Антось. — Дык жа знайшоў ужо, чаго ты болей хочаш?..

— А для чаго знайшоў? О, там у цябе было добра сказана, усё роўна як у партызанскай клятве, як там?

— Пецька, нагадай яму, я ўжо і сам не помню.

— Шукае баявую сяброўку, якая дзяліла б з ім увесь цяжар і нягоды суровых партызанскіх будняў. Здаецца, так, — успомніў Пецька.

— О! Суровых партызанскіх будняў, слязу прашыбае. Трэба запісаць! — старшына дастаў з нагруднай кішэні шматок газеты і, слінячы аловак, стаў пісаць.

— Старшына, я ж цябе прасіў больш у хату не заходзіць, — нагадаў Антось.

— Ну што за народ! Аніякай прыязнасці да гасцей. Што значыць не заходзіць? — абурайся старшына. — Мы з табой, дзядзька, адно важнае спецзаданне камандзіра выканалі, засталося яшчэ адно…

— Усе астатнія заданні зараз выконвай з Клавай, а мяне не чапай, — катэгарычна заявіў Антось.

— Засталася свіння! — амаль урачыста прагаварыў старшына.

— Якая свіння? — не зразумеў Антось.

— Ты ж казаў, магу даць карову, свінню, курыцу… Казаў?

— Дык жа я так, адчэпнага, казаў…

— Вось адчэпнага і давай. Толькі я тут сам сабе падумаў, а навошта нам курыца, праўда, хлопцы?

— Не, не! Курыца нам не патрэбна, — заківалі галовамі ў знак згоды хлопцы.

— Свінню давай! А не, дык будзем шукаць тваіх дзевак, не сёння, дык заўтра, паслязаўтра… пакуль не знойдзем… Праўда, хлопцы? — старшына мірганyў сваім калегам. — А мы іх абавязкова знойдзем! Знойдзем, а там хай камандзір разбіраецца…

— Ты, гэта, старшына, сур'ёзна?.. Вам што, рабіць няма чаго, як толькі гарэм для камандзіра збіраць? У мяне ж дзеці…

— Якія жарцікі, вайна ідзе! А дзевак мы і сабе можам пабраць! Свінню давай, я табе сказаў! Нам вяселле камандзіру трэба будзе спраўляць.

— Дык няма ў мяне свінні…

— А калі знойдзем?.. Ты што, забыўся: «За сопротивление советской власти в условиях военного времени — расстрел…» Позорная смерть! Свінню давай! — апошнія словы старшына амаль што выкрыкнуў.

— Дык жа няма! — выкрыкнуў і Антось.

— Ты не понял? — і старшына рэзка ўдарыў Антося ў твар.

«А і сапраўды могуць забіць, — падумалася Антосю. — І хоць разумеем адзін аднаго без перакладчыка, але гэта ж такія чужыя людзі для яго, як і немцы, як і «акаўцы», як усе тыя, хто праходзіў праз яго падворак, і тут ужо не важна, куды яны ішлі… Чакаць ад іх міласці — марная справа».

— Дык дзе свіння? — чуў ён над сабою голас старшыны. — Давай лепш ціха, па-добраму, каб ніхто не бачыў нас тут, каб не паўтарылася заўтра тое, што бачылі мы сёння на падворку Шаргуна, давай, давай, табе ж лепей будзе без свінні! Совесць будзе чыстай…

— У хляве, справа, за драўлянай перагародкай…

— Во дзе народ! Пакуль у морду не дасі, нічога не даб’ешся, — задаволена прагаварыў старшына. — Пайшлі! А ключы?

— Пеця, дай ім ключы…

Пецька зняў са сценкі ключ і працягнуў старшыне.

— Сякеру! — зноў запатрабаваў старшына.

Пецька з-пад лавы выцягнуў сякеру.

— Во, цяпер пайшлі, — старшына кіўнуў галавой сваім ваякам.

— Пецька, будзь у хаце, я пайду, — Антось памалу падняўся з падлогі. — Толькі, старшына, мяне сюды не блытайце, я буду стаяць воддаль, каб не падумалі, што сам прывёў і аддаў.

— Стой дзе хочаш, — абыякава прагаварыў старшына.

Трэба прызнаць, што свінню яны забралі акуратна, без аніводнага лішняга стуку і шуму, свіння нават не ёкнула, як цюкнулі ёй абухом па галаве, а пасля чатыры чалавекі лёгка яе панеслі за гумно і ўскінулі на павозку. Відаць было, што добрыя спецыялістыя былі яны ў гэтай справе. Антось да іх не падыходзіў і блізка, толькі вось не ўтрымаўся, калі ўбачыў партызанскі вазок і каня, і падышоў бліжэй, нягледзячы на тое, што ноч не была такой светлай, але і не такой цёмнай, каб немагчыма было разглядзець плямістага гнядога коніка, падвязаную банцікам грыву і белую зорку на лбе. Па гэтай зорцы Шаргун і каня свайго празваў Зоркай.

Антось шпарка адышоў ад каня, бо ў гэтым кірунку сунуліся памалу хлопцы са свіннёй, і стаў каля гумна. Апошнім ішоў старшына, і, калі ён параўняўся з Антосем, Антось ціха прагаварыў:

— Убачыш там можа дзе Шаргуна, раскажы, як было…

— Не раскажу…

— Чаму?.. Хай ведае чалавек…

— Забілі яго, — як абухом выбухнуў старшына і пайшоў да воза.

— Як? Хто? За што? — залпам выкрыкнуў услед старшыне Антось, але той нічога не адказаў.

Даганяць старшыну і паўтараць пытанні не было сэнсу.

Антось тады прыйшоў у хату і прысеў каля акна. Прылёг, каб хоць трошкі задрамаць перад раніцай, але так і не змог — думкі круціліся вакол Шаргуна і старшыны: Антось быў упэўнены ў тым, што нейкая сувязь між імі была. Нядобрая сувязь.

Пасля гэтай сустрэчы старшына не паказваўся на вочы, можа, з месяцы тры-чатыры. Прыходзілі іншыя, рабілі вобшук у хаце, лазілі ў камору, у склеп, у хлеў, але сярод іх ні старшыны, ні яго байцоў не было. Антось ужо грэшным часам падумваў, ці не злажыў дзе старшына сваю старшынскую галоўку пры выкананні спецзадання свайго «краснага» камандзіра. Ажно неяк на другі дзень каталіцкіх Калядаў увечары аб’явіўся старшына. Вясёлы, здаровы, маўляў, у жакі вырашыў прыйсці… І яшчэ скрывіўся, невядома каго перадражніваючы:

— Я малененькі жачок…

— Каб ты так па пекле жакаваў, — не вельмі добразычліва сустрэў «жачка» Антось. І тут жа рэзка запытаўся: — Чаго прыпёрся?

— Дык жа Хрыстос нарадзіўся, а ты так не па-хрысьціянску сустракаеш хрысціяніна! Ай-яй-яй.

Гэта яго яхіднае «ай-яй-яй» Антося злавала яшчэ больш.

— А ты думаеш, старшына, што ён, можа, у маім хляве нарадзіўся, хочаш праверыць? Пуста ў хляве…

— Ну, што ты, дзядзька, якая праверка ў святочны дзень?.. Стаў на стол гарэлку, аладкі з макам, куццю будзем есці…

— Аладкі з макам яму… А дулю з макам ты не хочаш? — Антось і на гэты раз, як і тады перад нямецкім афіцэрам, згадаў пра дулю не падумаўшы. Але старшына раптам гучна засмяяўся:

— Беларуская нацыянальная страва… Ха-ха! Хочаш мяне пачаставаць, як нямецкага афіцэра?.. Ха-ха!

Тады немец запытаўся ў Пецькі, што такое дуля з макам, і Пецька доўга даводзіў яму пра нацыянальную страву.

— Цішэй ты, гарлапан, дзеці спяць, — Антось кіўнуў на печ, а сам падумаў: «Адкуль ён ведае пра тую дулю?».

— Дарэчы, пра дзяцей, а дзе твае дзве самыя старэйшыя? — тут старшына зрабіўся больш сур’ёзным і ўсеўся за сталом. — Сядай, дзядзька, паталкуем.

— Дык усё ж такі — спецзаданне… Мы ж, старшына, здаецца, дамовіліся з табой… І разышліся мы больш-менш па-добраму…

— Разышліся не мы… Разыходзіцца наш камандзір з Клавай… Загрубела Клава… Ты, дзядзька, падсунуў яму, як і казаў, прасталытку, а камандзіру нашаму баявому свяжак патрэбен… А яшчэ, тут такая справа, калі я не найду замену Клаве, дык ён адбярэ ў мяне Зінку… А табе гэта трэба?..

— Паслухай, старшына, хіба няма ў наваколлі другіх дзевак? Чаму гэта свет сышоўся на маіх дзяўчатах? Ці што?

— Ці што, дзядзька, — спакойна працягваў сваю гутарку старшына. — Нехта данёс камандзіру, і пра Клаву, і пра цябе і пра дулю, дарэчы, і пра тваіх дзевак… Гэта я браў грэх на сябе перад камандзірам, калі даводзіў яму, што я не ведаю ані дзядзькі такога дзіўнага і скупога, ані дзевак ягоных… А камандзір не верыць…

— Слухай, мне трэба перагаварыць з тваім камандзірам, — раптам прапанаваў Антось.

— Добра, бяром тваю старэйшую і ідзём разам у лес, там і пагаворыце.

— Не, у лес мы не пойдзем — адзін ужо бульбу завёз… Хай камандзір сюды прыходзіць, тут пагаворым…

— Слухай ты, няўжо камандзір апусціцца да твайго роўню і прыйдзе да цябе на паклон? Зразумей, калі я сёння не прывяду яму адну з тваіх дзяўчат, дык заўтра ён прасіў табе перадаць лічна, што сам пад’едзе ў сваты… Гучна пад’едзе…

— З музыкай, з песняй «Шёл отряд по берегу», з чырвоным сцягам? — іранізаваў Антось.

— Усё можа быць, але хутчэй з іншай музыкай — са стралянінай… А табе гэта трэба?

Тое, што гэта не было патрэбным Антосю, было ясным, як свет Божы.

Але, што яшчэ можна было прыдумаць у гэтай сітуацыі?.. Здаецца, ужо ўсе магчымыя варыянты вычарпаны… Гаварыць пра тое, што дзяўчат няма ў хаце, — гэта ўжо нічога не дасць, толькі адцягне праблему на дзень-другі і не больш, а далей што?..

— Дзяўчаты паехалі ў Вільню, на курсы, — пачаў было Антось, але старшына яго бесцырымонна перабіў:

— Дзяўчат ты сваіх хаваеш альбо ў хаце на гарышчы, альбо ў Старых Ракавічах, у цесцевай сядзібе. І пра гэта ведаю не толькі я адзін, але і камандзір. Чаго камандзір не ведае, дык гэта якой цаной ты адмазаў старэйшую ад вывазу ў Германію. не ведае, але можа даведацца…

Каб не вывезлі Стэфку ў Нямеччыну, Антось дамовіўся з Валодзькам Сідаровічам, які быў суседам і служыў нейкі час у паліцыі, наконт фіктыўнага шлюбу.

— Мне патрэбен час, трэба падумаць, трэба з жонкай параіцца, з дзяўчатамі пагаварыць…

— Няма ў цябе часу, дзядзька, няма. Але, як і просіш, адзін час табе дам. Роўна праз гадзіну я альбо мае байцы вернуцца за дзяўчынай… Мы хочам падарунак зрабіць камандзіру на Новы год… Ты можаш толькі вырашыць, якую аддаеш у якасці падарунка: большую ці меншую, па мне дык усё роўна… І есчо помні, што ўсякае тваё рашэнне не на карысць краснага камандзіра будзе табе і сям'і на загубу. Я ўсё сказаў…

Сказаў і пайшоў.

Гаворку іх і дзяўчаты, і Ганька, і нават дзеці — усе добра чулі. Таму, калі старшына выйшаў, тут жа ўсе паселі за сталом і сталі нешта прапаноўваць, але іх прапановы былі дзіцячымі, жаночымі і несур'ёзнымі. Да прыкладу, адправіць Стэфку і Стасю да Мяховічаў (да Ганькінай роднай сястры) ў Поўтраўшчыну. Але хто дасць гарантыю, што не паставяць астатніх да сценкі і не пастраляюць?.. Усім сысці з хаты, але куды ты ў калядныя маразы пойдзеш з дзецьмі? І хто будзе пры гаспадарцы? І ніхто не дасць гарантыі, што ад хаты не застанецца адны галавешкі. Пайсці заявіць немцам? Тады партызаны вёску спаляць. Прасіць дапамогі ў «акаўцаў», дык не стануць яны з-за дзяўчыны псаваць між сабою адносіны… Вынікала, што трэба некаму ісці. Але каму? Зразумела, што Стэфцы, пасля фіктыўнага шлюбу з Валодзькам, нельга было сунуцца да партызанаў. Стасі, якой нядаўна стукнула дзевятнаццаць, гэтак жорстка ламаць жыццё… Якім жа пасля гэтага трэба быць бацькам?.. Але ўся бяда была ў тым, што калі б хто і пайшоў, дык гэта не ратавала сітуацыю… Так, як знайшоўся нехта, хто расказаў партызанам пра дулю з макам, знойдзецца і такі, хто раскажа немцам пра тое, дзе дачка і чым там займаецца. І будзе так, як было з Шаргунамі… Болей таго, у траўні падыдуць гады Стасі да адпраўкі ў Нямеччыну, узнікне пытанне, дзе яна. І хто заместа яе паедзе? Ганька? Чатырнаццацігадовая Маня?.. Гэта добра было Клаве ляцець да партызанаў — ні сям'і, ні родных, ні блізкіх…

— Дык што будзем рабіць, бацька? — Ганька, уся ў слязах, з гэтым пытаннем звярнулася да Антося, можа, у які дзясяты раз. — Што будзем рабіць?..

А Антось усё маўчаў. Антось і не ведаў, што гаварыць. І не ведаў, што рабіць, а час ішоў, час ішоў хутка і бесперапынна.

— А можа, і трэба было б нам паехаць у тую Сібір, — скрозь слёзы гаварыла Ганька. — Там не было бы такога…

А хто можа ведаць, што там было б… Там, можа, такога і не было б. Але там было б другое…Чуў неяк Антось, што з сям'і ў дзесяць чалавек даязджалі да той Сібіры два-тры чалавекі — астатнія паміралі ў дарозе ад марозу і ад голаду.

— Так! — сказаў Антось рашуча і ўпэўнена, але тут у дзверы пастукалі.

— Так, усе за сценку, у тую хату, дзеці — на печ, Ганька і Пецька, застаньцеся тут, — на хаду даваў указанні Антось, бо ў дзверы зноў стукалі.

— Іду, іду, — вельмі спакойным голасам гаварыў Антось.

Неўзабаве ў хату ўвайшлі двое невядомых.

— А чаму старшына не прыйшоў? — пацікавіўся Антось.

— Ат, там з адным куркулём разбіраецца, — адказаў адзін з партызанаў.

— Ведаю я гэтага куркуля — Зінкай завецца, — удакладніў Антось. — А трэці ваш дзе?

— А ён на вуліцы, на ўсякі выпадак…

— Нам старшына казаў браць нейкую дзеўку і весці ў лес, — нагадаў другі партызан.

— Дзеўкі, дзе вы? Выходзьце! — гукнуў Антось так, як быццам гукае іх кожны дзень. — Па вас прыйшлі…

Калі Стася са Стэфкай не спяшаючыся выходзілі на свет, Антось неўпрыкметку кіўнуў Пецьку на чыгунную патэльню, і той, здаецца, зразумеў.

— На, Ганька, пасвяці лепей, — Антось падаў Ганьцы лямпу. — А вы выбірайце…

Але як толькі адзін з партызанаў стаў углядацца ў дзяўчат, Антось рэзкім ударам збіў яго з ног, а Пецька патэльняй штосілы агрэў па галаве другога.

— Ну, а цяпер спакойна можна іх звязаць. Вяроўкі! — як ні ў чым ні бывала гаварыў Антось.

Калі партызаны былі звязаныя, Антось выйшаў на вуліцу і ціха паклікаў трэцяга:

— Таварышч, ідзі пагрэйся, сто грам рвані, перакусі трохі, — даволі гасцінна запрасіў Антось. Але калі толькі «таварышч» пераступіў парог, тут жа быў аглушаны патэльняй па галаве.

Пасля Антось падлічыў «трафеі» — тры вінтоўкі, тры пісталеты, плюс патроны.

— Ну вось, — сказаў ён, — шэсць чалавек можна ўзброіць.

— Ты што надумаў, Антось? — захвалявалася Ганька. — Ты з кім ваяваць збіраешся? Ты што, здурнеў?

— Будзе відаць, — спакойна прагаварыў Антось.

На пытанне Ганькі «што будзе відаць?» Антось не адказаў. Ён і сам вельмі цьмянна ўяўляў, што будзе рабіць са звязанымі партызанамі. Добра было б пратрымаць іх дзе-небудзь да прыходу партызанаў (а тое, што яны прыйдуць, ён ужо не сумняваўся) і патаргавацца з імі, толькі ў хаце палонных трымаць няма як, а ў іншым месцы пры такім марозе яны адубянеюць.

Пад самую раніцу Антось неўпрыкметку перавёў палонных партызанаў у Пуценькаву хату. Хата пуставала і была няпаленай, але ў верхняй вопратцы (а партызаны былі добра адзеўшыся) можна было перасядзець нейкі час.

Пасля таго як Антось размеркаваў у Пуценькавую хату партызанаў, ён адправіў дзяцей і Ганьку з дзяўчатамі ў Старыя Ракавічы, а сам паціхеньку стаў аглядаць гас-

падарку і чакаць вечара. Той калядны дзень, які з’яўляецца адным з сама кароткіх дзён у годзе, паказаўся для Антося нашмат большым, чым іншы раз дзень купальскі. Калі прыпадае пара сенакосу, не агледзішся, як сонца схіліцца да краявіду, а тут і сенажаць хацелася б дакасіць, і сена перавярнуць, і ў копкі варта было б скласці падсохлае, і яшчэ, здаецца, рабіў бы і рабіў, але цямнее і пара дахаты.

А сёння як назло. Соўгаўся Антось туды-сюды падворкам, не ведаючы, чым заняцца, хаця якая святам работа: управіўся з гаспадаркай, занёс пару бульбін, кіпеню і па куску хлеба палонным партызанам — і ўся работа. А калі б усё было добра, смакаваліся б усёй сям’ёй куццёй і спявалі б разам з дзяцьмі калядныя песні… А тут і сонца выглянула і быццам стала колам над хлявом, і гадзіннік, як сапсуты, перастаў нармальна перасоўваць стрэлкі, і сон не ідзе, хаця цэлую ноч Антось не спаў. А калі, нарэшце, стала шарэць, Антось яшчэ раз праглядзеў і паклаў перад сабой на стол пісталеты, а на лаўку побач з сабой паклаў вінтоўку, не зусім асэнсоўваючы, для чаго. Антось чакаў вельмі доўга. Ён яшчэ добра памятаў, як гадзіннік прабіў дзесяць разоў, пасля яшчэ два разы біў вельмі доўга, а пасля зусім перастаў біць.

Пастукалі Антосю пад раніцу.

— Хто? — хрыплым голасам спытаўся Антось.

— Збірайся і пайшлі, — пачуў ён знаёмы голас. — Цябе сям’я чакае і камандзір.

Антось страпянуўся і імгненна апынуўся каля дзвярэй.

— Дзе чакае?

— Там, куды ты іх паслаў… Але ж і дурань ты, — у голасе старшыны адчуваліся нейкія спачувальныя ноткі. — Пайшлі хутчэй, бо камандзір наш не вельмі цярплівы, можа закончыць усё да нашага прыхода…

— Што закончыць?

— Экзекуцыю… Але ж і дурань… Знайшоў з кім у вайну гуляць…

Антось пазапіхваў пісталеты ў кішэні, накінуў на плячо вінтоўку і выскачыў на двор:

— Пайшлі!

Але яго тут жа падхапілі пад пахі дзве пары дужых рук, а старшына спрытна выбіў пісталеты з кішэняў і забраў вінтоўку.

— Так будзе лепш, — сказаў ён. — А цяпер пайшлі, ваяка.

«Хрумсць, хрумсць, хрумсць», — неяк трывожна зарыпеў снег пад нагамі ў кожнага, і так гучна, што, здавалася, зараз абавязкова нехта пачуе і падыме лямант. А можа, і добра было б, каб паднялі гэты лямант. Але навокал была цішыня, і толькі раз-пораз даносіўся сабачы брэх з панскага двара Дабрынскага.

Антось ішоў як пад канвоем: спераду старшына, пасля ён, ззаду два партызаны з вінтоўкамі.

Калядныя ночы заўсёды ўражваюць сваёй нейкай таемнасцю. Як заўважыў Антось, на каляды абавязкова ачышчаецца ад хмар і праясняецца неба, і тады безліч зорак з нябесным сторажам — месяцам пільна ўглядаюцца на зямлю. А яшчэ ў такую ноч трэба як мага больш дыхаць паветрам — насычанае марозам і святочнай сакральнасцю, яно ачышчае лёгкія, узбагачае кроў, праясняе розум…

Але зараз Антосю было не да паветра.

— Дык што здарылася, старшына? — запытаўся Антось як ні ў чым не бывала, калі выйшлі на Бутрымаўшчыну. Такое жыццё навучыла Антося: галоўнае не траціць развагі, ніякіх эмоцый і нашмат лепш прыкінуцца прастачком, чым дэманстраваць свой праніклівы розум.

— А ты ведаеш, дзядзька, анічога такога, — на гэты раз неяк зларадна прагаварыў старшына. — Камандзір выкрыў махровага ворага савецкага народа, антысаветчыка і сабатажніка, асуджанага савецкімі законамі за здраду і контррэвалюцыйную дзейнасць, але прысуд не быў выкананы ў сувязі з вераломным нападам нямецка-фашысцкай Германіі на мірны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік…

— Ты гэта пра каго, пра куркуля?

— Ага, пра куркуля, ды яшчэ якога… Падсунуць краснаму камандзіру паліцэйскую падсцілку — гэта ж горш за дыверсію… Камандзір як даведаўся, прыстрэліць хацеў і мяне, і Клаву… І прыстрэліў бы, калі б Клава жывот свой не паказала…

— Ах вось яно што! А пры чым тут я? — здзівіўся Антось. — Я пра паліцэйскага і сам анічога не ведаў. Дый мала што людзі гавораць… А Клава…

— Глохні пра Клаву! — гаркнуў старшына, і Антось замоўк.

— Ты лепш скажы, — загаварыў праз колькі крокаў старшына, — дзе маіх хлопцаў закапаў?

— У Пуценькавай хаце твае хлопцы, грэюцца… Вунь хата, — Антось паказаў рукой, балазе адышлі недалёка, а ноч была светлай.

Старшына ўважліва паглядзеў на Антося, а пасля загадаў аднаму з партызанаў схадзіць па хлопцаў.

Неўзабаве яны ішлі даволі ладнай групай у сем чалавек, што не вельмі было добра ў такую светлую ноч.

— Трэба Багданоўку абысці гаем, пасля на Янавы кусты, і рэчкай амаль што да самай хаты падыдзем, — прапанаваў Антось.

Хаця кусты зімой асабліва хованкі не ўяўлялі і ісці праз іх было не проста — снегу ў пояс, але ўсё ж такі кустамі ісці было бяспечней, чым сунуцца такой групай вакол нямецка-літоўскага апорнага пункта, а пасля праз вёску.

Старшына моўчкі павярнуў на гай.

Уся шматлюдная Антосева сям'я кучкай сядзела перад хатай на падворку пад двума дуламі аўтаматаў. Тое, што дзяўчаты і Ганька былі без хустак і без верхняй вопраткі, наводзіла на думку, што выганялі іх з хаты гвалтам і не далі адзецца нават дзецям. А што ўхапілі старэйшыя з вопраткі, аддалі меншым. Антось на хаду скінуў з сябе заношаны бурнос і накінуў на дзяўчат.

Старшына ў гэты час пайшоў у хату і далажыў камандзіру.

На ганак выйшаў даволі рослы, гадоў трыццаці пяці нябрыты мужчына і закамандаваў:

— К стенке всех!

А пасля паклікаў да сябе Антося, і калі Антось наблізіўся, камандзір, нічога не гаворачы, ударыў яго кулаком у твар. Антось рэзка адхіснуўся назад, але на нагах устаяў. Тут жа на яго накінуліся, як галодныя гончыя на дабычу, пакрыўджаныя Антосем і патэльняй партызаны, каб дабіць, але камандзір сказаў: «Отставить!»

— Каждого врага советского народа настигнет суровая кара советского закона рано или поздно! — неяк урачыста абвясціў старшына.

— Камандзір, ён пра каго? — падаў голас Антось. — Якія яны ворагі савецкага народа? — Антось кіўнуў на дзяцей.

— Разговорчики в строю! — гаркнуў камандзір. — Молчать!

— Камандзір, вайна ідзе… Якія законы? — выплёўваючы крывавы плявок, дапытваўся Антось.

— А советские законы никто не отменял, контра! — заявіў камандзір і, як ні дзіўна, ён нічога не гаварыў старшыне, ён толькі вачамі паказаў на Антося, і байцы хуценька скруцілі яму рукі за плечы, а пасля камандзір кіўнуў галавой на астатніх, на хату, і старшына толькі кіўнуў галавой у адказ. Ды і так было ўсім зразумела, што іх чакае.

— А-а? — старшына кіўнуў на дзяўчат.

Камандзір паматаў галавой:

— Одна с полицаем связана, другая — малая, — растлумачыў ён і абыякава кінуў: — Через пятнадцать минут начинай.

І камандзір з пяццю байцамі пайшоў у цемнату.

— Стой, камандзір! — раптам закрычаў Антось і скрывіўся ад болю ў пашчэмцы. — Старшына, затрымай камандзіра!

— Товарищ командир! — крыкнуў у цемнату старшына. — Смертник побазарить хочет…

— Не о чем мне с ним базарить, — данеслася з цемнаты…

— Старшына, скажы яму, што ў яго дзве раны: адна каля сэрца, — другая ніжэй лёгкага і радзімы знак, — перамагаючы боль у пашчэмцы, гаварыў Антось.

— Товарищ командир, тут смертник несёт про какой-то знак у вас и две дыры возле сердца…

— Какие знаки, какие дыры? — данеслася з цемнаты. — Кончай с ними!

— Есть! — адсалютаваў старшына і паглядзеў на гадзіннік.

— Тата, ты на што разлічваў? — неяк здзеклівa, як у насмешку ўсё роўна, спытаўся Пецька, які сядзеў тут жа таксама са звязанымі рукамі.

Антось прамаўчаў, але Ганька, нутром сваім адчуваючы, што зараз робіцца ў душы Антося, ціха прагаварыла:

— Пеця, не чапай бацькі! Бацька ведае, што робіць… Давай лепш маліцца…

— Ага, ведае, — ухмыльнуўся Пецька, але больш нічога не сказаў.

Невялікую паўзу парушыў старшына:

— А што твае толькі моляцца, а не плачуць, не галосяць, не просяцца? — спытаўся неяк здзіўлена ён у Антося.

— Чаму не поўзаюць, боты не ліжуць? — дапоўніў Антось. — Ты гэтага хацеў?

— Не, не абавязкова гэта…

— А таму, што прывыклі да расстрэлаў, не першы раз да сценкі ставяць…

— Вось відзіш, дзядзька, які ты врэдны — цябе ўсе страляюць, — абрадаваўся старшына. — І я не першы, хто будзе страляць…

— Ну, то і не апошні…

— Не, дзядзька, калі я буду страляць, дык гэта для цябе будзе апошні расстрэл…

— Толькі вось ты мне скажы, стралок варашылаўскі, за што страляюць? — спытаўся Антось. — Бо ніхто ж не кажа…

— За што? — тут старшына і сам задумаўся. Яму прыходзілася страляць у людзей, але каб пры гэтым ды яшчэ думаць, за што… Загадалі — пайшоў і зрабіў. — Як «за што»? Ты сарваў план аперацыі па выкананні спецзадання! А па законах ваеннага часу табе ніхто страгача за гэта ў асабістую справу не будзе заносіць — толькі расстрэл.

— Я анікуды не лезу, анікога не чапаю, але кожнаму ад мяне нешта трэба, — разважаў Антось услых. — За што такі лёс?..

— А не дуры ты сабе галаву, дзядзька… На тым свеце даведаешся, — зноў не то жартам, не то ўсур'ёз параіў старшына.

Са старшыной асталіся два партызаны з аўтаматамі, якія моўчкі назіралі за тым, што тут адбываецца. Гледзячы на іх, Антось падумаў: «Аўтаматчыкі — усё як у немцаў».

— А каністра дзе? — спытаўся Антось.

— Якая каністра? — не зразумеў спачатку старшына. — А-а, каністра, загарыцца і так…

— А вось дзеля інтарэсу, старшына, скажы, мне ўжо ўсё роўна, колькі ты людскіх хат спаліў? — зацікавіўся Антось.

— Хат? — здзівіўся старшына. — А хто там лічыў тыя хаты, калі вёскі гарэлі…

Антось хацеў яшчэ спытацца, якія вёскі. Але якая розніца? Неяк само сабой вырвалася іншае пытанне, больш балючае і больш звыклае, чым «якія?»:

— За што хоць палілі?

— За што? — перапытаў старшына. — Спецзаданне… А так, іншы раз, крыўдна было, калі немцаў сустракалі як гасцей, а нас — як бандытаў. Прыходзілася іншы раз нават пераадзявацца ў нямецкую форму…

Антось замоўк. Ён зразумеў, што старшына гаворыць пра спецзаданне толькі таму, што Антосю засталося жыць лічаныя хвіліны… З такімі сакрэтамі людзі доўга не жывуць.

Антось стаў маліцца. Маліўся неяк па-свойму: у думках чытаў «Ойча наш», але думкі збіваліся на адно і тое ж пытанне: А ці правільна ён зрабіў? Звонку атрымлівалася, што гэта ён ва ўсім вінаваты. Ці зразумеюць дзеці, што ў гэтай сітуацыі выхаду не было, нават калі б і рабілася ўсё так, як яны хацелі? Але і тады ўсё закончылася б так, а не інакш, толькі на месцы старшыні быў бы Гаўлятар, і яшчэ была б вялікая ганьба для дзяўчат і для яго — бацькі, які падсцяліў сваіх дачок пад партызанаў, і для ўсяго роду была б ганьба… На што ён разлічваў?.. Правільнае пытанне задаў Пецька. Што граха таіць, разлічваў ён на адзін-два адсоткі, не болей, на тое, што гэтыя партызаны ўсё ж такі рускія людзі, славяне… І разумеюць яны адзін аднаго без перакладчыкаў, а гэта шмат чаго варта… А колькі ўжо гаварылася пра славянскае братэрства і славянскае адзінства! Але, мусіць, ніякія яны не славяне… І ім ўсё роўна, каго ставіць да сценкі… А камандзір?… Няўжо гэта той камандзір? Нешта было ў ім знаёмае, асабліва калі загаварыў… Няўжо адумысля ён не хацеў прызнаць іх… І яшчэ, што вельмі важна, Антось не адчуваў перад гэтымі забойцамі яго і сям'і ні страху, ні трывогі. Дый

калі шчыра казаць, дык і не было ў яго адчування смерці, так, як не было яго тады, калі іх расстрэльвалі немцы, пасля нейкі шалёны «рускі атрад», пасля «акаўцы»…

Ганька папрасіла старшыну, каб вынес з хаты абраз Багародзіцы Вастрабрамскай. Старшына спачатку ўпёрся, маўляў, вам ужо ніхто не дапаможа, ні Багародзіца, ні Сын Божы, а святы Пётра ў варотах раю вас і так прыме, але, калі Антось нагадаў пра апошнюю волю, адзін з партызанаў прынёс абраз.

А вось гэтыя пятнаццаць хвілін, разлічаныя, відаць, на тое, каб камандзір адышоў трохі далей ад месца здарэння, праляцелі як адна хвіліна.

Старшына глянуў на гадзіннік і, як быццам на рыбалку, клікнуў сваіх памагатых:

— Ну, парни, давайте сюда, надо закончить быстренько, — і аўтаматчыкі хутка навялі свае рулі на людзей.

— Старшына, дзяцей хоць пашкадуй, — звярнуўся Антось. — Не бяры грэх на душу, дзеці тут ні пры чым.

— Дети врагов народа есть такие же враги, как и их родители! — як па-завучанаму адрапартаваў старшына. — И у меня приказ, за невыполнение которого меня самого поставят к стенке.

Дзеці, трэба аддаць ім вартае, трымаліся добра, але, калі зразумелі, што гэта, магчыма, іх апошнія хвіліны, сталі плакаць. Прытым Валік, самы меншы, кінуўся Ганьцы на шыю, прыгаворваючы, што ён не хоча паміраць. Нешта падобнае лапатала і маленькая Вылінка. Старэйшыя маліліся праз слёзы і плач.

— Так, парни, стреляем на «три»! — камандаваў старшына.

І тут адзін з партызанаў раптам заявіў:

— Я в детей и женщин стрелять не буду!

— Это приказ! — прарычаў старшына. — Тут все враги, тут край такой, тут надо всех стрелять без разбору…

Але партызан апусціў рулю аўтамата і нават адышоў трохі ўбок.

Гэты партызан прыцягнуў увагу ўсёй сям'і, дарэчы, гэта ён прынёс абраз Багародзіцы, — малады хлопец, можа, нават аднагодак Стэфкі, ці на пару гадоў старэйшы, дорыць ім не толькі яшчэ некалькі хвілін жыцця, а нешта нашмат большае, чым гэтыя хвіліны…

— Сопляк! Пойдёшь под трибунал! Под расстрел пойдёшь за невыполнение приказа! — накінуўся на яго старшына. — Давай сюда автомат!

«Чаму ж такім недарэчным і недасканалым Божа пакінуў гэты свет? — падумаў у гэты момант Антось. — Чаму праяўленне высокай чалавечнасці ў гэтым свеце патрабуе абавязкова ахвярнасці?.. Прыстрэліць зараз яго старшына разам з імі… А толку…».

— Не дам автомат! — раптам заўпарціўся партызан.

— Хлопец, не дуры, бо загінеш разам з намі, — даў параду Антось.

— Ах ты гнида! — прагаварыў старшына і ў адзін момант рэзкім скачком пантэры апынуўся каля партызана і ўдарыў яго рукаяткай пісталета ў твар. Яшчэ некалькі хвілін яны валтузіліся на зямлі, пакуль не перамог старшына. Ён яшчэ раз ударыў хлопца па галаве і рэзка вырваў аўтамат з яго рук.

Другі партызан спакойна пазіраў за гэтым паядынкам.

Старшына тым часам ускочыў на ногі, ляскнуў затворам і навёў аўтамат на дзяцей, на жанчын і на Антося.

— Цябе прыстрэлю апошнім, — паабяцаў ён Антосю. — Каб ты бачыў, як загінула сям'я праз тваю дурасць.

На што Антось ніяк не адрэагаваў.

— Итак, слушай мою команду! Раз, два...

— Отставить, старшина! — раптам гучна данеслася з цемнаты.

Старшына прыслухаўся.

— Что это, показалось, что ли? — спытаўся ён невядома ў каго. — Может, ты сказал? — звярнуўся ён да маладога партызана, які толькі што адмовіўся выконваць загад.

Той пакруціў акрываўленай галавой.

— Это я сказал! — пачулася трохі бліжэй і з цемнаты шпарка выбег камандзір. Гэтак жа шпарка ён падышоў да Антося, яшчэ раз вельмі пільна ўгледзеўся ў твар і ціха сказаў: — Так это ты, товарищ...

— Я і вот яны, — Антось кіўнуў на Ганьку і дзяўчат.

Камандзір гэтак жа пільна прыгледзеўся да дзяўчат і Ганькі і ўсклікнуў з дакорам:

— Так а что ж вы сразу не сказали?

— А надта тут у цемнаце разбярэшся, — слаба апраўдваўся Антось.

— А почему раньше не сказали старшине?

— Скажаш тут... Ведаеш, каму гаварыць... А пасля за гэта іншыя паставяць так, як зараз стаім...

— Автоматы опустите! — загадаў камандзір сваім байцам і тыя, нічога не разумеючы, адышлі ўбок.

— А вы все в дом греться, — кіўнуў ён на дзяцей і жанчын.

Але, перш чым пайсці ў хату, усе акружылі маладога партызана: і Ганька са старэйшымі, і меншыя дзеці сваім абавязкам палічылі абняць хлопца і падзякаваць яму за ўратаванне.

Маёр тым часам дастаў з левай нагруднай кішэні маленькі прадмет і на далоні працягнуў яго Антосю:

— Тот?

— Той! — кіўнуў галавой Антось.

— А вот эту дырочку видишь тут, на кителе?

Антось прыгледзеўся і на той жа кішэні, адкуль маёр дастаў асколак, убачыў маленькую, быццам прапаленую папяросай дзюрачку.

— Осколок пулю задержал, — растлумачыў маёр.

Антось ад здзіўлення аж прысвіснуў. Гэта ён тады, калі Чубік дастаў асколак з-пад сэрца параненага маёра, палажыў яго ў нагрудную кішэню маёравага кіцеля.

— А я как-то полез в карман, гляжу, бляшка какая-то, — гаварыў маёр. — Хотел выкинуть, а потом думаю: выкину позже, а тут на засаду нарвались...

— Пайшлі ў хату, — прапанаваў Антось, — там і пагаворым.

І ўсе моўчкі пайшлі ў хату. Толькі сямігадовы Юзік, які нёс абраз Багародзіцы, праходзячы каля збянтэжанага старшыні, спыніўся і даволі гучна прагаварыў:

— А ты, сабака, казаў, што Багародзіца не паможа...

Камандзір і партызаны засмяяліся, а Ганька прыкрыла малому рот далоняй, каб яшчэ чаго не ляпнуў.

Не смяяўся толькі Антось. З аднаго боку, ён радаваўся, што сям'я засталася жыць, і гэта самае галоўнае. З другога — недзе далёка ўнутры, можа ў падсвядомасці, не даваў яму супакою чарвячок сумнення таго, што, каб не ўратавалі яны тады, у першыя дні баёў, жыццё гэтаму камандзіру, дык анічога такога і не было б: не было б старшыны, клопатаў, перажыванняў, бяссонных начэй і не было б чарговага расстрэлу… Ці на яго месцы быў бы другі такі камандзір, які нічым не быў бы ім абавязаны?..

Антось падышоў да партызана, які адмовіўся страляць, моўчкі моцна паціснуў яму руку, а пасля гэтак жа моцна абняў, як брата… і ў абаіх пацяклі слёзы, прычыну якіх растлумачыць было немагчыма…

нарадзіўся 17 сакавіка 1956 года ў вёсцы Труханава Смаргонскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1985) і аспірантуру (1997), кандыдат культуралогіі, дацэнт. Аўтар вучэбнага дапаможніка «Біблія ў кантэксце беларускай культуры» (2003), манаграфіі «Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі» (2013), кніг «Партрэты ў інтэр'еры Гародні: пародыі, эпіграмы» (2013), «Саветы» (2015). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Гродне.





УЛАДЗІМІР ХІЛЬМАНОВІЧ

## Сярпом па пальцах

*Афарызмы*

Напісаў геніяльныя радкі, але ў друкарцы скончылася папера.

Старыя афарызмы як бутэлькі са старым віном: пакрываюцца пылам, але набываюць яшчэ большую вартасць.

Жабры зямлі здушаны чорным асфальтам.

Гарадскі сабака не бяжыць нават за роварам.

І лежачы можна ісці да мэты.

Тут быў адвакатам, а ў пекле стаў катам.

Коцік Барсік быў перакананы, што Зямля трымаецца на трох катах.

У чэрапе чалавека завяліся думкі, але іншыя людзі казалі: «У яго тараканы ў галаве».

«Далей маўчаць нельга!» — падумала рыба, разявілася і заглынула кручок.

Для бальшыні людзей галоўным у слове «прыярытэт» ёсць «я».

На схіле веку бракуе часу чалавеку. А ў маладосці ўсё чакаецца чагосьці.

Лысіна, якая блішчыць на сонцы, не ёсць свяцілам.

«Танкі і хакі — гэта нашы ўлюбёныя формы паэзіі», — гаварыў генерал падначаленым.

На конкурсах міс прыгажосць — не надта ўжо частая госць.

Найбольш наша планета падабаецца людзям пры сыходзе з трапа самалёта.

Бясконцае зорнае неба разбіваецца для п’янага на дне лужыны.

«Як тут выступаць — вакол адны голыя сцены?!» — абуралася стрыптызёрка.

Ацяпляльныя батарэі, замураваныя ў сцяну, значна змяншаюць камунікацыю з суседзямі.

Дарвуцца да карыта — і кажуць, што яны эліта.

Гумар — рэч тонкая, можа і парэзаць.

У каханні, як на вайне, ахвяры можна злічыць толькі з часам.

Стрэлы Амура часта разбіваюцца аб мур чалавечага сэрца.

Рамэа дабіўся кахання Джульеты, але гэта была Шэкс-пірава перамога.

Першае каханне рэжа, як лязо нажа, апошняе б’е, як абух сякеры.

Розніца паміж мужчынамі: адныя залазяць пад спадніцу, іншыя пад яе хаваюцца.

Рогі — гэта прэрагатыва жанатых мужчынаў.

У дачыненні да жанчын мужчыны падзяляюцца на целаахоўнікаў і целаахвотнікаў.

Не шукайце жанчыну, бо яна вас ашукае.

З усіх асобаў жаночага роду найбольш запамінаюцца дзве: першая жанчына і тая, што прыходзіць з касой.

Нават жаночыя манекены падманваюць.

Вальпургіева ноч — гэта міжнародны жаночы дзень.

Яны правялі ноч у адной пасцелі, але так і не сустрэліся.

Эвалюцыя погляду: назіраў здалёк, падглядваў за целам, заглядваў у душу, прыжмурваў вочы, заплюшчыў іх назаўсёды.

Баба з возу — каню лягчэй. Толькі пра каня і думалі.

Жанчына мусіць быць у маладосці крыніцай натхнення, а ў старасці — крыніцай міласэрнасці.

Мужчыны позна прыходзяць, жанчыны позна вяртаюцца.

Любоўныя раманы бываюць кароткімі, як апавяданні.

Паміж М. і Ж. трэба заўсёды ставіць кропку над «і».

Тыя, што высока задзіраюць нос, ніколі не бачаць Неба.

Сучаснікаў становіцца ўсё менш: адны апярэджваюць свой час, іншыя жывуць у мінулым.

Тыраназаўры даўно вымерлі, а тыраны ўсё плодзяцца.

Фіга ў кішэні — гэта зялёны плод пратэсту.

Калі прынцы становяцца каралямі, яны часта губляюць прынцыповасць.

Гісторыя не прымае не толькі ўмоўнага, але і разумнага ладу.

У спісе сваіх ворагаў ты сам заўсёды на першым месцы.

Калі прыходзіць вера ў Бога, пакідае надзея на чалавецтва.

У Бога дарог многа, а чалавеку выйсця няма.

Чалавек пакутуе на адзіноту таму, што Бог стварыў яго паводле свайго падабенства.

Адкрыць вочы на гэты свет можа толькі сляпая вера.

Пісьменніка і графа Льва Талстога праваслаўная Царква лічыць грахаманам.

Чалавеку наканавана жыць у страху: атэісты баяцца смерці, а вернікі — жыцця пасля смерці.

Спакушаць усіх — гэта і ёсць д’ябальская справядлівасць.

Колькасць без ліку ахвяр, паўшых у баі за даляр.

Ніколі не купіш індульгенцыю за трыццаць срэбранікаў.

Бляск залатога цяльца для многіх ёсць жалезным аргументам.

Лісліўцы віляюць галовамі, нібы хвастамі.

Злы чалавек той, хто не любіць вясковага сабаку.

Флюгеры вышэй, чым вентылятары, таму што круцяцца ў розныя бакі.

Праўда — гэта палка з двума канцамі: адзін б’е па табе, другі дабівае.

Знайшоў падкову на шчасце — лічы звычайная выпадковасць.

Безліч людзей любіць мора, і толькі адзінкі — акіян.

Пустое месца можа сведчыць пра змястоўнасць таго, хто яго не заняў.

Падобна на тое, што ў кнізе лёсаў бываюць выдраныя старонкі.

Дабро ўрэшце пераможа. Можа…

Гэты свет недасканалы — ніяк не можа сканаць.

Матэматыкі — сама вялікія дагматыкі, бо два на два можа быць не чатыры, а дзве пары.

Калі б я меў добры зрок, даў бы сабе зарок многае не бачыць.

Часта жыццё складаецца з чорна-белых палосаў: чорныя — гэта калі ўсё кепска, а белыя — калі няма нічога добрага.

І хросны бацька можа быць блудным сынам.

Колькі ў нас рэальных кандыдатаў у голыя каралі!

Кожнаму келіху хочацца быць разбітым на шчасце.

Кнігі даюць для людзей занятак: адныя іх пішуць, другія чытаюць, трэція паляць.

Самая няшчасная геаметрычная фігура — шар. Ён цэлы час змушаны круціцца.

Пра густы не спрачаюцца, калі няма чаго есці.

Час выбраў нас, а мы яго перабралі.

Людзі звыклі не глядзець у зубы падараванаму каню, нават калі ён Траянскі.

Яблык спакусы, яблык разладу… Высекуць яблыню з райскага саду.

З выступу адваката: «Падсудны акуратна націснуў на курок, але незнарок».

Мэта апраўдвае сродкі. Забілі паэта — цяпер святкуюць угодкі.

«Кот сказаў “гаў-гаў” — якое ноў-хаў!» — шапталіся мышы.

«Я — з’яўнік альтэрнатыўнай музыкі!» — выхваляўся альт кантрабасу.

«Скрыпка, ты мне не пара! — заганарылася гітара. — У мяне ажно шэсць струн!» — «Затое табою лёгка авалодаць» — парыравала скрыпка.

Надпіс пад партрэтам: твар невядомага аўтара.

Паэт надрукаваў новую нізку вершаў. «Занадта нізка для высокай паэзіі», — напісаў крытык.

Тварыць на чужой мове гэтак жа цяжка, як падмятаць падлогу сваім языком.

Чорны квадрат для многіх творцаў стаў Бермудскім трыкутнікам.

«Каралева пайшла налева», — пляткарылі звяры (конь і слон) на шахматным двары.

Неўзабаве і шахматы звінавацяць у расізме: пачынаюць жа заўсёды белыя.

Фемінізм дасягнуў нават шахматаў: каралева стала ферзём.

«Сачы за фігурай!» — папракала ладдзя пешку.

Пешкі заўсёды імкнуцца ў ферзі, фігуры — ніколі, бо яны і так асобы.

Слон — самая трагікамічная фігура: назва гучная, а сілы як у каня.

Не выпусціла свой сыр — адразу назвалі белай варонай.

Ёсць спадзяванне, што ў раі няма райвыканкамаў.

У савецкай архітэктуры пераважае стыль вампір.

Узышоўшы на гару, альпіністка адчула сябе пікавай дамай.

З вышыні буслінага палёту жабе раем здаецца балота.

Ляжаць на бруднай падлозе намнога прыемней, чым вісець пад белай столлю.

Гады бяруць сваё, а людзі — чужое.

Калі чытаеш чужыя афарызмы, так і карціць нешта скараціць.

Паставіўшы кропку, думаецца — як шмат варта было б яшчэ выкрасліць.

(псеўданім Ладзік Майніч) нарадзіўся 6 красавіка 1967 года ў мястэчку Каменка Шчучынскага раёна. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы (1991). Краязнавец, публіцыст, пісьменнік. Друкаваўся ў газетах «Пагоня», «Ніва», калектыўных зборніках. Аўтар каляндарных даведнікаў і літаратурна-краязнаўчых нарысаў «Беларускае золата» (2014). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Гродне.





ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ

## Маланабздзейкаўскія гістарычныя хронікі

*Фрагменты з рамана*

Сам раман ахоплівае перыяд ад XIV да XXI стагоддзя. У ім многа крыві, многа інтрыгаў, і ў лёсе мястэчка Малыя Набздзейкі, як у люстры, адбіваецца ўся гісторыя нашай мілай Радзімы ВКЛ, Беларусі, Северо-Западнога краю — як каму падабаецца…

*Ад аўтара.*

**19. Местечко Малыя Набздзейки**

«…И когда истомленный дорогой путешественникъ движется черезъ всхолмленія, кои на географическихъ картахъ означены какъ Козьи Горы, постепенно, приблизительно черезъ версту, его взору открываются добротно воздѣланныя поля, засѣянныя гречкою, коноплею и пшеницей, знаменитые зеленые луга съ дзенцелиною (разновидность дикаго клевера), воспѣтые въ «Панѣ Тадеуше» уроженцем здѣшних мѣстъ, риѳмосочинителемъ Мицкевичемъ, широкая пойма рѣки Спердзь, и лежащее по обѣимъ ея берегамъ мѣстечко Малыя Набздзейки, извѣстное изъ древнерусскихъ лѣтописей съ двенадцатаго столѣтія. Мѣстечко это было въ древности столицею удѣльнаго мелкаго княжества, коіе получилъ отъ отца своего, легендарнаго литовскаго вельможи Дрочимонта Ольгердовича, по наслѣдству и коимъ правилъ семдесятъ лѣтъ жестокій и кровавый князь Набздзей Малый по прозвищу Шакадынецъ. Слово сіе, древнелитовскаго и кореня, и происхожденія, помнятъ здѣсь и досель, а Шакадынцами, обидѣвшись или разозлившись, мѣстные жители обзываютъ особѣй жестокихъ и неправедныхъ, для нихъ это слово хуже браннаго. Послѣ смерти послѣдняго Дрочимонтовича, бездѣтнаго, страдающаго отъ множества мучительныхъ и жестокихъ постыдныхъ хворей и впавшаго въ слабоуміе Савки Суроваго, князь великій литовскій Витовтъ законнымъ образомъ присоединилъ Малонабздзейковскую вотчину въ 1422 году къ Великому княжеству Литовскому. Мѣстечко стало княжеской, а затѣмъ и королевской собственностію, получило полное магдебургское право въ 1512 году, славилось когда-то знаменитыми своими «кирмашами», что на мѣстномъ діалектѣ означаетъ ярмарками, на десятое число каждаго мѣсяца, платило податей въ королевскую казну не менѣе Бреста Литовскаго и Дрогичина надъ Бугомъ…

Упадокъ совершенный значенія Малыхъ Набздзеекъ произошелъ вслѣдствіе важныхъ историческихъ событій — шведскаго Потопа, раздѣловъ угасающей Рѣчи Посполитой и многочисленныхъ и безсмысленныхъ польскихъ бунтовъ, въ которыхъ мѣстные жители принимали живѣйшее участіе, за что потомъ расплачивались имущественно. Необъяснимое событіе произошло во время послѣдняго январьскаго польскаго «возстанія», когда отрядъ мятежниковъ подъ командою здѣшняго мелкаго помѣщика Мендзыблоцкого, спасаясь отъ преслѣдованій регулярныхъ пра-

вительственныхъ войскъ, ушелъ ночью въ заповетный лѣсъ въ верстѣ отъ Малыхъ Набздзеекъ, именуемый Віосковщиной, и тамъ же благополучно пропалъ, и даже по прошествіи столькихъ лѣтъ, до сихъ поръ никакихъ отъ нихъ свѣдѣній ни родственники, ни близкіе не получали…

Преданіе, записанное отъ мѣстной мѣщанки Петронеліи Козюковой собирателемъ литовскаго фольклора Михаиломъ Федеровскимъ, гласитъ, что мѣстечко возродится изъ пепла и обрѣтетъ былую славу и почетъ тогда, когда невинная душа, юношеская или дѣвическая, выловитъ изъ водъ рѣки Спердзь бѣло-красно-бѣлаго рака съ золотыми усами, и тогда же возвратятся пропавшіе бунтовщики, и отыщется знаменитый старинный колоколъ, снятый когда-то закристіаномъ (помощникомъ священника) съ колокольни въ канунъ послѣдняго польскаго бунта и закопанный въ неизвѣстномъ мѣстѣ, а сіе случится не скоро…

Изъ архитектурныхъ примечательностей путешественнику слѣдуетъ обратить вниманіе на роскошный римско-католическій каменный костелъ съ великолѣпнымъ органомъ, православную церковь, въ коей сохраняется чудодѣйственный образъ Дѣвы Новодворской, помогающей, однако, только туземнымъ жителямъ, и очень древнюю синагогу, которая, по словамъ мѣстныхъ Іудеевъ, построена была въ десятомъ столѣтіи, и, стало быть, вѣря ихъ словамъ, Израэлиты появились въ долинѣ надъ Спердзью ранѣе Славянъ…

За небольшую плату служка откроетъ вамъ синагогу и покажетъ мѣсто на полу съ впечатанными въ каменные плиты слѣдами босыхъ стопъ, откуда вознесся прямо на небо живьемъ мѣстный еврейскій праведникъ, раввинъ Нахумъ, также за плату служка отведетъ васъ на мѣстный киркутъ и покажетъ его же, раввина Нахума, могилу. Парадоксальность сихъ взаимоисключающихъ явленій самихъ мѣстныхъ чтителей Торы не смущаетъ, они и изъ воздуха, и изъ пустого мѣста научились добывать себѣ пропитаніе. А за рубль серебромъ вы сможете услышать невѣроятную исторію о письмоносцѣ по имени Абрамко, который, служа нарочнымъ у мѣстнаго почтмейстера, своевременно доставлялъ важную телеграмму въ неблизкое мѣстечко Подоросскъ. Тамъ же застала его ранняя осенняя ночь, а поскольку возвращаться домой было опасно ввиду появленія въ здѣшнихъ лѣсахъ большой стаи волковъ, то онъ попросился на ночь къ кладбищенскому сторожу. Сторожъ, видя передъ собой стараго подслѣповатаго Іудея, тѣмъ болѣе знакомаго, ибо поселяне въ такихъ мѣстностяхъ знаютъ всѣхъ и вся, сжалился и помѣстилъ его, заперевъ дверь снаружи, въ кладбищенскую часовню, сказавъ, что къ утру придетъ и выпуститъ его на дворъ. Непонятно, какіе причины заставили вышеупомянутаго Абрамку проснуться среди ночи, и, ведомаго типичнымъ еврейскимъ пытолюбствомъ и любознательностью, начать обслѣдованіе внутренностей часовни. Будучи плохо зрячимъ, наткнулся онъ въ одномъ изъ угловъ помѣщенія на большой деревянный ящикъ, и рѣшилъ отворить у него крышку, а по отвореніи опредѣлить на ощупь, какіе же вещи тамъ положены. Вообразимъ же теперь ужасъ и омерзеніе правовѣрнаго Еврея, ибо тотъ ящикъ оказался гробомъ, въ которомъ лежало недвижимое мертвое тѣло — покойникъ, дожидавшійся отпѣванія. Абрамко настолько былъ напуганъ, что, разбивши окно, какъ стрижъ, вылетѣлъ изъ часовни и единымъ духомъ въ теченіи какихъ-нибудь

двухъ часовъ пробѣжалъ разстояніе, равное шести верстамъ, чтобы къ утру быть у порога своего дома въ Малыхъ Набздзейкахъ…

Разсказываетъ служка эту знаменитую, достойную пера Менделе Мойхемъ-Сфорима или даже Салтыкова-Щедрина исторію съ большимъ мастерствомъ и въ лицахъ, фамилія его, кажется, Гальпернъ, онъ не сторонится общенія съ гоями, не отказывается отъ угощенія водкой или виномъ, можетъ даже тайкомъ закусить трефнымъ саломъ, большой любитель поговорить, онъ вдовъ, поэтому при немъ всегда находится малолѣтняя дочь его по имени Эстера Рахиля, очень смышленая и красивая дѣвочка…

Вблизи Малыхъ Набздеекъ, къ ихъ сѣверо-западу, возвышается совершенно голая, крутая гора по имени Висельница. Сообразно съ мѣстными преданіями, къ ней во время Всемірнаго потопа пытался пришвартоваться ковчегъ праотца Ноя, и выпущена уже была бѣлая голубка съ надеждою найти сушу, однако голубка вернулась безъ зеленой вѣточки въ клювѣ, отчего ковчегъ вынужденъ былъ продолжать скитаніе…

Также любопытно выспросить у здѣшнихъ аборигеновъ-неіудеевъ мѣстонахожденіе урочища Тригоры — огромнаго глубокаго и широкаго рва, поросшаго вѣковыми, ужасающаго вида грабовыми деревьями. Не каждый малонабздзейковецъ отважится провести васъ туда, ибо о Тригорахъ доселѣ сохраняются непріятные легенды. Говорятъ, что въ давніе времена тамъ стоялъ двухсаженный каменный идолъ, по виду напоминающій возбужденный фаллосъ, и разъ въ году, девятнадцатаго марта, мѣстный языческій друидъ совершалъ подлѣ него надъ всѣми малонабздзейковскими отроковицами, достигшими шестнадцатилѣтняго возраста, обрядъ, называемый дефлораціей, послѣ чего снѣгъ возлѣ идола былъ испачканъ кровью весь. По принятію истинной вѣры, новообращенныя подъ водительствомъ священнослужителя изгнали нечестиваго друида, а идолище обложили огромнымъ костромъ изъ сухихъ сучьевъ и подожгли, отчего оное, нагрѣвшись, пришло въ негодность и развалилось, растрескавшись на двѣ приблизительно равные части, одна изъ которыхъ до сихъ поръ первозданно сохранилась.

Подъ ней, первозданной частію, якобы находится подземный ходъ, ведущій въ Адъ… Мѣстный органистъ, Гиларій Буйко, однажды вечеромъ, возвращаясь съ поминокъ въ состояніи опьянѣнія винными парами, провалился возлѣ этого камня въ какую-то нору и вернулся къ домашнему очагу только спустя недѣлю, причемъ въ такомъ жалкомъ внѣшнемъ состояніи, источающій одеждою смрадъ сѣры и смолы, что на него больно было смотрѣть. Чѣмъ онъ оправдалъ свое недѣльное отсутствіе, исповѣдуясь настоятелю католическаго храма, неизвѣстно, ибо сіе есть тайна и вопросъ отношеній между исповѣдующимъ и исповѣдуемымъ, но по мѣстечку поползли слухи, что Буйко, провалившись, попалъ къ чертямъ, былъ взятъ ими тутъ же въ оборотъ и занимался въ Аду тѣмъ, что доставлялъ безпрестанно тачкою дрова, торфъ и уголь къ кипящимъ смолою котламъ съ грѣшниками въ теченіе семи дней, безъ сна и отдыха, и только лишь знаніе тайныхъ іезуитскихъ заклинаній и соотвѣтствующихъ псалмовъ и пѣснопѣній помогло Гиларію Буйке усыпить бдительность Церберовъ у адскихъ вратъ и ускользнуть оттуда невредимо…

Также, говорятъ, въ этомъ урочищѣ на возвышеніи стояла когда-то древняя деревянная православная церковь, затѣмъ провалившаяся подъ землю, и если въ воскресенье въ двѣнадцатомъ часу любопытствующій опустится на возвышеніи на колѣни и приложитъ ухо къ землѣ, то можно услышать явственный звонъ колоколовъ и пѣніе молящихся. По какимъ причинамъ церковь скрылась подъ землю — неизвѣстно…

Время отъ времени въ Тригорахъ появляется самъ Сатана, подъ видомъ роскошно одѣтаго польскаго шляхтича, подпоясаннаго вышитымъ золотомъ слуцкимъ поясомъ, съ саблей въ ножнахъ и чарою вина въ рукахъ. Единое, что выдаетъ его дьявольскую сущность — это пара лошадиныхъ копытъ, торчащихъ изъ-подъ кунтуша. Сладкоустый, велерѣчивый Сатана обычно искушаетъ заблудившихся въ хитросплетеніи здѣшнихъ дорогъ, большаковъ и гостинцевъ путниковъ: Іудеевъ-коммивояжеровъ или подгулявшихъ поселянъ, предлагая имъ отвѣдать вина изъ чары и закусить крупными красными яблоками.

Обычно утромъ, проснувшись въ какомъ-нибудь грязномъ рву, опохмелившись и придя въ себя, недоуменная жертва съ ужасомъ и брезгливостію начинаетъ очищать карманы отъ круглыхъ шариковъ конскаго навоза, который она вчера принимала за яблоки и которыми она питалась. Какого же особеннаго вкуса было вино, никто обычно предпочитаетъ не вспоминать.

Ни обхожденія священнослужителями Тригоровъ крестными ходами съ кадилами и хоругвями, ни постоянныя еженощныя бдѣнія нижнихъ полицейскихъ чиновъ, установленныя мѣстнымъ начальникомъ, ожидаемыхъ результатовъ не принесли, Сатана появляется въ Тригорахъ съ завидною регулярностію. Послѣднею его жертвою сталъ нижегородскій купецъ Псой Плохопахновъ, закутившій съ дѣвицами легкихъ нравовъ послѣ удачной сдѣлки на Зельвенской ярмаркѣ. Сатана въ образѣ шляхтича не только опоилъ міазмами и окормилъ конскимъ навозомъ Плохопахнова, но и также возымѣлъ безвозвратно отъ него всѣ наличные деньги въ суммѣ тридцати четырехъ тысячъ рублей ассигнаціями. Прибѣгнувъ къ посильной матеріальной помощи мѣстнаго малонабздейковского чиновничества и православнаго духовенства, несчастливый купецъ благополучно отбылъ желѣзною дорогою, въ вагонѣ третьяго класса, изъ Волковыска въ Нижній Новгородъ…

*Митрофорный протоіерей о. В. Радомысленскій.*
*Живописная Мало-, Черно-, Желто- и Бѣло-Россія.*
*Отечество наше въ его земельномъ, историческомъ,*
*племенномъ, экономическомъ и бытовомъ значеніи;*
*подъ общей редакціей П. П. Семенова.*
*Томъ третій. С.-Петербургъ, 1882 г.*

Автору этихъ строкъ случайно удалось стать свидѣтелемъ необычайно архаичнаго обряда, сохранившагося въ этихъ мѣстахъ. Каждый годъ, въ послѣднюю субботу передъ католическимъ рождественскимъ постомъ въ жидовской корчмѣ у Ицки Пресса вечеромъ собирается молодежь на «вечорки» и начинаетъ довольно сомнительныя игрища, причемъ незамужніе дѣвушки сидятъ за однимъ столомъ, а юноши — за другимъ. Носятся и парятъ въ воздухѣ недвусмысленные шутки, рѣкою

рѣзво льется вино, пиво и водка, трещатъ во ртахъ тыквенныя и подсолнечныя сѣмена…

Кульминаціоннымъ же пунктомъ вечера является исполненіе всѣмъ сообществомъ трехъ довольно омерзительныхъ то ли танцевъ, то ли игръ, которыя зовутся «Пукалки», «Трахалки» и «Конопельки».

Въ «Пукалкахъ» участвуютъ всѣ дѣвушки и пять-шесть наиболѣе рослыхъ и отъѣденныхъ мѣстныхъ молодцевъ. Жаль, что рядомъ со мной въ сей моментъ не оказалось ни одного ученаго мужа-флатолога!!!

Играетъ музыка — скрипка и бубенъ, дѣвушки выстраиваются вдоль стѣны, держа въ рукахъ платочки, и на мѣстѣ ногами изображаютъ нѣчто вродѣ польки, на середину помѣщенія выходитъ молодецъ, и когда дѣвушки въ опредѣленномъ мѣстѣ хоромъ визжатъ, музыка смолкаетъ и парень, предварительно нажравшійся гороха или кислой капусты, тужится, багровѣетъ, и наконецъ начинаетъ громко портить воздухъ.

Дѣвушки зажимаютъ носы платочками, визгомъ и криками прогоняютъ пукальщика и вызываютъ слѣдующаго. Побѣдителемъ въ семъ состязаніи становится тотъ, кто выпуститъ изъ себя самую громкую, длинную и отвратительно пахнущую струю желудочнаго газа.

Вонь въ корчмѣ стоитъ невообразимая, всѣмъ слезится въ глазахъ, однако глупое состязаніе длится до послѣдняго пукальщика…

Два остальныхъ танца, «Трахалки» и «Конопельки», настолько разнузданны и непристойны, что автору не хватило духу и смѣлости помѣстить ихъ описанія въ семъ скромномъ трудѣ, дабы не оскорбить зрѣніе и умосостояніе взыскательныхъ читателей.

Дикость мѣстнаго народа необычайна, и много предстоитъ апостоламъ просвѣщенія сдѣлать еще добрыхъ дѣлъ, дабы искоренить загнѣздившіеся здѣсь мрачность и невѣжество.

Хотя, въ оправданіе малыхъ сихъ, хочется привести еще одинъ случай, страннымъ образомъ на здѣшнюю жизнь непохожій и какъ будто вырванный цѣликомъ изъ обстоятельствъ Германіи или Франціи. Однажды въ корчмѣ «Забава», что на половинѣ пути изъ Малыхъ Набздеекъ въ мѣстечко Новый Дворъ, довелось вашему покорному слуге случайно быть свидѣтелемъ состязанія двухъ свадебныхъ музыкантовъ: скрипача — Іудея Мойшки и флейтиста-христіанина, по фамиліи Романовскій. Предметъ спора состоялъ въ томъ, кто изъ музыкантовъ извлечетъ изъ своего инструмента самую высокую ноту, а наградой выигравшій получалъ право безплатнаго харчеванія и выпивки въ корчмѣ на протяженіи цѣлаго вечера.

Собралась огромная толпа окрестныхъ поселянъ, какъ Литвиновъ, такъ и Іудеевъ, которыя, побившись объ закладъ, между употребленіемъ горячительныхъ напитковъ громкими криками и возгласами ободряли своего ставленника и желали ему побѣды. Въ результатѣ состязанія неожиданно побѣдилъ флейтистъ — онъ изловчился и издобылъ изъ своего инструмента ноту такой высоты, что Іудей, пытавшійся ее повторить, перестарался и перерѣзалъ смычкомъ всѣ четыре струны одновременно…

(…)

**23. «Заветы Ильича»**
*Малонабздзейковская районная газета, орган райкома КПСС и Малонабздзейковского районного Совета депутатов трудящихся. Выдаецца на беларускай і рускай мовах. 21 снежня 1968 года*

**Реализовали своё право, данное Советской конституцией…**
**В воскресенье состоялись выборы!**

У гэтую нядзелю, 20 снежня, адбыліся чарговыя выбары ў Вярхоўны Савет БССР. Па Маланабздзейкаўскай выбарчай акрузе суперніцтва за пачэснае крэсла разгарнулася паміж кандыдатамі ў дэпутаты, старшынёй Маланабздзейкаўскага райспажыўсаюза Казімірам Іванавічам Лушнеўскім і дырэктарам саўгаса імя Адама Міцкевіча Уладзімірам Нікадзімавічам Кіслым. Ход выбараў асвятляў наш спецыяльны карэспандэнт Ч. Горбач.

«Шэсць гадзін раніцы, аднак ужо ад пятае гадзіны вокны Маланабздзейкаўскага раённага Дома культуры гасцінна зіхацяць, — сябры выбарчай камісіі і культурныя работнікі яшчэ раз хочуць упэўніцца, ці ўсё ў зале зроблена як належыць. Партрэты кіраўнікоў партыі і ўрада, генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева, выдатных дзеячоў навукі і мастацтва Савецкага Саюза на сценах, кветкі — герані і гартэнзіі ў гаршках на падваконніках, сцягі пятнаццаці рэспублікаў-сёстраў, спецыяльна падрыхтаваны маім калегам, журналістам Аляксеем Дземідовічам святочны нумар сценгазеты, бадзёрая музыка з калонак радыёвузла — усё гэта павінна стварыць у выбаршчыкаў адчуванне правільнасці генеральнага курсу, выбранага нашай роднай Камуністычнай партыяй і ўрадам, упэўненасці ў светлым «заўтра» нашай краіны, і проста добры настрой.

У фае Маланабздзейкаўскага РДК буфетчыца з дзевятнаццацігадовым стажам Анна Іванаўна Наважылава працірае шклянкі: «Я буду галасаваць за кіраўніка Райспажыўсаюза таварыша Лушнеўскага, таму што ён не толькі выдатны старшыня, але і добры чалавек!»

«А я буду галасаваць за Кіслага, — уступае ў размову прыбіральшчыца Дома культуры Вераніка Францаўна Пінюта: — Пры Уладзіміры Нікадзімавічы саўгас наш дасягнуў небывалага росквіту, нават і Адам Міцкевіч у ім працаваць бы не пасаромеўся!»

З гэтымі сардэчнымі, добразычлівымі жанчынамі, здаецца, гаварыў бы і гаварыў, але паволі набліжаецца заветная хвіліна — трэба распачынаць важную дзяржаўную справу!

З дынамікаў ліецца шэсць удараў гадзінніка на Спаскай вежы Крамля, велічна гучыць Гімн Савецкага Саюза. Дзверы раённага Дома культуры ўрачыста адчыняюцца!

І запрашаючы першых выбаршчыкаў, старшыня выбарчай камісіі Марыля Іванаўна Верашчака ўручае ім кветкі і каштоўныя падарункі. Першымі на выбарчы ўчастак аддаць свае галасы прыйшлі Герой Сацыялістычнай Працы, загадчык свінаадкормачнага комплексу «Беларусь Савецкая» Сямён Барысавіч Галамыздаў з жонкаю Тамараю Аляксандраўнаю, дырэктарам раённага камбіната бытавога абслугоўвання насельніцтва. Сям’я Галамыздавых атрымала ў якасці падарунка каляровы тэлевізар «Электрон». Увесь дзень маланабздзейкаўцы выбіралі кожны свайго прадстаўніка,

але ў выніку галасавання перамог — 57,4 працэнта галасоў сабраў — Уладзімір Нікадзімавіч Кіслы.

*Карэспандэнт Ч. Горбач.*

**Ліст у рэдакцыю газеты «Заветы Ильича»
пенсіянера Абрама Ісакавіча Шэвшэлевіча, ветэрана вайны і працы,
заслужанага ветэрынара БССР**

Шаноўны таварыш Іван Іванавіч Шмульянаў!

Дарагі галоўны рэдактар газеты «Заветы Ильича»!

Прыміце прывітанні з сонечнага Ізраіля!

Напісаць гэтае пісьмо да Вас мяне прымусілі некаторыя няправільна асветленыя ў вашай газеце моманты майго асабістага жыцця, за каторых няправільным асвятленнем стаіць асоба вядомага хіба толькі Вам Вашага падначаленага, таямнічага супрацоўніка газеты, які хаваецца за подпісам «карэспандэнт Ч. Горбач».

Справа ў тым, што ў тую нядзелю, 20 снежня, на выбарчым участку, дзе аддавала галасы за кандыдатаў нашая сям’я Шэвшэлевічаў, увогуле не было аніякіх карэспандэнтаў, а тым больш спецыяльных. І менавіта мы, мы з маёй жонкаю Міраю Ісакаўнаю з’яўляліся першымі, хто 20 снежня прыйшлі галасаваць, і апрача нас і старшыні выбарчай камісіі Марылі Верашчака ў памяшканні РДК а шостай гадзіне нікога не было. Старшыня камісіі была страшэнна незадаволеная нашым раннім візітам, і, адчыняючы дзверы ў клуб, бурчала, што маглі б мы прывалачыся хоць раз, як і ўсе нармальныя людзі, гадзін у сем, альбо і яшчэ пазней. Атрымаўшы бюлетэні для галасавання, мы выканалі свой канстытуцыйны грамадзянскі абавязак і спакойна пайшлі дахаты снедаць, суправаджаемыя словамі Верашчакі ў спіну: «Бач ты, ужо і лыжы ад нас да жыдоў сваіх навастрылі, а галасаваць-такі прыперліся!»

Яшчэ раз падкрэсліваю, што прозвішча маё і маёй жонкі — Шэвшэлевіч, а ніякія мы не Галамыздавы, і кветак, а тым больш каляровага тэлевізара «Электрон», нам ніхто не ўручаў! Гэта ўсё — лухта, высмактаная Ч. Горбачам альбо з пальца, альбо з бутэлькі гарэлкі! Ягоны класічны перл — верш, прысвечаны Камуністычнаму суботніку, які друкаваўся ў вашай газеце на першай старонцы штогод, я запамятаў на ўсё жыццё:

Эй, землепашец, плотник, пенсионер, шофёр!
На Коммунистический субботник трубит Отчизна сбор!
Сегодня мы отчаянно потрудимся вдвойне.
Жар сердца и силу мускулов — народу, родной стране!

Ці такія малавысокаэстэтычныя рэчы можна публікаваць на першай старонцы раённай газеты? Няўжо за столькі гадоў існавання Краіны Саветаў не знайшлося больш дастойных паэтаў і больш прыгожых радкоў?

Хачу звярнуць Вашую ўвагу на некаторыя, вельмі спецыфічныя рысы творчасці карэспандэнта Ч. Горбача — ягоны журналісцкі нігілізм, хамскі цынізм, жывёльны антысемітызм і іезуіцкую дэмагогію. Прыклады прыводжу ніжэй!

Усе мы, і Вы таксама, ў свой час радаваліся перамозе савецкіх вучоных. Гэта дзякуючы іх ахвярнасці і цяжкай працы паляцеў у космас першы савецкі іскусцвенны

спутнік Зямлі. Карэспандэнт Ч. Горбач адрэагаваў у нашай раённай газеце на гэтую важкую тэхнічна-палітычную навіну хіба паўгода пазней, артыкул атрымаўся нудны і вялы, новага і цікавага ў ім не было нічога ўвогуле, а напрыканцы выказвалася толькі просьба, што калі хто-небудзь заўважыць у начным небе гэты спутнік — вялікую рухлівую зорку, то няхай напіша ў газету.

А тыдні праз два ў газеце з'явілася за подпісам Ч. Горбача ўжо новая заметка, аб лісце, дасланым у рэдакцыю з Новага Двара, у якім жыхар мястэчка К. Ганчарэвіч пісаў, што ён, утульна ўмастаколіўшыся ва ўласным агародзе, заўважыў хутка імкнучую ў небе, рухомую зорку, якая, на яго думку, і была першым савецкім іскусцвенным спутнікам.

У гэты факт можна яшчэ паверыць, толькі ўзнікае законнае пытанне: чым мог займацца ва ўласным агародзе ўначы К. Ганчарэвіч, яшчэ і ўтульна ўмастаколіўшыся? Вы хочаце сказаць, што ён купіў сабе тэлескоп і абсталяваў за хлявом, сярод загонаў буракоў і морквы, абсерваторыю?.. У Новым Двары?..

Шаноўны таварыш рэдактар, мы, савецкія людзі, жывучы нават у Малых Набздзейках, не развучыліся пакуль яшчэ чытаць паміж радкамі!

Хіба ягоная абсерваторыя больш падобная была на дашчатую буду, куды ўсе спяшаюцца ранкам, каб вытужыць з арганізму тыя набыткі, што назапасіліся ў ім за ноч! Гэтую буду мясцовыя жыхары называюць «сральня», і нават нейкая акрэсленая сугучнасць са словам абсерваторыя ў ім чуецца…

І ўвогуле, я маю падазрэнне, што ні жыхар Новага Двара К. Ганчарэвіч, ні, тым больш, карэспандэнт Ч. Горбач ніколі фізічна не існавалі, а за Ч. Горбача проста нехта, нават можа і Вы, пісалі артыкулы, а потым распісваліся ў ведамасці і атрымоўвалі грошы. Бо калі б Ч. Горбач існаваў, то напэўна б убачыў, хто першым апусціў выбарчыя бюлетэні ў урну для галасавання, і не падманваў даверлівых жыхароў Маланабздзейкаўшчыны ашаламляльнымі байкамі аб асветленых вокнах, буфетчыцах, гімне і тэлевізары «Электрон».

Брыдка-такі здзяйсняць паціху свае меркантыльныя гешэфты, прыкрываючыся псеўданімам, у такім малым мястэчку, як Малыя Набздзейкі, і наіўна думаць, што ніхто ні аб чым не здагадаецца. У нас жа не Баранавічы, таварыш рэдактар, тут сярод людзей не схаваешся! А калі які добразычлівец стукне куды належыць, то што тады будзеце рабіць?

Лепш бы Вам, здаецца, змясціць на апошняй старонцы некралог, што шматгадовы таленавіты Ч. Горбач заўчасна… выказваем спачуванні… памяць аб ім будзе… і ўсё па ўсім!..

Але я хачу вярнуцца да дня апошніх выбараў. Нам з жонкаю проста неверагодна крыўдна!

Крыўдна чаму? У нашым мястэчку, колькі былі і ёсць Савецкі Саюз і Савецкая ўлада і колькі мы там жылі ад 1946 года, мы з маёй жонкаю ў дзень выбараў заўсёды прыходзілі на выбарчы ўчастак а шостай гадзіне і галасавалі самыя першыя — пацвердзіць вам кожны. Гэта, калі можна так сказаць, была нашая прэрагатыва, наш прывілей! На нас нават «żydomorde sowieckie dupolizatory» — брахалі мясцовыя каталікі. А мы заўсёды, нягледзячы ні на іх, ні на што, прыходзілі і галасавалі! Нас ніхто

за гэта не любіў! А мы ўсё роўна прыходзілі першымі і галасавалі! Хай дождж, хай снег, хай мароз! А мы прыходзілі і галасавалі!

Прычынаў было нямнога, адна, усяго адна…

Вы ж не малы, таксама жывяце на свеце, і гледзячы на маё імя і прозвішча, здагадваецеся, якой я нацыі. Вось вам прычына. Уцёкшы ад смерці з Лідскага гета, перасядзеўшы вайну ў партызанскім атрадзе ў Тувіі Бельскага, перахварэўшы на тыфус і дызентэрыю, перадрыжаўшы паваенныя сталінскія гады, дзела врачэй (хоць я і ветэрынарны, але ж таксама доктар), Малянковых, Кагановічаў, Молатавых і прымкнуўшых к нім Шэпілавых, і кукурузнага Мікіту Сяргеевіча, тым не менш і ў горшыя, і ў лепшыя крыху часы я заўсёды памятаў, што напісана ў маім пашпарце ў радку «нацыянальнасць» — еврей!

Таму на ўсякі выпадак і хадзіў я туды, куды забавязаны быў, як грамадзянін, хадзіць, заўсёды першым. І то не з пачуцця грамадзянскай адказнасці, ці, не дай Бог, цвёрдае веры ў ідэалы сацыялізму, а так, паўтараю, на ўсякі пажарны выпадак…

А раптам, як я не прыйду, увечары возьмуць і прыйдуць па мяне?

Многім, ведаю, у тым ліку і Вам, вельмі не падабалася, калі замест якога-небудзь трактарыста, ці качагара, ці гарапашнага калгасніка, дзеля каторых і затаўклі ўвесь гэты сацыялістычны кугель ў 1917 годзе Уладзімір Ульянаў-Ленін і Лейба Бранштэйн-Троцкі, у расчыненых дзвярох Маланабздзейкаўскага выбарчага ўчастка першымі з'яўляліся нашыя з жонкаю радасныя, насатыя, стаадсоткава семіцкія твары, і нават калісь асабіста Вы, таварыш галоўны рэдактар, крывячыся і гідліва заварочваючыся ад нас носам, але ўсё ж запісалі ў блакноцік нашыя імёны і прозвішчы, каб потым надрукаваць пра гэта артыкульчык з нашым фотаздымкам «Яны прыйшлі з самае раніцы» на першай старонцы газеты!

Ясна, што мы — людзі пажылога ўзросту, мы і хваравітыя, і, можа, горшым мылам мытыя і ў горшыя паліто апранутыя, чым усе маладзейшыя за нас, і фіялкамі не пахнем, тым не менш трэба перадусім зважаць на тое, як і што мы робім, а не нюхаць нас, як мы пахнем.

А рабілі мы ўсё правільна з пункту гледжання грамадзяніна СССР, да нас не падкапацца было, а пра што мы размаўлялі ў хаце паміж сабою і як мы ацэньвалі жыццё і людзей навокал — гэта ўжо нашыя асабістыя справы.

І паколькі мы з жонкаю галасавалі, дзякаваць Богу, апошні раз, таму што, у мэтах уз'яднання сем'яў, праз два тыдні пасля выбараў, атрымаўшы дазвол з АВіРа, выехалі з лёгкім сэрцам на нашую слаўную гістарычную Радзіму — у дзяржаву Ізраіль, то таму я і вырашыў, ужо адсюль, смела выказаць Вам усё, што я надумаў, у гэтых радках.

А пакуль што, пакуль Вы разбіраеце мой каравы почырк, седзячы за рэдактарскім сталом у кабінеце, я палашчу свае збалелыя ногі ў Міжземным моры, у нашым цяпер, маім і жончыным, Міжземным моры, у партовым горадзе Хайфа. Тут уся мая сям'я, і дзеці, і ўнукі!

Мені ўжэ хагашо! — як любіў прыгаворваць мой знаёмы кравец!

Хай Вам там, у Малых Набздзейках, усім будзе таксама ужэ харашо, і лягчэй, і спакайней ад таго, што мы, апошнія маланабздзейкаўскія жыдкі, з'ехалі, хай неіс-

нуючыя Ч. Горбачы далей пішуць пра каляровыя тэлевізары, спутнікі, пра партрэты герояў і герані на падваконніках! Мой дзед паўтараў, што той, хто гаворыць палову праўды, той страшэнна ілжэ! А хто тую палову праўды друкуе, то хто ён?

Паглянема, куды Вы на гэтай палове праўды заедзеце!…

І апошняе…

Хоць вы, Іван Іванавіч, галосна распавядаеце ўсім на творчых сустрэчах з працоўнымі, што Вы рускі, каранны сібірак, чалдон, і па калачу скучаеце, маю права засумнявацца. Падаецца мне, вашае прозвішча паходзіць не ад назвы легендарнай вёскі Шмульянаўка, загубленай, як Вы аднойчы ўзнёсла і паэтычна выказаліся, у нетрах сібірскіх тайгаў, а ад простага, распаўсюджанага калісь яшчэ за панскаю Польшчаю ў нашых мясцінах юдэйскага імя — Шмуль. Разумею, Вам гэтая мая выснова можа не спадабацца, але, на ўсялякі выпадак, загляньце сабе ўважліва ў ганавіцы — і тады мо на душы вашай зробіцца спакайней? А калі не зробіцца, то прабачце, нічым не дапамагу…

Поспехаў Вам у Вашай малапрыемнай журналісцкай справе! Надумаецеся вярнуцца на радзіму продкаў — магу прыслаць запрашэнне, і з задавальненнем потым з Вамі спаткаюся!

Я ў Хайфе, мяне лёгка знайсці, бо мяне тут ужо ведаюць кожны абрэзаны дый і неабрэзаны! Сустрэнемся, зробіма па чарцы тутэйшай гарэлкі, паўспамінаем Малыя Набздзейкі! Уй, а колькі мне Вам ёсць што цікавага расказаць — не паверыце! Пішыце, буду чакаць.

З павагаю,

*Шэвшэлевіч А. І.*
*Хайфа, Хермон авеню, 14–10.*

**26. Мастак Жоржык Мар’янавічаў**

> І ўзяў я кнігу з рук Анёла і пачаў есці яе, і зрабілася яна ў вуснах маіх салодкая як мёд. А калі з’еў я яе, напоўнілася гаркатою чэрава маё…
>
> *Апакаліпсіс Св. Яна, візія другая. 10*

Панавыдумоўвалі нам калісьці, на пачатку дзевяностых гадоў, нейкія выпадкова дабеглыя да ўлады калгаснікавыя дзеці новых святаў, а сярод іх — Дзень пісьменства і друку, а дзеля чаго яны гэты Дзень выдумалі — ніхто вам не скажа. Можа, каб спамянуць адначасна гуртам усіх тых, хто далажыўся да росквіту друкаванага нацыянальнага слова — ад Хведарава, Мсціслаўца і Скарыны пачынаючы, і Багушэвічам, Цёткаю і галоўным рэдактарам «Вячэрняга Брэста» Шпарлом канчаючы, а хутчэй за ўсё, ёсць такая думка, з іншае крыху нагоды — каб з нятаннага стольнага Менска з’ехаць у такі капеечны Мздзіслаў ці Сюськавічы на цэлы дзень, паваляць з сябе важных паноў, мудрага і пранікнёнага нечага наплесці замёрламу з павагай тлуму, які прыгналі і загналі ў загончык перад сцэнаю, папырскаць на ўсіх сваёю пахучаю інтэлектуальнаю культураю, пакрасавацца перад камерамі і мікрафонамі айчынных тэлерадыёканалаў, на грамадскія грошы напіцца і наесціся, з прыгожымі правінцыйнымі кабецінамі закруціць сякі-такі парагадзінны флірт, ці нават, магчыма, і раман, а

ў фінале пад агульныя воплескі і воклічы распісацца ў патрэбных паперынах і нешта з фестывальнае касы сабе ў кішэню палажыць — версій можна прапанаваць надтазанадта.

Праўда, потым, праз нейкі час, аднастайнасць, аднолькавасць і зануднасць гэтых усіх «Гармонікаў...», «Зораў...» і «Кірмашоў...» пазбрыдвалі, і ўжо многае з таго не сляткавалася.

І, што самае цікавае, звыкла праходзіла паўгода, і калі лінялі і абсыпваліся фарба і тынкі са свежапамаляваных фасадаў дзяржаўных установаў і пачыналі цячы новыя чырвоныя стрэхі, правальвалася пад нагамі тратуарная плітка на галоўнай плошчы ці, як падкошаныя, звальваліся ў белы дзень на праезджую частку ліхтарныя слупы, то тады прыходзілі ў райвыканкам пахмурнаватыя маларазмоўныя хлапчукі з адпаведных рэспубліканскіх органаў і, сеўшы па асобных кабінетах і разгледзеўшыся ў фінансавых паперах, адпраўлялі галоўбуха раённага аддзела культуры гады на тры, альбо на пяць, за іржавыя краты, а галоўнага культурнага раённага загадчыка проста звальнялі з працы за недагляд ці перакідвалі ў суседні раён дырэктарам сельскага клуба — вось табе і насвяткавалі!

Было ой тады святаў, і было аж збытачна, у кожнай вобласці і раёне. І мроілася, што нашая маленькая, але ад грэбеня ў валасах і да пятаў незалежная дзяржава пры дапамозе гэных вось мерапрыемстваў далучыць усіх наваспечаных грамадзянаў да сваёй слаўнае гісторыі і занядбанай за камуністамі адраджаюшчай нацыянальнай культуры, абудзіць у здранцвелых вантробах жыхароў нацыянальную самасвядомасць, адцягне іх увагу ад штодзённых прыкрых клопатаў і турботаў, прыбадзёрыць, павяселіць і, што самае найважчэйшае, магчыма, прыдбае сабе сякі-такі міжнародны аўтарытэт, калі на прывабны агеньчык такога свята раптам загляне заблукалы ва ўсходнееўрапейскіх поцемках замежны турыст, паляк ці немец, а тое і два палякі і немец, а можа, чым чорт не жартуе, тры!!!

Тры палякі!!!

І немец!!!

Так што намеры ў першапачынальнікаў-дзяржавабудаўнікоў былі вельмі ідэалістычнымі, толькі вось гэткімі намерамі чэрці потым гацілі акуратную дарожку ў пекла.

І калі ў сталіцы выракалася, што рашэннем Бацькоў нашага Народа ў слаўным аграмястэчку Малыя Набздзейкі ў гэным годзе адбудзецца свята пісьмадруку, у Малых Набздзейках запаноўвала радасць, бо нарэшце і пра Набздзейкі спамянулі, уганаравалі, не абышлі высокаю ўвагаю, і адначасова жалоба, а жалоба таму, што да Умоўнага дня трэба было гэныя Набздзейкі прывесці ў сякі-такі парадак, перамяніць звятшалыя шыферныя стрэхі на чырвоную металадахоўку, пафарбаваць платы і фасады дамоў, заліць новы асфальт на галоўнай плошчы і паставіць на пастаменце там жа абавязковых: ці бронзавага ваўка, ці дзікую свінню з парасятамі, ці трох буслоў, і — самае галоўнае — загадаць нешматлікім народным майстрам, каб актывізаваліся і да канца жніўня наляпілі з гліны медалёў, свістулек, конікаў і пеўнікаў, дый мабілізаваць у рады мастацкай самадзейнасці як мага найбольш прыдатных грамадзянаў, дзеля стварэння ўражання павальнага захаплення мясцовага народа сваёй уласнай культураю. А дзе ж гэты народ узяць, а якім чынам яго заахвоціць?

Вось з гэтага важнага моманту і пачынаема мы наш расповед!

Пачынаема ад таго, што, вядома, Малыя Набздзейкі за апошнюю чвэрць дваццатага стагоддзя і за першыя трынаццаць год дваццаць першага страшэнна вылюдніліся — старыя людзі пахварэлі і паўміралі, а каторыя маладзейшыя былі — спіліся і таксама паўміралі, а хто не памёр — паўцякалі ў горад. Хаты стаялі з шэрымі фіранкамі ў вокнах, пазачыненыя, а новых жыхароў не прадбачылася, бо не было ў тых Малых Набздзейках ані работы, ані заробкаў — раён лічыўся найбяднейшым ва ўсёй Незалежнай. Яшчэ ўлетку з лесу можна было нацёгаць кашом лісічак ці вядром суніцаў і здаць за грошы прыезджым скупшчыкам, а ўжо з кастрычніка заставалася было толькі рукі злажыць на жываце і, трохі прапаліўшы зраніцы пліту ці печ, выседжваць цэлы дзень на табурэтцы ля акна, выглядаючы, хто гэта там пацягнуўся з канца вуліцы на места па хлеб…

Працаваў у тых Набздзейках у раённым Доме культуры мастаком чалавек па мянушцы Жоржык Мар’янавічаў, ніхто і не памятаваў, якое ён сапраўднае імя і прозвішча насіў. Быў той Жоржык нетутэйшы — не свой, а прышлы. Прывалакліся яны з маці знекуль з усходу напачатку пяцідзясятых гадоў сюды, і тут засталіся, маці прызначылі загадваць клубам, а ён быў такі пацешны, малы яшчэ, неяк усё бегаў за ёй, і так пры самадзейнасці, адкрытых партыйных сходах, вечаровых кінасеансах, «блакітных агеньчыках» і танцах у клубе і выхаваўся без бацькі, бо бацькі ў іх не было.

Не, ясна, што бацька ў іх усё ж такі быў, але потым, можа, позна ўвечары па запалкі пайшоў з хаты ў краму ці атаву сабакам паехаў касіць, ды так і прапаў.

Толькі аднойчы Жоржыкава маці, закотваючы вочы і салодка ўсміхаючыся, пахвалілася ўборшчыцы цёці Вэрці, што Жоржык — сын вельмі вядомага югаслаўскага спевака, і сказала нават якога. Але паколькі цёця Вэрця была малаадукаваная і ані імя, ані прозвішча ў галаве не ўтрымала, дык пасля гэтай значнай і цікавай весткі, распаўсюджанай цёцяю Вэрцяю з хуткасцю маланкі, усе мясцовыя назаўтра пачалі клікаць на малога «Жожрык Мар’янавічаў», бо якраз гэты адзіны югаслаўскі асобнік — Джорджэ Мар’янавіч — надзвычай папулярны спявак, салодкагалосы сын сербскага народа — вядомы быў усім месцачкоўцам.

Так і прыкіпела да байстручка экзатычная прыгожая мянушка. Ён да яе, здаецца, прывык, і не думаў крыўдзіцца, і жыў з ёю ўсё жыццё.

А жыццё тое ляцела, як сухі чырвоны кляновы ліст у познюю восень: то ўгару, то ўніз, то ўгару, то ўніз, і нарэшце даляцела і прызямлілася паблізу вышэй спамянутых гістарычных падзеяў. Надыходзіла не абы-якое свята, і трэба было пастарацца.

Сабраў усіх такіх, як Жоржык, мясцовых інтэлігентаў: народных майстроў і мастакоў, самадзейных паэтаў, кампазітараў і спевакоў — у халоднай клубнай зале высокі культурны абласны загадчык і растлумачыў, што, як і да якога каляндарнага дня трэба ўсім нарабіць. І асобна спыніўся на тым, што ўсе ў будучыні зробленыя творы народнага мастацтва і сувеніры павінны быць небанальныя, незаезджаныя, незвычайныя, а вершы і песні — прыгожыя, словам, такія, якіх не было нідзе яшчэ. «Выдумайце, таварышы, сябры мае, у гэты раз такое, чаго высокія госці, што да вас прыедуць на свята, нідзе ніколі не бачылі! Вы ж жывяце каля пушчы, хай гэта нейкім чынам зробіцца творчаю дамінантай і адаб’ецца ў вашых пакуль яшчэ ненароджа-

ных, але, маю надзею, выдатных выплесках душы і сэрца», — сказаў, развітваючыся з тутбыльцамі, высокі культурны госць…

Накірунак, зададзены начальствам, быў просты і зразумелы, таму майстры і майстрыні, разышоўшыся па хатах, пачалі назаўтра спешна рэзаць з ліпавага дрэва зуброў, аленяў, мядзведзяў, соваў і рысяў на галінах, пісаць алейнымі фарбамі карціны, на якіх у пушчы пасвіліся зубры, хадзілі алені, лазілі мядзведзі, а на галінах сядзелі совы і таіліся драпежныя рысі, вышываць каляровымі ніткамі на льняным палатне аленяў, зуброў, мядзведзяў, соваў і рысяў на галінах, паэты рыфмавалі дуб — зубр, рысь — увысь і алені — калені… Хтосьці з мастакоў, праўда, наважыўся было здзейсніць цэлажыццёвую мару — намаляваць батальнае палатно пад назвай «Паўстанцы Кастуся Каліноўскага змагаюцца ў Цялячай даліне з маскалямі», але нейкія акуратныя людзі яго ў час перапынілі і параілі, што такое не пройдзе, а лепей і бяспечней стварыць нешта больш нейтральнае, накшталт «Сяргей Прытыцкі, Паўліна Мядзёлка і Максім Танк у шалашы над Нарваю».

Вядомы і шанаваны ў акрузе самагоншчык, пажарнік Бэрнась, зацягнуў да свайго апарата ў пушчы ўначы трактарны прычэп з жытняю мукою і, рашчыніўшы брагу, збіраўся выганяць экалагічны прадукт. Бэрнась забавязаўся забяспечыць прыбылое начальства самагонкаю высокай якасці і падвойнага перагону, настоенаю не абы на чым — на жэньшэні і сармацкім кадзіле — пра гэта яго па тэлефоне асабіста папрасіла спярша раённае, а потым і абласное кіраўніцтва, і нават з пасыльным перадалі адмыслова пучок кадзіла дый тры карані жаньшэню…

Словам, усё заварушылася і змяшалася, як у слынным доме Аблонскіх у творы вядомага класіка расійскай літаратуры, які пражываў у Тульскай губерні, у маёнтку Ясная Паляна.

І бадай толькі адзіны Жоржык Мар'янавічаў не кінуўся бегчы разам з усімі горбаю ў паказаным начальствам кірунку. Ён проста і сціпла аб'явіў пасля сходавішча, што канвееру і халтуры рабіць не збіраецца, а створыць адну толькі рэч, і то такую, якой ніхто нідзе ніколі не рабіў. І ўпэўнена дадаў, што яе абавязкова прадасць, але за гэтую рэч папросіць ад пакупніка столькі грошай, што потым на паўгода закіне пэндзаль і фарбы як найдалей за шафу! Клубнаму начальству Жоржыкавая дэкларацыя прыйшлася не надта да спадобы, яно падулася крыху, але і адчапілася — хай робіць што хоча, абы рабіў.

І Жоржык Мар'янавічаў пачаў! Працаваў ён над сваім творам вечарамі ды ў першую палову ночы, цікаўных да сябе ў хату не пушчаў, жонкі, якая магла б рассакрэціць творчую задумку, у яго увогуле не было; з дзяўчатамі ў Малых Набздзейках адвеку сітуацыя складалася цяжкая. Так што таямніца так і заставалася таямніцаю да канца.

Праўда, дзякуючы пільнаму воку суседкі цёці Вэрці пра нешта дый удавалася даведацца. Так, Жоржык паехаў на тыдні ў няблізкую палескую вёску матацыклетам з каляскаю і прывёз адтуль яшчэ не свінню, але ўжо і не парася — падсвінака, адным словам. Падсвінак стаяў яшчэ тыдзень у Жоржыкавым хляве, быў шчодра кормлены хлебам з крамы, дзіцячай сумессю ваўкавыскай вытворчасці, малаком і мукою. Затым Жоржык яго закалоў уласнаручна нямецкаю швайкаю, расчвартаваў, але балю не ладзіў, на свежаніну нікога не клікаў і суседзям нават кавалка сала не спрэзен-

таваў. Потым зноў жа цёця Вэрця заўважыла, што Жоржык, пахадзіўшы паўгадзіны па прадуктовай краме, выбраў сабе тры, не, хіба чатыры палкі самай дарагой сухой каўбасы і дзве паляндвіцы, акуратна за ўсё расплаціўся і панёс гэты скарб дадому… Што ён там чаўпе, нашто яму быў патрэбны падсвінак з Палесся і гэтыя каўбасы? Усе тыя, каму цёця Вэрця распавядала пра чарговыя грошараскідальныя ўчынкі Жоржыка, толькі плячыма паціскалі, чухалі ў патыліцы і выказвалі адзіную верагодную здагадку: «Можа, бабу сабе знайшоў і жаніцца будзе? Але якую? Не нарадзілася і не вырасла яшчэ тая баба, якая за яго пойдзе! Хіба толькі якая з Вярэек ці з Сапоцкіна!»

Сапраўды, у радыусе трыццаці кіламетраў не было аніводнай кабеты-кандыдаткі, разводкі ці ўдавы, з дзіцём ці без, якая б векам, уродаю альбо характарам імпанавала Жоржыку, бо хоць яму было каля пяцідзясяткі, лічыў ён сябе выдатным прадстаўніком мужчынскага роду, быў акуратны, цвярозы, нічога кепскага пра яго ніхто сказаць не мог! Ды дзе мужчыну з такімі якасцямі знайсці ў нашай задубелай правінцыі адпаведную палавіну, калі кабеты праз адну альбо алкагалічкі, альбо скурвіліся, альбо даяркі ці свінаркі з двума гадамі ўмоўнай судзімасці з адтэрміноўкай. Лепшых і добрых даўно хто мог паразбіралі, а засталося тое, што ляжала і псавалася, бо нікому яно не было патрэбнае…

Але Жоржык Мар’янавічаў ні з кім жаніцца і не збіраўся, гэта ён такімі чынамі нарыхтоўваў матэрыялы, з якіх потым павінен быў паўстаць адзіны і непаўторны арыгінальны твор мастацтва, прымеркаваны да Свята пісьменства ў Малых Набздзейках.

І вось доўгачаканае свята нарэшце прыйшло ў Малыя Набздзейкі.

Лепш бы яно сюды ніколі не прыходзіла, бадай на яго! Каб хто разумны ведаў, колькі перад гэтым памучылі тутэйшых людзей розныя начальнічкі, як свае, так і чужыя. Спярша прымусілі павыполваць у мястэчку ўсе рышткі, пазамятаць вуліцы, потым памянялі ўсім платы. І нечакана сталася так (нягледзячы на хаты, якія былі розныя, і розных людзей, якія ў іх жылі), што платы ва ўсіх раптам, у які тыдзень часу, зрабіліся аднолькавымі. Праз гэта потым і хаты людзям мусілі пamaляваць у адзін колер, каб харашэй выглядала… А колер той быў… Словам, нагадваў тое, што выходзіць з малога дзіцяці ззаду, калі яго перакорміць маці цёртаю на тарцы садавіною!

Потым прайшоўся пару разоў участковы і папярэдзіў, каб ў дзень свята, менавіта ад дванаццатай да дванаццатай трыццаць, ніхто не падыходзіў да вокнаў, не адчыняў каміноў, дзвярэй і не выходзіў на надворак. З вокнамі ўсё была ясна, а чаму няможна было адчыняць каміны, мясцовы народ так і не дацяміў. Паадбіраў участковы таксама ад усіх маланабздзейкаўскіх паляўнічых дубальтоўкі і сказаў, што як свята скончыцца, тады могуць прыйсці ў пасялковую Раду і забраць.

З раніцы ў дварох, якія стаялі бліжэйшыя да галоўнай мястэчковай плошчы, падкінулі ў кожны двор па адной пачварыне мужчынскага роду ў зялёных лахманах, шлеме з акулярамі, рацыяй і з ружжом у руках. Пачварыны гэтыя нахабна пакрыквалі на гаспадароў, заглядалі ў хлявы і прыбудоўкі і, пазаганяўшы ціхіх дзядкоў і бабулек у хаты, пачалі абтрасаць прыгожыя яблыкі і грушы з дрэваў, прагна жэрлі спелыя гуркі, а пад дванаццатую гадзіну пазалазілі ў траву і затаіліся, бы зладзеі, пільна ўглядаючыся ў прыцэлы сваіх ружжаў. Такія ж самыя пачварыны паўладкоўваліся на чорных пляскатых стрэхах усіх чатырохпавярховых хатаў-хрушчовак…

Прыляцеў знекуль верталёт, а чаго і навошта — Бог адзіны ведае. Сеў хіба на школьным стадыёне, бо больш не было нідзе падыходзячага месца. Грукату і ветру такога панарабіў — дачыста ўсе платы паваліліся, а птушыныя гнёзды з ліпаў паляцелі, як пярыны, добра што птушаняты даўно вывеліся. Потым чутно было, як аркестра грала музыку і розныя людзі ў мікрафон гаварылі… Потым нейкі адзін гаварыў, многа гаварыў, доўга, і яму надта ўсе зацята пляскалі. Потым верталёт узняўся у паветра і паляцеў сабе, хіба дзе іншую справу яшчэ людзі тыя мелі, якія ў ім сядзелі, а як верталёт паляцеў, тады і зялёныя пачварыны з ружжамі з двароў папрападалі, засталіся па іх толькі абтрэсеныя дрэвы і патаптаныя загоны…

І можна ўжо было тады ўсім людзям ісці на свята паўзірацца і святкаваць — пра гэта ім участковы казаў, што, як, значыцца, палова першае міне, то і вы можаце смела на плошчу ісці. А пра верталёт, зараза і халера міліцэйская, нічога не казаў! Можа, баяўся? А можа, забаранілі гаварыць?

Як можна, дык людзі паціху сабраліся і пайшлі, пасунуліся пакрысе, бо людзі тутэйшыя такога свята ніколі не мелі і не бачылі…

Ой, а што ўжо на плошчы ў цэнтры рабілася, то за раз не расказаць. Спярша прайшло з тры ці чатыры духавыя аркестры, і надта галосна гралі, і розныя маршы, адна аркестра нават цалкам была дзявоцкая. Потым хадзілі нейкія вымаляваныя і стракатa апранутыя мужыкі ў смешных шапках на высокіх хадунах, крычалі і раскідалі жоўтыя ўлёткі. Праехалі два калгасныя трактары: у аднаго на кабіне быў прымацаваны здаравенны саламяны брыль, а наперадзе, на радыятары, павесілі яму таксама куль саломы, быццам мужчынскую бараду, а другому трактару павязалі на кабіну нібы хустку, як вясковай бабе, а на шкле намалявалі чырвоныя вусны і вялікія сінія вочы. За трактарамі адразу пакаціілі «газікі» з адчыненымі кузавамі, а там сядзелі жывыя карціны з людзей — сляпы гусляр спяваў абадраным мужыкам песню, чырвонаармейцы адстрэльваліся ад немцаў, мернічы намяраў сялянам панскую зямлю… Потым ішлі і скакалі на скакалках спартсмены, пылу ад іх было, што ад камбайна. А потым ужо на плошчу выйшлі салдаты ў бліскучых ботах і новых вопратках і пачалі паказваць розныя хітрыя штучкі з карабінамі, праўда, калі яны круцілі і падкідвалі гэтыя карабіны, дык у аднаго салдаціка, трохі горшага за іншых, ягонае ружжо ўсё падала і падала з рук на зямлю, на што нехта з тлуму зласліва пракаментаваў: «Ой дастане ён сёння ад начальства ў патыліцу!» Потым салдаты сышлі… Пайшлі няроўнаю горбаю нямкатыя дзеці з мясцовай спецыяльнай школы-інтэрната, мыкаючы і адчайна махаючы зялёнымі і чырвонымі сцяжкамі… І пачалося свята для насельніцтва!

Панаехала чорт ведае скуль столькі ўсякага народу: і мужчынаў, і кабетаў, і падлеткаў, — як на фэст ці одпуст які. Хіба колькі сціплыя Малыя Набздзейкі гадоў ціха стаялі на гэтай свянцонай зямлі, дык ніколі столькі не было. Таўкліся гэтыя людзі, як мурашкі якія ці пчолы, і гаманілі, і крычалі, і перакрыквалі адзін аднаго. А міліцыі аграмадна з’ехалася ці не з усяго раёну, а можа і ад суседзяў пазычылі; хадзіла гэтая ўся міліцыя тройкамі, касілася нядобра ў шэсць вачэй па баках, крывілася, але, праўда, пакуль нікога не чапала, мабыць, чакала вечара.

А ўжо гандляроў розных хіба з сотню стаяла паабапал усіх чатырох вуліцаў, якія сыходзяцца на плошчы ў цэнтры Малых Набздзейкаў. А колькі палілася, смярдзела

вогнішчаў і смажылася на іх рознага мяса і каўбасы, і курэй, і нават малых парасятаў, а тая гарэлка лілася струменем, а віно таксама, і тое, таннае, айчыннае, горшае, і тое, замежнае, даражэйшае, лепшае — адно грошы давай! То, значыцца, на людзей нейкі нібы шал панападаў — павыцягвалі хіба амаль апошнія грошы з кішэняў — і гарэлку пілі, і парасятаў елі, куды толькі ў іх закуска і гарэлка лезлі, як быццам заўтра свет павінен быў скончыцца!

І яшчэ мясцовыя кулінары, абраўшы намер заплюваць вочы цэламу свету, пачалі ад ранку пячы на агромністай патэльні з чыгуну, мусіць метраў з дзесяць дыяметрам, картофлі — і алею чорт ведае колькі павылівалі ў патэльню, і картофляў наскробленых салявых мяхоў з дзесяць у яе вывалілі, а яна, патэльня, да палудня нават не нагрэлася, а потым раптам як пачырванела, як засквярчэла, як бухнула з яе агнём і дымам — прапаў быў, згарэў той алей з тымі картофлямі…

А на вялікай, на хуткую руку збітай з негабляваных дошак сцэне галасілі папераменна, адно за адным, альбо даўганогія, худыя, зусім слабенька прыкрытыя адзеннем нетутэйшыя дзяўчаты, альбо мардатыя, апранутыя ў вышытыя сарочкі, парцяныя ганавіцы і лыкавыя лапці, мужчыны ды кабеты. Відаць, кіраўніцтва зразумела, што абапірацца на адныя толькі мясцовыя культурныя сілы не варта, бо марненька надта гэта будзе выглядаць, і прытарабаніла аўтобусы з тры ўсялякай культурнамастацкай усялячыны з гармонікамі, скрыпкамі і цымбаламі, панаехала таксама незлічона рамеснікаў у вышытых кашулях і саламяных капелюшах з дробным таварам.

Мясцовым нашым культурнікам і тое далі сцэну на якія палову гадзіны, а што яны там спявалі і дэкламавалі — хто ў агульным гармідары чуў, але затое народных майстроў з зубрамі і рысямі паставілі ганарова — пры самай сцэне, а над іхнімі прылавачкамі павесілі зялёную вялікую баваўняную ганучу, на якой чырвонымі літарыскамі было напісана —ТАБЕ АД СЭРЦА, РОДНЫ КРАЮ —МАЛАНАБЗДЗЕЙКАЎШЧЫНА ГРАЕ, а белаю фарбаю намаляваныя тры клічнікі — !!! Вось так, ведай нашых, і патрыятычна, і зразумела!

Жоржык Мар’янавічаў заняў са сваім творам самае пачэснае месца. А што ён стварыў?

Кнігу!

Ды не абы-якую!

Кнігу, разгорнутую якраз пасярэдзіне, Жоржык зрабіў з сала, а на абедзвюх яе старонках літарамі, прыгожа выразанымі з каўбасаў і паляндвіцаў, быў выпісаны гэткі вось тэкст:

Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни,
знають ямы своя;
птици, летающие по возъдуху,
ведають гнезда своя;
рибы, плывающие по морю и в реках,
чують виры своя;
пчёлы и тым подобная боронять
ульев своих,
тако ж и люди, игде зродилися и

ускормлены суть по бозе,
к тому же месту великую…

І на гэтым тэкст на старонцы скончваўся, паколькі месца болей не было, дык ніхто і не змог даведацца, якое пачуццё павінныя мець людзі да таго месца, дзе яны на свет прыйшлі…

Народ зрэагаваў на Жоржыкаў твор вельмі па-рознаму — адныя падыходзілі і, уперыўшыся ў старонкі, доўга чыталі стараславянскі тэкст, прыцмоквалі языкамі, і, пераводзячы позірк на сціплы, просты твар Мастака, трэслі ягоную руку і выказвалі нешта накшталт «Ну класна, ну малайчына ты, ну ты чалавек! Залатыя рукі!» Другія проста падыходзілі, проста слізгалі вачыма і па Жоржыку, і па ягоным дзецішчы і ішлі далей, а яшчэ іншыя лазілі сабе ў тлуме, абы лазіць, а чаго яны шукалі — хто яго ведае, і ўвогуле ані Жоржыка, ані кнігі з сала прынцыпова не заўважалі! А шкада, варта было!

Тым болей што Жоржык прыадзеўся адпаведна свайму твору; быў у саматканай кашулі і ганавіцах, скураным фартуху, на галаву начапіў пазычаны ў некага бландзіністы карэйскі парык, чым да болю прыпамінаў першадрукара Францішка Скарыну з вядомай карціны мастака Пётры Сергіевіча. Гэта ўсё пасавала і выглядала вельмі добра, горай было тое, што спрабаваць купляць кнігу з сала ніхто не збіраўся, нават пра цану аніхто ні разу не спытаў. Раскупляліся побач і рысі, і зубры, і мядзведзі, нават пеўнікі-свістулькі і розная дурнота для дзяцей, а на кнігу так і не знаходзіліся пакупніка. Раз, праўда, падышло начальства, уважліва абгледзела і Жоржыка, і ягоную гастраномію, пашапталася нешта паміж сабой, паківала галовамі, пахваліла і дакляравала адзначыць ганаровай граматай, Жоржыку стала прыемна, ён усміхнуўся і бадзёра падзякаваў. Начальства развіталася і сышло, відаць, спяшаліся да Бэрнася ў пушчу пад апарат піць самагонку.

Потым падбеглі нейкія маладзёны з відэакамерай, паставілі ля Жоржыкавага прылавачка два адмысловыя ліхтары, бо пацiху на вуліцы пачало цямнець, з’явілася пацешнага выгляду кабецінка з мікрафонам і пачала пытаць у Жоржыка, што падштурхнула яго на стварэнне такога вось незвычайнага шэдэўра.

Жоржык першы раз у жыцці апынуўся перад пільным вокам камеры, таму ўвесь неяк імгненна ўнутрана сціснуўся, збянтэжыўся, саслабеў, закалываўся на ватных нагах, гаварыў мала і невыразна, амаль што нічога не гаварыў, а так, мармытаў нешта сабе пад нос, чырванеў і пацеў. Маладзёны яшчэ трохі памучылі яго, пасвяцілі ліхтарамі на кнігу, паздымалі і яе і, нават не падзякаваўшы, паляцелі кудысь далей па свяце.

І апошнім падышоў да Жоржыка незнаёмы нетутэйшы мужчына гадоў сарака, абгледзеў кнігу і пачаў пытацца па-расейску:

— Што, мастер, не покупает никто твоё изделие?

— Не, — адказаў Жоржык.

— А сколько ты за неё хочешь?

— Трыста даляраў!

— Ого! — сказаў нетутэйшы незнаёмы. — Большие деньги, даже у меня таких нет. Давай за сто сговоримся!

— Не, трыста!

— Ну, как хочешь… Стой дальше, может, кто-то возьмёт, — і пайшоў сабе…

Сцямнела, і адразу пахаладала. І калі пахаладала, Жоржык раптам уцяміў, хто да яго падыходзіў. Гэты мужчына і быў, мабыць, тым легендарным расійскім ці то банкірам, ці то мільянерам, напалову па маці, бо тутэйшага паходжання, які ездзіў па Маланабздзейкаўшчыне і скупляў амаль за капейкі ацалелыя панскія палацы. Так ён старгаваў і палац Бохвіцаў, і палац Сегеняў, і гнілаваты і паедзены шашалем, але знешне няблага выглядаючы драўляны дварок Андрайковічаў.

«Не, толькі трыста, мне ж жыць не будзе за што!» — яшчэ раз упэўніў сам сябе Жоржык…

А на цёмную сцэну з адзіным ліхтаром узграмолілася чалавек з трыццаць мужчынаў і кабетаў са скрыпкамі, віяланчэлямі і трубамі. Яны расставілі сабе кожны пад нос стаячкі з нотамі, выйшла высокая светлавалосая жанчына, павіталася з нешматлікімі цярплівымі слухачамі, іх засталося мерзнуць перад сцэнаю чалавек трыццаць, падзякавала за гасціннасць і аднастайна распавяла па-расейску, хвілінаў за пяць, пра нейкага іхняга Гендэля, пасля яе выйшаў дырыжор, пакланіўся публіцы, і павярнуўшыся тварам да аркестрантаў, пачаў ім махаць рукамі, а яны зайгралі…

Бедны Жоржык стаяў самотны за сваім прылавачкам, адзіны-адзінёшанькі, усе яго таварышы па фаху, падлічыўшы запрацаваныя за дзень грошы, даўно ўжо скінуліся па якіх пяцьдзясят тысячаў і выпівалі і закусвалі гаманліваю кампаніяй пад дрэвамі за сцэнай, яму ж не было нават за што. А сумныя доўгія гукі, якія музыкі выдабывалі са сваіх інструментаў, здэцца, праз вушы ў Жоржыкавае сэрца заходзілі, а выходзіць не збіраліся, і іх рабілася там усё болей і болей, і сэрца магло колькасці гэтых няпрошаных гасцей не вытрымаць і разарвацца напалову…

Цяжка было небараку Жоржыку, і нібыта на гэтым гісторыя павінна была скончыцца, але ў Малых Набздзейках засталіся-такі неблагія людзі…

З цемры паволі, хістаючыся, выйшлі дзве ўжо добра п’янаваценькія постаці і замахалі да Жоржыка прыязна рукамі: «Гэй там, Скарына, бяры свой тавар і хадзем да нас, а то гарэлка грэецца!» — гэта былі Жоржыкавыя больш удалыя калегі-майстры.

Жоржык каротка ўздыхнуў, зладжыў нікому не патрэбную сваю кнігу, узяў пад паху, і пайшоў туды, куды яго клікалі…

Гарэлкі пад дрэвамі стаяла і ляжала бутэлек з дзесяць, і віна таксама, толькі з закуссю было слабавата, таму ўсе былі такія сур’ёзна нарэзаныя. Жоржык глянуў на кампанію і ўрачыста, нібы з трыбуны, прамовіў:

— Так, добра ўсё… Але кнігаю… кнігаю гарэлку хіба ніхто з вас у жыцці яшчэ не закусваў!»

— Жоржык, ты што, не руш, гэта ж твая праца, твой заробак, а раптам прадасі каму яшчэ! — запярэчылі слаба мужчынскія і жаночыя галасы…

— Э там, каму я яе прадам! Не мой сёння дзень! Ну, не мой, і ўсё тут! Не дараслі яшчэ ў нашым раёне да высокага мастацтва! — ці то жартам, ці то ўсур’ёз, гаварыў Жоржык. — А калі не дараслі, то давайце нажа і будземо рэзаць!..

Хто там у поцемках разбіраў, якога смаку была Жоржыкава кніга, добра, што знайшлося чым закусваць!

Гадзіны праз тры, праўда, адным зрабілася дрэннавата ў страўніку, другія бегалі ў прыбіральню ўсю ноч да ранку, перла з іх і задам, і перадам, і верхам і нізам, а іншым — нічога сабе, нармальна, засталіся здаровенькія...

Так скончылася Свята пісьменства і друку ў Малых Набздзейках. Файнае было свята: і людзі пагулялі, і майстры зарабілі, і гандаль не страціў, а Жоржык неяк сваю творчую няўдачу праражыў...

Праўда, не абышлося без непрыемнасцяў — пасля аркестры на сцэну самачынна вылез нетутэйшы нейкі хлапец і хацеў паспяваць пад магнітафон, але як наляцела воронамі адусюль міліцыі, як далі яны яму пытлю гумовымі дручкамі — збілі няшчасніка на горкі яблык, так збілі, што ледзьве ўстаў і пайшоў. А называўся ён неяк дзіўна — Рэпер Пінцэт, цяпер гэтыя бацькі такіх ужо імёнаў бедным дзецям панавыдумляюць, што аж брыдка.

І яшчэ казалі, што тым, якія на верталёце прыляталі, не спадабалася назва нашага мястэчка — Малыя Набздзейкі, і адразу, зранку ў панядзелак, ажно са сталіцы нехта пазваніў і аддаў загад: перамяніць назву! На Аграслаўск!!!

І ўжо новыя шыльды нашыя начальнікі намалявалі і павесілі былі на ўсіх чатырох канцах вуліц, але нехта, жартаўнік, уначы дапісаў наперадзе на кожнай шыльдзе дзве літары — ВІ , то атрымалася — ВІАГРАСЛАЎСК, і так ужо з гэтай віагры па ўсім свеце пачалі смяяцца, што прыйшлося пакінуць мястэчку назву старую. Так і засталіся Малыя Набздзейкі Малымі Набздзейкамі.

І дзякаваць Богу!



нарадзіўся 9 лютага 1959 года ў вёсцы Поразава Свіслацкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Працаваў у Гродзенскім абласным драматычным тэатры, выкладчыкам культасветвучэльні і ў тэатры лялек у Гродне. Бард, акцёр, пісьменнік. Узнагароджаны міжнародным Ордэнам усмешкі, лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў аўтарскай песні. З канцэртамі выступае ў Беларусі, Летуве, Нямеччыне, Польшчы, Расіі, Украіне, Францыі, Чэхіі. Тэксты песень перакладзены на ангельскую, нямецкую, польскую, украінскую і чэшскую мовы. Аўтар шэрагу аўдыёдыскаў, а таксама кніг паэзіі і прозы. Жыве ў Гродне.



ЛЕАНАРДА ЮРГІЛЕВІЧ

## Тонкі каласок агню

Ад лесу, як нямытая авечая воўна, плылі жоўта-шэрыя хмары. Не па-летняму халодны вецер адскубаў ад іх пасмы, і яны, абганяючы адна адну, несліся над хутарам. Маленькая Алеська Жвірко, якой вясной споўнілася пяць гадоў, стаяла ля паваленага плота і бруднай босай ножкай распырсквала невялікую лужу. Збэрсаныя цёмныя валасы, якія даўно трэба было мыць і расчэсваць, падалі на мілы тварык.

Дзень ужо даўно наступіў, а яна яшчэ не ела. П’яная мамка учора хадзіла ў Алешніцкі магазін, але акрамя віна нічога не купіла. Дзяўчынка доўга чакала яе, спадзеючыся хоць на якую яду. Толькі дарэмна.

— А што мне есці? — спытала, калі, зазірнуўшы ў сумку, пераканалася, што для яе там нічога няма.

— Бульба вараная на пліце ў каструлі. Хлеба акраец на стале ляжыць. Сама не можаш узяць? Вялікая ўжо, а ўсё табе прынясі ды падай.

Дзяўчынка пагрызла чэрстванга хлеба ды лягла спаць. І сёння прачнулася ад таго, што вельмі хацелася есці. Мама яшчэ ляжала на ложку пад старым пакрывалам і трымалася за галаву. Алеська разумела: галава моцна баліць і маме зноў трэба выпіць віна. А яго не было, зялёная бутэлька, што стаяла на стале, — пустая.

— Гэта я ўчора ўсё выпіла?! — здзівілася.

— Не-а, я дапіла… Вядома ж, усё, а потым як нежывая ўпала на ложак.

Соня Жвірко піла даўно, яшчэ з той пары, як былі жывыя бацькі. Некалі працавала ў горадзе на фабрыцы, але адтуль прагналі, і яна вярнулася на родны хутар. Нават не ведае, ад каго Алеську прыжыла. Нарадзіла і прывезла да бацькоў. Тыя і выгадавалі маленькую, а як памерлі, Алеська стала нікому не патрэбна.

— Я есці хачу… — працягнула дзяўчынка тоненькім галаском, у якім чуліся слёзы.

— Бульбу хіба ўсю ўчора з’ела?

— Не, толькі хлеб.

— Ну тое даядай, больш нічога няма.

— Звары якога супу, мамка…. У нас так даўно не было супу. Бабуля некалі кожны дзень варыла.

— Якога табе супу? З чаго яго варыць? У нас нават жмені макаронаў няма. І газ даўно закончыўся, а ў печы паліць не буду. Ці не бачыш, якая я хворая?! Тут каб пахмяліцца, а не суп табе варыць. — Твар Соні быў так апухлы ад віна, што ледзь вочы відаць.

Алеська выглянула ў бруднае акно і з нянавісцю прамовіла:

— Вунь валачэцца ўжо! Лячыць цябе будзе!

— А і праўда! — узрадавалася маці. — Пакет нясе, у ім, напэўна, віно.

Да хутара падыходзіў немалады каржакаваты мужчына. З-пад пакамечанай кепкі былі відаць нястрыжаныя сівыя патлы. Гэта Андрэй Дзеркуноў — п’яніца з недалёкай вёскі Сіроцічы.

— Мабыць, учора пенсію атрымаў Андрэйка! І пра мяне не забыўся, ведае, як цяжка.

Алеська села да стала і пачала пальчыкамі лупіць халодную пасінелую бульбіну.

— Кыш на двор! — схапіў яе за ручку Андрэй. — Мы з тваёй мамкай палечымся, а потым прыйдзеш.

— Ага, Алеська, пагуляй, — падтрымала яго маці, — потым бульбу сваю даясі.

Дзяўчынка ўзяла ў жменьку недачышчаную бульбіну і падалася на двор. Тут, стоячы ля сцяны, аблупіла і з’ела.

— Хутка даяркі будуць ісці на ферму і цётка Маня Кузьміцкая прынясе мне яды, — казала сама сабе дзяўчынка. — Яна добрая, цётка Маня. І іншыя жанчыны таксама прыносяць калі-нікалі, а цётка Маня заўсёды. Учора ў яе быў выхадны, таму я галодная. А сёння яна і галаву мне памые, і косы запляце. Рукі ў яе ласкавыя, як у бабулі, што памерла зімой.

Сонца не хацела вылазіць з-за хмараў, і дзяўчынка не магла вызначыць, калі будуць ісці даяркі. Каб не так марудна цягнуўся час, трэба шукаць нейкую забаўку. З хаты спачатку даносіліся галасы, а потым усё сціхла. Алеська асцярожненька ўсунулася туды і ўбачыла, што мама з дзядзькам спяць. На стале ў бутэльцы стаяла недапітае віно. Узяла яго і панесла на двор, выліла.

— От, няхай баляць вам галовы, — прыгаворвала. — Як есці то няма чаго, а віно ёсць.

Пастаяла і кінула бутэльку ў дзядоўнік, што рос па ўсім двары.

Вярнулася ў хату, узяла з прыпечка карабок запалак. Патрэсла, правяраючы. Запалкі былі. Выйшла на двор, высыпала іх ля ганку і ў карабок злавіла рыжага жука, што заклапочана поўз па сухой сцябліне. Жук у карабку шапацеў, хацеў вырвацца на волю. Алеська прыклала цацку да вуха.

— Не ўцячэш, нават не старайся. Я цябе потым сама выпушчу.

Вырвала сухую сцябліну, па якой нядаўна поўзаў жук, узяла ля ганку запалку і чыркнула аб карабок. Тонкі каласок агню апёк ёй пальцы, і дзяўчынка кінула яго долу. Нечакана загарэліся другія сцябліны. Гэта быў ужо не каласок, а клубочак агню, які на вачах рос і дужэў. Ля хаты featureзнага сухога смецця было шмат, і Алеська назірала, як яно хутка гарыць.

Раптам убачыла, што на ферму ўжо пайшлі даяркі, і, заціснуўшы ў жменьцы карабок з жуком, пабегла туды.

…Пажарныя і хуткая дапамога прыехалі на хутар, калі ён быў накрыты тоўстай коўдрай агню, але паспелі выцягнуць двух чалавек.

— Мужчына мёртвы, а жанчыну, можа, яшчэ і адратуем, — сказаў доктар хуткай дапамогі.

Людзі, што прыбеглі на пажар, з жалем глядзелі на Алеську. Яна стаяла побач, прыціснуўшы да грудзей карабок з жуком.

— Мамка паправіцца, толькі ёй трэба даць віна, — сказала без ценю сумнення. — Яна заўсёды віном лечыцца…



нарадзілася 4 верасня 1948 года ў вёсцы Рагалёўшчына Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Свіслацкую школу-інтэрнат. Вучылася завочна на факультэце журналістыкі БДУ. Працавала ў Дзятлаўскай раённай газеце «Перамога». Шматразовы лаўрэат прэміі часопіса «Вожык», удзельніца Усебеларускага фестывалю сатыры і гумару «Аўцюкі-2000», дзе атрымала дыплом «За развіццё традыцый беларускага гумару». Аўтар кніг «Грэшная душа» (2000), «Восеньскае танга» (2003), «Доўгі калідор» (2017). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.





# ПЕРАКЛАДЫ

## МІКАЛАЙ ГУМІЛЁЎ



Так, я — ведаю — вам не пара.
І прыйшоў я сюды без пары.
І люблю я не спеў гітары,
А дзікунскі надрыў зурны.

Не па залах і па салонах,
Не сукенкам і пінжакам —
Словы вершаў у розны склонах
Я чытаю вадзе й гарам.

Я люблю, як араб ў пустыні
Прагна п'е з ручая ваду,
А не рыцара на карціне,
Што ў чаканні спыніў хаду.

І памру я не на пасцелі
Пры натарыусе і ўрачы,
А ў цясніне, дзе вецер сцеле
Па каменні свае плюшчы.

Каб ўвайсці не ў той адкрыты
Пратэстанцкі, прыбраны рай,
А туды, дзе разбойнік, й мытар,
І блудніца крычаць: «Ўставай!»

Так, я — ведаю — вам не пара…
І прыйшоў я тут без пары,
І люблю я не спеў гітары,
А дзікунскі надрыў зурны!



Ты не змагла ці не хацела
Адчуць, як б’е мяне знямога.
Шануеш ўсю спакусу цела
І сэрца стук дзеля другога.
Затое вось перад бядою,
Калі я ў муках сцісну зубы, —
Не прыйдзеш ты змачыць вадою
Мае зусім сухія губы.
І ў час рыўка з апошняй сілы,
Калі й анёлы залунаюць,
Твае зіхценнем яркім крылы
Перада мной не замільгаюць.
І ў момант светлай перамогі
Мой сцяг здабыты не падымеш.
Мяне ж, устаўшага на ногі,
Сваёй пяшчотай не абдымеш.
І ты мяне забудзеш хутка,
І я не стану думаць болей
Аб той дзяўчыне, што пакутай
Была ў душы маёй і болем…

*З рускай мовы пераклала Святлана Абдулаева*

## ІЛЬДЭФОНС ГАЛЧЫНЬСКІ

### Байка аб драўлянай галаве

У антыкварным, бач, навіны —
вунь галава! Няўжо з драўніны?
Бы той шэдэўр этнаграфічны
ці выраб майстра спраў магічных?

Гляджу. У фас, у профіль злева…
Знутры пустая, звонку дрэва…
Але цікава стылем звону,
ну рыхтык з нашага амбона.

Нясу дахаты. Во, удача!
А ў жонкі жах. І як заплача…
І распачаўся маналог…
Я ацішэў — на дно залёг…

Прысеў на ўскрайку ля стала,
а паміж намі — галава.

І каб аддзячыць дыялогам,
я заручыўся нават Богам
і аргументам з-пад палы:
сакрэты ёсць у галавы,

і вось тады, як разгадаеш,
у свеце першай дамай станеш.
І каб закончыць ай лав'ю
ў дзеравяную
засоўваю
сваю.

Заходзіць сябар з нашай гміны,
а галава яго з драўніны,
змікіціў хутка: цвік у лобе
сядзіць яшчэ ў адной асобе.

І кажа: «Брат! Цяпер нас многа,
а ты ў нас нораву крутога».
…Паслухаў сябра і даў згоду —
здабыць з драўлянай асалоду.

Аб галаве аб дзеравянай
разнёсся чуткай спеў асанны.

Расце кар’ера і павага,
а гледачоў бы ў час аншлага!

Няхай галовы тут жывыя
на працы зведаюць смак кія,
а я з драўлянай рэй вяду,
схапіўшы ў Бога бараду.

І так жыву, мой брат, васпане,
як самы першы ў гэтым клане,
і да таго ж гарант закону:
каб кіраваў я тут да скону.

## 300 000 Мечыславаў*

300 000 Мечыславаў
не гародзяць агарод,
бо не толькі трэба з кавай
сустракаць ім Новы год.
  300 000 Мечыславаў
  і з іх кожны — «Мечык наш!»
  для гасцей, што й для халявы
  нат працоўны маюць стаж.
Любяць шпроты і каўбасы,
чарку з вогненнай вадой,
на якую вельмі ласы
родзіч з рыжай барадой.
  Бедачына, посціў шчыра.
  На гарэлку зірк... здаля
  і па бруку — майна-віра —
  сёння тросся аж паўдня.
Не адзін, ён быў на фоне
свата, дзядзькі і кумы,
і галопам нёс іх конік,
бы на баль падчас чумы.
  Прадчуванням было цесна
  і не бачыўся пракол:
  «Мечык наш» драмаў у крэсле,
  разам з ім — трохногі стол.

*З польскай мовы пераклаў Мечыслаў Курыловіч*

* 1 студзеня — імяніны Мечыслава.

## ЖАК ПРЭВЕР

### Барбара

Ты помніш Барбара
Дождж несціханы над Брэстам у той дзень
І ты з усмешкай бяжыш
Пад разнасцежаным вадаспадам
Дажджу
Ты помніш Барбара
Дождж несціханы над Брэстам
І цябе я сустрэў на вуліцы Сіам
Ты ўсміхнулася
І я ўсміхнуўся таксама
Ты помніш Барбара
Я не ведаў цябе тады
Ты таксама мяне не ведала
Успомні
Ты ўспомні той дзень
Не забудзь
Чалавек пад навесам сяней
Выгукнуў тваё імя
Барбара
І бегла ты да яго пад дажджом
Пад квітнеючым вадаспадам
І ў абдымкі кідалася
Ты помніш сябе Барбара
І не крыўдуй на мяне калі называю цябе на ты
Я кажу ты ўсім каго люблю
Калі нават бачыў іх толькі адзін раз
І кажу ты ўсім хто любіць
Калі нават не ведаю іх
Ты помніш Барбара
Не забывай
Гэты дождж паслухмяны шчаслівы
На твары тваім шчаслівым
Над горадам гэтым шчаслівым
Над морам
Над арсеналам
Над лодкамі на Асане
О Барбара
Недарэчнасць якая вайна
Што стала цяпер з табою

Пад гэтым дажджом жалеза
Сталі агню крыві
І з тым хто сціскаў цябе ў абдымках сваіх
Закахана
Знік ён памёр ці яшчэ жывы
О Барбара
Дождж несціханы над Брэстам
Дождж такі як раней
Але ён не падобны да таго чыгунны і разбуральны
Дождж знішчальны журбы і жаху
Гэта не навальніца
Ураган жалеза сталі крыві
Акалелі тыя лёгкія воблакі
Як дваровыя сабакі
І схаваліся
За валокнамі вады над Брэстам
За небасхілам каб струхлець удалечы
Далёка вельмі далёка ад Брэста
І ад іх застанецца нічога.

*З французскай мовы пераклаў Юрка Голуб*

## Юльян Тувім

### Наша мудрасць

Як жа мудрасць гэту нам асвоіць, браце,
каб і ў невучонай прыжылася хаце?

Людзі ж мы без пыхі, ад зямлі з канём,
хрышчаныя словам і, не раз, агнём.

Толькі нашай мовай, што дзівосы знае,
свет наш называюць, як на самай справе.

Без вучоных кніжак мы яго калечым,
бо толькі адзінкі помняць тут аб нечым:

аб хвілінах жахаў, што бягуць у вечнасць,
і шукаць іх цені — больш чым недарэчна.

Нас на гэтым свеце маладосць адродзіць,
бо па агародзе звестуновым ходзіць

і да самай смерці верыць эпілогу:
цэсару — людское, а Боскае — Богу.

### Сплін

Ад нудоты з пацярухай
млоснасць, сон і тло,
бы у хворага пад мухай,
чорт ведае што.

Можа, ў іншай лепш мясціне,
бо Варшава п’е.
У глухой забытай гміне?
Чорт ведае дзе.

І гада́м было б нядрэнна
сцішыць ход няўзнак.
Я не супраць, толькі пэўна
чорт ведае як.

Мо заняцца нейкай працай,
дзе круты калым,

дзе заробак з рэлаксацыяй,
чорт ведае з чым.

Пагавэндзіць бы ў ахвоту
пра суровасць зім.
Перш з папом? А з жыдам потым?
Чорт ведае з кім.

Мо заняцца пустаслоўем,
дзе кіруе нуль,
у падліках пра здароўе
чорт ведае скуль?

Ці спагнаць з купонаў чары:
тройчы ў дзень па сто?
А пасля? Гары ён гарам:
«чорт ведае што».

## Шчасце

Мне не цікавы гэты свет
лірычны, дый у прозе,
бо не раскажа болей мне,
чым вецер пры дарозе.

І не цікаўлюся людзьмі,
што з ведамі за сотню —
мне дастаткова хоць які,
што справу знае потную.

Згубіў цікавасць і да кніг,
нагоду даўшы кпінам,
бо добра ведаю без іх:
клін выганяюць клінам.

Стаю спакойна ля акна,
зімою у дзве столкі.
Якое шчасце, божа мой!
І дзякаваць мне колькі?

## Замучаны шаленствам бур

Замучаны шаленствам бур у часе без адхлання,
нічога не хачу — гаючай толькі цішы,
яшчэ таго, хто здольны на маўчанне
і хто маю тугу заўважыць без афішы.

Хто яснаю душой жыццё мне перакроіць,
каб з Боскай ласкі кончыліся мукі,
і сэрца ашалеласць супакоіць,
паклаўшы мне на вочы
спагадлівыя рукі.

Па вастрыі ляза жыццёвага нарога
шукаю плённасць з поспехам наўме
і ведаю, якой пайду дарогай,
бо ўсе мае дарогі толькі да цябе.

## Акацыя

Белай акацыі водар нясло
адвячорку ў рыцарскім строі,
быццам кветак другіх не было,
і наогул быць не магло іх.

Цёмнае лісце ў белым суквецці
шэлестам кліча паэтаў,
быццам іх голас на гэтым свеце
ніколі не чуў перад гэтым.

Праз веццe ільсніцца звязды эксклюзіў,
а вечар загадваў жаданне:
як быццам ніколі цябе не любіў,
а толькі было прадчуванне.

## Верш

Аб чым? Аб вячэрнім суладдзі:
віно з цеплынёю на хвалі.
І зоркі, бы кветкі шчасця,
на ніўку нябёс уцякалі.

Шлях зносін для брычкі адданы,
а конік як з Боскае мары.

І месяц праехаў над намі
у шапцы з раздзёртае хмары.

Ніхто не падняў мне настрою.
І верш не шаптаў мне: «Ало!»
Дый сам я быў насам з сабою.
Цябе ж там зусім не было.

## Любоў табе усё прабачыць

Любоў табе усё прабачыць,
і памяняе сум на смех,
і пекнатою растлумачыць
махлярства, здраду, нават грэх.

Не гавары, мой мілы, з роспачы,
што плод любові як змяя,
што быццам ёю ты сурочаны…
бо плод любові — гэта ж я.

Калі ж палюбіш так, як я —
візітнай картачкай душы,
тады скажы, што я твая,
тады мне здраджвай і грашы.

*З польскай мовы пераклаў Мечыслаў Курыловіч*



# Успаміны

## Аляксей Пяткевіч

### «Бальшавіке прыйшлі!..»

Гэтыя словы, як незвычайную навіну, адрасаваную маёй маме (спачатку назваўшы яе па імені — Тоня), выгукнуў Барыс Кандыбовіч, высокі немалады хлопец са шматдзетнай сям'і, што жыла на ўсходняй ускраіне нашага мястэчка, каля Нёмана. Мама, занятая нейкім гаспадарчым клопатам на падворку, на пэўны час знерухомела, здзіўленая такой весткай, а хлопец пашыбаваў далей па вулачцы: напэўна, апавяшчаць пра такую падзею яму вельмі хацелася.

Мама хутка авалодала сабой. Скінула фартух, папраўіла валасы і спешна скіравалася на вулачку, дзе я так рана ўжо гуляў. Старэйшай сястры Валі чамусьці не было. Мама, кінуўшы мне кароткае «пайшлі», подбегам падалася па вулачцы ў бок Нёмана, а я, малы, стараўся паспець за ёю і не разумеў, чаго так бегчы. Прычына ж у мамы была. Яна баялася за тату, які ў гэтую ноч дзяжурыў на мосце, а бальшавікі цераз яго, напэўна, і пераходзілі. Польскія ўлады ў гэты вельмі трывожны час занепакоіліся бяспекай сваіх стратэгічных аб'ектаў. І хоць гэты драўляны мост цераз Нёман не меў вялікага ваеннага значэння, знаходзіўся ён у памежнай зоне, адсюль было 8 км да мяжы з СССР. Таму вырашана было вартаваць мост у начную пару. І местачковыя мужчыны па чарзе спраўна выконвалі гэты грамадзянскі абавязак. Так сталася, што якраз у той час, з 16 на 17 верасня, дзяжурыць на мосце выпала тату. Пазней ён распавёў. Ноч была ціхая і даволі яшчэ цёплая. Пад раніцу берагі зацягнула туманам. Тата паволі хадзіў пасярэдзіне моста — туды-сюды. Пачынала світаць. Раптам яго ўвагу прыцягнуў незразумелы глухі шум з усходняга боку, і з паўзмроку стала напаўзаць вялікая маса ў вайсковай форме. Ля самага моста яна спынілася. Ад яе аддзяліўся адзін вайсковец, які хутка, чаканячы крок, стаў набліжацца да таты. Падышоўшы, апусціў рукі «па швах» і загаварыў гучна, пастаўленым камандзірскім голасам: «Мы, Чырвоная Армія, па волі савецкай улады і вялікага правадыра таварыша Сталіна прыйшлі да вас, у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, каб вызваліць вас ад прыгнёту панскай Польшчы і прынесці вам свабоднае і шчаслівае жыццё...» Тата казаў, што адразу ж адчуў штучнасць гэтай урачыстай прамовы, адрасаванай аднаму чалавеку, але яна доўжылася, і тата адчуваў сябе няёмка, хаця і не без гонару. Нарэшце вайсковец скончыў. Затым некалькі разоў падскочыў, правяраючы трываласць насцілу, і спытаў: «А наша тэхніка тут пройдзе?» І не чакаючы адказу, махнуў рукой сваім. Відаць, спяшаўся. Салдацкі шыхт рынуў праз мост у мястэчка.

Калі мы з мамай прыйшлі на грэблю каля Нёмана, там ужо віраваў натоўп. Найбольш было жанчын. Рух войска ўжо амаль спыніўся, і мясцовыя перамяшаліся з

салдатамі. У рад стаялі грузавыя машыны. Яны часам перамяшчаліся ўперад на невялікі адрэзак, і я па прапанове аднаго шафёра нядоўга праехаўся побач з ім на мяккім сядзенні, чаму быў на сёмым небе ад захаплення. Мама адразу ж кінулася шукаць тату і, знайшоўшы яго, прыкметна павесялела. Увогуле настрой людзей, што прыйшлі сустракаць войска з Усходу, быў прыўзнята-светлым, нават радасным. Але без эйфарыі. Трымаліся стрымана, прыглядаліся, распытвалі. Не ведалі, праўда, як да гэтых вайскоўцаў звяртацца. Называлі то «бальшавікамі», то «рускімі», то «савецкімі», то «чырвонымі». Тыя ж не былі словаахвотлівымі. Наадварот, гаварылі скупа, адводзілі ўбок вочы. Напэўна атрымалі адпаведныя інструкцыі. Больш гаваркімі былі палітрукі. Але ў іх аптымістычных маналогах усё круцілася вакол вызваленчага паходу, савецкай улады, вялікага Сталіна. рабочага класа, калгаснага ладу. Раздавалі газеты з партрэтам Сталіна і казалі партрэт прыклейваць да аконнага шкла знутры. Але толькі ў тым акне, якое выходзіць на вуліцу.

Жанчыны шкадавалі маладых салдацікаў: былі яны ўсе худыя, стрыжаныя, у выцвілых гімнасцёрках і ў абмотках на нагах. Гэтыя дзіўныя абмоткі выклікалі і спачуванне, і ўсмешкі. Асабліва ў нас, дзяцей і падлеткаў. Мы заўважалі, што нашы таты ўсе носяць боты, а ў святочныя дні абуваюць адмысловыя, хромавыя боты.

Не ўражвала ваенная тэхніка. Танкі, ці, як мы тады казалі, «чолгі», былі нязграбна-вялізныя, непаваротлівыя і чорныя. Танкісты былі такія ж мурзатыя-чорныя. Танкаў тых мы бачылі ўсяго некалькі. Больш было гармат. Але дзіўна, што ўсе яны цягнуліся коньмі. Коні ж маленькія, казалі, сібірскія. Збруя на іх — з тоўстых вяровак. На гэта таксама глядзелі, як на дзіва. Запала ў памяці, што буйную гармату цягнуў васьмярык такіх конікаў. На адным з задняй пары сядзеў салдат і доўгім бізуном падганяў сваіх падапечных. На ўездзе ў вуліцу, што ішла паралельна з грэбляю, быў круты паварот, дзе была хата маёй бабулі. Яна цяпер стаяла ў агародзе, адкуль добра ўсё было відаць. Васьмярык коней з гарматаю, вядома ж, не справіліся з паваротам і зачапілі адразу два праслы высокага драўлянага плота. Пачуўся моцны трэск. Бабуля закрычала, схапіўшыся за галаву. А салдат-пагоншчык весела зарагатаў: «Нічога, мамаша, новы плот паставім».

Гэты матыў новага, лепшага за старое нябачна лунаў у жыццёвай прасторы, усяк мусіраваўся масавай свядомасцю. Праўда, да пары да часу. Новае добра, разважалі людзі, але ці яно лепшае? Так вельмі хутка зніклі тавары з усіх крамаў. Ды і крамы прыватнікаў перасталі працаваць. Савецкія прадукты і «мануфактура» з'яўляліся рэдка і браліся ледзь не з боем. Узнікае непрыкметна такая катэгорыя новай супольнасці, як «жывая чарга», гэта значыць, што перамагае ў краме той, хто мацнейшы ды спрытнейшы і раней за іншых прабіваецца да прылаўка. У такой чарзе, добра помню, тата змог купіць мне прыгожы, светла-карычневага колеру світрык з кароткай засцежкай-маланкай на грудзях. Надзявалі-прымервалі яго чамусьці раніцай у ложку, калі я яшчэ не зусім прачнуўся, і металічная засцежка балюча драпнула па твары. Я ўпадабаў гэту абноўку, усяляк бярог яе і надзяваў у школу.

Пры Польшчы я скончыў 2-і клас. Але савецкая ўлада адсадзіла ўсіх школьнікаў на адзін год назад. Таму я і мае аднакласнікі пайшлі ў 1939/40 навучальным годзе зноў у 2-і клас. Вучыла нас па-беларуску настаўніца з мясцовых. А ў 3-м класе навучанне ўжо вялося па-руску, бо прыслалі настаўніка з савецкага Усходу. Такіх прысланых

з'явілася нямала, і яны займалі розныя кіраўнічыя пасады. Сярод іх досыць тыповай фігурай, як мне цяпер здаецца, быў начальнік аховы лесапільнага завода. Гэтае буйное, як для нашага мястэчка, прадпрыемства раней, пры Польшчы ніякай варты не мела. Цяпер лесазавод пачалі вартаваць, прычым кругласутачна, у тры змены. Узначаліў адну са змен мой тата. Ён меў гімназічную, хаця і не зусім скончаную, адукацыю, быў начытаным, развітым, і так трапіў на гэтую службу. Праяўляючы такт, запрасіў аднойчы свайго шэфа з жонкаю ў госці. Быў той сярэдняга росту, стройны, у навюткай гімнасцёрцы, падпяразанай шырокім бліскучым рэменем. Нагадваў вайскоўца, і нам спадабаўся. Нам — гэта мне і сястры Валі, з якой сядзелі на печы. Звычайна, калі ладзілася ў хаце нейкае застолле, нас выпраўлялі на двор. Тады ж стаялі моцныя маразы, і бацькі нас пашкадавалі ды засадзілі на печ. Мы былі задаволены. На абжытай, утульнай і цёплай печы, дзе тата доўгімі зімовымі вечарамі чытаў уголас пры лямпе розныя мастацкія творы, узятыя ў лесазаводскай «святліцы», дзе мы нярэдка і засыналі пад раўнамерную інтанацыю татавага чытання, нам заўсёды было добра. Гэта была наша аўтаномная тэрыторыя. Але з'яўленне незнаёмага чалавека крыху выводзіла нас з гэтай прасторы, будзіла дзіцячую цікаўнасць, прымушала выглядаць з-за коміна, прыслухоўвацца. Госць найперш уразіў бацькоў тым, што прыйшоў адзін, без жонкі. «А што ёй тут рабіць? Гарэлку піць? Дык нам больш застанецца», — сказаў ён і зарагатаў. Здзівіў і тым, што запатрабаваў замест кілішка шклянку («У нас даўно такімі дозамі не п'юць»). Шмат гаварыў, хваліў савецкую дысцыпліну, вясёлы лад жыцця ў СССР. Затым стаў распавядаць пра сваю каханку, пра яе вартасці. Тут тата з мамай пачалі неспакойна азірацца ў бок печы, бо размова пайшла ўжо не для дзіцячых вушэй. Не без хвалебнага тону заўважыў, што, як ехалі з жонкай да месца працы, гэта значыць у наша мястэчка, каханка ехала тым жа цягнікам, што і яны. Нарэшце госць нашай хаты, добра падпіўшы, стаў ужываць «моцныя» выразы. Мама адразу ж выйшла з хаты, накінуўшы нешта цёплае на плечы. Тата ўстаў з свайго месца і нервова захадзіў каля стала. Мы на печы зашыліся ў самы куток — схаваліся. Брыдкаслоўя дагэтуль не чулі. І не толькі ў сваёй хаце, а і на вуліцы. Пазней тату сказаў яго начальнік, што ён вельмі задаволены гасцінаю.

Мяжа паміж Польшчай і СССР хоць і страціла сэнс, але перамяшчэнне насельніцтва праз яе было вельмі абмежаваным. Ды неяк прарвалася да нас вялікая група калгаснікаў са Смаленшчыны. Было гэта зімой 1940 года. Калі яны з дзецьмі, разгубленыя, атабарыліся ў цэнтры мястэчка, людзі сталі падыходзіць і цікавіцца, адкуль прыбылі, чаго. Адказвалі няпэўна, але відаць было, што з'явіліся не ад добрага жыцця. Галоўнае ж, што прыцягнула ўвагу мясцовых, асабліва дзяцей, — чужыя ўсе былі ў лапцях. Мы раней не бачылі такога абутку, і хацелася падысці як найбліжэй ды разгледзець. Пазней мама, якая пабывала ў Расіі як бежанка і з лапцямі там добра пазнаёмілася, патлумачыла, што плятуцца яны з лыка. Выглядаюць даволі вялікімі, бо надзяваюцца на нагу, закручаную аж да калена палатнянай анучай, якая мацуецца па версе вераўчанай аборай. Трэба прызнаць, што прыезджыя досыць хутка асвоіліся ў мястэчку і сталі ўладкоўвацца на сталае жыхарства. А адзін з іх быў прызначаны загадчыкам нашага млына. У млыне і жыў з сям'ёй. Я нават крыху зайздросціў яго дзецям, бо што ні кажыце, а жыць у млыне цікавей, чым у звычайнай хаце.

Зіма 1940-га моцна яшчэ адгукнулася савецкімі рэпрэсіямі і ссылкамі. Нашых местачкоўцаў яны, здаецца, не зачапілі. А вось сем'і навакольных асаднікаў, багатых сялян, былых польскіх чыноўнікаў, беларускіх палітыкаў спешна загружалі ў таварныя вагоны ў недалёкіх Стоўбцах. Стаялі тады маразы за 40 градусаў. Скрозь вымерзлі сады. Хтосьці дагледзеў, што пры пагрузцы на станцыі маці закручвала малое ў кудзелю. Можа, не паспела ўзяць добрае цёплае адзенне, а можа, яго не было. Бог святы знае. Але мая мама плакала. І мне доўга рэзала сэрца сцэна: люты мароз і голенькае (чамусьці) дзіця, якое закручваюць у кудзелю.

Тады саслалі татаву сястру Сашу з дзецьмі. Яна была замужам за польскім афіцэрам. Беларуска-праваслаўная выйшла за паляка-каталіка. Была шчаслівая сям'я, гадавалі траіх дзяцей. Я сваю цётку ніколі не бачыў, але дома яе часта і хараша ўспаміналі. На пачатку вайны Германіі з Польшчай муж трапіў у нямецкі палон. Яе ж з дзецьмі завезлі ва Усходні Казахстан. Жылі ў зямлянках у стэпе, дзе рос толькі кавыль. Гэтым кавылём палілі печку, выграбаючы яго з-пад тоўстага пласту снегу, і так ратаваліся ад маразоў. Ад голаду ратавалі нашы пасылкі. Добра помню фанерныя скрынкі, над якімі ўсе мы схіляліся, калі мама акуратна ўкладвала торбачкі і папяровыя скруткі з прадуктамі. Аднойчы яна спытала ў лісце, ці прыслаць фасолі. На гэта цётка адказала, што будуць рады і фасолевым струкам. Гэтыя струкі вельмі моцна ўрэзаліся ў памяць. Пазней, у час вайны іх сям'ю, як і сем'і іншых сасланых «з Польшчы» вывез у Англію англійскі Чырвоны Крыж.

Яшчэ адна трывожная думка жыла ў нашай хаце ў гэты нядоўгі час, пры «першых Саветах». Гэта спадзяванне, што адгукнуцца іншыя татавы родзічы — сястра Маня і браты Вікенці і Антон. Браты зведалі падчас Першай сусветнай вайны афіцэрскую акопную долю. Затым пайшлі за Саветамі і ў 20-я гады былі вайскоўцамі. Вікенці пісаў дамоў дзесьці ў сярэдзіне 20-х, што служыць у Маскве начальнікам школы «Чырвоных камандзіраў», Пасля пайшоў на павышэнне і быў пераведзены ў Ленінград. Антон у гэты час паведамляў, што працуе камендантам ваеннага порта ў Феадосіі (Крым). Затым сувязь з імі абарвалася. Сястра Маня была замужам за інжынерам-чыгуначнікам. Мелі сына Барыса і жылі ў Фаніпалі, непадалёк ад Мінска. Апошні раз напісала ў 1929 годзе, даслаўшы сямейны фотаздымак.

Пра савецкія крывавыя рэпрэсіі нямала пісалі і гаварылі ў Польшчы. Але людзі не надта гэтаму верылі. Так і ў нашай хаце. Тата вінавата ўсміхаўся і гаварыў пра сваіх: «Быць такога не можа з імі, яны ж адукаваныя людзі». Чамусьці гэта быў для яго важкі аргумент. У 1939–1941 гадах ён усё чакаў, чакаў. Верыў у справядлівасць савецкай сістэмы. Праўда, партрэта Сталіна, як прыйшлі Саветы, у акне не выставіў. Толькі праз шмат гадоў наша сям'я дазналася, што браты таты былі расстраляныя ў 1938 годзе як «польскія шпіёны». Пра лёс Мані і яе блізкіх ніякіх слядоў адшукаць не ўдалося.






нарадзіўся 30 сакавіка 1931 года ў мястэчку Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Літаратуразнавец, культуролаг, краязнавец. Кандыдат філалагічных навук. Прафесар. Скончыў філфак БДУ. З 1957 года працуе ў Гродзенскім універсітэце (педінстытуце) імя Я. Купалы. Выдаў кнігі: «Наднёманскія былі» (у сааўт., 1968), «Сюжэт. Кампазіцыя. Характар» (1981), «Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст.» (у сааўт., 1981, 2-е выд. 1998), «Літаратурная Гродзеншчына. Мясціны. Людзі. Кнігі» (1996), «Маршруты кніжнага слова: з гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне» (2002), «Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы» (2006), «Музычна-тэатральная культура Беларусі» (X–XVIII стст., 2010), «Слова і кніга Прынёмання» (2016) і інш. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Гродне.



# Публіцыстыка

## Рычард Бялячыц

### Постаці Айчыны

Прайшоў час, а дзень помніцца. Усе мы, хто з Польшчы, хто з Літвы, хто з розных куткоў Беларусі, прыехалі пахмурным лістападаўскім днём у Ашмяны, каб убачыць, адчуць, зберагчы ў сабе святло душы гаспадароў той зямлі.

Споўнілася 250 гадоў з дня нараджэння славутага вучонага, грамадскага дзеяча далёкай эпохі Енджэя Снядэцкага, чые адкрыцці, праца для чалавецтва жывуць і сёння. Ён нарадзіўся ў Польшчы, вучыўся ў лепшых еўрапейскіх установах, працаваў у знакамітым універсітэце нашай былой сталіцы Вільні. А ў Гародніках, што пад Ашмянамі, вучоны меў памесце, як цяпер кажуць, лецішча. Тут, як ні дзіўна, ён і пажадаў застацца назаўсёды.

Але хочацца распавесці нават не пра вядомага дзеяча той эпохі, а больш пра нашых сучаснікаў. Колькі гадоў назад тады настаўніца Кальчунскай школы Таццяна Давідовіч вырашыла, адчуваючы ў сабе сілы і дасканала прааналізаваўшы сітуацыю, увекавечыць памяць вучонага на сваёй зямлі.

І вось чарговая імпрэза, прысвечаная Енджэю Снядэцкаму на Ашмяншчыне, засведчыла: жанчына не толькі клапатліва і прафесійна ўшанавала памяць вучонага, але і сама дастойна любові роднай зямлі. Хлебам-соллю сустракалі гасцей на граніцы раёна ашмянцы. Везлі на святыя руіны Гальшанскага замка. Тут адна з дзвюх вежаў амаль адрэстаўравана, а сцены закансерваваны, бо вельмі пацярпелі, асабліва ў мінулым стагоддзі і на пачатку нашага, ад людской нядбайнасці і кашчунства, калі разбіраліся па цагліне на пабытавыя патрэбы. Пра тое з моцным шкадаваннем гаворыць дырэктар Ашмянскага краязнаўчага музея Анастасія Навіцкая, якая, як падалося гасцям з Польшчы падчас экскурсіі, валодае гістарычнымі ведамі ці не на ўзроўні кандыдата навук. Запомнім гэтае імя.

Святая імша ў гонар Енджэя Снядэцкага ў капліцы на могілках, ля помніка вучонаму. І музей, прысвечаны яму ў Кальчунскай сярэдняй школе, які носіць званне народнага. Захопленая краязнаўствам намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Таццяна Давідовіч, гаспадыня музея, і прафесійна падрыхтаваныя юныя вядучыя.

Нарэшце, актавая зала райвыканкама і вядучая Міжнароднай краязнаўчай гасцёўні «Сустрэчы ў лістападзе» ўсё тая ж Таццяна Давідовіч. Адчуваецца, што лістападаўская сустрэча тут не ўпершыню і праводзіцца яна штогод па новай тэматыцы. Выступоўцы з розных краінаў на ўзроўні прафесара, а яна, сімпатычная, у меру строгая і ўсмешлівая, дакладна арыентуецца і ў фізіцы, і ў хіміі, і ў праблемах выхавання.

Яна ведае ўсіх, і высокія госці называюць яе па-сяброўску — па імені. Ідзе размова пра высокія матэрыі, а падаецца простай і даступнай, з улікам аўдыторыі. Напрацаваны за многія гады матэрыял па тэме, наладжаныя сувязі дазваляюць ашмянцам весці рэй на навуковай аснове. Ян Барцішэўскі, прафесар інстытута біяарганічнай хіміі Польскай акадэміі навук, Біруце Райлене, супрацоўнік бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук, Казімеж Карпік, дырэктар музея Яшунскага палаца з Літвы, Андрэй Майсяёнак, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з Гродна, Анджэй Лягоцкі і Віда Мілдажэне, кіраўнікі Польскага і Літоўскага біяхімічных таварystваў вялі ў той дзень гаворку пра спадчыну Енджэя Снядэцкага. У зале шматлікія маладыя людзі, што толькі ўзвышае мерапрыемства, бо каму, як не ім, ведаць і зберагаць сваю спадчыну. Сярод дэлегацый і прадстаўнікі Варнянаў з Астравеччыны, дзе пахаваны сваякі Снядэцкага. А астравецкія Падольцы, дарэчы, з'яўляюцца малой радзімай Таццяны Давідовіч. Адным словам, ва ўсе вякі свет цесны і толькі садзейнічае сустрэчам на карысць зямлі нашай.

Маштабнасць гістарычных падзей не заўсёды супастаўляльная, але мне на памяць прыйшлі заснавальнікі і кіраўнікі адзінага ў рэспубліцы музея Алаізы Пашкевіч (Цёткі) у Астрыне на Шчучыншчыне — Галіна Пугач і Ала Балобан, настаўнікі беларускай мовы. Трэба адзначыць, што духоўным натхніцелем у гэтай справе стаў у свой час вядомы вучоны-лінгвіст, прафесар Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Аляксей Пяткевіч. У выніку, перадаючы адна адной эстафету, жанчыны сабралі ў школе найкаштоўнейшы матэрыял пра паэтэсу-зямлячку і такім чынам узвысілі ў краі высакародную ідэю беларускасці, каб ішлі і ехалі госці з усіх куткоў краіны і свету. А колькі такіх апантаных людзей, дзякуючы якім мы ведаем і памятаем сваё мінулае!

У той асенні дзень не пераставаў здзіўляць сваёй эрудыцыяй у дарозе і потым ля мікрафона сапраўдны руплівец на роднай ніве — Андрэй Майсяёнак. Інстытут біяхіміі — яго калыска ад навукі, толькі вучоны з года ў год знаходзіць час для краязнаўчай працы. Спіс многіх дзясяткаў яго навуковых прац шчодра дапаўняецца значнай колькасцю ўжо вядомых краязнаўчых матэрыялаў і тых, што яшчэ чакаюць свайго абнародавання аб жыцці славутых людзей нашай Бацькаўшчыны.

А на сцэне ўсё тая ж Таццяна Давідовіч кампетэнтна прэзентуе кнігу Енджэя Снядэцкага «Аб фізічным выхаванні дзяцей», якую сама пераклала на беларускую мову і якая вельмі актуальная на сённяшні дзень. Вядомыя сучаснікі з Варшавы, Вільні, Гродна шчыра пазайздросцілі свайму куміру навукі, бо памяць пра яго жыве на Ашмяншчыне і будзе жыць. Міжнародная краязнаўчая гасцёўня на навуковай аснове засведчыла важнасць тэорый і высноў вучонага, а галоўнае — сам працэс падрыхтоўкі да яе і этапы яе правядзення вучылі прысутных, як неабходна ставіцца да сваёй спадчыны. Каб выйсці на падобны ўзровень, трэба быць сапраўдным патрыётам свайго краю. Высокія словы, але яны поўнасцю адпавядаюць гістарычнай ісціне: без мінулага няма будучыні. І мне, аўтару гэтых радкоў, едучы ў адным аўтобусе дадому з польскай дэлегацыяй, было ганарова, што мы не толькі маем сваё мінулае, але і ёсць каму яго шанаваць, як тое робяць на Ашмяншчыне. І, аддаючы сябе гэтай удзячнай працы, энтузіясты самі становяцца постацямі Айчыны ў гісторыі.

ВАЛЯНЦІН ДУБАТОЎКА

## Апошні сведка трагедыі вёскі Талявічы

Напрадвесні семдзесят дзявятага года бацька прынёс з мястэчка кнігу А. С. Шупені «Гневная Щара». На новай вокладцы малюнак, дзе слаўныя беларускія партызаны са зброяй у руках вывучаюць карту баявых дзеянняў. Цяжка зараз перадаць эмоцыі падлетка, які, перагортваючы глянцаваныя старонкі, скрозь сустракае знаёмыя назвы вакольных вёсак і вядомыя прозвішчы сваіх аднавяскоўцаў. Пры тым, што галоўныя героі твора наогул жылі па-суседству. З кожным прачытаным абзацам мяне напаўняў гонар за маіх мужных землякоў ды злосць і пагарда да акупантаў і рознага кшталту калабарацыяністаў. Нейкі час я проста жыў з разуменнем таго, што гісторыя апошняй вайны рабілася тут, у маім родным мястэчку. А мае суседзі-партызаны — сапраўдныя героі. Прынесеную бацькам кнігу ў нашай сям'і тады прачыталі ўсе, нават мой дзед Міхась, які прыязджаў да нас на выходныя.

Вясна семдзесят дзявятага была асаблівай. Справа ў тым, што рэспубліка рыхтавалася шыкоўна адзначыць трыццаць пятыя ўгодкі вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У маім родным Дзярэчыне ўсё было па-святочнаму. Пабеленыя ліпы ў старым парку, чырвоныя сцягі ўздоўж вуліц... Штодня піянерская варта ў цэнтры мястэчка каля помніка загінулым землякам.

Раніцай дзявятага траўня мы збіраліся ўсёй сям'ёй на святочны мітынг. І тут да нас на падворак на сваім рагатым польскім ровары заехаў, як звычайна пасля службы ў царкве, дзед Міхась. Мама акурат згатавала сняданак, і мы ўсе разам, паслухаўшы «Ойча наш» ад дзеда, навалiліся на смажаную каўбасу і аладкі. Старэйшыя гамaнілі пра надзённыя справы, пра здароўе бабулі, пра тое, каго дзед сустрэў у царкве, а мы з братам больш глядзелі тэлевізар, у якім паказвалі наступную серыю знакамітага фільма Юрыя Озерава «Вызваленне». Неяк само сабой старэйшыя пачалі ўзгадваць вайну. Знаходзячыся пад уплывам нядаўна прачытанай кнігі, я чакаў, што бацька з дзедам будуць ухваляць гераічныя ўчынкі нашых землякоў-партызанаў, але яны чамусьці ўспаміналі толькі загінулых у вайну сваякоў ды суседзяў. Я ўсё ж такі не стрымаўся і запытаўся ў дзеда, што ён уласна думае пра подзвігі нашых гераічных народных мсціўцаў. Дзед быў чалавекам разважлівым, ён моўчкі выслухаў мяне, пасля чаго, гледзячы мне ў вочы, прамовіў адзін толькі сказ, які, праўда, я запомніў на ўсё сваё жыццё.

— На жаль, унучак, мы з табой не можам спытацца пра подзвігі згаданых табой герояў у жанчын і дзяцей з вёскі Талявічы, якіх гэтыя народныя мсціўцы нізашто спалілі…

Для мяне пачутае было як абухом па галаве…

Нашыя партызаны палілі і забівалі сваіх жа людзей!!!

Нешта дзед не тое кажа… Мусіць, дзед памыліўся, таму я яшчэ перапытаў:

— Пэўна, вёску Талявічы палілі немцы альбо паліцаі?..

Дзед не тлумачыў нічога, ён скончыў снедаць, пасля чаго перахрысціўся і, падзякаваўшы майму бацьку за сняданак, моўчкі выйшаў з хаты.

З таго часу прайшло амаль сорак гадоў. Шмат што стала вядомым. Да прыкладу, тое, што вёску Дражна ў Старадарожскім раёне спалілі мясцовыя савецкія партызаны. Альбо тое, што лясны атрад Тувія Бельскага забіў у мястэчку Налібокі сто дваццаць мірных жыхароў.

Але што было на самай справе ў ваколіцах Дзярэчына? І што насамрэч вытваралі там ліпічанскія партызаны — гэта было, як кажуць, за сямю замкамі. На ўсе мае спробы атрымаць інфармацыю пра партызанскі рух у Беларусі ў Расейскіх ваенных архівах прыходзіў адзін і той жа адказ: «Звесткі засакрэчаныя, інфармацыю не даём…»

З пытаннем: «Хто ў нашай краіне займаецца тэмай спаленых вёсак і зверствамі партызан у час апошняй вайны?» звярнуўся я да аднаго вядомага гісторыка. Навуковец адказаў, што гэтая тэма з'яўляецца закрытай у дзяржаўных навуковых і навучальных установах Беларусі, а таму распрацоўкай дадзенай тэматыкі ніхто афіцыйна не займаецца, бо адсутнічае стымул: публікацыі не зробіш, грошы не атрымаеш, навуковай ступені не абароніш… Параіў навуковец пашукаць што ў эміграцыйнай літаратуры, але і там нічога знайсці пра вёску Талявічы не ўдалося.

Я быў у адчаі. Яшчэ адна белая пляма: людзі загінулі, а Беларуская дзяржава як быццам нічога пра тое не ведае.

Тады я зноў успомніў пра кнігу члена Цэнтральнага камітэта камуністычнай партыі Беларусі А. С. Шупені. На гэты раз «Гневную Щару» (Выдавецтва «Беларусь», 1977) раздабыў у бібліятэцы. Была яна настолькі пашкуматанай, з зацёртымі да дзюрак старонкамі, што на вокладцы ледзь-ледзь праяўляліся сілуэты людзей са зброяй. Але адчуванне было такое, што толькі гэтая, наскрозь прапагандысцкая кніга савецкага часу можа мне даць рэальную падказку таго, што хвалявала мяне.

З вялікім імпэтам узяўся я перачытваць успаміны партызанскага камісара. І вось, як тады ў семдзесят дзявятым, я сустракаю патрэбную мне інфармацыю пра вёску Талявічы. Аўтар кнігі з гонарам паведамляе, як ліпічанскія партызаны на пачатку тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга года ў Талявічах знішчылі «вялікі» атрад самааховы…

Пэўна, так было наканавана лёсам, што мінавіта гэтая кніга з майго дзяцінства павінна была акрэсліць і шлях маіх далейшых пошукаў, а менавіта:

20 красавіка 2018 года. Вёска Талявічы. Трыццаць пяць кіламетраў на паўднёвы захад ад Дзятлава. Размаўляю з жыхаркай Аляксандрай Сямёнаўнай Кавальчук, 1933 года нараджэння.

— Скажыце, калі ласка, Аляксандра Сямёнаўна, у кнізе «Гневная Щара» гаворыцца, што на пачатку тысяча дзевяцьсот сорак трэцяга года ў Талявічах партызаны разбілі вялікі атрад самааховы. Гэта праўда?

**Кавальчук А. С.:** Людзей яны тут нявінных пабілі! А самааховўцы ў тую ноч усе пахаваліся ды паўцякалі.

**Аўтар:** А ў які час гэта было? Вясной?

**Кавальчук А. С.:** Не-е, гэта было зімой. Тады яшчэ паўсюль ляжаў снег. Дый мароз быў у тую ноч даволі моцны.

**Аўтар:** І як усё адбывалася?

**Кавальчук А. С.:** Было так: дзесьці гадзіны ў дзве ночы ўзброеныя людзі прыйшлі ў Талявічы, вось адтуль, ад лесу. І як па камандзе ўсе адначасова рынуліся па дварах і хатах.

**Аўтар:** Аляксандра Сямёнаўна, а чаму яны напалі менавіта на Талявічы?

**Кавальчук А. С.:** Можа, таму, што ў нас была самаахова.

**Аўтар:** А многа ў вашай вёсцы было самаахоўцаў?

**Кавальчук А. С.:** Ды не-е, адкуль?

**Аўтар:** Але ж, усё роўна, колькі іх было ў вёсцы?

**Кавальчук А. С.:** Чатыры, можа пяць, не-е, больш за пяць не было. Я памятаю, як некаторыя з іх прыгаворвалі: «Як будзе на плячы вінтоўка, то застанецца ў хляве кароўка». (Смяецца.)

**Аўтар:** А пасля таго, як партызаны зайшлі ў вёску, што яны рабілі?

**Кавальчук А. С.:** Пачалі людзей біць. Не разбіраліся, хто самааховец, хто звычайны чалавек, стралялі і рэзалі ўсіх, хто пападаўся на вочы. Тады вось і майго роднага брата Аляксея забілі, ён за вёскай у ахове стаяў.

**Аўтар:** Ён у самаахове служыў?

**Кавальчук А. С.:** Аляксей у самаахове не быў, папросту мясцовыя мужчыны па чарзе вартавалі вёску, каб ліхія людзі гаспадаркі не рабавалі. У тую ноч якраз яго пара была дзяжурыць. Вось партызаны яго там, каля гумнаў, і забілі.

**Аўтар:** Дык, можа, партызаны стралялі толькі маладых мужчын са зброяй?

**Кавальчук А. С.:** Білі ўсіх, хто пападаўся на вочы. Мужчын, жанчын, дзяцей, старых. Мой дзед Гальяш (Ілля) быў стары, нямоглы, ляжаў на ложку, дык яго жыўём спалілі.

**Аўтар:** Ах, божа-божа, старога чалавека… Скажыце, Аляксандра Сямёнаўна, а каго ў тую ноч яшчэ забілі партызаны ў вашай вёсцы?

**Кавальчук А. С.:** Я памятаю многіх, хто тады загінуў. Але будзем па парадку пералічваць: мой брат Аляксей Сямёнавіч Кавальчук, Ілля Кавальчук, наш дзед. Ну, пра гэта я ўжо гаварыла. Анацка Наталля Іванаўна, бедную жанчыну забілі, калі яна бегла ў лес. Наталля прасілася, калі партызан яе дагнаў, але ён усё роўна яе застрэліў… Капітанчык Міхаіл Іванавіч — яго забілі ва ўласнай хаце. Кавальчук Юлія, па бацьку ўжо не памятаю, яе застрэлілі на ганку, разам са старэйшай дачкой і маленечкім сынам, хлопчыку чатыры годзікі было...

**Аўтар:** Як, і дзіцятка застрэлілі?

**Кавальчук А. С.:** Так. Мы на раніцы, пасля таго, як усё скончылася, з мамай заходзілі на падворак да Юліі. Яна ляжыць забітая на ганку, каля дзвярэй, побач дачка старэйшая і хлопчык на руках застрэлены. А па сценах мазгі прымерзлыя і кроў, кроў паўсюль… Страх...

**Аўтар:** А дачка дарослая была?

**Кавальчук А. С.:** Ужэ-э. Праз тыдзень у Марыі Юлевай павінна было быць вяселле. А тут вось такое.

**Аўтар:** А яшчэ каго забілі ў тую ноч партызаны?

**Кавальчук А. С.:** Ліштвана Пятра тады забілі.

**Аўтар:** Толькі яго аднаго?

**Кавальчук А. С.:** Але-е, усю сям’ю выбілі. Пятра забілі, яго бацьку — старому было гадоў пад восемдзесят, жонку, дзвюх дачок. Адной, мусіць, трынаццаць было, другой пятнаццаць. Іх усіх потым ва ўласнай хаце партызаны і спалілі. А вось сын Паўла,

Пётр, абгарэў, але выжыў. Вось ён служыў у самаахове. Пасля вайны адсядзеў у турме некалькі гадоў і сюды вярнуўся. Жыў тут па суседству.

**Аўтар:** І многа народу тады ў вашай вёсцы партызаны пазабівалі?

**Кавальчук А. С.:** О-ой, многа, як для нашай невялічкай вёскі, у якой было ўсяго сорак двароў, то многа. Я дакладна не скажу лічбу, але чалавек дваццаць пяць забілі. Мне тады гадоў дзесяць было, мяне мама ратавала, як магла. Калі пачалася страляніна ў вёсцы, яна мяне ў лес вывела. А пад раніцу мы перайшлі на хутар, што паблізу Шастакоўскай дарогі. Як развіднела, туды ж, на хутар, прыйшоў мужчына з вёскі, ён распавядаў, што партызаны многа сем'яў павыбівалі ды шмат хат папалілі.

**Аўтар:** Аляксандра Сямёнаўна, а скажыце, дзе забітых пахавалі, бо я побач з Талявічамі могілкаў не бачыў?

**Кавальчук А. С.:** Пабітых у тую ноч пахавалі на могілках у Шастаках. Агульнай магілы не рабілі. Кожная сям'я хавала сваіх.

**Аўтар:** А вёску ўсю спалілі?

**Кавальчук А. С.:** Будынкі, што былі наводдаль ад вёскі, тыя ацалелі. А так усё згарэла.

**Аўтар:** Я вось што хацеў яшчэ спытаць у вас, паважаная Аляксандра Сямёнаўна: можа, гэтыя вашыя самаахоўцы ўдзельнічалі ў нейкіх карных аперацыях?

**Кавальчук А. С.:** Нідзе яны не ўдзельнічалі. Ахоўвалі нібыта тут вёску і ўсё. Я ж кажу, іх усяго пяць чалавек было, тых самаахоўцаў.

**Аўтар:** А партызаны свае былі ці чужыя?

**Кавальчук А. С.:** З Талявіч у партызаны хлопцы не сыходзілі, гэта дакладна.

**Аўтар:** Аляксандра Сямёнаўна, калі партызаны прыйшлі ў вёску той зімой, можа, яны папросту хацелі паразмаўляць з вашымі мужчынамі, каб кінулі службу ў самаахове?

**Кавальчук А. С.:** Ніхто гаварыць з намі не збіраўся. Яны, нічога не гаворачы, адразу пачалі забіваць людзей. Заставалі каго ў хатах — білі ў хатах. Хто ўцякаў, стралялі на хаду. Каго знаходзілі ў схованках, то расстрэльвалі там.

**Аўтар:** Дзякуй вам, Аляксандра Сямёнаўна, за размову.

**Кавальчук А. С.:** Няма за што. Я вам гаварыла праўду.

**Аўтар:** Аляксандра Сямёнаўна, а скажыце, з кім яшчэ можна было паразмаўляць тут у вёсцы пра тыя трагічныя падзеі, не падкажаце?

**Кавальчук А. С.:** А з кім ты тут паразмаўляеш, сынок? У нашай вёсцы зараз жыве толькі пяць чалавек. А старая толькі я адна. Няма болей нашай вёскі. Што не знішчылі партызаны, тое саветы дабілі...

Пасля размовы з апошняй сведкай трагедыі ў Талявічах я доўга не мог супакоіцца. Як такое магло стацца? Няўжо ўсё, што яна распавяла мне, праўда? Але памылкі быць не магло. І значыць, тое злачынства замоўчваць нельга...

Чамусьці ўспомнілася, як аднаго разу мне давялося падвозіць з Дзятлава ў вёску Руду Яварскую былога савецкага партызана. Ехалі партызанскімі мясцінамі Ліпічанскай пушчы і гаварылі. І расказаў ён тады агаломшваючую гісторыю, як ён у час вайны мусіў дабіць свайго параненага сябра па яго просьбе, каб выратаваць яго ж сям'ю. А потым усё жыццё гадаваў яго дваіх дзяцей, узяўшы за жонку сябраву ўдаву.

Гэта сапраўдны чалавечы подзвіг — ахвяраваць сваё жыццё за іншых. Былі і такія партызаны. Але былі і тыя, што палілі і забівалі бязвінных жыхароў беларускіх вёсак. І былі розныя самаахоўцы. Некаторыя нажываліся на горы сваіх суседзяў і мясцовых габрэяў, закатаваных у гета. А былі і такія, што з апошніх сіл баранілі свае родныя мясціны ад чужынцаў…

Я ехаў у Гародню бязлюднымі пушчанскімі вёскамі, паабапал мяне праляталі амаль знішчаныя часам вясковыя хаты, зарослыя дарэшты падворкі і разбураныя скрозь гаспадарчыя пабудовы. Але думкі мае заставаліся ў Талявічах і круціліся вакол пачутага ад Аляксандры Сямёнаўны. І ўвесь час мяне не пакідала нейкае падвойнае адчуванне. З аднаго боку, хлуслівая, прапагандысцкая кніга савецкага чыноўніка. З другога боку, апошні рэальны сведка тых жудасных падзей. Але ці мог бы я даведацца праўду пра лёс вёскі Талявічы, каб у далёкім семдзесят дзявятым не прачытаў успаміны партызанскага камісара. І самае галоўнае, так сталася, што бязвінна забітыя жыхары Талявічаў таксама нейкім чынам павінны быць удзячныя ўспамінам партызанскага камісара. Але ці маю я права ставіць знак роўнасці ў дадзенай сітуацыі, ці не памыляюся я?

На мае разважанні правільны адказ маглі б даць толькі самі жыхары Талявічаў.

Ды спытацца ў іх мне ўжо ніколі не давядзецца…



# Літаратуразнаўства

## Альжбета Кеда

### Кнігі ў кнізе

У асабістай бібліятэцы асабліва дарагія кнігі з аўтографамі. Як захаваць іх, каб не згубіліся, бо, на жаль, мала хто мае наступнікаў, крэўнікаў, якім цікавая справа нашага жыцця. Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч вырашыў сабраць гэтыя знакі аўтарскай прысутнасці ў ягонай бібліятэцы пад адной вокладкай. Падрыхтаваў і выдаў кнігу «Аўтографы — разам», дзе адфатаграфаваны 577 тытульных лістоў падараваных яму выданняў за немалы час: 1951–2018 гады. Чым з'яўляюцца для А. М. Пяткевіча аўтографы аўтараў? Пра гэта ён піша ў прадмове: «Надпіс на кнізе, перададзенай табе, — не толькі след чалавечай рукі. Скупыя словы дарчага надпісу гавораць многае пра асобу, якая зрабіла ласку гэтым дарункам і выказала з такой нагоды штосьці значнае на твой адрас». Прадмова да гэтай кнігі — праўдзівы мастацкі твор, напісаны душою.

Шмат скажа чытачу экслібрыс Аляксея Пяткевіча, створаны Вячкам Целешам. Тут адлюстраваны асноўныя знакі яго жыцця: корпус універсітэта, кнігі, сонца маладзіковае — сімвал ТБМ, помнік Янку Купалу і настольны перакідны краязнаўчы каляндар, які ўжо шмат гадоў рыхтуе наш шаноўны краязнаўца.

Большасць подпісаў на тытулах кнігаў стандартныя: шаноўнаму — ад аўтара. А. М. Пяткевіч зважае і на гэта: «Выказванне тут можа несці і досыць трывіяльны, дзяжурны змест. Так бывае тады, калі асоба не блізкая табе». Але і такія аўтографы шмат кажуць чытачу, сведчаць пра чалавечыя стасункі. Бо А. М. Пяткевіч і сапраўды шаноўны, паважаны, дарагі ўсім (мяркую, не памыляюся), хто ведае гэтага чалавека. Самы вядомы даследчык літаратуры на Гарадзеншчыне, кандыдат філалогіі, прафесар, руплівы краязнаўца. Надзвычай далікатны, карэктны, прыстойны чалавек. Скупыя, «дзяжурныя» надпісы ён таксама шануе, бо «і такі тэкст аўтографа дарагі для адрасата, бо ён, аўтограф, заўсёды — гонар, выказаны табе. І яшчэ гэта знак памяці пра чалавека, якую ён пакінуў сваім запісам і якую трэба берагчы. Так ці інакш, аўтограф — часцінка духу чалавека, які запісаўся ў гэтай кнізе. Гэта часцінка асабліва вартасная, калі чалавека ўжо няма на гэтым свеце. І мы сустракаемся з ім, адгортваючы тытул кнігі».

Адгорнем жа і мы першую старонку гэтага выдання. Чысты ліст. Уверсе — прысвячэнне. Вельмі кранальнае: «Светлай памяці Ігара Жука, доктара філалагічных навук, майго лепшага сябра». Кніга выйшла амаль праз год, як не стала Ігара Васільевіча Жука, які і сапраўды быў для Аляксея Міхайлавіча лепшым сябрам. Згадваючы

самых таленавітых выкладчыкаў філалагічнага факультэта, іх заўсёды ставяць побач. Бо так і было: разам працавалі на кафедры беларускай літаратуры, якое ўжо няма ў нашай ВНУ, стваралі факультэт беларускай філалогіі і культуры, які ўжо даўно знішчаны. Гэта адгукнулася вялікім болем для абодвух. Разам адраджалі Купалаўскія чытанні, патрабуючы, каб яны былі сапраўды Купалаўскімі, а не разнатэм'ем, разам працавалі над тэмай «Матыўная прастора беларускай літаратуры». Ды і жылі побач, на вуліцы Горкага, часта сустракаліся не толькі на працы. Усе выданні І. В. Жука ў свой час былі падараваны старэйшаму калегу. У кнізе сустракаем аўтографы, у якіх выказана глыбокая пашана і ўдзячнасць. Так, на тытуле літаратуразнаўчых эцюдаў «Сустрэчны рух» чытаем: «Дарагому Аляксею Міхайлавічу, чыя духоўная моц і кранальнае бацькоўскае апякунства дазваляе трымацца ў няпэўнасці хісткага часу». Яны былі праўдзівай радзінай па духу. Таму і дзякуе І. В. Жук, падпісваючы дапаможнік «Беларуская літаратуразнаўчая школа», найперш за духоўную падтрымку. Ігар Жук валодаў словам віртуозна. Але, як сапраўдны майстра, ведаў, што мова часта нямее, не стае ў яе моцы, каб перадаць самыя важныя пачуцці. Пра тое чытаем на аўтарэфераце доктарскай дысертацыі «Празаічны тэкст: Дынаміка рытмавага існавання»: «Дарагому Аляксею Міхайлавічу, адчуваючы брак патрэбных слоў, каб выказаць усю глыбіню павагі да Вас, захапленне і любаванне Вамі. Усім, што ў мяне ёсць станоўчага, я Вам абавязаны найпершым чынам». Гэта апошні аўтограф сябра. Пра ягоны сыход Аляксей Міхайлавіч сказаў неяк: «Пасняшаўся, пайшоў, парушыўшы чаргу». Ды ніхто з нас не ведае, калі тая чарга надыдзе.

Наогул, у кнізе багата аўтографаў гарадзенцаў, калегаў па працы ва ўніверсітэце, на ніве культурнай, літаратурнай. Міла сустрэць між надпісаў да болю знаёмы каліграфічны почырк прафесара Івана Якаўлевіча Лепешава, нашага дарагога настаўніка, калегі. Ён ніколі не быў шматслоўным, такія ж і аўтографы. Але заўсёды выказваў тое, што думаў, што адчуваў, з усёй праўдзівасцю, шчырасцю, «з найлепшымі пачуццямі».

На розных выданнях пакінулі свае надпісы Т. Сцяшковіч, М. Янкоўскі, А. Цыхун, К. Лецка, Т. Тамашэвіч, М. Бяспамятных, П. Сцяцко, С. Мусіенка, М. Даніловіч і Н. Памецька, Я. Трацяк і інш. Гэта тое асяроддзе аднадумцаў, асобаў паважанага веку, з кім побач працаваў многія гады, і маладзейшых, каго вучыў не толькі ведаць, разумець літаратуру, але заставацца чалавекам прыстойным, годным. Многіх ужо няма, але яны засталіся ў духоўнай прасторы нашага горада. І назаўсёды застануцца разам у кнізе «Аўтографы — разам». І хоць Радзіма аўтара далёка ад Гародні, ля вытокаў Нёмана, але столькі гэтаму краю аддадзена, што даўно стаў А. М. Пяткевіч гарадзенцам. В. Адамчык на кнізе «Год нулявы» так пазначае геаграфію жыццёвых сцяжынаў: «Мінчуку, ці нават слуцаку, які стаў нават патомным гародзенцам...». А. Лойка выказвае зайздрасць, мо крыху з гумарам: «Дарагому Аляксею Пяткевічу — гродзенцу, якому я па-добраму зайздрошчу з гэтай нагоды».

Многія аўтографы выступаюць сведчаннем цікавых сустрэчаў. Выказваецца ўдзячнасць прафесару Пяткевічу за запрашэнне ў студэнцкую аўдыторыю, згадваюцца літаратурныя імпрэзы, навуковыя канферэнцыі, якія адбываліся ў многіх гарадах. Пра гэта напісалі А. Вярцінскі, А. Зарыцкі, А. Грачанікаў, А. Пысін, А. Гардзіцкі, Г. Бураўкін, М. Стральцоў, Я. Усікаў, У. Конан, В. Шымук, В. Швед, В. Жуковіч, А.Туровіч і інш.

Асобна вылучым аўтографы Зоські Верас і Ларысы Геніюш, бо яны праўдзівая каштоўнасць для тых, хто разумее веліч гэтых асобаў, творцаў, грамадскіх дзяячак. Слова, пакінутае рукою жанчыны-легенды. З абедзвюма А.М. Пяткевіч шчыра сябраваў, доўгі час перапісваўся, неаднойчы сустракаўся. На адзінай кнізе «Каласкі» Зоські Верас яе мілым птушыным почыркам выведзена: «Дарагому Аляксею Міхайлавічу і Яго Сям'і на памятку знаёмства, сустрэчаў». Толькі выйшла кніга Ларысы Геніюш, аўтарка адразу ж падпісвае асобам, якія заўсёды падтрымлівалі і засталіся вернымі сябрамі да яе апошняга дня: «Самым верным і маяму сэрцу дарагім Беларусам — сямейцы Пяткевічаў».

Асабліва хораша чытаюцца надпісы, у якіх назва кнігі па-мастацку пераклікаецца з аўтографам. Зборнік Міхася Скоблы «Акно для матылькоў» мае пажаданне: «Каб у Вашыя высокія вокны часьцей залятаў матылькі натхненьня і радасьці». Уяўленне малюе яркую, шматколерную карціну: разнасцежанае акно і карагод матылькоў, а пажаданне стварае светлы настрой. Наогул, гэты аўтар заўсёды творча падыходзіць да аўтографаў, якія выглядаюць слоўнымі крупінкамі, напоўненымі дабрынёй, па-мастацку выштукаванымі і шчодра падараванымі чалавеку. У кнізе паэзіі «Камізэлька для месяца» змешчана пажаданне: «Хай хоць трохі сагрэе Вас мая камізэлька». Бо кожнаму з нас вельмі патрэбна цяпло, каб не пачувацца адзінокім, як той месяц, у гэтым вялікім і не заўсёды прыязным свеце. Падпісваючы «Дзярэчынскі дыярыюш», М. Скобла з удзячнасцю згадвае, што А. М. Пяткевіч «раней за іншых пачуў грукат друкарскага станка ў Дзярэчыне 1585 г.», і шчыра запрашае «наведацца ў родавае гняздо Сапегаў». Аўтар апелюе да грунтоўнай працы гарадзенскага прафесара пра станаўленне і развіццё друкаванага слова ў нашым краі.

А як цікава, з досціпам падпісваў свае кнігі Уладзімір Караткевіч! Подпіс на тытуле рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» застаўся сведчаннем сустрэчы 22 лютага 1973 года: «Дарагому Аляксею Міхайлавічу Пяткевічу, у горадзе якога і ў кватэры прызямліўся на гэты вечар аўтар. І шчаслівы гэтым». Тады ж быў падараваны і зборнік вершаў «Мая Іліяда», дзе выказана «велічэзная» павага да высакароднай дзейнасці гарадзенца. Неяк асабліва кранальна ўспрымаецца сёння прыпіска: «Праўда, Вы столькі робіце, што нам трэба зямно Вам кланяцца».

Генрых Далідовіч на кнізе «Гаспадар-камень» не толькі «цёпла» звярнуўся да А. М. Пяткевіча як да земляка, вучонага, літаратуразнаўцы, абыграў вобраз, што вылучаны ў назве, але і патлумачыў аўтарскую задуму: «Мой Камень, у якім намагаўся трошкі рэабілітаваць наш край, селяніна, падкрэсліваючы не ўбоства, а духоўнасць, гаспадарлівасць, а заадно цягу яго лепшых сыноў да светлага».

У надпісе на кнізе «Святлом і ценем» паэта са Шчучына Рычарда Бялячыца так адгукнулася назва: «Хай перад намі заўсёды больш будзе святла». Больш, чым ценяў беды, цемры, болю. Бо без іх жыццё чалавечае не бывае. Дык хай хоць менш!

Некаторыя надпісы ўтрымліваюць надзею, чаканне слова ад удумлівага крытыка Аляксея Пяткевіча пра свае творы. Бо ягонае слова разумнае, слушнае, карыснае і заўсёды добразычлівае. Так, даследчык Мікола Мікалаеў у кнізе «Беларускі Пецярбург» піша: «Шаноўнаму прафесару Аляксею Пяткевічу з найлепшымі зычэннямі і чаканнем крытычных заўваг». Данута Бічэль падпісвае кнігу «Загасцінец»: «З чаканнем строгай крытыкі». Якое гэта шчасце для паэта: ведаць, што пра кнігу напіша такі

літаратуразнаўца. Яна ведала, бо А. М. Пяткевіч пісаў літаральна пра ўсе яе кнігі. Тут многа аўтографаў Д. Бічэль. У большасці звароты як да настаўніка: выкладаў і на тым курсе, дзе вучылася паэтка. Праўда, быў больш чым проста выкладчык. Быў настаўнікам у літаратуры. Дарагому настаўніку падпісаны «Браткі». І ўжо як настальгічная згадка пра тыя даўнія студэнцкія часы — надпіс на вершаванай батлейцы «Нараджэнне Езуса Хрыста, нашага Збаўцы»: «Паважанаму прафесару Аляксею Міхайлавічу ў дзень яго 75-годдзя — дзякуй за навуку, якую атрымала ў лепшыя дні жыцця».

Наогул, у аўтографах многа словаў удзячнасці — за напісанае, за артыкулы пра творчасць, рэцэнзіі на кнігі, за дапамогу ў розных справах. Дзіву даешся: колькім асобам дапамог ён сваімі ведамі, парадамі, шчыра дзелячыся з усімі, хто звяртаўся па дапамогу, адклікаючыся на новыя творы. Дзякуюць яму Сяргей Новік-Пяюн, Сяргей Чыгрын, Аўгіння Кавалюк за разуменне яе становішча, Янка Брыль «за памяць і падарунак», Іван Лепешаў за тое, што быў «адным з першых чытачоў і крытыкаў рукапісу» ягонай працы. Алесь Карлюкевіч дзякуе «за многія гады знаёмства і за колішні палёт у Ашхабад». Вялікую ўдзячнасць і павагу неаднойчы выказвалі Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк. Яўгенія Янішчыц — «за цудоўную паездку па Гродзеншчыне», Юрась Пацюпа — за «незабыўныя гады на катэдры». Гэта адзіная згадка пра кафедру беларускай культуры, якую стварыў і якую многія гады ўзначальваў А. М. Пяткевіч. Зразумела, што гэтай кафедры таксама даўно няма. Вядома, за што можа дзякаваць Алесь Белакоз. Так, «за дапамогу ў стварэнні Гудзеўскага дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея». Дзве кнігі «Каб жыла Беларусь» і «Методыка шчасця» гэтага аўтара маюць амаль аднолькавы надпіс-удзячнасць. За музей. Бо гэта была справа ягонага жыцця. Фальклярыст Уладзімір Васілевіч падпісвае манаграфію «Восточнославянская юмористическая песня» «з вялікай удзячнасцю за дапамогу ў цяперашняй маёй — зусім не “жартоўнай” — працы». Яўген Лецка аповесць «Дарога ў два канцы» — «у знак глыбокай павагі і ўдзячнасці за падтрымку на пачатку дарогі ў прозу». Памятаецца, наш выкладчык прапаноўваў студэнтам тэму для курсавой працы па аповесці Я. Лецкі «Па цаліку», што выйшла ў 1977 годзе. Праца была напісана, а на студэнцкай навуковай канферэнцыі адзначана як адна з лепшых. У 1981 годзе тады яшчэ малады пісьменнік з Гарадзеншчыны Уладзімір Васько звярнуўся да Аляксея Міхайлавіча як да чалавека, «перад якім я асабліва павінен схіліць галаву». Ён рэкамендаваны ў СБП Юркам Голубам, Станіславам Суднікам і Аляксеем Пяткевічам. Паэт Пятрусь Макаль падпісаў кнігу «Смак яблыні» «тонкаму знаўцу і строгаму крытыку паэзіі — з любоўю і пашанай». Аляксей Каўка, даруючы літаратурна-навуковы гадавік «Скарыніч», выказваецца словам у найвышэйшай ступені: «Найсвятлейшаму Аляксею Пяткевічу з падзякай за падмогу».

Знакаміты пісьменнік з Польшчы Сакрат Яновіч, падпісваючы «Зборнік сцэнічных твораў», выдадзены сумесна з Юркам Геніюшам, выказвае і шчырыя словы сяброўства, і згадку пра многія крытычныя артыкулы, калі з-пад пяра гарадзенскага даследчыка паўстала ўжо праўдзівая «яновічаніяна»: «Аляксею Пяткевічу, сябру майму, у дапаўненне ягонай яновічаніяны». Неаднойчы даводзіцца чуць пытанне: «Як успрымаць літаратуру беларускіх пісьменнікаў Польшчы?» Розныя адказы гучаць з вуснаў розных даследчыкаў, саміх пісьменнікаў, сяброў «Белавежы». У аўто-

АНЖЭЛА МЕЛЬНІКАВА

## Плён навуковай дзейнасці Ігара Жука

Ігар Васільевіч Жук — той навуковец, кожнае выступленне якога было важкім, слушным, глыбокім. Аўтарытэт І. Жука быў і застаецца бясспрэчным. Прадметам асэнсавання даследчыка заўсёды выступалі ключавыя праблемы беларускай літаратуры і культуры. Больш за тое, І. Жук стаў першапраходцам у беларускім літаратуразнаўстве — даследаванне рытму як выражэнне нацыянальнага менталітэту (манаграфія «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання»). І. Штэйнер справядліва называе І. Жука «вялікім вучоным», сцвярджае, што гродзенскі даследчык «стварыў уласную методыку даследавання, якая роўнавялікая пошукам еўрапейскага літаратуразнаўства» [6, с. 5–6].

У цэнтры ўвагі І. Жука знаходзіліся найважнейшыя праблемы беларускай культуры — спасціжэнне спецыфікі Беларускага шляху, нацыянальнага менталітэту, ключавых пытанняў нацыяўсведамлення. Гэтыя праблемы вызначальныя для беларускай гуманітарыстыкі вось ужо цэлае стагоддзе, пачынаючы ад твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага да Кузьмы Чорнага, Івана Мележа, Васіля Быкава, Вячаслава Адамчыка. Можна прыгадаць і багаты навуковы дыскурс: І. Канчэўскі, У. Самойла, Ант. Луцкевіч, В. Ластоўскі, У. Конан, М. Тычына, І. Бабкоў, В. Булгакаў, А. Рагуля і многія іншыя. Невыпадкова, што І. Жук звяртаецца да пераасэнсавання твораў нацыянальнай класікі, паколькі менавіта класічныя творы выступаюць квінтэсэнцыяй як светапоглядных пошукаў нацыянальнай літаратуры, так і ўвасабленнем яе нацыянальнай самабытнасці (манаграфіі «Сустрэчны рух», «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання», «Прыхінуцца да крыніцы»). У сваіх работах І. Жук уздымаецца да навуковых абагульненняў на філасофскім узроўні.

Беларуская літаратура на працягу доўгага часу была не толькі прыгожым пісьменствам, але і выконвала, па словах С. Андрусіў, функцыю «генератара нацыянальна-цывілізацыйных сімвалаў», выступала пэўным спосабам нацыянальнай самаідэнтыфікацыі і нацыястварэння. Сцвярджэнне самабытнасці беларускай нацыі, выпрацоўка канцэпцыі Беларускага шляху, вербалізацыя поглядаў беларуса на свет і чалавека былі магістральнымі ў гісторыі нашай літаратуры ХХ стагоддзя. Гэтыя «надлітаратурныя» сэнсы нацыянальнага прыгожага пісьменства і асэнсоўвае І. Жук.

У сваёй першай манаграфіі «Сустрэчны рух» І Жук падаў глыбокае асэнсаванне знакавага твора Янкі Купалы — трагікамедыі «Тутэйшыя», паказаў, што Мікіта Зносак — вобраз «безнацыянала»: «Ён (Купала. — *А. М.*) замахнуўся на стварэнне грандыёзнага, усёабдымнага, з відавочнай гістарычнай перспектывай вобраз *безнацыянала* (вылучана аўтарам)» [4, с. 101]. Прычым такі вобраз, на думку І. Жука, з’яўляецца тыпова нацыянальным: «Будучы вонкава шаржаваным, Зносак, па ўцёках ад нацыянальнага, — глыбока нацыянальны тып. <…> А незабітыя, штодзённа пазнавальныя яго водгукі нараджаюць нам Зносакаў як сукупнасць “мёртвых кропак” і зносчыну як з’яву гістарычна ўстойлівую» [4, с. 102].

У гэтай жа манаграфіі І. Жук адным з першых загаварыў пра «эмацыйны статус нашай пісьменнасці як адну з першакрыніцаў і як пэўны лагічны вынік яе драматычнага развіцця» [4, с. 4]. Таксама даследчык ставіць пытанне пра тое, чым кампенсуецца, калі ўвогуле такая кампенсацыя магчымая, трагічны пафас нашай літаратуры.

Адным з першых І. Жук узняў праблему вяртання ў нацыянальны кантэкст рыцарскага, шляхецкага дыскурсу: «Большай часткаю грамадства не пачула ў сабе сілы адкрыць у роднай літаратуры покліч страчаных каштоўнасцяў “збройнай шляхты”, покліч годнай роўнавялікасці» [4, с. 13].

І. Жук гаворыць пра неабходнасць рэабілітацыі нацыянальнай мастацкай традыцыі, яе чалавеказнаўчага пафасу.

Надзвычай каштоўным і цікавым падаецца назіранне даследчыка адносна таго, што героем класічнай беларускай літаратуры ніколі не выступаў слабы чалавек: «…чаго не было ў беларускай класічнай прозе — дык гэта стаўкі на слабога чалавека. Увогуле, класічная беларуская літаратура выбірала для сябе героя нягучнага і някідкага, але надзіва стойкага ў гэтых сваіх якасцях» [4, с. 19].

У беларускім літаратуразнаўстве багаты навуковы дыскурс, прысвечаны асэнсаванню творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, але І. Жук пазначае новыя, філасофскія ракурсы даследавання. Даследчык здолеў пабачыць і расшыфраваць у класічных творах новыя глыбокія сэнсы. У сацыяльнасці твораў Якуба Коласа І. Жук разгледзеў увасабленне агульнакультурных кодаў: «Сацыяльны дыскурс тэксту не проста адлюстроўвае мову гістарычных абставін канца XIX стагоддзя. Ён мае больш важкі эстэтычны аргумент — прарастае кодамі мастацкага эстэтычнага бачання агульнакультурных планаў» [3, с. 167].

Разглядаючы паэму «Новая зямля» Якуба Коласа, І. Жук гаворыць пра адпаведнасць твора не менш як нацыянальным анталагічным запатрабаванням: «…мастацкаму ж твору калі наканавана неўміручасць, то палягае яна не ў вонкавай сферы, не ў тым, што падпарадкоўваецца закліканым на дапамогу “жыццям” вонкавага тэзаўрусу, не ў самым коле сацыяльна і культурна абумоўленых абставін ці іх выпадковым збегу, а ў глыбінных нетрах праднаканаванай анталагічнасці, г. зн. у такой якасці, калі ў ладзе індывідуальнага мастацкага мыслення вырашаліся чаканні нескончонага ліку шматлікіх папярэднікаў і прадугадваюцца вераемнасныя хады мастацкіх шуканняў наступнікаў» [3, с. 133].

І. Жук разважае пра схаваныя ў паэме Якуба Коласа «прароцтвы і тайнапіс нацыянальна-духоўнага ДНК». І сапраўды, у «Новай зямлі» зашыфраваны быццёвы і быційны вопыт нацыі. У свой час У. Конан назваў паэму «Новая зямля» Якуба Коласа «эстэтычнай экзістэнцыяй беларуса». Гэта твор, дзе ўвасоблены Космас нацыянальнага быцця, побыт і светапогляд беларуса, выяўлены адметнасці нацыянальнага характару і хранатопу. І. Жук разглядае паэму як метатэкстуальную метафару: «“Новая зямля” сёння — уся цалкам метатэкстуальная метафара. Славутая энцыклапедыя сялянскага жыцця “ўспамінае” сябе зараз у новай якасці — у якасці метафары, тым самым вызваляючы “зямныя”, “сялянскія” канкрэты для іх анталагічнага асэнсавання» [3, с. 135–136].

І. Жук гаворыць пра пазачасавасць паэмы Якуба Коласа, пра яе выключны мастацкі патэнцыял, пра «прыхаваныя і нявідныя па часе матыўныя патэнцыі, вобразныя алюзіі і намёкі» [3, с. 145].

Даследчык асэнсоўвае ўвасабленне ў паэме Якуба Коласа «манументальнай быційнай свядомасці», глыбінных нацыянальных першавобразаў-архетыпаў, ментальна-псіхалагічных комплексаў, піша пра «шматслойны паэтычны дыскурс “Новай зямлі” («эпас, падтрыманы метафарай, метафара, прапісаная паверх эпічнай)» [3, с. 139], называе паэму «вялікасным эстэтычным феноменам — нацыянальным эпасам у вершаванай форме» [3, с. 147]. А эпас, як вядома, — гэта найбольш аб’ектыўная мадэль самаацэнкі нацыі.

І. Жук адзначае арыгінальны характар будовы паэмы, дзе праз апісанне лёсу адной сям’і ўзнаўляецца лёс цэлай нацыі: «Сям’я… вырастае ў эпас таксама праз метафару сям’і як нацыі. Лёсы выводзяцца з сямейнай хронікі воляю аўтара ў нешта значна большае — у вялікія працэсы гісторыі…» [3, с. 139]. Вучоны піша пра ўнікальнасць паэмы Якуба Коласа ў еўрапейскім кантэксце, дзе адсутнічае «вершавана-эпічная мастацкая структура “ўласная сям’я”»: «Спаборнічаць з ім (творам. — *А. М.*) няма каму нават у еўрапейскай літаратуры» [3, с. 139].

Канцэптуальным момантам разважанняў І. Жука з’яўляецца сцвярджэнне пра гістарычны падтэкст паэмы «Новая зямля»: «Лічу гэты момант — момант ва ўсім раствораннай і ўсім эстэтызаванай гісторыі — падкрэсліць неабходным асабліва з тае прычыны, што і сама тэма шляху ў “Новай зямлі” была не проста тэмай сялянскага шляху — яна замыслялася, гістарызавалася і эстэтызавалася як тэма шляху *беларускага чалавека* наогул» [3, с. 152]. Падобны аспект твора вылучаны гродзенскім вучоным упершыню. І тут І. Жук палемізуе з вельмі аўтарытэтным і глыбокім польскім даследчыкам Р. Радзікам, які сцвярджаў наступнае: «Ніякай ідэалогіі, апрача ідэалогіі “кавалка хлеба”, у беларускай паэме няма. Гэты твор практычна па-за часам, па-за гісторыяй, па-за ідэалогіяй — і па-за нацыяй» [5, с. 292]. І. Жук гаворыць менавіта пра працэс нацыянальнай ідэнтыфікацыі, адлюстраваны ў паэме: «З поўным правам, азіраючы аўтарскі тэкст Вільні, можна гаварыць і пра міфалагему аб дзяржаўным паходжанні, і пра адзінства этнічнай тэрыторыі (з гэтай прычыны пейзаж Вільні функцыянальна роўнакаштоўны пейзажным апісанням лесніковай пасады), і пра агульнасць матэрыяльнага ўкладу, і пра наяўны і сфармаваны кансалідуючы цэнтр культурна-гістарычнай спадчыны» [3, с. 175–176]

І. Жук прачытвае паэму Якуба Коласа як твор нацыянальна-ідэалагічны. Менавіта гістарычнае вымярэнне, гістарычны ракурс фарміруе нацыю. Вядома, што адчуванне нацыянальнай прыналежнасці мае як прасторавае, так і часавае вымярэнне. Нацыянальная гісторыя — гэта своеасаблівы наратыў, які будуецца на аснове пэўных гістарычных падзей і асоб. Выбар гэтых падзей залежыць ад запатрабаванняў нацыі ў асэнсаванні яе сучаснага становішча. Невыпадковым у гэтым кантэксце выглядае выбар Якубам Коласам Віленскага наратыву. Падарожжа ў Вільню дзядзькам Антосем ацэньваецца І. Жуком як «выхад да трансцэндэнтных каштоўнасцяў»: «*Колас марыў пра Айчыну*. А Айчыны акурат і не магло існаваць у паэме без хоць якой-небудзь алюзіі на яе гістарычную трываласць» [3, с. 171]. Узыходжанне дзядзькам

Антосем на гару Гедыміна трактуецца І. Жуком як «метафарычнае ўзыходжанне на сімвал сакральны — па сваю нацыянальна-гістарычную самакаштоўнасць [3, с. 175].

І. Жук піша пра «далікатна-інтэлектуальнае адцемліванне нацыянальнай ідэі», уласцівае ўсёй творчасці Коласа: «У адных выпадках прамое ўказанне, што няўхільны рух праз гісторыю зарос «не чаратом, не лебядою, / А беларускаю бядою». У другіх — як нечаканая тэкстуальная падказка» [3, с. 250].

Ключавымі канстантамі нацыянальнага прыгожага пісьменства першай трэці ХХ стагоддзя выступаюць канцэпты зямля, чалавек, Бацькаўшчына, Родны кут. Зямля — цэнтр беларускага вобраза свету, своеасаблівае этнічнае падглеб’е нацыі, што і адлюстравана нашай літаратурай. У той час, калі нейкія грамадскія ці дзяржаўныя ўтварэнні ў Беларусі на працягу яе гісторыі не былі стабільнымі, зямля заставалася нязменнай каштоўнасцю пры ўсіх сацыяльных induces пертурбацыях. І. Жук піша пра тое, што «механізм этнічнай ідэнтыфікацыі закладзены ўжо ў самім канцэпце “зямля”. <…> Зямля як пэўная тэрыторыя, абжытая і асвоеная з рук і поту людзей блізкай супольнасці, ад самага пачатку выступае ядравым носьбітам этнічнага самавызначэння» [3, с. 167]. І сапраўды, па словах П. Бэрджыса, «зямля забяспечвала найбольш рэчыўны і фундамэнтальны пункт рэферэнцыі чалавечай дзейнасці і чалавечага сэнсу» [1, с. 62]. Грунтоўнае тэарэтычнае асэнсаваннне зямлі як сутнасці, зямлі як асновы, зямлі як феномена культуры і сімвала нацыі пададзена ў работах М. Хайдэгера («Выток мастацкага тварэння», «Рэч», «Тлумачэнні да паэзіі Гёльдэрліна»).

Зямля, «свая зямля» мае ў творах беларускай літаратуры — Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Лукаша Калюгі — філасофскае значэнне: гэта адначасова і Бацькаўшчына, Радзіма. Гісторыю беларускія пісьменнікі разглядаюць як укарэненасць у гэтую зямлю, тэрыторыю. Сакралізацыя *роднага кута* ў нацыянальным прыгожым пісьменстве — гэта імкненне сцвердзіць права народа на сваю тэрыторыю. Семантычнае развіццё канцэпта зямля ў беларускай літаратуры наступнае: зямля — сям’я (род) — народ — нацыя. Філасофія *сваёй зямлі* ў беларускай літаратуры заключаецца ва ўкарэненасці ў прасторы, жыццёвай трываласці беларускага чалавека.

Адным з папулярнейшых напрамкаў навуковых даследаванняў апошніх дзесяцігоддзяў у гуманітарнай сферы выступае гісторыя менталітэтаў. Яго заснавальнікамі з’яўляюцца французскія медыявісты Л. Феўр і М. Блок. І. Жуку належаць каштоўныя назіранні над спецыфікай беларускага менталітэту і яго ўвасаблення ў мастацкай літаратуры. Даследчык у рабоце «Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання» даводзіць, што «калі К. Чорны гаварыў пра самыя сакраментальныя рэчы, яго проза падтрымлівалася найбольш арганічным “тонам” нацыянальнай беларускай прасодыі» [2, с. 190], а раман «Млечны шлях» дэманструе «мастацка-моўнае выражэнне нацыянальнай ментальнасці» [2, с. 190].

Работы І. Жука вылучае цэльнасць, арыгінальнасць думкі, глыбіня распрацоўкі праблем. Гэта адзін з самых выдатных даследчыкаў нашага часу.

**Спіс літаратуры**

1. Бэрджыс, Э. Эўрапейскія межы : гісторыя прасторы / прастора гісторыі / Э. Бэрджыс // Фрагмэнты. — 2000. — № 3–4. — С. 42–67.

2. Жук, І. В. Празаічны тэкст: дынаміка рытмавага існавання : манаграфія / І. В. Жук ; пад рэд. А. А. Лойкі. — Гродна : ГрДУ, 2003. — 234 с.
3. Жук, І. В. Прыхінуцца да крыніцы / І. Жук. — Гродна : Гр. ДУ, 2017. — 235 с.
4. Жук, І. В. Сустрэчны рух : літаратуразнаўчыя эцюды. — Гродна : Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, 1998. — 112 с.
5. Радзік, Р. «Новая зямля» : Вобраз грамадства ў паэме Якуба Коласа / Р. Радзік // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе : зб. да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса ; пад рэд. С. Запрудскага і інш. — Мінск : Лімарыус, 2007. — С. 291–296.
6. Штэйнер, І. Ф. Вянок айчыннага літаратуразнаўства / І. Штэйнер // Жук, І. В. Прыхінуцца да крыніцы. — Гродна : Гр. ДУ, 2017. — С. 3–14.



# Даследзіны

ПАВАЛ СЦЯЦКО

## Онімы творцаў (сяброў Гродзенскай філіі СБП і сталых аўтараў «Новага замка»)

Для больш лаканічнага выкладу і адэкватнага разумення яго сэнсу ў тэксце выкарыстоўваюцца некаторыя тэрміны: *онім* — уласнае імя; *антрапонім* — уласнае асабовае імя (прозвішча); *тапонім* — уласная назва геаграфічнага аб’екта; *бацькаймене* — імя па бацьку; *апелятыў* — агульны назоўнік; *нашчадак* — сын (дачка), спадчыннік, дзіця; *рэг.* (рэгіянальнае слова — неагульнаўжывальнае); *формула прозвішча* (у скароце: ФП) — фіксацыя этапаў утварэння прозвішча.

**Абдулаева (Святлана)** — форма прыналежнага прыметніка з суфіксам *-ев-а* ад антрапоніма *Абдулай* і значэннем ‘нашчадак (дачка) названай асобы’: *Абдулай-ева*. Утваральнае слова — запазычанае імя *Абдула́* (дагестанск.)

**Адамовіч (Святлана)** — вытвор (вытворнае слова) з акцэнтаваным (націскным) суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Адам* і значэннем ‘нашчадак (дачка) названай асобы’: *Адам-овіч*. Адымёнавае прозвішча: ад *Адам* (ст.-яўр. ‘чалавек’, яўр. ‘узяты з зямлі’).

**Амялішка (Міхась)** — вытвор з экспрэсіўным суфіксам *-ішк-а* ад антрапоніма *Амелія* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Амел-ішка*. Адымёнавае прозвішча: ад імя: *Амелія* (ст.-герм. ‘працавітасць’).

**Астраўцоў (Сяргей)** — вытвор з прыналежным суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Астравец* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Астравец-оў — Астраўцоў*. ФП: *востраў* (‘участак, які вылучаецца чым-н. сярод навакольнай мясцовасці (сухое месца сярод балота, невялікі лес сярод поля і пад.) — *Востраў (Вострава)* (сяло) — *Астраво — Астравец* (‘жыхар вострава’, суфікс *-ец*) — *Астравец* (прозвішча) — *Астраўцоў*.

**Аўчыннікава (Ганна)** — форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-ава* ад антрапоніма *Аўчыннік* і значэннем ‘нашчадак (дачка) названай асобы’: *Аўчыннік-ава*. Утваральнае слова ад апелятыва *аўчыннік* ‘спецыяліст, які вырабляе аўчыны (з іх шыюць кажухі)’. ФП: *аўчына* (‘авечая шкура’) — *аўчыннік* (‘спецыяліст у вырабе аўчын’) — *Аўчыннік* (прозвішча) — *Аўчыннікава*.

**Бембель (Алег) (Зніч)** — падвойны онім; першы кампанент *Бембель* — семантычны вытвор ад апелятыва *бэмбель* ‘пухір’ («Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны» Сцяцко П., с. 22). Другі кампанент *Зніч* — форма мужчынскага роду ад апелятыва *знічка* ‘падаючая зорка’ (ТСБЛМ-2016, с. 309).

**Бічэль (Данута)** — семантычны вытвор ад апелятыва *бічэль* (літоўск. *Bitêlè* ‘пчолка’ (Фрэнк.) Вынік асваення літоўскага прозвішча *Бітэліс* (Бір.)

**Брусевіч (Анатоль)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам *-евіч* ад антрапоніма *Брус* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Брус-евіч*. Утваральнае слова — семантычны вытвор ад апелятыва *брус* ‘брус, бервяно’; (рэг.) ‘здаравяк, моцны, дужы чалавек’.

**Буднік (Іван)** — семантычны вытвор ад апелятыва *буднік* (ст.-бел.) ‘рудакоп’; укр. *будник*‘ работнік на паташным заводзе’ (Грынч.), рус. *будник* ‘будзённае адзенне’ (СРНГ. 3).

**Бялячыц (Рычард)** — другасная форма ад *Бялячыч* — вытвор з суфіксам бацькаймення *-іч (-ыч)* ад антрапоніма *Бяляк* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Бяляк-іч — Бляч(к/ч)-ыч*. ФП: *бяляк* (‘белай масці, белы’; ‘заяц, які мяняе зімой колер поўсці на белы’) — *Бяляк* (мянушка, потым прозвішча) — *Бялячыч — Бялячыц* (дысіміляцыя *чч>чц*).

**Валенцік (Таццяна)** — вытвор з суфіксам *-ік* ад антрапоніма *Валент* і значэннем ‘нашчадак (дачка) названай асобы’: *Валент-ік — Валенцік*. Утваральнае слова ад імя *Валент(а)* < лац. *valens, valentis* ‘моцны, дужы, магутны’.

**Валюк (Анатоль)** — народны варыянт канан. імя *Валента* (< лац. ‘здаровы, дужы’, зафіксаваны ў 1591 г.), набыў ролю прозвішча.

**Варанец (Віктар)** — вытвор з акцэнтавым суфіксам *-ец*: а) ад антрапоніма *Варона, Воран* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Варан-ец*; б) ад тапоніма *Вароны* і значэннем ‘нараджэнец (жыхар) названай мясцовасці’: В*арон-ец — Варанец*; в) ад антрапоніма *Вараны́* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Варан-ец* (утваральнае слова ад апелятыва *вараны* ‘чорны’ (масць коней)). Або ад апелятыва *варанец* ‘ядавітая травяністая расліна сямейства казяльцовых з чырвонымі або чорнымі ягадамі’.

**Васько (Уладзімір)** — народны варыянт канан. імя *Василий* (1593), *Васіль* (1528) (< грэч. ‘царскі’) набыў ролю прозвішча. Зафіксавана ў 1540 г.

**Голуб (Юрый)** — семантычны вытвор ад апелятыва *голуб* ‘птушка сямейства галубіных пераважна з шаравата-блакітным ці белым апярэннем і вялікім зобам’. Вельмі пашыранае слова-апелятыў і слова-антрапонім, мае шмат суфіксавых утварэнняў у розных мовах: *Голубаў, Голубев, Галубовіч, Галубеня, Галубкоў, Голубкова, Галубенка, Галубенкаў* і інш.

**Губернатараў (Міхась)** — вытвор з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма Губернатар і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Губернатар-аў*. Вытворнае слова ад апелятыва *губернатар* ‘начальнік якой-н. тэрытарыяльнай адзінкі ў некаторых краінах’, напрыклад губерні ў Расіі ў розныя часы.

**Дубатоўка (Валянцін)** — семантычны вытвор ад апелятыва *дубатоўка*, які мае два значэнні: 1) ‘прылада для атрымання рошчыны пры дубленні шкуры’ (‘таўкач, мяла, якім таўкуць дубовую кару’): *дуба-тоўка > дубатоўка*); 2) (перан.) ‘асоба, якая выконвае работу пры дубленні шкуры’ — гарбар (работнік гарбарнай прамысловасці).

**Жамойцін (Алесь Пятровіч)** — форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Жамойта* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Жамойт-ін* —

*Жамойцін*. Утваральнае слова *Жамойта (Жамойць)* ад літоўск. *Žemăitis* ‘літовец, жыхар Жамайціі’ (Фасм.). Як асваенне ЛП *Жемайтіс, Жемайтас* (Бір.).

**Жук (Ігар)** — семантычны выбар ад апелятыва *жук* ‘насякомае з жорсткім надкрыллем’ і (перан.) ‘пра хітрага і пранырлівага чалавека’ (разм., неадабр.).

**Жукоўскі (Аркадзь)** — вытвор з прэстыжным суфіксам *-оўскі* ад прозвішча *Жук*: *Жук-оўскі* або ад тапоніма *Жукі* і значэннем ‘нараджэнец, жыхар названай мясцовасці’: *Жук-оўскі*.

**Жураўлёў (Вадзім)** — форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-ёў* ад антрапоніма *Журавель* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Журавель-оў — Жураўлёў*. Утваральнае слова ад апелятыва *журавель* ‘вялікая балотная птушка з доўгімі нагамі і доўгай шыяй’. ФП: *журавель* (‘птушка’) — *Журавель* (мянушка) — *Журавель* (прозвішча) — *Жураўлёў*.

**Зізюк (Міхась)** — вытвор з суфіксам *-юк* ад антрапоніма *Зіз* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Зіз-юк*. ФП: *зіз* (укр. *зиз* м. абл. ‘касавокасць’ (Лемцюгова В. П. «Украінска-беларускі слоўнік», с. 261) — *зізюк* — *Зізюк*.

**Кананові́ч (Мікола)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Конан* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Конан-овіч — Кананові́ч*. Адымёнавае прозвішча: *Конан* (< грэч. *Konōn* ‘які працуе, служыць, спяшаецца’).

**Касяровіч (Павел)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Каспер* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Каспер-овіч*. Адымёнавае прозвішча: *Каспер* (< серб., польск.) ‘вартаўнік скарбаў’ < грэч. < санскр. ‘майстар, настаўнік’.

**Кеда (Альжбета)** — другасная форма, першасная *Геда* — семантычны вытвор ад апелятыва *геда* (літ. *gedis* ‘сарамлівы). У старабеларускай мове для абазначння выбухнога гука [г] выкарыстоўваўся дыграф — спалучэнне літар КГ; пасля знікнення дыграфаў заставалася першая літара (апускалася наступная). Адсюль першаснае *кгеда* стала — *кеда*.

**Краўцэвіч (Алесь)** — форма бацькаймення з акцэнтаваным суфіксам *-эвіч* ад антрапоніма *Кравец* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Краўц-эвіч.* Утваральнае слова ад апелятыва *кравец* ‘спецыяліст у шыцці адзення — пераважна мужчынскага’.

**Крофта (Ганна)** — другасная форма ад *Крохта* — вытвор ад дзеяслова *крахтаць* ‘утвараць міжвольна ціхія, адрывістыя гукі, стогнучы (ад болю, пры няёмкім становішчы і пад.)’ — нульсуфіксавы акцэнтаваны вытвор: *крахтаць — крохта — Крохта > Крофта* (мена гукаў (літар) «х» на «ф», як (рэг.) *хутар > футар, Тодар < Фёдар, Хама < Фама*.

**Кузьмініч (Ігар)** — вытвор з суфіксам бацькаймення *-іч* ад антрапоніма *Кузьмін* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Кузьмін-іч*. ФП: *Кузьма* (грэч. ‘упрыгожанне’) — *Козьма* (1690), *Кузьма* (1528) — *Кузьмін* (вытвор з суфіксам прыналежнасці *-ін* і значэннем ‘нашчадак Кузьмы’; *Кузьмін* (празванне, потым прозвішча) — *Кузьмініч*.

**Куль (Святлана)** — семантычны вытвор ад апелятыва *куль*, які мае розныя значэнні: 1) ‘тоўсты сноп выбранай няцёртай саломы, з якой звычайна робяць стрэхі’; 2) ‘вялікі, звычайна рагожны мяшок’; ‘старадаўняя гандлёвая мера сыпкіх цел

(каля 9 пудоў)’; 3) ‘задняя частка рыбалоўнай снасці (невада, жáка і пад.) у выглядзе доўгага вузкага мяшка, куды пападае рыба пры лоўлі’.

**Курыловіч (Мечыслаў)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Курыла* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Курыл-овіч — Курыловіч*. ФП: *Кирил* (1582), *Курило* (1567), *Кирило* (1567) (< перс. ‘сонца’, грэч. ‘які мае сілу’). *Курыла* (празванне, потым прозвішча) — *Курыловіч*.

**Ліс (Дар’я)** — семантычны вытвор ад апелятыва *ліс* ‘самец лісы’. У жывой народнай мове гэтым словам называюць кемлівага, з вялікім умельствам чалавека, а таксама хітруна. Антрапонім досыць пашыраны на Беларусі.

**Лаўрыш (Леанід)** — народны варыянт імя *Лаўрын* (< лац. ‘лаўровы’), зафіксаванага ў 1590 г. як *Лавриш*, набыў ролю прозвішча. Бытуе і ў формах *Лаўрэш, Лаўраш, Лаўрэн*.

**Мялешка (Андрэй)** — народная форма кананічнага імя *Мелетий* (1589) (< грэч. ‘клапатлівы, апякун, старанны’) набыла ролю прозвішча.

**Наважылаў (Алег)** — форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Наважыл* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Наважыл-аў*. Утваральнае слова *Наважыл* ад апелятыва *наважыл* ‘новы жылец, перасяленец з іншай мясцовасці’.

**Нікіпорчык (Ала)** — вытвор з суфіксам *-чык* ад антрапоніма *Нікіпор* і значэннем ‘нашчадак (дачка) названай асобы’: *Нікіпор-чык*. Адымёнавае прозвішча: *Нікіфар* (грэч. ‘перамоганосец’) і зафіксаванае *Никифор* у 1528 г., *Никипор* — 1577 г.

**Паўлоўская (Аліна)** — вытвор з прэстыжным суфіксам *-оўск-ая* ад антрапоніма *Паўла, Павал* і значэннем ‘нашчадак (дачка) названай асобы’: *Паўл-оўская*. Адымёнавае прозвішча: *Павел* (і *Паўла, Паўло*) < лац. ‘малы, маленькі, невялікі’.

**Петрушкевіч (Ала)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам *-евіч* ад антрапоніма *Пятрушка* і значэнем ‘нашчадак (дачка) названай асобы: *Пятрушк-евіч — Петрушкевіч*. Адымёнавае прозвішча: *Пётр* < грэч. ‘камень, скала, апора’. Зафіксаваны: *Петруша* (1580), *Петрушкевіч* (сучаснае).

**Пяткевіч (Аляксей)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Петко* (1528) і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Петк-евіч — Пяткевіч*. Адымёнавае прозвішча: *Пётр*< грэч. ‘камень, скала, апора’.

**Раманчук (Раіса)** — вытвор з суфіксам *-чук* ад антрапоніма *Раман* і значэннем ‘нашчадак (дачка) названай асобы’: *Раман-чук*. Адымёнавае прозвішча: *Раман* < лац. ‘чалавек з Рыма, рымскі’; грэч. ‘моцны’.

**Сазонаў (Віктар)** — форма прыметніка з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Сазон* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Сазон-аў*. Адымёнавае прозвішча: *Сазон* (грэч. ‘які ратуе, выратавальнік’).

**Самойла (Галіна)** — народная форма кананічнага імя *Самуіл* (< яўр. ‘якога пачуў Бог’) набыла ролю прозвішча; фіксуецца *Самуил* (1578), *Самуйло* (1591) — *Самойла* («Слоўнік асабовых уласных імён» М. Судніка (Мінск, 1965, с. 39)).

**Санько (Валеры)** — ад імя *Аляксандр* (грэч. ‘мужны, абаронца людзей’), яго народна-гутарковай формы *Санька* (1555) (ад *Саня*), з пераносам націску на апошні склад для адмежавання прозвішча ад імя. ФП: *Аляксандр — Аляксаня — Саня — Санька — Санько*.

**Стадуб (Аляксандр)** — другасная форма ад *Старадуб* ‘стары дуб’, назва расліны (Даль); скарачэнне слова за кошт вынятку сегмента *-ра-*, параўн. *дабранак < дабраранак*.

**Суднік (Станіслаў)** — семантычны вытвор ад апелятыва *суднік*, які ў розныя перыяды развіцця грамадства меў розныя значэнні: у даўнія часы: ‘спецыяліст у будаванні суднаў’, пазней і ў наш час ‘стваральнік ёмістасцяў для посуду, харчовых прадуктаў’; структура слова: *суд-нік*.

**Сцяцко (Павал)** — адымёнавае прозвішча — вытвор ад *Сцяпан*. *Сцяфан* < грэч. ‘вянец, карона’. Фіксуецца з 1528 г. (*Стефан, Степан*), *Стецко* (1528), *Сцецко, Сцяцко, Стэцко*. Як мяркуе заснавальнік беларускай антрапаніміі М. Бірыла, узнікла з *Степцько* ў выніку спрашчэння структуры слова.

**Трацяк (Янка)** — семантычны вытвор ад апелятыва *Трацяк*, які мае розныя значэнні: 1) ‘цяля, жарабя ва ўзросце трох гадоў’; 2) ‘траціна’ (трэцяя частка зямельнага надзелу); 3) ‘трэцяя частка чаго-небудзь’ (разм.). Утварэнне: *трэц(і) — трацяк — Трацяк*.

**Хільмановіч (Уладзімір)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Хільмон* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Хільман-овіч*. ФП: *Філімон* (імя < грэч. ‘любімы’), *Хілімон* (1528) (імя, потым прозвішча) — *Хільман* (рэг. варыянт; празванне, потым прозвішча) — *Хільмановіч*.

**Цеслянок (Зміцер)** — вытвор з суфіксам *-янок* (<*-енок*) ад антрапоніма *Цесля* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Цесл-янок*. ФП: *цесля* (‘тое, што і цясляр’ (‘рабочы, які займаецца грубай апрацоўкай драўніны, узвядзеннем драўляных будынкаў і пад.’) — *Цесля* (мянушка, потым прозвішча) — *Цеслянок*.

**Чобат (Аляксандр)** — семантычны вытвор ад апелятыва *чобат* («Расійска-крыўскі слоўнік» В. Ластоўскага): *чобат* укр. — ‘бот’. ФП: *чобат* (‘бот’) — *Чобат* (мянушка, пазней прозвішча).

**Чыгрын (Сяргей)** — вытвор з прыналежным суфіксам *-ын* ад антрапоніма *Чыгра* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Чыгр-ын*. Утваральнае слова — імя *Тыгрый, Цігрый* (грэч., лац.) ‘тыгровы’ (Г. М. Завальнюк, В. К. Раманцэвіч «Слоўнік уласных імён», Мінск, 2017, с. 235). *Чыгра* — семантычны вытвор ад народнага *цігра* (перан. ‘хто злы, робіць шкоду’) (СПЗБ, т. 5, с. 359) з менай *ч/ц* у гаворках Гродзеншчыны: *цярэшня ‘чарэшня’* (СНМЗ, с. 135), *ціжык ‘чыж’* (с. 139), а таксама: *цяромха ‘чаромха’* (СПЗБ, т. 5, с. 393).

**Шалкевіч (Віктар)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Шалко* і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Шалк-евіч*. ФП: рус. *шалить* (‘дурэць, балавацца, забаўляцца; жартаваць, дурыцца, сваволіць, гарэзаваць’) — *шалко* (‘дураслівец, свавольнік, гарэза’) — *Шалко* (мянушка, потым прозвішча) — *Шалкевіч*.

**Шукеловіч (Віктар)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Шукела* (рэг.) (*Шукала*) і значэннем ‘нашчадак названай асобы’: *Шукелавіч — Шукеловіч*. ФП: *шукаць* (‘старацца знайсці або выявіць’; старацца атрымаць, імкнуцца да новага’) — *шукала* (*шукела* (экспрэс., здзекліва) ‘той, хто шукае, знаходзіць, атрымлівае’) — *Шука(е)ла* (празванне, пазней прозвішча) — *Шукеловіч*.

**Юргілевіч (Леанарда)** — вытвор з акцэнтаваным суфіксам бацькаймення -*евіч* ад антрапоніма *Юргіль* і значэннем ‘нашчадак (дачка) названай асобы’: *Юргіл-евіч*. ФП: *Георгій, Юрый* (грэч. ‘земляроб’), *Юрий* (1528), *Юркгель* (1539), *Юргель* і *Юргіль* (рэг.) (празванне, потым прозвішча) — *Юр-гілевіч*.

**Яцук (Таццяна)** — адымёнавае прозвішча — ад *Іаан, Яна* (< яўр. ‘ласка Божая, Бог мілуе’). Фіксуецца з 1528 г. (*Ян, Янка*), *Янец*; форма *Янцук* — ад *Янецук*.



# Эпісталярый

## Сяргей Чыгрын

### Родам з Шулякоў

Яшчэ ў 1990-х гадах з вялікай цікавасцю прачытаў артыкулы дачкі беларускага пісьменніка Адама Бабарэкі — Алесі Бабарэка пра сваіх маці «Маміны песні» і бацьку «Слова пра бацьку» ў зборніках «Скарыніч-2» (Мінск, 1993, с. 90–106) і «Скарыніч-4» (Мінск, 1999, с. 176–188). Справа ў тым, што маці Алесі Бабарэка — Ганна Іванаўна Дзянішчык была родам з вёскі Шулякі Зэльвенскага раёна. Дзесьці кіламетры са тры ад Шулякоў знаходзіцца і мая родная вёска Хадзявічы Слонімскага раёна. А паміж Шулякамі і Хадзявічамі, на самай мяжы двух раёнаў — Слонімскага і Зэльвенскага — узвышаецца славутая Сынковіцкая царква XV стагоддзя. Сюды шмат стагоддзяў з усіх навакольных вёсак ішлі і ідуць вернікі, каб памаліцца Богу. Некалі спяшаліся ў Сынковіцкую царкву і Ганна Іванаўна Дзянішчык, яе маці Магдалена і бацька Янка.

Вёска Шулякі знаходзіцца каля самай шашы Слонім — Зэльва, за пятнаццаць кіламетраў ад Слоніма і дваццаць ад Зэльвы. У 1930–1970-х гадах гэта была вялікая, працавітая і вясёлая вёска. Цяпер у жывых засталося некалькі хат. Але я там бываю і сёння. Памятаю, гадоў 15 таму летам завітаў у Шулякі — родную вёску Ганны Дзянішчык. У гэту шулякоўскую дзяўчыну з першага позірку закахаўся некалі беларускі паэт, празаік і крытык Адам Бабарэка. Яна стала яго жонкаю і была побач усё яго кароткае жыццё.

Тады ў Шуляках жыла 80-гадовая Вольга Пятроўна Толкіна. Яна ведала пра Шулякі і шулякоўцаў усё.

— Некалі наша вёска была вялікай, — сказала жанчына, — а цяпер яна неперспектыўная. Усяго дзесяць хат.

— А ці жылі ў Шуляках вяскоўцы з прозвішчам Дзянішчык? — запытаўся ў жанчыны.

— Былі, былі такія. Але ўсе памерлі. А дзе іх дзеці і ўнукі жывуць, я не ведаю, — казала тады Вольга Толкіна.

Пасля прачытання ўспамінаў Алесі Бабарэка пра яе маці я напісаў аўтарцы ў Маскву ліст. Расказаў трохі пра Слонімшчыну, пра Шулякі, Сынковічы — пра тыя мясціны, дзе прайшло дзяцінства яе маці. Хутка ад Алесі Адамаўны атрымаў адказ. Потым былі яшчэ лісты.

**Лісты Алесі Бабарэка**

*9 кастрычніка 1993 года*

Паважаны Сяргей!

Звяртаюся да Вас без імя па бацьку, бо вы мне яго не напісалі. Вельмі ўдзячна Вам за добрыя словы пра мой артыкул пра маму. Дзякуй вялікі за ліст, такі пра ўсё дакладны. Паглядзела мапу Карскага* за 1917 год (у Менску на кангрэсе летам гэтым атрымала яе). Знайшла Зэльву, шасэ да яе ад Слоніма. Так што ў думках там пабывала.

У мамінай вёсцы Шулякі Зэльвенскага раёна я ніколі не была, не быў там і мой бацька, бо ён пазнаёміўся з мамай, калі гэты край быў ужо пад Польшчай.

Маміна матка, Магдалена, памерла ў Менску неўзабаве пасля сустрэчы са сваім сынам Астапам, які працаваў у ваенным шпіталі ў Менску. Не ведаю, хавалі яго там ці сын павёз у Шулякі, сям'я ўцякала ад вайны, можа вяртацца было небяспечна. Бацька мамін памёр у Шуляках ужо пасля вайны. Мама мая пахавана ў Маскве на Вастракоўскіх могілках, таксама тут і мая сястра Лора. Акрамя мяне нашчадкаў Ганны і Адама няма.

Цяпер пра Янку Бялькевіча**. Так, гэта той самы Бялькевіч, аўтар «Краёвага слоўніка Ўсходняй Магілёўшчыны». Пра ягоны лёс раней нічога мы не ведалі, бо мама з Вяткі яму не пісала, баялася родным нашкодзіць такімі небяспечнымі на той час сувязямі. Нядаўна сама даведалася пра яго лёс з беларускіх газет.

Другія маміны родныя нас самі адшукалі ў пачатку 1960-х гадоў. З бацькавымі сувязь была ўвесь час. У Менску жывуць мае стрыечныя (па бабулі) сястра Акцябрына і брат Леанід са сваімі дзецьмі. З маміных сваякоў у Берасце жыве яе пляменнік Мікалай, на Слонімшчыне — пляменніца Таня (у вёсцы Сялявічы). Яе я ніколі не бачыла, другія сваякі прыязджалі да нас.

Па бацькавай лініі мамы сваякоў не было, акрамя дзеда яна нікога ніколі не згадвала, а па яе маці — успамінала пра цётку Агату (ці не маці гэта Янкі Бялькевіча?).

Пра бацькаву працу ў Менску вельмі добрая даведка надрукавана ў біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» (Т. 1. Мінск, 1992), тэкст І. П. Чыгрына*** (ці не Ваш сваяк?).

Бацька выдаў толькі маленькую кніжачку — 5 апавяданняў. Вершы і крытычныя артыкулы змяшчаў у часопісах і газетах, ніколі не выдаваў асобна. Калі спіс Рэут больш-менш поўны, то бацька напісаў каля 80 вершаў, апавяданняў, артыкулаў. Добрую кніжку пра бацькаву дзейнасць напісаў У. М. Конан**** «Адам Бабарэка» (Мінск, 1976). Там многа здымкаў, якія мы з мамай Уладзіміру Конану давалі (у копіях).

Цяпер пра сябе. Я скончыла Маскоўскі ўніверсітэт, працавала два гады на трактарным заводзе ў ЦЗЛ інжынерам-металаграфам. Потым вярнулася ў Маскву, працую ў Інстытуце металургіі РАН ст. навуковым супрацоўнікам, кандыдат тэхнічных навук.

---

* Яўхім Карскі (1860–1931) — першы беларускі акадэмік, філолаг-славіст, заснавальнік навуковага мовазнаўства, этнограф, фалькларыст і палеограф.

** Янка Бялькевіч (1883–1960) — беларускі мовазнавец, педагог.

*** Іван Чыгрын (1931–2006) — беларускі літаратуразнавец, паэт, крытык.

**** Уладзімір Конан (1934–2011) — доктар філасофскіх навук, гісторык, літаратурны крытык.

Займаюся вось якімі справамі — тэкстурамі металаў і керамік. Сааўтар кнігі «Тэорыя ўтварэння тэкстур у металах і сплавах», больш за 100 навуковых артыкулаў і аўтар двух вялікіх аглядаў па гэтай тэме.

Як мы з сястрой (таксама хімік) выбіралі прафесію. Жыццё паказала, што з двух Гарэцкіх-братоў — гуманітарны загінуў, а тэхнічны спецыяліст вытрымаў. Мы пра ўсё гэта добра ведалі ад жонкі Максіма Гарэцкага*, з якой разам жылі ў Вятцы. Дзеці яшчэ не былі ўпэўнены, што ўслед за бацькам іх пагоніць лёс. Гэта, канешне, па-за свядомасцю.

Аўтабіяграфія — гэта звычайнае жыццё дзяцей рэпрэсаваных бацькоў. Але маміна добразычлівасць выклікала спачуванне да нашага лёсу і дапамагла ўсім выжыць. Бацька — ахвяра часу. А маці — падзвіжніца.

Праглядаю бацькавы паперы, якія маці захавала (нават ёсць запісы з менскай турмы, 1930–1931 гады). З двума малымі дзецьмі ехала да бацькі ў Вятку і ўсё везла, усё захавала. Трэба бачыць гэтыя запіскі, каб даведацца, што за жыццё яе было, учарашняй вясковай дзяўчыны: праца, бо трэба забяспечыць сям’ю, дома былі дзеці малыя, перадачы ў турму насіла, адтуль — гразная бялізна, і ніякай дапамогі. Ад запісак (урывачкі) адрывалі ў турме ўвесь тэкст, акрамя просьбы аб перадачах. І ніякіх звестак аб бацькавым здароўі (у яго перад арыштам былі сухоты), а яна ж так хвалявалася пра яго здароўе.

Наконт здымкаў сямейных, выберу час — зраблю копіі.

Жадаю ўсяго найлепшага і поспехаў у Вашай працы.

З павагай

*Алеся Бабарэка.*

P. S. Пішу адрас — Слонім, і гэта выклікае ў мяне такія пачуцці: колькі разоў чула гэтае слова ад маці. Яна з захапленнем згадвала пра сваё жыццё ў Слоніме. Калі вучылася ў школе, жыла на кватэры ў Карлінскай. Брат мамін Ануфры Янкаў Дзянішчык працаваў таксама ў Слоніме альбо настаўнікам, альбо школьным інспектарам. Як казала маці, яго там добра ведалі і паважалі, нават на яе гэта ўплывала.

Выбачайце за памылкі ў правапісе. У беларускай школе вучыцца не давялося, а як чытаю беларускую літаратуру, дык усюды розны правапіс, вось і блытаю.

*2 верасня 2001 года*

Вельмі паважаны Сяргей Мікалаевіч!

Тыдзень таму атрымала Вашу бандэролю. Адразу пачала тэлефанаваць Аляксею Канстанцінавічу Каўку**, але тэлефон ягоны маўчаў. Міхася Шкялёнка*** нумар тэлефона не ведаю. Толькі сёння вечарам Аляксей Канстанцінавіч аб’явіўся. Ён папрасіў мяне ўскрыць канверт, прызначаны для яго, прачытаць Ваш ліст. Сказаў мне, што

* Максім Гарэцкі (1893–1938) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, лексікограф, фалькларыст.

** Аляксей Каўка (1937) — беларускі літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, кандыдат гістарычных навук.

*** Міхась Шкялёнак — беларускі прадпрымальнік з Расіі, сваяк беларускага гісторыка Міколы Шкялёнка (1899–1946).

праца Ваша для наступнага «Скарыніча»* не спазнілася, але быў вельмі ўсхваляваны тым, што Вы яму не прыслалі ўступнага слова да кнігі твораў Шкялёнка. Каўка, як звычайна, адпачываў у сваім летніку, а цяпер будзе бываць у Маскве часцей. Прасіў перадаць Вам падзяку.

Вельмі ўдзячна Вам за кнігі, што мне прыслалі. З захапленнем прачытала Вашы вершы, астатняе з цікавасцю чытаю, можна сказаць вывучаю.

Паведамляю пра недарэчнасць: бандэроля Ваша прыйшла да мяне ва ўскрытым выглядзе, што засведчана поштаю. Усё цэлае: кнігі, канверт для Каўкі, а вось нумароў «Газеты Слонімскай», на жаль, няма. Вельмі для мяне цікавым было б прачытаць пра слонімскае штодзённае жыццё, тым больш, што ў мяне ёсць такое жаданне з дапамогай газеты адшукаць нашчадкаў маміных сябровак-беларусак слонімскіх, якія былі разам з ёю ў бежанстве ў Мядыні (Расія, Калужская губерня), вучыліся ў гімназіі, і за якімі ў 1919 ці ў 1920 годзе яна паехала ў Сібір добраахвотна, каб працаваць там вучыцелькай.

Мы з сястрой Лорай пра такія вандраванні нашай матулі нічога не ведалі, ад яе ніколі не чулі. Ужо пасля мамінай смерці, і то не адразу (толькі летась), я выпадкова, наводзячы парадкі на адной з антрэсоляў, дзе ляжалі старыя рэчы, якімі даўно не карысталіся, заўважыла мамін стары настаўніцкі партфель і пацікавілася, што там у ім. Знайшла тры лісты. Адно без подпісу, бо канец адарваны, а два падпісаны імем Зіны. Лісты датаваныя 1920–1921 гадамі, канвертаў з адрасамі пры іх не было, але была прышпілена маленькая паперка з адрасамі:

Енисейская губерня, Канскага уезда, п. ст. Устянское, Ножинская (ці Ношынская) волость, учит. Капитоновской школы З. М. Сандура.

Верхнеудинск, З.Ж.Д., Лосевская ул., д. № 30, Шнарптовой (нечытэльна), Е. С. Бутько.

На ксераадбітку, што Вам прыкладаю, гэтыя дзве сяброўкі маміны (мама справа), якіх яна называла Зіна і Лёля. Памянутыя лісты і арыгінал фотаздымка здадзены мною ў Дзяржаўны архіў-музей беларускай літаратуры і мастацтва (дырэктар Ганна Запартыка). Ксераадбіткі лістоў сабе пакінула. Вось што з лістоў я даведалася. Дзяўчыны гэтыя былі пасля заканчэння гімназіі (з 1917 года — савецкая школа другой ступені) мабілізаваныя для працы настаўніцамі ў працоўных школах Сібіры. Напэўна, яны былі старэйшыя за маму на год ці два, таму што маму не мабілізавалі і яна неаднойчы давучвалася ў педагагічным класе Мядынскае школы. Памятаю, мама неаднойчы ў маленстве казала нам, што яна за год скончыла адразу два класы, адзін экстэрнам. А калі я пыталася, навошта так зрабіла, то яна адказвала, што хацела хутчэй пайсці працаваць.

Дык вось яно што, спяшалася, каб паспець за сяброўкамі. З лістоў даведалася, што шукалі сяброўкі яе ў Омску, запрашалі ейную хатнюю гаспадыню і, не знайшоўшы Анечку, сталі пісаць ёй лісты, атрымлівалі і ад яе. Вынікае, што Аня пісала ім і з Менску, і з Мядыні. Скардзіліся сяброўкі, што не пускаюць вяртацца на Беларусь, а мабілізаваным палякам і латышам ужо дазваляюць вяртацца на Радзіму. Пыталіся

* «Скарыніч» — літаратурна-навуковы гадавік, выдаваўся ў Маскве пад рэдакцыяй Аляксея Каўкі і Віктара Чайчыца.

ў Ані, якая частка Беларусі пад палякамі. Зайздросцілі Ані, што мае такога брата Макарыя, які, як я зразумела, выратаваў яе ад Сібіры. Макар Дзянішчык — гэта быў мамін родны брат, быў у партыі эсэраў пад мянушкай Міхалка Арцымовіч. Ва ўладзе БНР быў сябрам міністра сельскае гаспадаркі, пасля ад саветаў атрымаў пад управу паказальную сельскую гаспадарку, дзе мама да ягонага шлюбу была за гаспадыню. Да жонкі ягонае не магла прыстасавацца. Але тут да іх завітаў Янка Бялькевіч, які, па маміных успамінах, убачыўшы яе дрэнны стан у жанатага брата, параіў ехаць вучыцца ў толькі што адкрыты ў Менску ўніверсітэт. Не памятаю, ці пісала Вам пра гэта раней. Далейшы лёс Макара Дзянішчыка — канцлагер і след губляецца. Толькі аднойчы мне Уладзімір Дубоўка* казаў, што бачыў яго ў Менску ў канцы 1960-х ці напачатку 1970-х гадоў. Вельмі хацелася б больш дасканала даведацца пра гэтыя малавядомыя старонкі мамінага жыцця. Калі зрабіць якуюсь публікацыю ў газеце пра слонімскіх беларусак-настаўніц у Сібіры, можа, хто і адгукнецца. Як Вы на гэты конт думаеце?



▪ *Адам Бабарэка з жонкай Ганнай і дочкамі*

Пасылаю Вам дзве кніжкі, прысвечаныя лёсу Адама Бабарэкі**. Аўтар Мікалай Мікалаевіч Ількевіч*** жыве ў Смаленску, выдае часопіс «Годы», працуе загадчыкам бібліятэчнага калектара.

З павагаю да Вас, застаюся Ваша

*Алеся Бабарэка.*

*20 лістапада 2001 года*

Вельмі паважаны Сяргей Мікалаевіч!

Атрымала Вашае пісьмо з добрым водгукам пра кніжкі пра Адама Бабарэку. Вельмі прыемна было чытаць, дзякуй. Тэлефанаваў мне аўтар, паведаміла і яго пра тое.

Што да Вашае просьбы пра фота мамы маёй з сяброўкамі і Сяргея Дарожнага**** — я ўвесь бацькаў і мамін архівы перадала ў Беларускі Дзяржаўны музей-архіў беларускай літаратуры і мастацтва. Дырэктар музея Ганна Вячаславаўна Запартыка. Калі мне тэлефанаваў М. М. Ількевіч, я яго прасіла (ён ехаў у Менск) звярнуцца да

---

* Уладзімір Дубоўка (1900–1976) — беларускі паэт, празаік, мовазнавец, крытык, перакладчык.

** Адам Бабарэка (1899–1938) — беларускі паэт, празаік, літаратуразнавец, ідэолаг, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў літаратурна-мастацкіх аб’яднанняў «Маладняк» і «Узвышша» (1923–1926).

*** Мікола Ількевіч (1958) — беларускі і расійскі літаратар і гісторык.

**** Сяргей Дарожны (1909–1943) — беларускі паэт, перакладчык, грамадска-культурны дзеяч.



▪ *Адам Бабарэка з жонкай Ганнай, маці і братам*

Ганны Вячаславаўны з вашаю просьбаю пра здымак мамы з сяброўкамі і перадаць Ваш факс. Ён абяцаў зрабіць гэта па тэлефоне, бо заходзіць у музей не меў магчымасці. Калі з музея няма да Вас вестак, думаю, што лепей Вам звярнуцца самому да Ганны Вячаславаўны.

Наконт таго, ці было ў бацькавым архіве фота Сяргея Дарожнага, не памятаю. Але ён ёсць на групавым здымку «Узвышша»* даволі добрага памеру. Бацька з Сяргеем Дарожным не ліставаўся, ці можа, калі што было, то знішчана. Перад другім бацькавым арыштам (1937 год) бацькі на маёй памяці палілі шмат папер, якія лічылі небяспечнымі для іх адрасатаў, бо ў любы час чакалі вобыску, бо ўжо быў арыштаваны Антось Адамовіч** — першы з вяцкіх пакутнікаў. У мяне асобная думка наконт адносінаў да яго з боку аўтара кнігі пра А. Бабарэку. Калі я распаўсюджвала кнігу, дадавала да яе гэтае сваё ўражанне наконт Антося. Не памятаю, ці дасылала Вам, на ўсякі выпадак дасылаю зноў.

Вельмі радуе, што Вы працуеце над аднаўленнем памяці слаўных беларускіх дзеячаў. Шкада, што нічым не магу дапамагчы. Жадаю плёну ў Вашай працы. Моцы Вам і здароўя!

З павагай да Вас

*Алеся Бабарэка.*

*7 ліпеня 2002 года*

Вельмі паважаны Сяргей Мікалаевіч!

Даруйце, што так затрымалася з адказам на Ваш ліст з дарагой для мяне вашай публікацыі ў «Гродзенскай праўдзе» ад 15 студзеня 2002 года. Шчыра за яе дзякую. Заўважыла адну недакладнасць, якая трапіла ў гэтую публікацыю. Вы напісалі, цытуючы мой ліст: «Брат мамін Янка Дзянішчык працаваў таксама ў Слоніме ці то настаўнікам, ці то школьным інспектарам…» Ці мая тут, ці Ваша памылка? Таму ўдакладняю. У Ганны Дзянішчык было чатыры родных браты: Ануфрый, Астап, Макар і Хведар. Два старэйшыя атрымалі педагагічную адукацыю і абодва працавалі ў Слоніме — адзін настаўнікам, другі школьным інспектарам. Памятаю маміны словы, як школьныя выкладчыкі пыталіся ў яе, ці не сястра яна Яўстафія Іванавіча. Разумею з таго, што размовы выкладчыкаў з вучнямі адбываліся на рускай мове, ні як у вясковай школцы, бо пра тыя ўспаміны (вясковыя) мама згадвала, як яе каралі за

---

* «Узвышша» — беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне, якое існавала ў 1926–1931 гадах.

** Антон Адамовіч (1909–1998) — беларускі літаратуразнавец, гісторык, празаік.

памылкі: «Давай, Ганна Дзянішчык, нос і лапу!» А тыя «лапы» лінейкаю білі вельмі балюча. У Слоніме такіх выпадкаў не было, дык мама лічыла, што ў яе з прозвішчам «прывілеі» былі.

Другія два браты — адзін Макар (па эсэраўскай мянушцы Міхалка Арцымовіч, сябраваў са сваім стрыечным братам Янкам Бялькевічам, як Вы ў лісце адзначылі — эсэрам) атрымаў сельскагаспадарчую адукацыю, а малодшага сына мой дзед Янка не вучыў, бо пакідаў працаваць на ўласнай зямлі, якой у дзеда было 25 дзесяцін. З іх — 5 дзесяцін дзед вызначыў сям'і Янкі Бялькевіча, з таго вынікае і мама мая казала, што гэта быў дзедаў пляменнік (мабыць, сын цёткі Агаты, сястры мамінай маці Магдалены), але да гэтае пары не давялося пра гэта даведацца. А ў мамы не пыталася, як імя маці Янкі Бялькевіча.

Калі была на святкаванні 95-годдзя Мікалая Мікалаевіча Улашчыка, якое адзначаў сын Аляксандр, спаткала там нашчадкаў Ніны Улашчык, жонкі Янкі Бялькевіча. Пыталася ў яе пра маці Янкі Бялькевіча — не ведаюць. Набыла там кнігу Вячаслава Станішэўскага* «Радавод сям'і Улашчыкаў» (Менск, 2001). Прысутнічаў аўтар. З тае кнігі толькі даведалася, што па бацьку Янка Бялькевіч быў Кандратавіч.

За гэты час пабывала ў Менску на Другіх Узвышаўскіх чытаннях, прысвечаных 100-годдзю Язэпа Пушчы**. Пазнаёмілася з ягонай малодшай дачкой Лідзіяй. Цікава было паслухаць яе ўспаміны пра бацькоў. Выступалі на чытаннях У. Гніламёдаў***, І. Багдановіч****, М. Мушынскі*****, У. Конан, Я. Гарадніцкі******, А. Гесь*******, А. Пашкевіч********, В. Скалабан********, Г. Запартыка і іншыя. Таксама і я ўдзельнічала з паведамленнем пра перапіску Язэпа Пушчы з Адамам Бабарэкам у ссылцы.

Ганна Запартыка прэзентавала мне вопіс фонду Бабарэкі Адама Антонавіча з пералікам ягоных рукапісных матэрыялаў і фотаздымкаў, а таксама лістоў да яго, здадзеных мною ў архіў БДАМЛіМ. У тым спісу пад нумарам 271 мамін фотаздымак з тымі яе сяброўкамі, што мне зрабілі ксеракс і я Вам яго паслала. Усяго ў бацькавым архіве 356 адзінак захоўвання, у тым ліку сабраныя намі — ягонай сям'ёй.

Даўно жадала даслаць Вам хоць маленькую частачку з таго, што дасталося мне ў спадчыну ад маёй маці. Убачыўшы яе прыгожы твар на тым фотаздымку, што Вы перадрукавалі ў газеце, захацела паведаміць пра яе любімую песню, напісаць Вам словы і ноты да яе, так-сяк з маёй малой музычнай адукацыяй (4 кл. дзіцячай музычнай школы), запісаныя мной на слых.

---

* Вячаслаў Станішэўскі (1932–2010) — кандыдат тэхнічных навук, гісторык, грамадскі актывіст.

** Язэп Пушча (1902–1964) — беларускі пісьменнік.

*** Уладзімір Гніламёдаў (нар. 1937) — беларускі пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар.

**** Ірына Багдановіч (нар. 1956) — беларуская пісьменніца.

***** Міхась Мушынскі (нар. 1931) — беларускі крытык, літаратуразнавец.

****** Яўген Гарадніцкі (нар. 1951) — беларускі пісьменнік, крытык.

******* Аляксандра Гесь (1940–2011) — беларускі гісторык, архівіст.

******** Алесь Пашкевіч (нар. 1972) — беларускі пісьменнік.

******** Віталь Скалабан (1947–2011) — беларускі гісторык, архівіст.

Прыкладаю тэкст і ноты. Мама лічыла гэтую песню ўніяцкай. З таго разумею, чаму мой дзед не хадзіў ні ў праваслаўны, ні ў каталіцкі храм, таму на яго крыўдавалі святары. А ўніяцкая служба была забаронена яшчэ Кацярынай II* на Беларусі. Сяляне ж пра дзеда казалі так: «Яначкаў Бог тоўсты, бо любіў Л. Талстога** чытаць».

**Заездзіў коніка**

Заездзіў коніка,
Заездзіў другога,
Скажы, дзяўчыненька,
Ці будзе што з тога?
Ці будзеш мая, ой, ці не,
Скажы, дзяўчыненька, праўду мне.
Ой, ў нядзелю рана,
Як стала світаці,
Стала дзяўчыненька
Ўсю праўду казаці:
«З мяне пасагу не будзе,
Возьмуць мяне так добры людзі».
— Ні твайго пасагу
Мне, канечне, трэба.
Знагародзіў пан Бог
З высокага неба.
Ні мне твой посаг — ты сама,
Як на небе ясная зара!..
— Во, цяпер ты скажаш,
Што зоранька ясна.
А потым ты скажаш:
«Доленька няшчасна».
Як не ты скажаш, дык маці:
«Было сіроту не браці».
— Не ўверай, дзяўчына,
Што буду казаці.
Пойдзем да касцёла,
Будзем шлюбаваці.
Ксёндз ручкі звяжа стулою,
Нам не будзе стыдна з табою.
— Цяпер мяне бярэш
Харошу, здарову,
Калі захварэю,
Ці стрымаеш слова?
Барані, Божа, недугі,
Не замысліць сэрца аб другі?..

---

* Кацярына II (1729–1796) — расійская імператрыца.
** Леў Талстой (1828–1910) — расійскі пісьменнік.

— Скарай мяне, Божа,
На душы, на целе,
Калі я памыслю
Аб іншай дзяўчыне.
Скарай мяне, Божа, на каню,
Калі я замыслю аб каму.

Усяго Вам найлепшага.
З павагай да Вас

*Алеся Бабарэка.*



# Нашы юбіляры

АЛЕСЬ БЕЛЬСКІ

## Закаханы ў родны край

*Сяргею Чыгрыну — 60*

Кожны пісьменнік сустракае свой 60-гадовы юбілей не проста як свята, круглую дату, а як своеасаблівы дзень, значную падзею жыцця, калі ён, па сутнасці, трымае творчую справаздачу, робячы агледзіны плёну працы ў літаратуры. Аднак не абавязкова, каб творца сам гаварыў пра сябе, уласныя дасягненні і набыткі, бо ў такім выпадку існуе ўсё ж момант няёмкасці. Безумоўна, найлепей, калі пра жыццё і творчасць юбіляра апавядаюць іншыя, тыя, хто добра ведае яго. Напэўна, па праву даўняга сяброўства і бяруся выказацца пра Сяргея Чыгрына — беларускага пісьменніка, краязнаўцу, гісторыка, журналіста. Раблю гэты агляд з прыемнасцю і адразу з радасным здзіўленнем адзначаю, як шмат паспеў ён за гады сваёй творчай дзейнасці, якая была мэтанакіраванай і надзвычай актыўнай.

Сяргей Чыгрын нарадзіўся 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы, ад якой дзесяць кіламетраў да старажытнага горада Слоніма. Хату, у якой ён гадаваўся, пабудаваў ягоны дзед ажно ў 1907 годзе. Хата стаіць і па сёння, Сяргей часта наведваецца на радзіму. Няма для яго большай асалоды, як у летні спякотны дзень папіць нагбом халоднай вадзіцы з вядра, выкручанага са студні на родным панадворку. А спатоліўшы смагу, можна і на прызбе старой хаты пасядзець, згадаць маленства, мінулае, паразважаць пра лёс сваёй вясковай радзімы, пра жыццёва важнае і надзённае, пра хлеб духоўны…

Тут, у дзедавай хаце, хлопчыка сагравала цёплае матчына сэрца і слова. Ева Захараўна выхоўвала сына адна. Працавала ў калгасе і, нягледзячы на неспагадную долю, жыла і гаравала з думкай пра лепшы заўтрашні дзень, марыла, каб сын вывучыўся і стаў настаўнікам. Многія вяскоўцы тады хацелі для дзяцей іншага жыцця, а не цяжкай працы і без прасвету ў калгасе. Сяргей быў хлопчык не такі, як усе вясковыя дзеці. У школьныя гады яго імя з’явілася на старонках дзіцячага піянерскага друку — у газетах «Піянер Беларусі», «Зорька», часопісе «Бярозка». Сяргей дасылаў у рэдакцыі зацемкі, допісы, смяшынкі, замалёўкі. Пачаў ён складаць і вершы. А натхніла яго на тое, каб сесці за стол і рыфмаваць, па яго словах, «радыё, якое заўсёды, пастаянна гаварыла на роднай беларускай мове». Сапраўды, у той час, калі Сяргей быў школьнікам, ледзь не ў кожнай вясковай хаце беларускае радыё працавала цэлы дзень, не сціхала аж да апоўначы. Мы штодня чулі з эфіру мілагучную плынь родных

слоў. Праўда, паэтычны дэбют Сяргея Чыгрына ў друку адбыўся толькі ў 1975 годзе. Сакавіцкі нумар часопіса «Бярозка» выйшаў з яго вершам «Свеціць сонейка».

Выключную ролю ў творчым станаўленні і развіцці юнага таленту адыграў паэт Мікола Чарняўскі, які стаў першым літаратурным настаўнікам Сяргея. А працаваў тады М. Чарняўскі літкансультантам у часопісе «Бярозка». Праз шмат гадоў С. Чыгрын з цеплынёй і ўдзячнасцю гаворыць пра ліставанне са старэйшым пісьменнікам, згадвае яго ўрокі шчырага сумоўя, якія спрыялі літаратурна-творчаму развіццю: «Я, вясковы хлопчык, кожны тыдзень адсылаў яму ў Мінск свае вершы, смяшынкі, замалёўкі, а Мікалай Мікалаевіч іх чытаў і на кожнае пісьмо прысылаў адказы. А лепшыя творы друкаваў. Усе яго пісьмы я зберагаю да сённяшніх дзён. Чытаю іх і дзіву даюся: якое ў чалавека было цярпенне, каб адказваць на кожнае маё наіўнае і часам смешнае пісьмо. Вось гэта была школа!» («У творах — мой жыццяпіс»). Калі хлопчык пабачыў свой твор надрукаваным на старонках часопіса «Бярозка», то ягонай радасці не было межаў. С. Чыгрын прыгадвае: «З гэтаю “Бярозкаю” я спаў, яна ляжала пад маёй падушкаю, я насіў яе ў школу разам з падручнікамі». Сяргеева матуля паехала ў горад і набыла яшчэ пяць нумароў часопіса. Першыя публікацыі натхнялі на далейшую творчасць.

У школьныя гады Сяргей стаў вялікім аматарам кінамастацтва, цікавіўся тагачаснымі часопісамі пра кіно. Потым яго завабіў і незвычайна захапіў тэатр. Гэта і прадвызначыла выбар, які зрабіў адораны юнак са Слонімшчыны. Пасля сканчэння Хадзявіцкай васьмігодкі (1974) ён паехаў паступаць на тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культпрасветвучылішча. Тады яму не мінула і шаснаццаці гадоў. Перш чым здаваць асноўныя экзамены, перад прыёмнай камісіяй Сяргею неабходна было паказаць эцюд. Страшэнна хваляваўся, бо яму бракавала сцэнічнага досведу, аднак, нягледзячы на гэта, не разгубіўся і добра выканаў эцюд-імправізацыю. Рэжысёр Валянцін Іванавіч Ермаловіч, які ў складзе прыёмнай камісіі ацэньваў абітурыентаў, пахваліў юнака. Магілёўскі перыяд стаў надзвычай важным і, напэўна, вызначальным у лёсе Сяргея Чыгрына. Ад таго часу, калі ён выходзіў на сцэну ў спектаклях, да сённяшніх дзён ён спалучаны з тэатрам. С. Чыгрын шчыра прызнаўся: «…Пра вялікую сцэну не марыў. Я марыў быць тэатральным крытыкам. І крыху мая мара збылася. Бо я па-ранейшаму люблю тэатр. І працую не толькі журналістам (не люблю журналістыку), але і загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага дзяржаўнага драматычнага тэатра. Бо тэатр — гэта хвароба: калі яе падхапіў, то назаўсёды» («У творах — мой жыццяпіс»). Сёння С. Чыгрын непасрэдна далучаны да фармавання тэатральнага рэпертуару ў Слоніме. У суаўтарстве з А. Якімовічам напісаў п’есу для дзяцей «Белая Мышка» (2005). Пераклаў для тэатральных пастановак больш як 20 п’ес іншамоўных драматургаў: А. Астроўскага, К. Манье, К. Гальдоні, А. Хайта, Э. Успенскага, С. Міхалкова, Н. Абрамцавай, Г. Лабакіна, К. Папова, М. Каляды і інш. Спектаклі па п’есах гэтых аўтараў знайшлі ўвасабленне на падмостках Слонімскага драмтэатра і сцэнах іншых беларускіх тэатраў. У 2008 годзе С. Чыгрын выдаў кнігу «Тэатр у Слоніме» (2008).

Рэжысёр, заслужаны работнік культуры Беларусі В. Ермаловіч — родны брат вядомага гісторыка Міколы Ермаловіча. Праўда, тады С. Чыгрын пра гэта не ведаў. Сваёй беларускасцю і адносінамі да тэатральнай справы Валянцін Іванавіч зрабіў вялікі ўплыў на юнака са Слонімшчыны. Удзячнасць да свайго выкладчыка і старэйшага

сябра С. Чыгрын захаваў на ўсё жыццё. Ён падрыхтаваў і выдаў зборнік успамінаў пра В. Ермаловіча «Ачышчэнне душы» (2014). Менавіта Валянцін Іванавіч паспрыяў знаёмству Сяргея з паэтам Аляксеем Пысіным. Калі даведаўся, што ён піша вершы, папярэдне сказаў Пысіну пра свайго творчага навучэнца, якому потым прапанаваў схадзіць на пасяджэнне абласнога літаратурнага літаб'яднання. Мясцовыя літаратары, пераважна рускамоўныя, сабраліся ў памяшканні рэдакцыі газеты «Магілёўская праўда». Сяргей выступіў з чытаннем вершаў на роднай мове. Вельмі хваляваўся і перажываў, ці спадабаюцца яго першыя творы. Аляксей Пысін пасля таго, як моўчкі паслухаў усіх выступоўцаў, сказаў: «З усіх вершаў, якія тут прагучалі, мне найбольш спадабаліся вершы Сярожы Чыгрына». Калі юнак пачуў, што Аляксей Васільевіч прапануе яго творы ў друк, здавалася, быў на сёмым небе ад шчасця. Сустрэча з А. Пысіным стала ў яго творчым жыцці і біяграфіі вельмі важнай і значнай, па сутнасці знакавай. Пачаўся паваротны этап у станаўленні Сяргея Чыгрына як паэта, маладога літаратара. Людзі мастацтва, якія сустрэліся на шляху юнака, і атмасфера творчага жыцця паўплывалі на яго далейшы лёс. С. Чыгрын гаворыць: «За тры гады вучобы ў Магілёве з Валянцінам Ермаловічам і Аляксеем Пысіным мне давялося не раз прымаць удзел у літаратурна-музычных вечарынах і сустрэчах з чытачамі… Дзе мы толькі на Магілёўшчыне не былі! Дзе мы толькі не выступалі! Гэта быў рамантычна-светлы і найцікавейшы час майго юнацтва» («Адчуванне сэрцам»).

У 1977 годзе Сяргея прызвалі ў савецкае войска. Яму, як казалі ў той час, патрэбна было аддаць Радзіме доўг. Трапіў ажно на савецка-кітайскую мяжу, служыў у Забайкальскай ваеннай акрузе. Нягледзячы на цяжкасці, складанасці салдацкага жыцця і побыту, імкнуўся праявіць свой творчы патэнцыял, а таму наладзіў сувязь з ваеннымі перыядычнымі выданнямі, для якіх пісаў на армейскія тэмы.

На схіле восені 1979 года пасля тэрміновай вайсковай службы Сяргей вярнуўся ў родныя Хадзявічы. Не захацеў сядзець склаўшы рукі, уладкаваўся на працу ў суседняй вёсцы загадчыкам Сынковіцкага сельскага клуба. Праз нейкі час даслаў у «Сельскую газету» свае вершы. З рэдакцыі адказала літкансультант паэтка Яўгенія Янішчыц. Менавіта яна спрычынілася да публікацыі вершаў С. Чыгрына на старонках газеты, а таксама дзякуючы ёй паэтычныя творы маладога аўтара са Слонімшчыны прагучалі на радыё ў перадачы «Шчырага сэрца парывы».

Цалкам лагічным і заканамерным быў шлях Сяргея на філалагічны факультэт БДУ. Тут ён апынуўся ў асяродку творчай беларускамоўнай моладзі, вучыўся на адным курсе з Сяргеем Кавалёвым, Міхасём Карпечанкам, Леанідам Трубачом, Міколам Хаўстовічам, Вольгай Савасцюк і інш. На філфаку ён знайшоў сябе як малады творца-паэт і крытык, паспрабаваў свае сілы і ў мастацкім перакладзе. Сяргей Чыгрын стаў старастам літаратурнага аб'яднання «Узлёт», якое на той час лічылася лепшым у рэспубліцы. Кіраваў «Узлётам» прафесар і паэт Алег Антонавіч Лойка. На чале аб'яднання былі два слонімцы, і таму, калі я наведаўся на першае пасяджэнне, то пра Сяргея нехта з хлопцаў сказаў радком з Лойкавай балады: «Юнак быў з-пад Слоніма родам». Сяргея я ўжо ведаў ад часу сельгасработ на Кругляншчыне, куды паслалі нас, студэнтаў першага і другога курсаў. Ён сам падышоў да мяне — і мы пазнаёміліся. Бо да гэтага ведалі адзін аднаго завочна: па публікацыях у дзіцячым друку. Захацелася з Сяргеем пагаварыць, але на льнозаводзе яго больш не пабачыў.

Папытаў у кагосьці з Сяргеевых аднакурснікаў, дзе ён, на што пачуў: «Няўдала з’ехаў са сцірты, у яго праблемы з нагой».

І вось Сяргей на пасяджэнні «Узлёта» паўстаў як вылучэнец і правая рука Алега Лойкі. Ён сапраўды вёў рэй у нашым літаб’яднанні, так, як некалі Міхась Чарот ці Уладзімір Дубоўка ў «Маладняку». Праўда, і час быў іншы, і маладнякоўская неўтаймаванасць, бурапеннасць не былі амплуа Сяргея, наадварот, ён спакойна, без амбітнасці і паказнога форсу выконваў даручэнні кіраўніка, шчыра, па-сяброўску падтрымліваў роўныя адносіны з кожным з нас. Ужо тады ён праявіў добрыя арганізатарскія здольнасці і прывабныя чалавечыя якасці. Сяргей збіраў творы для літаратурнай старонкі «Ружовы ранак», якая рэгулярна выходзіла ў газеце «Беларускі ўніверсітэт». Аднаго разу Васіль Вараб’ёў, рэдактар нашай універсітэцкай газеты, калі я, студэнт-пяцікурснік, прынёс вершы ў рэдакцыю, а наш былы стараста літаб’яднання ўжо на той момант скончыў вучобу, са шкадаваннем сказаў: «Такому творчаму хлопцу, як Сяргей, няма замены». Сяргей Чыгрын часта адносіў вершы ўдзельнікаў нашага літаб’яднання ў «Мінскую праўду». Ён друкаваўся сам, заахвочваў да гэтага і іншых. Самая значная публікацыя С. Чыгрына ў гады студэнцтва — вершаваная нізка ў часопісе «Маладосць», якую ў 1985 годзе блаславіла ў друк паэтка Яўгенія Янішчыц. Пасля заваёвы гэтай творчай вышыні мы ўжо глядзелі на яго як на сапраўднага пісьменніка.

У студэнцкія гады С. Чыгрын пачаў выступаць у друку з рэцэнзіямі, у якіх аналізаваў новыя паэтычныя кнігі, часам выказваўся досыць востра. Мне захацелася пачуць думку-меркаванне Сяргея пра маю мастацкую прозу. Прачытаў Сяргей апавяданні і аповесць пра Юрку і вылучыў у гэтых тэкстах як моцны бок дыялогі, нават параіў мне пісаць п’есы.

З Сяргеем мы былі ўдзельнікамі амаль усіх сустрэч на філфаку з беларускімі пісьменнікамі, часта хадзілі на літаратурныя вечарыны ў Дом літаратара. Запрашальнікі студэнтам прэзентаваў ці перадаваў прафесар Ніл Сымонавіч Гілевіч, потым іх прыносіла на філфак паэтка Ала Канапелька, былая наша ўзлётаўка. Трапіць тады ў пісьменніцкі дом на Фрунзе, 5 для нас, маладых філолагаў і літаратараў, лічылася за гонар і сапраўднае шчасце.

Неяк я, студэнт-другакурснік, паскардзіўся Сяргею, што не магу патрапіць у Ленінскую бібліятэку, аднак маю ў гэтым пільную патрэбу. У Ленінку, як тады называлі галоўную бібліятэку ў Мінску, студэнтаў малодшых курсаў не запісвалі. Мой сябра з кімсьці перамовіў у бібліятэцы, ці не з самой Нінай Барысаўнай Ватацы, а потым прыйшоў і паведаміў, каб я пісаў заяву. Ён надыктаваў мне тэкст, а заўтра мы разам аднеслі тую заяву ў Ленінку. Так дзякуючы Сяргею я пачаў наведваць беларускі аддзел нашай галоўнай «кніжніцы». Тут у чытальных залах я меў гонар працаваць побач са Станіславам Пятровічам Шушкевічам, Іванам Якаўлевічам Навуменкам, Міколам Іванавічам Ермаловічам, Іванам Уладзіміравічам Саламевічам і многімі іншымі выдатнымі дзеячамі нацыянальнай літаратуры і культуры.

Здавалася, Сяргея, як актыўнага і творчага студэнта, пакінуць на кафедры, прапануюць паступаць у аспірантуру. Тым больш ён у фаворы ў прафесара Алега Антонавіча Лойкі. Аднак тады мы, наіўныя і маладасведчаныя студэнты, шмат чаго не ведалі пра навуковае закуліссе, філфакаўскую «кухню». Хіба ў той брэжнеўскі і пазнейшы

савецкі час, калі квітнелі кумаўство ды блат, сялянскаму сыну на філфаку магло свяціць штосьці большае, чым настаўніцкі шлях Лабановіча? Нават тыя таленавітыя аспіранты, хто ўсё ж цудам прабіўся ў аспірантуру, на кафедры беларускай літаратуры БДУ не засталіся, месца ім не знайшлося (я маю на ўвазе Генадзя Праневіча ды Ігара Жука). І толькі тады, калі загадчыкам кафедры стаў прафесар А. А. Лойка, сітуацыя пачала мяняцца: у аспірантуру змаглі пастунаць не толькі дзеці пісьменнікаў.

Сяргей Чыгрын з маладой жонкай Ірынай паехаў працаваць на сваю радзіму. На Слонімшчыне настаўнічаў у Глоўсевіцкай сярэдняй школе (1985–1988). Потым маладога настаўніка ўзялі на працу ў газету «За перамогу камунізму» (цяпер «Слонімскі веснік»), чатыры гады ён адпрацаваў карэктарам. Шмат пісаў, друкаваўся. Аднойчы старшыня Слонімскага гаркама партыі сказаў, што Сяргей Чыгрын хоць карэктар, але піша больш за ўсіх супрацоўнікаў раёнкі. У 1992 годзе з рэдакцыі газеты перайшоў у Слонімскі драматычны тэатр, дзе працаваў загадчыкам літаратурнай часткі. Затым падаўся ў недзяржаўны перыядычны друк, пакаштаваў журналісцкага хлеба. У 2003–2011 гг. — на пасадзе намесніка галоўнага рэдактара «Газеты Слонімскай». Аднак абставіны склаліся так, што вярнуўся ў тэатральную стыхію. Ранейшы досвед працы ў тэатры і літаратурна-творчы патэнцыял зноў спатрэбіліся ва ўнікальнай установе культуры раёна і краіны. С. Чыгрын з 2011 года і па сёння — загадчык літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра.

Жыць і працаваць на радзіме — лёсу наканаванне. Напэўна, так Бог пажадаўзахацеў, а не толькі так склаліся абставіны. Гэта і жыццёвы крыж, і светлая радасць з дамешкам суму, і шчасце — шчасце ўжо хаця б таму, што Сяргей Чыгрын напісаў столькі цудоўных кніг пра свой родны край! Хтосьці любіць радзіму на адлегласці, з настальгіяй згадвае яе, а ён жыве тут, «дзе сэрцу ўсё блізка...». Штодня ходзіць па слонімскіх вуліцах, ездзіць шляхамі-дарогамі сваёй бацькаўшчыны, сузірае хараство навакольных краявідаў. «Каханы мой край», — на інтымна-лірычнай хвалі С. Чыгрын выказаў сваё сардэчнае пачуццё любові да радзімы. Свой патрыятызм ён добра перадаў і ў наступных вершаваных радках: «Шчырая Шчара / Працякае праз Слонім / І праз / Маё сэрца» (верш «Шчара»). Нават сны, як прызнаецца Сяргей, у яго пра сваё роднае, беларускае, дарагое сэрцу і памяці. «Мне асвятляе сны мая Айчына...» — гаворыць ён. І яшчэ адно красамоўнае прызнанне: «Я выйшаў родам з гэтага народа...» Гэта не проста паэтычныя дэкларацыі. Сяргей Чыгрын — «той, хто Айчыну кахае» не на словах, бо, рэалізуючы кніжныя праекты і культурніцкія ідэі-задумы, ён робіць канкрэтныя справы для сваіх землякоў, вяртае слонімцаў да родных вытокаў і каранёў, узбагачае іх досведам і ведамі пра гісторыю бацькаўшчыны. У першую чаргу праз кнігі ён дае магчымасць моладзі як мага больш даведацца пра родную Слонімшчыну, яе мінулае, культуру і традыцыі, няпросты і драматычны лёс знакамітых і малавядомых землякоў — і тым самым дапамагае пасталець, памудрэць, стаць палымянымі патрыётамі роднага краю, якія ганарацца сваёй прыналежнасцю да зямлі бацькоў, дзядоў і продкаў.

Радзімазнаўства — галоўны кірунак даследча-пошукавай і творчай дзейнасці С. Чыгрына. І на гэтай дзялянцы ён знайшоў сябе, за шмат гадоў многае паспеў. Вывучаючы гісторыю радзімы як краязнавец, неўзабаве пераканаўся, што, кажучы яго словамі, «тут — поле неаранае». У нястомным шчыраванні на ніве радзімазнаўства

С. Чыгрын займеў багаты плён уласнай працы. Слонімскі руплівец выдаў некалькі дзясяткаў гісторыка-краязнаўчых кніг і літаратурных артыкулаў: «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканыя на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Мастак Антон Карніцкі» (2009), «Жыў роднай песняй» (2010), «Альбярцін» (2011), «Па слядах Купалы і Коласа», «Такі іх лёс», «Слонімскія падмуркі», «Сярод сваіх людзей» (усе — 2012), «Іншых шляхоў не было», «Слонімскі буквар» (абедзве — 2013), «Хочацца дахаты», «Слонім і ваколіца» (абедзве — 2014), «125 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны» (2015), «Час спагадлівым не бывае» (2016) і інш. У гэтую скарбонку радзімазнаўчых выданняў дадаліся таксама такія кнігі С. Чыгрына, як: «Легенды і паданні Слонімшчыны» (2013), «Гісторыя Слоніма на старых фотаздымках і паштоўках (1900–1950)» (2014), «Слонімскія настроі» (2016) і некаторыя іншыя. Па сутнасці, слонімскі даследчык рэгіянальнай гісторыі стварыў цэлую ўнікальную краязнаўчую бібліятэчку кніг, аналагаў якой у сучаснай Беларусі няма. Можна сказаць, ён здзейсніў сапраўдны творчы подзвіг. Такія людзі, як ён, заслужаныя не толькі перад сваёй малой радзімай, але і перад нацыянальнай культурай. Яны падаюць прыклад дзейснага патрыятызму, дбайнай і самаадданай працы па адраджэнні і зберажэнні нашай культурна-духоўнай спадчыны, умацаванні гістарычнай памяці. Безумоўна, такіх людзей трэба было б ушаноўваць у нашай суверэннай краіне на самым высокім узроўні, аддаючы належнае іх падзвіжніцтву, актыўнай асветніцкай і папулярызатарскай дзейнасці. Бо ўсё, што здзейсніў і што працягвае рабіць С. Чыгрын, накіравана на адкрыццё і вывучэнне багатай, шматграннай гісторыі роднага краю, выхаванне на гэтым падмурку ведаў патрыятычнай свядомасці і нацыянальнай годнасці так званай «каранявой» асобы. Бо без ведання ўласных каранёў, пачуцця роднай зямлі, Бацькаўшчыны і ўсведамлення духоўнай з'яднанасці са сваім народам, нацыянальнай прасторай чалавек ператвараецца ў перакаці-поле, бязроднага Івана, якому ў сучасным глабальным свеце ўсё роўна, дзе быць і дзе жыць. Знакаміты У. Караткевіч так гаварыў пра ўсвядомленае і адказнае стаўленне да гісторыі: «…Не пагарджаць святым сваім мінулым, / А заслужыць яшчэ, / і вартым быць яго» («Беларускае мінулае»). Сяргей Чыгрын — прадаўжальнік караткевічаўскай традыцыі па вяртанні суайчыннікам гістарычнай свядомасці, аднаўленні і рэканструкцыі праўдзівых старонак мінулага свайго краю. Праўда, у даследчай дзейнасці С. Чыгрына пераважае рэгіянальна-краязнаўчы ўхіл. Але гэта не змяншае ролю, значэнне яго працы як гісторыка, даследчыка і тых набыткаў ды напрацовак, якія ён прэзентаваў грамадскасці.

Галоўны клопат С. Чыгрына палягае ў тым, каб землякі, усе, хто жыве на Слонімшчыне, мелі дакладнае ўяўленне пра тое, што адбывалася на іх зямлі, хто і чым вызначыўся ў мінулым, каб зрабіць свой край і яго жыццё лепшым, праславіў яго сваім талентам і здзяйсненнямі. У краязнаўчых кнігах С. Чыгрын аднаўляе «часоў былых і новых сувязь», стварае найперш персаніфікаваную гісторыю радзімы — г. зн. гісторыю ў асобах, імёнах, абліччах славутых і вядомых землякоў. Без гэтай дыялектыкі малога і вялікага, без канкрэтных радзімазнаўчых ведаў, па вялікім рахунку, не можа быць сапраўднага нацыянальна-патрыятычнага духу і гарту, духоўнай еднасці і адзінства людзей. У чалавека мусіць быць адчуванне таго, што ён жыве і стаіць на

сваёй зямлі, што радзіма — яго і грунт-апірышча, і духоўнае заплечча. Вось таму слонімскаму краязнаўцу і жадаецца, каб кожны зямляк жыў у сэрцы з Радзімай, ведаў, адкуль ён і хто ён, ганарыўся зямлёй продкаў і выдатнымі людзьмі свайго краю. У прадмове да адной з кніг, выдадзеных апошнім часам, С. Чыгрын напісаў: «Я ганаруся сваім горадам. Тут жылі мае продкі, тут жывуць мае сваякі і сябры, тут знаёмыя мне да драбніц кожная вуліца, завулак, кожны помнік і твары маіх землякоў. Гады бяруць сваё, але старажытнасць і прыгажосць ніколі не сцерці з аблічча майго Слоніма… Проста трэба адчуваць і берагчы гэтую прыгажосць і заўсёды шанаваць гісторыю роднага горада!» У гэтых словах заключаны сэнс жыцця і творчая праграма дзейнасці слонімскага Герадота нашых дзён.

З цягам часу краязнаўчыя зацікаўленні і гістарычныя экскурсы С. Чыгрына пашырыліся. Ён пераключыўся на паглыбленае вывучэнне і даследаванне гісторыі суседніх раёнаў. Зладзіў вандроўкі па Зэльвеншчыне і Дзятлаўшчыне, наведаў памятныя мясціны і малую радзіму асобных пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў. Штосьці ён хацеў пачуць і даведацца, як кажуць, з першых вуснаў, таму запісваў гутаркі-дыялогі. Пэўны назапашаны краязнаўчы матэрыял у С. Чыгрына ўжо меўся, таму ў ходзе працы над кніжнымі праектамі пісьменнік-даследчык выкарыстаў ранейшыя публікацыі і напрацоўкі, аднак падняў новыя тэмы, прысвяціў шэраг нарысаў выбітным асобам, стварыў адметныя і запамінальныя партрэты. Суседзі-зэльвенцы і чытачы з Дзятлава атрымалі ў дарунак цікавыя і змястоўныя кнігі слонімскага аўтара «Краязнаўчымі сцяжынкамі Зэльвеншчыны» (2013) і «На радзіме Ігната Дварчаніна» (2016). У 2017 годзе за краязнаўчую працу С. Чыгрын уганараваны прэміяй імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў, якой адзначаюцца творы ў галіне непрыдуманай літаратуры. Кніга «На радзіме Ігната Дварчаніна», за якую аўтар атрымаў прэмію, мае падзагаловак «З краязнаўчых вандровак па Дзятлаўшчыне». С. Чыгрын мэтанакіравана збіраў дакументальныя і архіўныя матэрыялы, расшукваў рэдкія выданні ў бібліятэках з невядомымі чытачу публікацыямі. Ён, ствараючы краязнаўчыя аповеды, адштурхоўваўся ад лістоў сваіх адрасатаў і ўспамінаў, біяграфічных звестак і фактаў, сустрэч з людзьмі, канкрэтных асабістых уражанняў і назіранняў. Ён, можна сказаць, узняў з нябыту імёны многіх малавядомых аўтараў з былой Заходняй Беларусі.

У цэнтры краязнаўчых і літаратурна-даследчых зацікаўленняў С. Чыгрына — асоба, яе жыццё і дзейнасць. Сваю духоўную пародненасць, повязь са Слонімшчынай ён адчувае праз далучанасць да лёсу выдатных і выбітных землякоў. Ён даследаваў жыццёвы і творчы шлях Язэпа Стаброўскага, Гальяша Леўчыка, Кандрата Лейкі, Якуба Міско, Сяргея Дарожнага, Валянціна Таўлая, Анатоля Іверса, Сяргея Новіка-Пеюна, Васіля Супруна, Міколы Арочкі, Алега Лойкі, Янкі Саламевіча і інш. Аднак краязнавец распавядае не толькі пра пісьменнікаў-землякоў, але і пра вядомых людзей са слонімскай зямлі самых розных прафесій і заняткаў: дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, мастакоў, навукоўцаў, медыкаў, вайскоўцаў, музыкаў, асветнікаў, педагогаў, сапраўдных беларускіх інтэлігентаў і патрыётаў. Імёны некаторых землякоў, як ужо адзначалася, вернуты краязнаўцам, па сутнасці, з нябыту. Дзякуючы яму стала больш вядомай асоба кампазітара і харавога дырыжора Антона Валынчыка і адбылося адраджэнне памяці пра мастака Антона Карніцкага — кожнаму з гэтых творчых людзей прысвечаны гісторыка-біяграфічны нарыс.

Шмат часу і высілкаў С. Чыгрын аддаў збіранню і вяртанню спадчыны заходнебеларускіх пісьменнікаў і літаратараў-землякоў. Дзякуючы яго пошукавай, збіральніцкай і ўкладальніцай працы пабачылі свет кнігі «Вяртанне да сваіх» (1999) Станіслава Грынкевіча, Франука Грышкевіча, Уладыслава Казлоўшчыка, «Рабінавы хмель» (2009) Сяргея Хмары, «Аўсяныя росы» (2011), «З глыбінь жыцця», «Жыццё і творчасць Анатоля Іверса» (абедзве — 2012) Анатоля Іверса, «Захацелася шчасця» (2012) Алеся Сучка, «Маркотныя зоркі» (2014) Янука Дарашкевіча, «Пан Трудоўскі» (2015) Кандрата Лейкі, «Прыкрыты сэрца боль» (2015) Язэпа Вількоўшчыка і некаторыя іншыя.

Літаратуразнаўчая дзейнасць Сяргея Чыгрына перасягнула не толькі межы свайго рэгіёну, краіны, але і пашыралася на блізкае і далёкае замежжа. На новай хвалі нацыянальнага адраджэння ў 1990-я гады вярталася ў гісторыка-культурны кантэкст літаратура беларускай эміграцыі, і С. Чыгрын далучыўся да запачаткавання працэсу знаёмства з асобамі, імёнамі пісьменнікаў замежжа, чыя творчасць на радзіме была невядомай. Распачынаць гэтую справу было няпроста, бо ў грамадстве існавала адмоўнае стаўленне да беларускай эміграцыі. «Калабаранты» — так казалі ў савецкі час пра тых, хто супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, а пасля Вялікай Айчыннай вайны пакінуў Беларусь. А таму ў дачыненні да нацыянальнай эміграцыі трэба было пераадольваць пэўныя ідэалагемы і стэрэатыпы, займаць узважаную пазіцыю і, не замоўчваючы фактаў біяграфіі дзеячаў беларускай гісторыі, літаратуры і культуры, гаварыць пра іх творчыя дасягненні і набыткі, здзейсненае імі ў свой час на карысць Бацькаўшчыны і народа, дзеля беларускай справы, нацыянальнай культуры.

Тым не менш тады, на этапе найноўшай гісторыі, метраполія павярнулася да беларускай дыяспары. Выйшаў том паэзіі беларускіх паэтаў-эмігрантаў «Туга па Радзіме» (1992), укладзены Б. Сачанкам. Пісьменнік і журналіст Л. Пранчак пазнаёміў суайчыннікаў з «Беларускай Амерыкай» (такую назву мае яго кніга, выдадзеная ў 1994 г.). На старонках перыёдыкі з'явіліся артыкулы і нарысы пра выбітных беларускіх пісьменнікаў замежжа. У 1993 годзе ў часопісе «Роднае слова» (№ 10) быў змешчаны артыкул С. Чыгрына «Тры постаці: Алесь Змагар, Ян Пятроўскі, Сяргей Хмара-Сіняк» (у рубрыцы «Літаратура беларускага замежжа»). Заўважным вынікам дбання і працы С. Чыгрына як даследчыка беларускай літаратуры стаў сабраны і пракаментаваны ім збор выбраных твораў «Рабінавы хмель» Сяргея Хмары (1905–1992), заходнебеларускага паэта і грамадскага дзеяча, які многія гады жыў на эміграцыі.

Сяргей Чыгрын як гісторык літаратуры асабліва актыўна спрычыніўся да вывучэння і даследавання беларускага пісьменства ў Польшчы. Сувязі яго з Беласточчынай даўнія, ён адзін са сталых аўтараў газеты «Ніва». У 1995 годзе ў згаданым часопісе «Роднае слова» (№ 2, 3) С. Чыгрын надрукаваў артыкул «Пад дзіўны гоман Белавежскай пушчы: Беларуская літаратурная плынь у Польшчы». Жыццё і творчасць вядомых беларусаў у суседняй краіне ён грунтоўна разглядае ў кнігах «Беларуская Беласточчына», «З беластоцкай зямлі» (абедзве — 2008), «Шляхамі Беласточчыны» (2015). У яго кнізе «Іншых шляхоў не было» (2012) запыняе ўвагу раздзел «Родам з Беласточчыны», а таксама тут надрукавана інтэрв'ю з Сакратам Яновічам «Крынкі — мой свет». У іншых кніжных выданнях даследчыка змешчаны цэлы шэраг арты-

кулаў, у якіх ён піша пра беластоцкіх літаратараў: «Цэп і серп Алеся Барскага», «Аб гэтым казаў мне Сакрат», «Ён ратаваўся беларускасцю» (пра М. Гайдука), «Гаворкай роднаю заліваў тугу» (пра Ю. Геніюша), «Святло паэзіі Юрыя Баены», «Бераг вершаў Міры Лукшы» і інш. У кнігах і публікацыях пра гісторыю і літаратуру Беласточчыны С. Чыгрын прыводзіць цікавыя факты, малавядомыя біяграфічныя звесткі, дадае новыя штрыхі ці дэталі да партрэтаў знакамітасцей ці выбітных асоб, спалучаных лёсам з беластоцкай зямлёй. С. Чыгрын здолеў па крупінках сабраць творчы наробак паэта-нашаніўца Янука Дарашкевіча, які нарадзіўся ў 1890 годзе ў вёсцы Мялешкі на Беласточчыне. Яшчэ ў далёкім 1913 годзе М. Багдановіч адзначаў, што гэты аўтар мае «палёт і талент». І вось дзякуючы намаганням няўрымслівага слонімскага энтузіяста і дбайнага збіральніка спадчыны вершы Я. Дарашкевіча сабраны пад адной вокладкай зборніка «Маркотныя зоркі» (2014). У 2015 годзе літаратуразнавец С. Чыгрын выдаў зборнік артыкулаў і гутарак «Мора Віктара Шведа», які прысвяціў 90-годдзю старэйшага пісьменніка Беласточчыны, імя якога фігуруе ў назве кніжкі. А Мора — гэта не водная стыхія, а родная вёска Віктара Шведа, што непадалёк ад беластоцкай Гайнаўкі.

Усё, што робіць Сяргей Чыгрын, ідзе ад сэрца, ад яго чуйнай памяці. З пачуццём адданасці і чалавечага абавязку ён рыхтаваў зборнік выбраных твораў «Паміж песняй і болем» (2010) Леаніда Трубача, паэта, сябра і аднакурсніка, які заўчасна пакінуў наш пакутны свет, пражыў толькі 46 гадоў. Сяргей стаў ініцыятарам падрыхтоўкі гэтага выдання, аб’яднаў студэнтаў-выпускнікоў філфака БДУ 1985 года вакол творчага праекта — і ў выніку з’явілася кніга-помнік таленавітаму паэту з Пастаўшчыны.

Паэтычная творчасць — яскравая, адметная грань асобы С. Чыгрына. Уласна кажучы, з вершаў ён пачынаў, як малады паэт-пачатковец уваходзіў у нашу беларускую літаратуру. Сёння на ягоным творчым рахунку чатыры вершаваныя зборнікі: «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007), «Камень Міндоўга» (2009). У гэтых кнігах добра выявіўся талент С. Чыгрына як паэта-лірыка. Тэксты лепшых паэтычных твораў пераконваюць, што ён умее пісаць вершы вобразныя, сэнсава ёмістыя і ўзнёсла-пачуццёвыя. Імпануе нацыянальны пафас твораў пра мінулае і беларускую рэальнасць. У лірыцы кахання найбольш адметна ўвасобіўся рамантычны свет яго лірычнага героя. Аднак у паэзіі С. Чыгрын не прытрымліваецца прынцыпу «ні дня без радка». У адной з гутарак ён прызнаўся: «Час паэзіі ў мяне ўжо прайшоў. Гэта час маладосці…» Як вынікае са зместу інтэрв’ю апошняга часу, вялікай унутранай патрэбы ў тым, каб пісаць вершы, ён цяпер не мае. Гэтым і тлумачыцца катэгарычнасць выказвання пісьменніка: «…Сёння паэтычны перыяд скончыўся. Графаманам я быць не хачу, бо іх і так хапае ў кожным раёне. Хаця ўвага да паэтычных творцаў у нас сёння не такая пільная і шаноўная». Між тым Сяргей адразу абмовіўся, можна сказаць, выдаў сябе: «Але вершы пішу рэдка» (Рэжым доступу: baj.by/be/analytics/syargey-chygryn-grafamanam…bo…). Значыць, вершы ўсё ж пішуцца, няхай сабе не так часта, як раней.

Няпоўнай была б характарыстыка пісьменніцкай індывідуальнасці С. Чыгрына без вылучэння яшчэ адной важнай творчай грані — іпастасі перакладчыка. Заахвоціла яго да паэтычных перастварэнняў на філфаку БДУ выкладчыца французскай мовы Святлана Мікалаеўна Любіч. Сяргей у студэнцкія гады зрабіў спробы пера-

кладаў твораў Луізы Мішэль, Поля Элюара, Поля Верлена, Сальвадора Далі і іншых франкамоўных паэтаў. Перакладчыцкая праца займела свой працяг. Пераўвасабляў творы пераважна з украінскай і рускай моў. Апрача беларускамоўных перастварэнняў французскіх і ўкраінскіх паэтаў, ён пераклаў творы іншамоўных драматургаў.

Вераснёўская пара, калі нарадзіўся Сяргей Чыгрын, — часіна жоўта-чырвона-залацістай восені. Восені мяккай і лагоднай, па-акварэльнаму празрыстай і яснай. Цудоўная пара для одуму, разваг і летуценняў. У адным з вершаў, што ўвайшоў у зборнік «Камень Міндоўга», аўтар гаворыць:

Мая залатая восень
Нібы карона Міндоўга.
А я пакуль шчэ ў дарозе —
Хай будзе шчаслівай дарога.

Творчая праца прынесла шчодры пладаносны плён беларускаму краязнаўцу і пісьменніку. Сёлетняй восенню Сяргею разам са сваімі ўдзячнымі землякамі ды сябрамі-прыхільнікамі ёсць што аглядаць на такім ураджайным полі яго клопату і нястомнай дзейнасці. А сцежка-дарога выкіроўвае на новы абсяг, на новае кола жыцця і творчасці. Не сумняваюся: мой сябра, духоўны пабрацім і шчыры беларус са Слоніма, не спыніцца ў сваёй штодзённай хадзе і творчых шуканнях новага, невядомага, неспазнанага. Няхай будуць спрыяльнымі для слонімскага вандроўніка-радзімазнаўцы ўсе поры года, хай яму шэнціць і шчасціць!

*2018*

нарадзіўся ў 1963 годзе ў мястэчку Цімкавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1986). Настаўнічаў. З 1986 г. па сёння ў БДУ: прайшоў шлях ад аспіранта да прафесара кафедры гісторыі беларускай літаратуры. Доктар філалагічных навук, прафесар. Сябра Саюза пісьменнікаў з 1998 г. Аўтар 14 кніг па літаратуразнаўстве, крытыцы і праблемах адукацыі: «Пакуль баліць душа», «Жывая мова краявідаў», «Сучасная беларуская літаратура», «Свет ад травы да зор», «Краса і смутак», «Сучасная літаратура Беларусі», «Экалогія душы», «Галасы і вобразы» і інш. Пад псеўданімам Алесь Ветах выступае як празаік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа. Выдаў кнігі прозы «Ружовая знічка», «Хроніка смутку», «Сны пра дзяцінства», «Хрыстос між нас».





СВЯТЛАНА АДАМОВІЧ

## Паэту Сяргею Чыгрыну

Слонім — сталіца любові,
Сталіца еднасці нашай!
Душа ажывае нанова,
Прыняўшы гаючую чашу

З твайго рачнога паветра,
Паветра шчырае Шчары.
Тут варта расстацца, паехаць —
Вярнуцца дадому ўжо марыш...

Паэзія Шчарай ліецца,
Здавён наша Шчара люляе
Паэтаў — і іх спадкаемцаў,
А Слонім — яднае!

*24 верасня 2018 года*

ЮРКА ГОЛУБ

## Спроба панегірыка Сяргею Чыгрыну

Каб знішчыць забыцця палын,
Дык ён углыб стагоддзяў рушыў,
Бо ведаў ведама Чыгрын:
Там церняў болей, чымся ружаў.
І ён даваў сабе зарок:
Шукаць узнёскі — не абноскі.
Рабіў яму «пад казырок»
Палкоўнік слонімскі Стаброўскі.
Гучыць чыгрынаўскі напеў,
Дзе іншыя гукаюць гімнам.
І скачуць голыя на пень,
Ён кнігі даў царкве і гміне.
Туды, дзе ў лёце страказа,
Па рыфму сквапныя палезлі,
Сяргей Чыгрын, дый што казаць,
Не кватарант на тле паэзій.
Каб безнадзеі зрушыць млын,
А хто, братове, дапаможа? —
Дык свету цэламу Чыгрын!
Сябрам эСПэ — Чыгрын Сярожа!

*28.09.2018*



# Дзіцячая літаратура

## Раіса Раманчук

### Барбос

Баба Вера слёзы лье,
Цётка і матуля…
— Дзе Ларыска? Дзе ты, дзе?
Мо ваўкі глынулі?
Бегаюць па лесе ўсе,
Плачуць і галосяць:
— Дзе дзяўчынка? Дзе ты, дзе?
Адгукніся, — просяць.
А Барбос сабе сядзіць,
Вартавы на варце,
Сапраўды абараніць
Хоча сон дзіцяці.
Бо у будцы у яго
Сёння кватарантка.
Пад шчакою кулачок —
Мірна спіць дзіцятка.
Лес стары вакол шуміць,
Сад галлё гайдае,
І Ларыска ў будцы спіць,
Бо ахову мае.
А старэнькі наш Барбос
З нянек, нас, смяецца,
Што Ларыску пашукаць
Доўга давядзецца.

Каму ж у галаву ўзбрыдзе,
Што без кроплі страху
Двухгадовае дзіцё
Пад сабачым дахам?

ГАЛІНА САМОЙЛА

*ЮРКА, ВОЎКА І ВАДЗІМ…*

## Імяніны

У Аленкі імяніны.
Торт са свечкамі ў гасцінай.
І прыбралася Аленка
У святочную сукенку,
Што купілі тата з мамай.
Аж тры дні шукалі ў краме.
Тата шарыкі падвесіў:
«Запрашай за стол, прынцэса!»
А пасля кружыў у вальсе
То дачку, то маму Насцю.
Юрка, Воўка і Вадзім
Пляскалі ў далоні ім,
Бо няспрытныя да танцаў…
Ім скакаць бы ці куляцца…

## Па грыбы

Вось і зніклі стрэхі хат.
Нос паветра цягне.
Чуе Юрка: не на жарт
Лес грыбамі пахне.
Пад кусты і ў хмызнякі
Зазірае вокам
І шыбуе напраcткі
Скокам… потым крокам…
Марны лёс яго, цяжкі:
Так чакаў ён дзіва,
А знайшоў тры масляки.
З іх адзін чарвівы.
Гэта ж сорамна да слёз.
Як у вёску рухаць?
Засмяюць зусім! Эх, нос!
Лепш не мог панюхаць?

## Ліст да Дзеда Мароза

Добры вечар, Дзед Мароз,
Футра аж па пяты.
Ты чаму ж мне не прынёс
Мой заказ на святы?
Прынтар я ў цябе прасіў,
Камп'ютар, калонку.
А ты што мне падарыў?
Гаварыць нялоўка:
Зайчыка, машынку даў,
Аловак, лінейку.
Я такога не чакаў...
Хіба ж я маленькі?
Я ж урокі ўсе рабіў,
Быў да ўсіх лагодны.
Ты мяне, відаць, забыў?
Юрка я, з Гародні.

## Вадзім

Сеў на лавачку Вадзім
І сядзіць паўдня адзін.
Ашчаперыў галаву,
Пазірае на траву.
«Мне здавалася, ты спіш,
А ты думаеш сядзіш, —
Кажа дзядзька Валянцін. —
Аб чым думкі?» — «Аб жыцці!»

## Белы снег

Снег пачаўся рана-рана
І ўсю ноч ішоў старанна.
Белы снег, пушысты снег...
На свой двор Вадзім пабег —
Паблукаць у цішыні
Па зімовым снежным дні.
Пад нагамі рып ды рып.
Пень у шапцы быццам грыб.
Куст у футры бы мядзведзь.
І Вадзім пачаў бялець:

Шапка, куртка, чаравікі
І штаны пад снегам зніклі.
Толькі тварык ацалелы.
Ён цяпер — як прывід белы.

## «БМВ»

Сеў Вадзім у «БМВ».
За спіной сяброўкі дзве.
Мо гадзіны тры запар
Іх вязе Вадзім у парк.
На арэлі, каруселі
Усе трое захацелі.
Многа вуліц прамінулі,
На дзве плошчы павярнулі.
І чырвонае святло
Шмат разоў для іх было.
Пастаяць на святлафоры
І далей — то ўніз, то ўгору,
То направа, то налева…
«Парк прапаў?» — спытала Лена.
«Парк-то ёсць, — сказала Рая. —
Колаў “БМВ” не мае!»

## Лужына

З вечара да ранку
Дождж няспынна ліў
І за ноч ля ганку
Лужыну зрабіў.
Юрка — шусь за дзверы,
А Вадзім — шпарчэй:
Лужыну памераць
Трэба ім хутчэй.
Лужына па пояс,
У вадзе штаны!
Чуюць татаў голас:
«Вось вы, бацяны!»
Палавіў і ў хату
Іх завёў ізноў.
Намачыўся ў таты
Толькі ніз штаноў.

## На ўрокі

Вось уцеха дык уцеха —
Школьны транспарт не прыехаў.
«Наша школа так далёка!
Хай без нас ідуць урокі, —
Кажа Юрка. — Зробім гулі…»
Ды ўсхадзілася бабуля:
«Гэта што яшчэ такое?
Марш у школу пехатою!»—
«Дык у нас цяжкія ранцы!» —
«Данясеце, падшыванцы!» —
«Дык чатыры кіламетры!» —
«Што за шлях для кавалераў!
Я вучыцца так любіла —
Кожны дзень па шэсць хадзіла!»
Мерным крокам, мерным крокам
Хлопцы сунуцца на ўрокі.



# Сатыра і гумар

## Іван Буднік

### Кот-ахоўнік
*Байка*

На ферме кот Баюн
Ахоўнікам уладкаваўся.
Хаця тут працвітаў хапун,
Але ніхто не пападаўся.
Ахова неяк недаспала,
І ў пастку Мышаня папала.
Ахоўнік вэрхал учыніў:
Ах, ненажэрнае стварэнне,
Тваё нахабнае з’яўленне,
Грабёж нарэшце я спыніў.
Хапаеш звыш сумленных норм,
За ноч увесь сцягнула корм!
— Даруйце, — Мышка прапішчала, —
Замнога я не брала,
Пяці зярнятак мне хапала.
Цяпер напоўніцу адкажаш
І ў каталажку сядзеш!..
Так Мышка трапіла за краты.

На ферме ўсім быў корм багаты:
Каты тлусцелі, Пацукі,
А дзесьці — і працаўнікі.
А недахопы і правалы
Ахова на Мышэй спіхала.
Баюн штовечар байкі бае,
Як кожны тыдзень
У кіпцюры трапляе
Злыдзень.

________

На фермах часам так бывае,
Дзе Гаспадар такіх ахоўнікаў трымае,

Дзе злосныя зладзеі
Жывуць пад маскай дабрадзея.

## Крот

*Байка*

Прысланы быў аднойчы Крот
На ваяводства ў агарод.
Як валадарыў, кіраваў,
Нам невядома,
Ды агарод ён зруйнаваў
Свядома.
Калі сышоў праз пару год,
Паўстаў у кветках агарод,
І радасна ўздыхнуў народ.
Каб кветак не расло так многа,
Прыслалі зноў Крата сляпога.

———

Разбою больш каб не было такога,
То варта б запытаць Гаспадара самога.

ЯНКА ТРАЦЯК

## Конкурс

*Байка*

Звычайна ў пост, заўжды на прадвесні
Праводзіўся конкурс танцаў і песняў.
Прымалі ўдзел усе птушкі, жывёлы…
Вялікі быў конкурс, шумны, вясёлы.

Журы ўзначаліў Чырвоны сам Дзяцел,
Стукач-ветэран усіх войнаў і працы.
Намеснікам стала Сарока, як сваці,
У «члены» палезла начальства з раёна
(тут так завядзёна, трэба прызнацца).
Была ж вертыкальнай ва ўсім там Варона.

Аслы вялі рэй, ну як парадысты,
І голасам іншым, і мовай нячыстай,
А хор вераб'ёў канцэрт даў узорны.
Пятух там спяваў — любімец фальклорны,
Там лезлі на сцэну, кідаліся ў танцы
Казлы, і прафаны, і самазванцы.

Там шмат было розных узнагародаў:
Дыпломаў, прэзентаў і званняў народных,
Падзякаў, пахвалаў і тоўстых канвертаў…
На першае ж месца быў прэтэндэнтам
І першую прэмію ад прэзідэнта —
Крумкач ля Магільны, —
                    вось як бывае…
Дзівіліся птушкі, жывёлы і звер там:
Тутэйшае дзіва — Крумкач і… спявае.

Авечкі бляялі: усім каб пароўну,
А лепш анікому, бо ім усё роўна…
Падняўся навокал крык, свіст птушыны:
— Як так?! — абураліся ўсе. — Якім чынам?!.
А дзе ж Салавей?.. Гэта ж — нумар каронны!..

І доўга шумела лясная лагчына,
І праўды шукала, шукала законы…
Крумкач — лаўрэат?!. Якім такім чынам?..

Крумкач той начамі бываў ў Вароны…
І ў гэтым сакрэт быў… і ўся прычына!

## Кім добра быць…
*Пародыя*

Добра быць Анатолем Брусевічам...
*Анатоль Брусевіч**

Можна быць і паэтам, і дзеячам,
І даводзіць пра свой дэкадэнс,
Лепш, вядома, быць Толем Брусевічам, —
Нейкім дзеячам быць — які сэнс.

Можна быць яшчэ геніем, велічам
(Цяжка быць без рубля, чым з рублём...).
Добра быць Анатолем Брусевічам,
А хацелася б быць Каралём**.

* Анатоль Брусевіч — паэт, літаратар, дацэнт кафедры ГрДУ імя Янкі Купалы.
** А. Д. Кароль — рэктар ГрДУ імя Янкі Купалы (2013–2017), рэктар БДУ ад 2017 г.

ЛАДЗІК МАЙНІЧ

## Паэт і людзі

*Пародыя*

> Паэт хацеў здзівіць бел свет —
> Пісаў ад самай раніцы…
> Чытаў, спяваў, крычаў паэт, —
> А свет той не здзіўляецца…
> Паэт хацеў паправіць свет, —
> А гэты свет не правіцца…
>
> *Янка Трацяк. «Паэт»*

Хто ратаваць будзе сусвет,
Паэт ці нейкі п’яніца?..
Не спаў, не еў, не піў паэт,
Баяўся астаграміцца.

Ён картаваў калоду слоў,
Збіраў радкоў малодзіва,
А да людзей, як да аслоў,
Нічога не даходзіла.

Паэт іх вёў, як той Маісей,
Махаў усім скрыжалямі…
Ды як давесці да людзей,
Што зубы толькі скалілі?

І нават бліжнім след у след
Нічога не карцелася, —
Крычаў, прасіў, маліў паэт,
А жонцы не хацелася.

## Прысвячэнні



*Святлане Абдулаевай — аўтару паэтычнага зборніка «Музыка дажджу»*

Дыез дажджу, вятроў бемоль,
Я словы раскладу на ноты
Жаданне — до, каханне — соль
І мі валяецца пад плотам.
Гучаць матывы на дварэ —
Паэтаў выяўленне дару,
Ўздымае фа, натхняе рэ —
І ўсё няма на іх бекару!



*Анатолю Валюку — аўтару зборніка «Музыка вятроў»*

Яму не трэба многа слоў,
Верш льецца, як у рот пушчанка.
Хай не пусцее музы шклянка
У славу «Музыкі вятроў»!



*Сяргею Чыгрыну*

Кніжкі шрайбуе зацята Чыгрын,
Месяц праходзіць — і новы зачын,
Піша увішна ад ранку да зор —
Ледзь паспявае за ім «Кнігазбор».



*Міхасю Андрасюку — аўтару кніг «Белы конь», «Вагон першай клясы» ды іншых*

Ускочылі празаікі гайнаўскай расы
На белым кані ў вагон першай клясы.



*Алесю Аркушу — аўтару раманаў «Захоп Беларусі марсіянамі», «Спадчына» ды іншых*

Першая замова на маю «Спадчыну» прыйшла з-за акіяна.
*Допіс у Фэйсбуку*

Ад Аркуша за акіян
Ўжо даляцела «Спадчына».
Пасля «Захопу марсіян»
Яна як ласка матчына.



# Сярод кніг




## З верай у цуд

Кнігі бываюць двух тыпаў: добрыя і дрэнныя. І як выключэнне з правілаў існуе трэці тып — гэта калі раскрыеш том, а там цэлы сусвет. Дык вось, «Планктон» Міхася Зізюка (Мінск, Галіяфы, 2017) — якраз падобнае прыемнае выключэнне…

▪ *Алесь Бычкоўскі. «Новы час», 15.02.2018: https://novychas.by/kultura/z-veraj-u-cud*

## Унёсак у беларускае бібліяфільства




…І толькі што невялікім накладам (100 экзэмпляраў) у Гродне пабачыла свет унікальная кніга, у якой сабраны адбіткі аўтографаў на кнігах, падараваных літаратуразнаўцу Аляксею Пяткевічу… Выданне гродзенскага вучонага нагадала пра тое, што патрэбна ўзнаўляць выданне кніжніцкага, бібліяфільскага альманаха. Прыкладам, такога ж, як некалі была «Свіцязь». Шкада, што лёс таго альманаха так і завершыўся ўсяго толькі адным выпускам. Сілы ў краіне для пашырэння кнігазнаўчай прасторы ёсць. Важна толькі ўсім кансалідавацца і пашырыць атмасферу гісторыі кніжніцтва, атмасферу прапаганды кнігазбірання, прапаганду кнігі ўвогуле.

▪ *Мікола Раўнапольскі. http://sozvuchie.by/literaturnyj-kazakhstan/item/3951-unjosak-u-belaruskae-bibliyafilstva.html*

## Споведь эскулапа




У гродзенскім выдавецтве «ЮрСаПрынт» пабачыў свет новы зборнік вершаў беларускага паэта Мечыслава Курыловіча. У зборнік увайшлі вершы, створаныя цягам апошніх дзесяці гадоў, якія друкаваліся ў альманахах «На Нёманскай хвалі», «Новы замак» і на сайтах «pisateli.by», «Kamunikat.org», а таксама некаторыя творы з папярэдніх паэтычных зборнікаў — «Тутэйшы», «Прыдарожная вярба», з кнігі прозы і лірыкі «Ліцвінка». *З анатацыі.*

## «Сімвал веры»




У Мінску свет пабачыла новая кніга прозы кіраўніка Гарадзенскай абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянціна Дубатоўкі «Сімвал веры». У новую кнігу ўвайшлі дзесяць апавяданняў і аповесць. Прадмову да кнігі Валянціна Дубатоўкі напісаў протаіерэй Георгій Рой. Ён адзначыў, што «новая кніга аўтара, без сумніву, глыбока псіхалагічная і ў нечым нават правакацыйная. Самае яскравае і самае цікавае тут — процістаянне веры, замаскіраванае нявер’е, дзе сумленне становіцца разменнай манетай перад цынічным і ганебным абліччам здрады»…

- *Барыс Баль. https://www.racyja.com/kultura/simval-very-ad-valyantsina-dubatouk/*



# Хроніка

**26 студзеня**. У Кіеве ўручылі літаратурную прэмію «Воін Святла» беларускаму пісьменніку з Гродна, старшыні Гродзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянціну Дубатоўку.

**29 студзеня**. Сустрэча з паэтам са Шчучына Рычардам Бялячыцам, якую падрыхтавала і правяла сябра СБП Ала Петрушкевіч. Выступілі Аляксей Пяткевіч, Ала Нікіпорчык, Анатоль Брусевіч і іншыя.

**24 лютага**. У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі адбылася літаратурная сустрэча з нагоды 85-годдзя з дня нараджэння дзятлаўскага паэта і настаўніка Міколы Грышана. Яе зладзілі Гродзенскае аддзяленне СБП, Дзятлаўская суполка ТБМ і супрацоўнікі музея.

**Люты.** Тры беларускія дыктоўкі з удзелам сяброў СБП былі напісаны ў Дзятлаве. Дыктоўкі пісаліся ў СШ № 1 і СШ № 3, а таксама ў Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Вучні атрымалі падарункі ад Гродзенскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, якія ўручыў Валянцін Дубатоўка.

**19 лютага**. Музычна-паэтычны салон «У пані Элізы», прысвечаны творчаму сяброўству Элізы Ажэшкі і Мар'і Канапніцкай. Слова пра знакамітых творцаў мела літаратуразнаўца Ала Петрушкевіч.

**Люты.** Сустрэча ў Бераставіцкай раённай бібліятэцы. Прайшла прэзентацыя «Новага замка» і «Каложскага дабравесту», удзельнічалі Данута Бічэль, Павел Каспяровіч, Анатоль Брусевіч, Валянцін Дубатоўка.

**11 сакавіка**. У Гродне ў храме Св. Лукі Крымскага і Сімферопальскага адбылася сустрэча вернікаў храма і пацыентаў абласной клінічнай бальніцы з Алай Петрушкевіч — паэтэсай, празаікам, кандыдатам філалагічных навук.

**13 сакавіка**. Сустрэча ў Гродзенскай гарадской цэнтральнай бібліятэцы імя А. Макаёнка з паэткай, празаікам, літаратуразнаўцай Альжбетай Кеда (Ала Петрушкевіч). На сустрэчу «Імкнуся сцвярджаць любоў» сабраліся і прыхільнікі творчасці аўтаркі, і чытачы, і навучэнцы каледжаў: гандлёвага і мастацтваў.

**21 сакавіка**. У Сусветны дзень паэзіі сябры Гродзенскага аддзялення СБП узялі ўдзел у чытанні вершаў у бібліятэцы імя А. Макаёнка.

**23 сакавіка.** У Гродне прайшла літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная 100-м угодкам БНР. Галоўныя арганізатары — рэгіянальныя суполкі ТБМ і Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**24 сакавіка.** У Гродне прайшла традыцыйная гарадская, 11-я па ліку, дыктоўка. Яна была прысвечана 100-м угодкам БНР. Удзел у яе арганізацыі ўзялі сябры СБП.

**25 сакавіка.** У Лідзе ў межах святкавання 100-х угодкаў БНР адбылася імпрэза, у якой удзельнічалі сябры аддзялення СБП Аляксей Пяткевіч, Валянцін Дубатоўка, Рычард Бялячыц, Ала Нікіпорчык.

**Сакавік.** У гродзенскім выдавецтве «ЮрСаПрынт» пабачыў свет новы зборнік вершаў беларускага паэта Мечыслава Курыловіча «Споведзь эскулапа».

**9 красавіка**. Тры музычна-літаратурныя сустрэчы ў адзін дзень на Гарадзеншчыне правялі бард з Менска Зміцер Бартосік, сябра СБП са Слоніма Сяргей Чыгрын, грамадскі актывіст і былы педагог з Дзятлава Валерый Петрыкевіч. Сустрэчы прайшлі ў Райцы, Валеўцы і Дварцы.

**10 красавіка**. У Гродзенскай гарадской бібліятэцы імя А. Макаёнка адбылася сустрэча з Рычардам Бялячыцам, якую падрыхтавала і правяла Ала Петрушкевіч. Віталі паэта ягоныя калегі, пісьменнікі Аляксей Пяткевіч, Валянцін Дубатоўка, Ала Нікіпорчык і іншыя.

**23 красавіка**. У Гродзенскай абласной бібліятэцы імя Яўхіма Карскага прайшла прэзентацыя новага нумара літаратурнага альманаха «Новы замак». Выступілі старшыня аддзялення Валянцін Дубатоўка, галоўны рэдактар альманаха Янка Трацяк, літаратуразнавец Аляксей Пяткевіч ды іншыя.

**3 траўня**. У гродзенскім Цэнтры гарадскога жыцця прайшла прэзентацыя зборніка вядомага беларускага паэта з Мінска Усевалада Сцебуракі »Сны дарог».

**17 траўня.** Група гродзенскіх літаратараў прэзентавала апошні нумар свайго альманаха «Новы замак» у Наваградскай і Дзятлаўскай раённых бібліятэках. Выступілі Валянцін Дубатоўка, Аляксей Пяткевіч, Ала Нікіпорчык, Янка Трацяк, Уладзімір Хільмановіч, Святлана Абдулаева, Міхась Зізюк, Сяргей Чыгрын.

**24 траўня**. У праграме святкавання 60-годдзя «Белавежы» — літаратурнага аб’яднання беларускіх пісьменнікаў Польшчы — адбылася прэзентацыя літаратуразнаўчага выдання Алы Петрушкевіч «Белавежа: Постаці. Творы. Герої», якое пабачыла свет у Бібліятэцы «Белавежы».

**30 чэрвеня**. У сядзібе «Замак», што на Беласточчыне, адбылося літаратурнае свята «Пікнік беларускага слова», якое ўжо некалькі гадоў запар ладзіць гаспадар сядзібы, паэт, празаік Віктар Стахвюк. Гродзенская паэтка Ала Петрушкевіч прапанавала прысутным паэтычны выступ «Чытаю жыццё як вершы».

**4 жніўня.** У вёсцы Зачэпічы Дзятлаўскага раёна прайшоў Другі абласны фэст беларускай паэзіі. Адным з арганізатараў выступіла Гродзенская філія СБП.У Дзятлаве на будынку краязнаўчага музея ўрачыста адкрытая шыльда ў гонар яго стваральніка Міхася Петрыкевіча.

**9 жніўня**. Удзел у Зэльве ў Дні памяці Ларысы Геніюш.

**18 жніўня**. У мястэчку Райца на Карэліччыне адбыўся канцэрт маскоўскай спявачкі Мілы Ражковай, якая выпусціла «Беларускі альбом». Вяла канцэрт перакладчыца яе песняў на беларускую мову паэтка Альжбета Кеда (Ала Петрушкевіч).

**Жнівень.** У мінскім выдавецтве «Кнігазбор» пабачыла свет праца сябраў СБП Уладзіміра Хільмановіча з Гродна і Сяргея Чыгрына са Слоніма «Каляндар Слонімшчыны».

**Верасень**. Выйшла з друку новая кніга прозы кіраўніка Гродзенскай абласной арганізацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянціна Дубатоўкі «Сімвал веры».

**8 верасня**. У Лідзе сябры Таварыства беларускай мовы і Саюза беларускіх пісьменнікаў на фестывалі Lidbeer-2018 правялі вулічную прэзентацыю часопісаў, газет і кніжак. Адбылася аўтограф-сесія пісьменнікаў.

**13 верасня**. У Слонімскай цэнтральнай бібліятэцы імя Якуба Коласа адбылася сустрэча чытачоў з Сяргеем Чыгрыным і Уладзімірам Хільмановічам, прайшла прэзентацыя кнігі «Каляндар Слонімшчыны».

**14 верасня**. У Гродна ў Цэнтры гарадскога жыцця прайшла юбілейная вечарына сябра СБП Алеся Краўцэвіча.

**28 верасня.** У Цэнтры гарадскога жыцця прайшла творчая вечарына сябра СПБ, слонімскага літаратара і краязнаўца Сяргея Чыгрына. Сустрэча была прымеркаваная да 60-х угодкаў даследчыка.

**10 кастрычніка**. У Гродзенскім кніжным клубе адбылося абмеркаванне кнігі Валянціна Дубатоўкі «Чужы».

**11 кастрычніка**. У Цэнтры гарадскога жыцця прайшла прэзентацыя трэцяй кнігі прыгодніцкага рамана Аркадзя Ліцвіна (Аркадзя Жукоўскага) «Прастрэлены талер».

**26 кастрычніка**. ў Музеі гісторыі рэлігіі адзначылі 100-годдзе памяці яўрэйскага паэта Лейба Найдуса, які быў цесна звязаны з нашым горадам. Слова пра паэта мелі Аляксей Пяткевіч і Ала Петрушкевіч.

**30 кастрычніка**. У Гродзенскім кніжным клубе адбылося абмеркаванне кнігі Алы Петрушкевіч «Шчонаўскія абразкі».

**3 лістапада.** У Дзятлаўскім раёне з удзелам гродзенскіх сяброў СБП прайшлі ўрачыстасці ў гонар беларускага пісьменніка Вячаслава Адамчыка — урачыстая імпрэза ў Круцілавічах і адкрыццё памятнага знака на радзіме пісьменніка ў Варакомшчыне.

**8 лістапада**. У Цэнтры гарадскога жыцця адбылася імпрэза, прысвечаная 150-м угодкам з дня нараджэння Наталлі Арсенневай. Даследчыца Ала Петрушкевіч падрыхтавала і правяла ўрачыстую вечарыну. Слова пра паэтку сказаў Аляксей Пяткевіч.

